33

„KRYVIČ“ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomenės gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця.

пад рэдакціяй В. ЛАСТОЎСКАГА.

Год выданьня чацьвёрты.

№ 12 ЛІПЕНЬ 1926 г.—САКАВІК 1927 г. № 12

ВЛАСТ.

## БАЯНУ.

Мудрыя прытчы складаў і зычна пяяў ты, Баяне!

Пяяў яшчэ ўчора на вольных, на крыўскіх абшарах, пад гукі вячоўнага звону...

Дагэтуль туляюцца рэхі тых песянь,—далёка ад скрушань замковых: у полі, у ройстах, ў кустах у лазовых, што ніцма прыпалі да ролі...

Зычаць яны ў чашках срупехлых, што ў порубах храму Сафіі, у звоне вячорным, што з вежы, над целам чужога тутка Баболі, кліча на Ave Maria...

У показках-казках, у сэрцах збалелых, у подумах-думках нявольнага люду, глыбока таёных у сэрцы...

Вольныя песьні складаў ты, Баяне, і зычна пяяў яшчэ ўчора пра гордасьць народу, пра чэсьць крывічанскага роду.

## ЧЫРВОНЕЦ.

У местовай браме, дзе люд плыве ракой і варта моцная дзень ночь пілнуе, схіліўся я й падняў чырвонец поўнаважны з пад ног людзкіх,—якога перш не бачылі ранейшыя хадзьбіты.

Кругом мяне натоўп зрабіўся.

Казалі мне адны, што я падняў, от, сьвежую іх згубу... Другія,—што я ня першы звочыў, што дзель яны павінны ўзяць з маей знаходкі.

Старожы-ж, каб сагнаць натоўп, усім крычалі, што я місьцюк, што я кастыг за пенязь выдаю: „бо хто на бітым шляху па золаце таптаўбы чакаючы „яго“ прыходу з падарожы!?!

І ўсе паверылі старожы...

### У ЧАС АБЛОГІ.

На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў.

Змацаваў яго дубоваю сьцяной, байніцамі, на зводах мост уздоймны палажыў.

У клеці зьвёз усякага дабра:—калі-б на грод лягла аблога...

І вояў зрадных, лжывых, я разьлічыў, каб з вернаю дружынай толькі дзяліць мой белы й чорны дзень...

І, от, нахлынуў вораг многі.

Ударыў я у звон трывожны. Дзынеў патужна цяжкі сьпіж...

Аднак, на клік мой зоўны, ніхто ка мне не пасьпяшыў:

У горадзе маім—такім мацоўным—адзін я быў!...

### ПАДАРОЖНІК.

Я клункі ўжо злажыў і сукатаю кульбою падпёршыся гляджу на раздарожы. Шляхі скрозь хомарам пакрыты... А ўкруг мяне стаяць старожы гатовыя вароты расчыніць, калі я мыта аплачу душы маей аздобамі.

Панукаю вісіць штодзенны боль няўнімны... Ідзі! квяліць дзіцятка у калыбцы. Ідзі сычыць зьмяюга падкалодна. Ах, як душы ад брамаў тых халодна!...

Магілішчы кругом... за кождай брамаю капец... Калі-ж, калі канец трудлівай будзе падарожы?

### НА ХРЭЗЬБІНАХ.

Ў господзе сьветлай, на седзішчы высокім гасьціў у дзень урочысты яго я нарадзін. Ды плакала душа, што жоскі троп жыцьця гатуе ўжо завалы на сьцежках бадавейных.

Тры ветніцы сягоньня, з намі тут, запрадкі жыцьцёвай нітачкі тваей спраўляюць. Праклюдныя старухі! Ім ведама усё: й не зжахнуцца-ж ані! Спакойнаю рукой бяруць у пальцы смычку і цягнуць ніць жыцьця на верацяно.

Круціся, гэй круціся вераценца! Да сонца раз, у цемру раз, усё кругом, кругом... і ўсё бліжэй да долу.

Музыка грае тост. У чарах пеніцца віно. І ўсё, у такт, сьвярліць у мозгу мысьль: ці сьлёз, якія будзе ліць ў жыцьці наш новародак, гасьцей хапіла-б напаіць і хто іх будзе піць?...

Тры ветніцы прадуць і ніць усё струнчэй. Званіце чарамі, іграйце тост! Хутчэй!!

---

## ПОМНІКІ СТАРОЙ КРЫВІЧАНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЬЦІ.

Крывічанская (беларуская) пісьменнасьць, часаў найбольшага свайго занепаду (XIX стагодзьдзе), дагэтуль мала яшчэ вядома і менш таго дасьледавана, таму, што пісьменнасьць гэта знаходзілася ў рукапісах, часта-густа ў адным сьпіску, што мала было цаніцеляў яе і яшчэ менш зьбірачоў, а дзеля

гэтага — на сколькі трудна яна паяўлялася на сьвет, настолькі лёгка гінула. Аднак сёе тое захавалася ў тых зьбірачоў, каторыя пачалі сваю працу яшчэ перад вайной. Ніжэй мы падаемо тры вершы, з архіву вядомага зьбірача і дасьледчыка крывічанскай пісьменнасьці, Ромуальда Земкевіча. Два з гэтых вершаў належаць псэўдоніму „Горэвід“, („Палякам у дзень 3-га мая“ і „Я клічу вас“), а трэцьці—пяру вядомага ў канцы XIX ст. ў Менску археолёга Г. Татура („Прадкі“ пераклад з Сыракомлі). Хто пісаў пад псэўдонімам „Горэвід“—няма ведама. Аднак, з тэксту вершаў можна дагадвацца, што гэта быў чалавек т. зв. „польскай культуры“, але сялянскага паходжаньня. Ен верыць, што, хоць „сягоньня ноч ўсюды сьвет Божы пакрыла“, але можа „заўтра Бог здарыць узыдзе зара“, г. зн. прыйдзе вызваленьне з царскай турмы народам, якія насялялі безбярэжную колішнюю Расію. І ён думае, што тады, пасьля чаканага вызваленьня, ня будзе ўжо панаваць прымус і зьдзек: „Няўжо-ж панаваціме і крыўда і сіла?“. Ен думае, што пасьля вызваленьня: „Брат брату дасьць ніўку на шчасьця, на долю, сусед-жа паможа, як брат“. Але паміж суседнімі народамі, на каторых аглядаецца Горэвід і чакае з іх рук ласкі і помачы, ён яшчэ няведае, хто будзе тым праўдзівым братам, а хто—крыўдзіцелям і дзеля гэтага кажа, што толькі пасьля распаду турмы народаў: „распазнаем хто вораг-паганец на праўды і чэсьці вялікім судзе“. Ен ведае, што дзяржавамі кіруюць у яго час паны, дык думае, што і ў будучым так сама будзе, і зьвяртаючыся да польскіх паноў, тварцоў канстытуціі 3 мая 1793 г., моліць іх: „нас чорных, нас бедных, каравых ня пішыце да ўражых і нам сіл у лік: хоць для бядоты, дый сьлёзаў крывавых, хоць дзеля той праўды, што брат ваш мужык“.

Словам, Горэвід не рэволюціанэр і нават не палітычны дзеяч, але ўсёж такі ён шчыры патрыёт свайго краю і верны сын сваей сялянскай сямьі.

Верш гэты быў пісаны ў 1891 годзе.

Другі верш, таго-ж Горэвіда „Я клічу Вас“... відаць пісаны таксама ў 1890-х годах, але ўсё-ж значна пазьней. На самым ўступе аўтор кажа: „Я клічу Вас хаця не бачу вакол сябе, кругом, нічога—апрыч вялізнае магілы“, колішняй слаўнай літоўска-крывічанскай дзяржаўнасьці. „Крыкам сьлёз і болі“ ён кліча свой народ прачхнуцца, бо аўтор ужо больш дасьпеў у сваіх грамадзкіх поглядах, і, ў дадатку, яго відаць, ўразіў нейкі факт з бягучага жыцьця, нейкія дайшоўшыя да яго згаворы суседзяў (расійцаў і палякаў), можа плянова праводжаны ў тыя часы падзел нашага народу на „рускіх“ і „палякаў“ па веравызнаўчай азнацы, ў кождым здарэньні ён стурбаваны заклікае: „убачыць ўсенька, ды страсянуцца, задрыжаць ад грозьбы пэўнае загубы, каторай грозяць нам рахубы суседзяў нашых“...

Тут ужо няма ў аўтора ранейшай сэнтымэнтальнай веры ў „добрых“ суседзяў, якія зжаляцца над крывічанскім народам, ён цяпер разумее ўжо іх халодныя „рахубы“, якія ськіваваны да зьнішчаньня крывічанскага народу, і, дзеля гэтага, не радзіць чакаць ласкі, а наадварот, заклікае да чыну: „даволі, годзі цярпець, галеці дый маўчаці“. Ен ужо раіць: „сабраці ўсе, што ёсьць сілы! Ланцугі цемры парваці!.. Ды вольным быці нам—народзе!...“ „Сьвядома прышласьці дабіцца“.

Горэвід, у гэтым другім вершы, ўжо народны дзеяч, змагар, які заклікае да сьвядомага, а знача, да праграмовага і пляновага змаганьня ня толькі за духовае адраджэньне крывічанскага народу, але такжа і за яго лепшую матэр'яльную будучыну.

Словам, Горэвід можа быць палічаны між першых крывічанскіх дзеячоў, каторы аднак, ня высунуўся на грамадзкую, відоўную як будзіцель народу, бо не было ў яго часы патрэбных да таго варункаў. Але ён палажыў свой пенязь у адраджэнскую крывічанскую скарбніцу.

Пераклад зроблены Г. Татурам сырокомлеўскага вершыка „Прадкі" ў 1897 годзе сьведчыць, што краёвай нашай зрусыфікаванай і спалёнізаванай інтэлігенціі, ня чужа было знаньне народнай крывічанскай мовы, і, свайго роду, любоў да краю.

## ПАЛЯКАМ У ДЗЕНЬ 3-го МАЯ.

Як векі вякамі мужыцкая доля
Ад зямлі аранай чарнейша была:
Ні холад, ні голад, ні здзек, ні няволя
Ня шлі, абміная ў дарозе сяла.

Скуль нам тут засьвецяць праменьні навукі,
Скуль праўды настане ясьнеючы дзень?
Пісьменны ня будуць з мазолямі рукі,
Як ліха дый горэ бяруць за каршэнь.

Мы знаем-жэ гэта, хто бацька? хто дзеды?...
І памяць сьвятую хаваем аб іх,
Глыбока хаваем... Для ўражай чарэды
Наш говар даўнейшы сягоньня заціх...

Маўчым, зубы сьцяўшы, каб вораг для зьдзеку
На свой лад іначыць сказаньня ня мог...
І праўду дагледзяць у нас, ў чалавеку
От толькі... магілы, лес цёмны і Бог!...

Сягоньня ноч ўсюды сьвет Божы пакрыла,
А заўтра, Бог здарыць, узыйдзе зара...
Няўжо-ж панаваціме і крыўда і сіла?
Настане і ўдарыць гадзіна дабра:

Брат брату дасьць ніўку на шчасьця, на долю,
Сусед жэ суседу паможэ, як брат;
Вясёлыя песьні пальюцца па полю,
Жыць будзем на радасьць, на долю, на лад!

Тагды і пахмурны тутэйшы селянец
Пры вас шчырым братам стане ў грамадзе,
Тагды распазнаем, хто вораг-паганец
На праўды і чэсьці вяліком судзе.

Пакуль што... нас чорных, нас бедных, каравых
Ня пішце да ўражых і нам сіл у лік:
Хоць дзеля бядоты, дый сьлёзаў крывавых,
Хоць дзеля той праўды, што брат ваш мужык.

Горэвід.

3 мая 1891.

## Я КЛІЧУ ВАС...

Я клічу Вас...
... хаця не бачу
Вакол сабе, кругом, нічога—
Апрыч вялізнае магілы...
Ўсёж клічу Вас з усяе сілы,
З усяе моцы, моў бы Бога,
Праз сьлёзы горкія, што плачу.
Я клічу Вас...
... усіх, усіх
Зямлі маей сыноў, братоў,
Каторых многа так і мала—
Я клічу Вас: пара настала...
Даволі сьмерці, зморы, сноў,
Пагорды, зьдзекаў з нас сьляпых!...
Я клічу Вас ..
... кабы збудзіць
Сэрдэчным крыкам сьлёз і болі...
І сэрцу Вашаму сказаць:
Браты радзімыя, ці-ж спаць
Яшчэ дагэтуль не даволі?
Марнеці, гінуці ды гніць?!
Я клічу Вас...
... падняць павекі,
Ды шчыра глянуці на сьвет,
На гэту нашу ночку цёмну,
На абяздоляннасьць агромну,
На мора ціхіх страшных бед—
Што йдуць за намі ўжо праз векі...
Я клічу Вас...
... убачыць ўсенька,
Ды страсянуцца, задрыжаць
Ад грозьбы пэўнае загубы,
Каторай грозяць нам рахубы
Суседаў нашых... ці-ж чуваць
Усьцяж ім будуць нашы енкі?...
Я клічу Вас...
... даволі, годзі
Цярпець, галеці, дый маўчаці!...
Пара зварушыцца з магілы!...
Сабраці ўсе, што ёсьці сілы!...
Ланцугі цемрачы парваці!...
Ды вольным быці нам—народзе...
Я клічу Вас...
... браты, злучыцца
У вадну вялікую радзіну—
Братоў, сыноў сваіх бацькоў...
Ды ў кожным чуці родну кроў,
Каханьня роднага злучыну,
Сьвядома—прышласьці дабіцца—
Я клічу Вас...

Горэвід.

## ПРАДКІ.

З праслічкамі сядзяць дзеванькі як краск
Прадуць сабе, прадуць слуцкія паяскі.

Гудзі вераценца! вярціся скарэй!
Тая помніць лепяй, чыя ніць даўжэй!

Паплыў аж да Рыгі кавалер з віцінай,
Сьлязьмі заліваўся—жэгнаўся з дзяўчынай.

Гудзі вераценца! вярціся скарэй!
Тая помніць лепяй, чыя ніць даўжэй!

Гладка пража ўецца, весяла дзяўчыне;
Тры дні ўспамінала аб верным хлапчыне!

Гудзі вераценца! вярціся скарэй!
Тая помніць лепяй, чыя ніць даўжэй!

Другі падвярнуўся маладзец-хлапчына,
І другому рада хотліва дзяўчына.

Гудзі вераценца! вярціся скарэй!
Тая помніць лепяй, чыя ніць даўжэй!

Гудзіць вераценца! парвалася нітка...
Стыдом гарыць дзеўка,—брыдка гэтак, брыдка.

Гудзі вераценца! вярціся скарэй!
Тая помніць лепяй, чыя ніць даўжэй!

1897 г.

В. Л.

Пераклад з Сырокомлі
**Г. Татура.**

## ЦМОК.

Няма, кажаце, цмокаў? Як-то няма?! Есьць. Напэўна ёсьць... Скуль яны, кажаце, бяруцца? Ага. Пустое... Ня тое што людзі ведныя, дасьветчаныя, але кожды смаркач табе ў вёсцы скажа, як выводзіцца цмок, каторы дабро і грошы цягае свайму гаспадару.

Вось, прыкладам, каму ня ведама, што стары Грынец адпаівае ў клеці малаком-сырадоем свайго цмока? Дык, палядзі, які ён багаты затое!

Што! Розум? Праца?! Ды, ты саколе, працуй, хоць расьцягніся, а калі табе ня йдзе рукой,—усё роўна нічога ня будзе. А наш Грынец і да працы ленты і чаркі не чураецца, а ў кішані ў яго заўсёды ня менш трох рублёў пабразгуе. А зайдзі ў хату... круглы год ў яго на стале хлеб знойдзеш. І то-ж хлеб!! Ні табе ў ім пылінкі ні пялюшынкі: з чыстага, як золатца, жытца! от табе!

Што да рублёў, тых Грынцовых, то, праўда, людзі рожнае дзейкаюць. Хто яго ведае... мо і праўда, што склютаватыя яны, фармазонскія...

Сьмешны, вы паніч, гаварыць з табой што з малым. Склют, гэта такі рубель, які ня йдзе ад рук: сколькі не мяняй яго, ён ізноў да гаспадара ў кішэнь вяртаецца. Але аб гэтым калі колечы пазьней раскажу.

Ты, вось, кажаш, што цмока ніхто не бачыў. Дый я сам бачыў і нираз, ня два. Сядзь ты, саколе, восеньню, ноччу пры вакне, паўзірайся ў гару, і, ручаюся, што ўбачыш, як жухаюць цмокі па небе, толькі сьветлыя паясэ рысуюцца. Чаму вясной і летам ня лётаюць? Як ня лётаюць? Лётаюць... А толькі не відаць, бо тушчма лётаюць: пуста кругом, што ад каго ён возьме вясной, ці летам? А ў восень—другое: і самы горшы харляк якое-сь маймо ў сябе туляе. Цімала хто на свае вочы бачыў гэтага Грынёвага цмока, як ляцеў сьвігтаючыся ў паветры, прасьцюсенька на яго клець. Карта карце пераказуе, што калі жоўтым сьвятлом сьлед значыць, то гэта ён золата валачэ, а калі—белым, то серабро. Грынёў цмок бялёсы, дык серабро носіць... Не, склюты яму непатрэбны! І так багацей ён. Грынь нікагусенькі да сябе ў клець не пушчае, то таму, што ў засеках у яго грошы панасыпаны.

Кажаш, паніч, зямлі ў яго больш як у нас, цэлая валока нядзеленая, а мы толькі па чвертцы ды па шостцы маем. Гэта ня тое. Не, і з валокі багаты ня будзеш калі няма ад „таго" падмогі. Вун, у Матуза, ў Навасёлках, і зямлі валока і дружына свая вялікая, а грошы няма.

Дык не-ж, не гультай, крый Божа! І не пьяніца. Ну, бывае, выпье чарку ад сьвята, але, не, не пьяніца ён. Гэта, панічыку, таму што ў яго злыдні завяліся. І ў нас у ўсіх злыдні па хатах вядуцца. А Грынь вывеў іх у сабе загадаваўшы цмока...

Чаму мы не загадуем сабе цмокаў? Цяжка гэта. Я сам пробаваў, але нічога ня вышла...

Як гэта было? А вось як. На гэта трэба мець найперш чорнага пеўня. Каб загадаваць яго, я вымяняў у Цітовіча шостку яец: у яго ўсе куры чорныя. Ой, гэты чалавек „знаецца"!... Пасадзіў я гэта курыцу на яйкі, і, праўда, вылупіліся два чорныя пеўнікі. Аднаго з іх, чутчэйшага, на племя пакінуў, а другога—Бэрцы на шабас прадаў. Шэсьць гадоў быў, падла, певень як певень, а на сёмы квактаць курыцай пачаў, але, нічога... Яечка такое, маленькае, як галубінае, зьнёс.

Э, панічок, байкі! Я-ж кажу, што певень зьнёс яйко, а не курыца. Кожды певень на сёмым годзе жыцьця яечка зносіць, я-ж сам, на свае вочы бачыў: кругленькае, падаўгаваценькае, шылановенькае. Саўсім да курачага не падобнае... Вось тады гэтае яечка хутчэй я ў намітачку, дый падвязаў сабе пад паху. Знаў я, што тры гады яго трэба пад пахай насіць і каб ніхто не падгледзіў. Насіць дужа не выгодна, але, гэта, яно сабе: да ўсяго можна прывыкнуць. А, вось, ухавацца ад людзкіх вачэй, во, што цяжка. Суседзяў я не надта баяўся: сьвіткі не сьцідаў, у лазьню не хадзіў... Але як ухавацца ад бабы?! А Марыля мая, сьціпная баба: ўсюды нос свой уткне... Але, нічагусенькі: зацяўся я сьвіткі не зьнімаць ні днём ні ў ночы. Каб баба ня гопталася каля мяне, я летам спаў у пуні на сене, а зімой у клеці. Гэтак тры гады я вынасіў пеўнява яечка пад пахай нікому не аказаўшыся, ні сам ні

разу не зірнуўшы на яго... Калі трэці год зыйшоў, і, нічога: цмок не вылупляецца, падумаў я, што, мо, яйко-заморыш было, мо трэба паглядзець... Але, паўслухаўшыся добра, чую—пад пахай нешта ціханька, як бытцам—тук, тук, тук! Ага, думаю сабе, вылупляецца мой цмок! Слабенькі ён, маленькі будзе але я яго малачком, мядком адпаю, ведама-ж як сваю худобінку... Ды не судзіў Бог і Мілавіца-Прачыстая... Сьвятым днём было гэта. Пахадзіў я каля жыта, і, папалуднаўшы, шусь, у паветку, заснуць пры сьвяце. Толькі гэта я зьмірнуў павекі, аж, чую, ідзе мая Марыля. Падкацілася да мяне і, цап, рукой за паху.

— Што гэта, кажа, ў цябе? Ды, торг, да сябе рызмак той, у які было ўвязана яечка. Я тут і шугнуў увесь са злосьці. Жарт, сколькі гадоў мукі, надзеі тэй!...

— А, каб ты зьвялася! кажу. Ды ў хрыбет, ды ў седаўку яе. А яна дай не паддавацца мне!

— Што ты, кажа, вылюдак, без дай прычыны бьешся! Ды ўляпілася абаруч мне ў хахол. А Марыля мая, баба як ялаўка... Ажаргала мяне ды ў адварот мне куксанцы садзіць. Тут я спохапу ды паназласьці прытчэй крутануўся, і, чую, хрусь! у мяне пад пахай... І такі свонд пайшоў, серкай і пеклам панясло, што мне ажно дух заняло.

— Марыля! крычу. Марыля, лаві: цмок вылупіўся! А яна як захлібнулася сморадам тым дык так і пакацілася кулём-поныр'ю з сена далоў. Адсапнулася ўнізе дый кліча:

— Тумаш, ці жыў ты? што гэта з табой?! Ці не кіндзюк трэснуў?

Я толькі закляў чортаву бабу, зазірнуў у рызманок. А адтуль пеклам нясе... і нічагусенькі кром шалупінак і слаты нямашака.

Дык хто яго ведае быў цмок ці не?

А не, паніч, не курачае а пеўнява было яечка! Сам-жа я бачыў. Хто-то ведае, мо і мая скацежынка, мной так працавіта кукобленая, цяпер Грыню грошы цягае... Гэта саўсім магчыма... Чаму-ж: ад мяне выляцеў, да яго прыстаў і служыць яму.

Сьмяшны, вы паніч: у кнігах нідзе аб гэтым не чыталі! І ня знойдзеце ў кнігах. Пра наскае ў кнігах ня пішуць. Аб гэтым пытай ня кнігі, а людзей ведных, то і дазнаешся. О, многа можна дазнацца пра ўсякае наскае, але ня з кніг толькі...

---

ЮХАНІ АХО.

# НАРОД МОЙ БЫТЦАМ ЯЛОВЕЦ.

Не капрысам долі сталася так, што мы, сыны суомскага племя, аселі на фінскім узьбярэжжы і ўтрымаліся там аж да сягоньня.

Прыходзілі туды перад намі іншыя людзі, шукаючы мейсца, дзе пасяліцца. Яны або перайшлі нашу зямлю, або зараз-жа ад яе межаў павярнулі назад. Кіпці Ляпляндцаў нічога не маглі выскрабаць з цьвёрдай суомскай

глебы; і яны параз'язджаліся на сваіх санках па такіх мяйсцох, дзе жыцьцёвыя засабы лягчэй даваліся ў рукі. Швэды заваладалі ўраджайнай раўнінай каля мора; але як толькі са дзьве мілі ад берагу натрапілі на пусткі ды балоты, то і спыніліся, кінуўшы далейшы паход. Што да нашых прыяцеляў на ўсходзе, то адзінае, што аралі іх плугі, гэта былі гарады. А калі запраўды тут жылі калісь волаты, то яны здаваляліся адзіна тым, што кідалі каменьнямі ў кірхі; дый гэта ім хутка абрыдла.

Суомы такжа маглі-б знайсьці сабе такі край, які бы плыў малаком і мёдам; але здаецца, яны мелі акурат склоннасьць да гэткай беднай прыроды. Бытцам сумысна выбралі яны сабе балоты, сухадолы і нізіны з замерзлай ўнізе зямлёю.

Іншыя кажуць, што павінна было стацца так пад напорам сілы другіх плямён. Але я думаю, што гэта была надзвычай разумная і практычная ідэя нашых продкаў. Яны адчувалі моц сваіх сьцягнаў і ў тых здарэньнях, дзе другім хрыбет бы трэснуў, іхні толькі яшчэ больш акрэп. Іх мячом была капага: ей яны здабылі зямлю, аб якой верхаводы іхнія упэўніліся, што яна прыдатна толькі для іх. Няхай даваліся гэтай зямлі рожныя імёны, няхай гаварылася там-па швэдзку, па балцку, па руску, ўсё-ж, у выніку ўсіх тых спрэчак, астаўся той факт, што гаспадарамі зямлі сталіся Суомы. Для чужых каланістаў зямля гэта была лішне цьвёрдым арэхам—не раскусіць! Такой яна асталася й дагэтуль. Хоць-бы мы давалі яе чужынцам, кажучы: „Прыходзьце і бярыце сабе яе!“, ўсё-ж такі ніхто-б на гэта не паквапіўся.

Дык мы можам быць спакойны і не журыцца думкай „як заграе з намі доля“. Можам спакойна слухаць гудзежу нябесных віхраў, як яловец, што расьце на скалістым узгорку. Громы ламаюць ёлкі ў раўніне, але ялоўцу яны не пашкодзяць. Шпарка пралятаюць над ім кулі, а колы гармат прыгінаюць яго да зямлі. Але яловец таго не баіцца. Ен не знае ані ран, ані калецтва. Калі бура міне, нізенькае дрэўца ізноў выпрастае свой гнучкі стан, а галінка да галінкі шапоча: „Расьці тут, а я там“. Не шмат часу міне і ўсе сьляды, таго што тут было, загладжаны. Калі той, хто ідзе раніцай, шукае ўчарашніх сваіх сьлядоў, ён не знаходзіць іх. Сьцяжынка ізноў зарасла, а яловец выдаецца непарушаным.

Тыя з нашых братоў, што выбралі сабе на сялібы мякчэйшую зямлю, больш пацярпелі ад нападу ворагаў. А мы ўзялі сабе цьвёрды скалісты край і гэта было мудра. Той, Маісей, каторы завёў нас у гэту нашу абяцаную зямлю, напэўна ведаў дзіўную сілу, якая ляжала ў ялоўцавай натуры яго народу.

Пераклаў з фінскага **Рэут.**

# НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ АБ ТАТАРСКІМ ПАЛОНЕ.

Ой, літаў-пылітаў ды сівы гарол,
У кіпцёх ён нясець руку белыю,
Руку белыю мылайцоўскыю;
А ў дагон яму ясін сакол:
— „Пыгадзі—пастой ты сівы гарол,
„А дзе быў-жырываў ты сівы гарол?“
— „А я быў-жырываў ны пабоішчы,
„Надшырокыйракой кыля Клеціўска!
„А там послынь сьцеліна ды галовымі,
Ўсё галовымі мылайцоўскымі;
„А там кроў плыве ды Дунай ракой,
„А ваўкі грызуць белы костычкі.
„Там агні гырацъ, там катлы кыпяць.
„І тытары стыяць палон дзелючы;
„Палон дзелючы пыдзяляючы
„Дзіцей з маткымі разлучаючы.
Дысталася сістра брату пытурчаніну,
Сістра брату, цешча зяцю бысурманіну.
А брат сістру дамоў пусьціў,
Дамоў пусьціў, добра слоўца кызаў:
—„Ты віртай, сістра, борзда да дому:
„Прыдуць тытары налета ўзнову,
„Прыдуць ўзнову хмарый страшною,
„Стануць абозым лі нашыга двору.“
А прывёз зяць цешчу мыладэй жане:
—„Вось табе, мая мылада жына:
„Вось табе з вайны пыланяначка;
„Будзе яна табе, мая верна жына,
„Векавечная твыя работніца;
„А вам, дзеткі мае, будзе няնькый яна.
„А ты дай ей, жына, тры работынькі:
„Перша работа—тонкі кужыль прасьці,
„Друга работа—гусей ў лузі пасьці,
„Трэцця работа—дзіцё кылыхаці“...
Ножкамі маці дзіцё кылыхае.
Дзіцё кылыхае, сціха пыдпявае;
—„Ой, люлі люлі, дробна дзіцятка,
„Ой люлі-люлі, маё ты мілоя
„А пы бацьку—ты мне тытарчатка,
„А пы маці—ты мой унучатка!“
Як учула дычка песьню с пакою,
Бяжыць у сені борздый стралою:
—„Ой, кінь-кінь, маці, дзіцё-кылыхаці,
„Хадзем ў пакоі, а сядзь за столым,
„Бяры ў міне маці ключы зылатэя,
„Адмыкай-жа імі дубовэя скрэні;
„Бяры злота-срыбра сколькі табе трэба
„А будзь ў міне, родна, як у сібе дома!“
—„Дзіцятка маё, Аленка, мілое,
„Не нада мне грошы, пусьці да дому,
„Пусьці да дому ў клецьскі староны.

Запісаў у 1902 годзе ў мястэчку Іказьні, Дзіс. пав., са слоў Кацярыны Рубніковічыхі, 42 гадоў, Фэлікс Курыловіч.

Праф. А САВІЧ.

# ГОРАД МЕНСК.

(Кароткі гістарычны нарыс).

## I.

У гэтым нашым нарысе мы не маем на мэце даць цэлую і сыстэматычную гісторыю горада Менска, бо каб выканаць такое шырокае заданьне мы не абладаем выстарчаючым матэр'ялам. Мы даемо толькі рад зьвязаных паміж сабой адзінствам тэмы нарысаў, якія датычаць гістарычнай мінуўшчыны сталіцы колішняга менскага княства.

Крыніцы не захавалі нават легендарных пераказаў аб заснаваньні гораду Менска, як гэта маецца, скажам, датычна гораду Вільні. Не паддаецца пунктуальнаму філёлёгічнаму аналізу і самае слова „менск"—летапісны „менеск", „меньск" і „менско". Агульна прынятае і традыцыйнае тлумачэньне слова „менск" ад дзеяслова мяняць (=мянавы, таргоВы пункт) мы лічым не выстарчаюча абаснаваным, хоць такое тлумачэньне і падкупляе ў сваю старану лёгкасьцю і простасьцю.

Да данных мовы, асабліва данных ацалеўшых з старэтных часаў, трэба аднасіцца з вялікай асьцярожнасьцю.

Дата заснаваньня Менска хаваецца ў хомарнай далі глыбокай старасьвеччыны, але торговы характар першапачатнай сялібы, Менска, не выклікае спрэчак. Менск абаснаваўся безмала ў цэнтры абодвых важнейшых торговых шляхоў, адзін з каторых ішоў па Нёману, другі па Дняпру. Цераз Сьвіслач Менск мог вясьці безпасярэдную водную таргоўлю з поўднням. Ніжэй Менска вёрст на 30, Сьвіслач вельмі блізка (вёрст на 10) падыходзіць да р. Птычы, доплыву Прыпяці, а па магістралі апошняй былі распаложаны такжа значныя пункты, як Пінск (на р. Піне), Давыд—Гарадок і Тураў. З захаду да Сьвіслачы падыходзіць на вельмі блізкай розстані невялікая рака сазгучнага найменьня Іслач, якая ўліваецца такжа ў адноіменную Бярэзіну (доплыў Нёмана). Сазгучча годнае увагі! На поўнача-захадзе Сьвіслач блізка падыходзіць да доплываў Вяльі. К поўначы-ж, непадалёк, ляжаў водны шлях у Дзьвіну. Ведаючы аб паступенным і даволі шпаркім абмяленьні рэк на нашых абшарах, думаем, што водная лучнасьць Менска цераз Сьвіслач ня толькі з Дняпром і Нёманам, але і Дзьвіной у VIII—X стагодзьдзях не была так труднай, як у цяперашнія часы. З гэтага робім вывад, што з торговай стараны Менск меў лучнасьць як з палуднёвымі торговымі асяродкамі, так і з паўночнымі.

Дзеі меншчыны мала цікавілі аўтораў вядомых нам даўных летапісных зборнікаў; уласнага-ж летапісаньня ў Менску мы не знаем, дый, магчыма, яно мо не істнавала. Патрэбнасьць увекавечыць сваю мінуўшчыну ў пісаных помніках—адна з пазьнейшых культурных патрэбнасьцяў народу. Акром таго, старасьвецкае летапісаньне вялося пры манастырох, а старэйшы ў Менску Узьнесенскі манастыр быў заложаны не раней XII ст. Урэшце мы ведаем, што ў часе частых пажараў у Менску гінулі ў полымі цэнныя пісаныя помнікі гістарычнай мінуўшчыны гэтага гораду *).

*) Прыкладам, дакумантальна ведама, што ў часе пажару ў Менску, ў 1762 годзе, згарэлі кнігі „вечистые", каптуровые, поточные, декретовые, реестры і пратаколы менскага земскага суда ад 1641 па 1710 г., трыбунальныя „вечистые" менскай кадэнцііі з 1641 па 1759 г., трыбунальныя „поточные" тэй-жа кадэнцііі 1660—1761 годаў і многа рожных іншых дакумантаў (Акты Вилен. Археогр. Кам., т. XIII, № 68).

У другой палавіне XI ст., калі летапісныя зборнікі ўпамінаюць аб Менску, ён быў ужо значным горадам і знаходзіўся ў залежнасьці ад полацкага князя Усяслава. Тарговая гатоўка ў полацкай зямлі ў паказаны кругабег часу імкнецца расшырыць свае рынкі. Менск мог быць добрым дастаўцом сыр'я на полацкі рынак для загранічнай таргоўлі, каторая вялася Дзьвіной. Лясістасьць менскага краю (яшчэ нядаўна лясы займалі 60% абшару) спрыяла тут разьвіцьцю акрэсьленай дабываючай прамысловасьці: лавецтву на пушыстых зьвераў і бортніцтву. Нават пазьней, у XV і XVI ст. кажушыны пушных зьвераў, мёд і воск на менскім рынку займаюць выдатнае мейсца. З мэтай сконцэнтраваць у руках полацкай тарговай гатоўкі ўвесь паўночны рынак, полацкі князь Усяслаў думае аб прылучэньні Вялікага Ноўгараду. Гэткім чынам безпасярэдная паўночная таргоўля аказалася-бы немагчымай для кіяўскіх купцоў, стаўляючы апошніх у экономічную залежнасьць ад полацкага князя. Апіраючыся на пазьнейшыя падзеі думаем, што ў пляны Ўсяслава ўходзіў і Смаленск, а можа, нават, і Кіяў. Зьнешнія варункі спрыялі імпэрыялістычным імкненьням Ўсяслава: кіяўшчына знаходзілася пад пагрозай палавецкай навалы. У 1066 годзе Ўсяслаў узяў Ноўгарад, але гэты неспадзяваны крок полацкага князя, саўсім слушна, спужаў братоў-трыумвіратаў—Яраславічаў. Ізяслаў, Сьвятаслаў і Усевалад выступілі супроць Усяслава. Яны абляглі палуднёвую астою тадышняга полацкага княства, Менск, і пасьля аблогі ўзялі яго. Горад крэпка пацярпеў. Яраславічы, паводле слоў летапіснага зборніка, „иссекоша муже, а жены и дети вдаша на щиты“ *). Але Ўсяслаў, даведаўшыся аб аблозе Менска, задумаў адрэзаць Яраславічам адступленьне. Ен насьціг іх нідалёка ад Менска, і 3 сакавіка 1067 году, на рацэ Нямізе адбылася крывавая бітва („бишася крепко“). Але сілы праціўнікаў былі, відаць, ня роўныя. Усяслаў быў „побежден“ і адступіў**). Гэту бітву прыгожа апісаў аўтор „Слова аб палку Ігара“. Ўсяслаў „разбише славу Ярославу, скочи в'лком до Немиги с Дудуток. На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела. Немизе кровавы брезе не бологом бяхуть посеяни, посеяни костьми русских сынов“... ***).

Ачавіста харобры Усяслаў хацеў памсьціць Яраславічам і дзеля гэтага выклікаў у апошніх перапалох. Дзеля гэтага яны, ашуканскім способам, зацягнулі Усяслава да Смаленска і „преступивше крестное целованіе“ схапілі ў палон— у 1069 годзе. Полацкае княства, разам з г. Менскам, перададзена было старшаму Ізяславічу—Мсьціславу, а пасьля яго сьмерці—другому брату Сьвятаполку (ў 1077 г.). Але Сьвятаполк ня доўга утрымаўся ў Полацку, бо Усяслаў Брачыслававіч выгнаў яго стуль. ****). Мала таго, Усяслаў захапіў і спаліў Смаленск. Гэты апошні паступак трэба ацэніваць з пункту агульнай палітыкі полацкіх князёў. Пасьля захопленьня Смаленска была-бы перарэзана жывая тарговая артэрыя, якая злучала Кіяў з Ноўгарадам і гэта павінна было прытлуміць кіяўскую таргоўлю і змоцніць полацкую. З другой стараны і В. Ноўгарад павінен быў-бы ўступіць пасьля гэтага ў цесную тарговую і палітычную сувязь з Полацкам.

---

*) Полн. собр. русск. лет., т. I., б. 72; т. II, б. 270; т. V, б. 141; т. VII, б. 335.

**) ibid.

***) Пытаньне аб Нямізе, на каторай была бітва Яраславічаў з Усяславам, яшчэ ня высьвятлена ў гістарычнай навуцы. Пералічэньне выказаў аб гэтым пытаньні пададзены ў Данілевіча (Очеркъ исторіи Полоцкой земли... Кіяў, 1896 г., б. 22-24).

****) Полн. собр. русск. лет., т. II, б.б. 272, 275.

У адповедзь на такі зачэпны крок з боку Усяслава, супроць яго ізноў выступаюць Яраславічы. Валадзімер Усеваладавіч (Манамах) з чарнегаўскім войскам ідзе сьпярша да Смаленска, а адтуль ўсьлед за адступаючым ад Смаленска Усяслаўам кіруецца да Менска, пустошучы па дарозе край („пожег землю и повоевав до Лукамля и до Логожска“). Менск пры гэтым паходзе ня быў абложаны чужым войскам, але затое крыху пазьней (у 1084 г.) Валадзімер Усеваладавіч з тым-жа чарнегаўскім войскам і з полаўцамі напаў на Менск. Гэты напад быў для Менска асабліва цяжкім. Сам Валадзімер пазьней апавядаў аб ім гэтак: „изъѣхахом город и не оставихом у него ни челядина ни скотины“ *). Пры наступніку Усяслава князю Глебе стасункі паміж крыўскімі (Рагваладавічамі) і рускімі (Яраславічамі), асабліва з кіяўскім князям, не былі добрасуседзкімі. Таго-ж Валадзімера Усеваладавіча бачым мы ізноў пад Менскам, ізноў пераможцам („и Бог ны поможе, и сотворихом свое мышленіе“). Прычынай да гэтага паноўнага нападу паслужыў ранейшы зачэпны паход Глеба на кіяўскія землі і палоненьне ім тамтэйшага жыхарства: „оже ны бяше люди заял“... **) У 1104 годзе супроць Глеба ідуць на Менск ужо злучаныя кіяўскія, чарнегаўскія, і пераяслаўскія дружыны, але харобры Глеб патрапіў абараніць свой горад і летапісец, слуга Яраславічаў, апісуючы гэты паход, высказуецца даволі каротка і невясёла: „и неуспѣша ничтоже, и възвратишася опять“ ***). У нападаўшым кіяўскім абозе быў і кандыдат на менскае княства, замест кн. Глеба, кн. Давыд Усяслававіч ****) Трэба дзівіцца жыцьцёвасьці Менска і энэргіі Усяслава і Глеба. Пасьля кождай навалы на Менск палуднёвых князёў, гэтыя князі craраліся хутка падняць з развалін свой прымежны горад, які загараджаў дарогу да Полацка з поўдня, і нанова засяліць яго. Есьць аснова думаць, што ў Менску былі ў той час значныя торговыя аваротЫ. У кождым здарэньні Глеб Усяслававіч, які, як і ўсякі другі тагочасны князь, прыймаў удзел у гэтых торговых аваротах, абладаў значным капіталам і мог даваць у кіява-пячэрскую лаўру вялікія суммы грошы *****). Імя Глеба паднята духоўнымі летапісцамі даволі высока сярод другіх тагочасных князёў і не дармо „игумен земли русское“ Даніла ўпісаў дзеля памінаньня ў манастыры сьв. Саўвы ў Іерузаліме і імя Глеба, князя менскага: яго шчодрасьць на мана-

---

*) Поученіе Валадзімера Манамаха (П. С. Р. Л. I, 103). Гэтае выражэньне Манамаха дало повад некатарым гісторыкам думаць, што ўвесь Менск заселяны быў чэлядзьдзю (нявольнікамі)— „полацкія князі мелі вялікую патрэбу ў людзёх і забіралі іх дзе толькі маглі“ (Каяловіч „Чтеніе по исторіи Зап. Руси“ 1884 г. СПБ., б. 63). Пытаньне аб часе гэтага Валадзімеравага нападу не аднастайна устанаўляецца гісторыкамі. Доўнар-Запольскі датуе яго 1079 г. (Очеркъ истор. кривичской и дроговичской земли, б. 86), гэтаж кажа і Данілевіч (Оч. ист. полоцкой земли до конца XIV в.). Арцыбашев адсувае на 1085 г. (Повѣств. о Росс. М. 1883, т. I.) Салаўёў пастрымліваецца ад датаваньня (Ист. Р. II, 33).

**) П. С. Р. Л. т. I, б. 104.

***) П. С. Р. Л., т. I, б. 104.

****) У Лаўрэнціяўскім летапісным зборніку чытаем: што выйшаўшая ў паход дружына („рать“) узяла з сабой Давыда Ўсяславіча, а ў Іпаціяўскім-жа зборніку замест „Давыда Усеслававіча“ чытаемо „два Всеславіча“ ( П. С. Р. Л., т. II, б. 287).

*****) За жыцьця Глеб Ўсяславіч з жаной ахвяравалі 600 грывень серабра і пабудавалі трапезную лаўрскую царкву; пасьля яго сьмерці жана яго Анастася ахвяравала 100 грывень серабра і 50 грывень золата. (Историко-статистич. описаніе Минск. Епархіі, архім. Николая, б. 9). З кіява-пячэрскім манастыром яшчэ бацька Глеба Ўсяслаў быў зьвязаны вязямі дружбы ў часе нядоўгага (сямімесячнага) княжэньня ў Кіяве, пасьля выгнаньня Ізяслава. Недармо народная пагудка зьвязывала пазьней імя Ўсяслава з імем заснаўца кіява-пячэрскага манастыра—Антоняга. Калі Ізяслаў ізноў вярнуўся ў Кіяў, а Ўсяслаў уцёк, нехта абмовіў „оклеветалъ“ Антоняга перад Ізяславам, бытцам ён любіў Ўсяслава і быў яго раднікам, а таму павінен ва ўсім гэтым закалоце. (Кіява-Пячэрскі Патэрыкон у перакладзе Е. Поселяніна выд. III, б. 42).

стыры і духавенства была добрым прыкладам для другіх князёў. Глеб Ўсяславіч не абмежаў свае паходы выключна тэрыторыяй рускіх князёў. Захаваліся ведамкі і аб яго паходах у суседнія літоўскія землі. У 1114 годзе Жывібунд на чале свайго войска падышоў да Менска і спаліў яго, спустошыўшы пры гэтым і другія часьці меншчыны. Відаць, гэты літоўскі напад быў адповедзьдзю на падобны напад Глеба, прынамні так дагадуецца гісторык Літвы Нарбут*). У 1116 годзе (паводле Лаўрэнціяўскага сьпіску ў 1115 годзе) Глеб Усяслававіч „воевал Дреговичи“ і спаліў Слуцак („Случеск“), які быў апорным пунктам для кіяўскіх князёў у іх экспансіі на крывічанскія землі. Паводле выслову Іпаціяўскага летапіснага зборніка, Глеб спаліўшы Слуцак „не каяшеться о сем, ни покаряшеться, но более противу Володимеру глаголаше, укоряя и.. **) г. зн. у перагаворах з кіяўскім князям Глеб больш бачыў віны кіяўскага князя і карыў таго, праўдападобна ў яго імпэрыялістычных імкненьнях. У выніку быў ізноў паход Валадзімера супроць Глеба, ў каторым прынялі удзел яго сыны, Давыд Сьвятаслававіч і Вольгавічы. Напасьнікі сабраліся ў Смаленску, а адтуль сьціраваліся на праскі пад Менск. Вячаслаў узяў Оршу і Копысь, Давыд з Яраполкам занялі Друцак („Дрьютеск“ ***), а сам Валадзімер аблажыў Менск, дзе зачыніўся кн. Глеб Усяслававіч. Валадзімер пачаў ладзіцца да доўгай аблогі („нача ставити истьбу у товара своего, противу граду“). Але Глеб пачаў вясьці перагаворы. Відочна пэрспэктыва доўгай аблогі не суліла нічога прыемнага Валадзімеру, асабліва перад вяснавой разводзіцай, дзеля гэтага ён згодзіўся на мір. Летапісец матывaваў гэта ўзвышанымі мяркаваньнямі („съжалися тем, оже проливашеться кровь въ дни постъные великого поста“). Іпаціяўскі летапісны зборнік рысуе абраз цяжкага для Глеба заключэньня міру. Глеб выйшоў з абложанага Менска з дзяцьмі і дружынай і пакланіўся Валадзімеру. Пасьля гэтага пачаліся перагаворы аб міры. Пры гэтым Глеб абяцаўся ва ўсім слухацца Валадзімера, г. знача быць яго васалам, астаючыся князям на тым-жа Менску („омирив Глеба и наказав его о всем, вдасть ему Менеск.****) Але пакора Глеба Валадзімеру Манамаху трывала ня доўга. У 1119 годзе Валадзімер, бачучы „злонравіе“ Глеба Усяслававіча, атабраў у яго Менск. Глеб быў прыведзены з палонам у Кіяў, дзе і памёр у тым-жа годзе 13 верасьня*****). У гэтым паходзе прыймалі удзел Яраполк-Валадзімеравіч, многа другіх рускіх князёў і з імі літоўскі князь Жывібунд; на рацэ Бярэзіне Глеб быў разьбіты і тут узяты ў палон. Менск быў спалены і зруйнаваны, крэпка пацярпеў і Друцак; жыхарства было выведзена******).

Зруйнаваўшы Менск рускія князі імкнуліся заняць цяпер Полацак. Часова былі пакінуты на зруйнаваным Менску Глебавы сыны, ў палажэньні кіяўскіх васалаў, але такжа не на доўга. У 1129 годзе, злучанымі сіламі ўсіх палуднёва-рускіх князёў, полацкая дынастыя крывічанскіх князёў была палонена і выслана са сваіх радавых зямель у Грэцію, а полацкае князства было далучана да кіяўскага. У Полацку „на воле“ кіяўскага князя Мсьціслава асеў яго сын Ізяслаў Мсьціслававіч. Але нашчадкі Манамаха глядзелі,

---

*) Teodor Narbutt. Dzieje starożytna narodu Litewskiego. 1838, т. III, б. 272—273.

**) П. С. Р. Л., т. II, б. 7.

***) У Густынскай летапісі непраўдна „Витепскъ“ П. С. Р. Л., т. II, б. 291.

****) П. С. Р. Л. т. II, б. 7; зраўняй балону 291.

*****) ibid. т. II, б. 8; зраўняй б. 292; VII, б. 24.

******) Думаюць, што менскае жыхарства было выведзена ў нова заложаны Навагорадак: Летопись г. Минска (Памятная книжка Минской губ., 1890 г., б. 39-40. Турчиновичъ. Обозр. ист. Бѣлоруссіи. СПБ. 1857 г., б. 37-38).

на полацкае княства, як на часовую і пераходную ступеню ў сваей палітычнай кар'еры, і, няхочучы пакідаць у сваіх руках найвышэйшай улады пад крывічанскім асяродкам, заўсёды гатовы былі замяніць гэты чужыя ім землі на больш спакойныя, прыкладам на Пераяслаў („русскій").

Само сабой зразумела, што чужы князь, стаўленік варажага абозу, які пілнаваў інтэрасы толькі сваей стараны, ня мог здаволіць полацкае грамадзянства І мы бачым у хуткім часе ў Полацку ізноў яго ранейшую дынастыю. Ізяславу Мсьціславічу прышлося здаволіцца менскім княствам і толькі ў 1132 годзе, якбы ў форме нейкай компэнсаціі яму былі дададзены Тураў і Пінск*). Гэткім чынам Менск стаўся ізноў сталіцай даволі значнага але ўжо васальнага, ў стасунку да Кіява, княства, ўсклад каторага ўходзіў цэлы рад гарадоў: Ізяслаў, Лагойск, Барысаў, Слуцак, Клецак, Тураў, Пінск і Гарадок.

У 1146 годзе Ізяслаў Мсьціслававіч стаў вялікім князям кіяўскім**), а ў менскім княстве аселі ізноў князі—Глебавічы: Расьціслаў, Валадар і Усевалод, знача і тут умацавалася нанова полацкая дынастыя, а праўдападобна разам з гэтым пала і васальная залежнасьць ад Кіява.

У 1151 годзе палачане адаслалі ў Менск, у пачэсную ссылку, свайго князя Рагвалода Барысавіча, а да сябе прызвалі старшага Глебавіча—Расьціслава***). Але Рагвалод Барысавіч у 1159 годзе ізноў стаў „искать собе волости", карыстаючы з таго, што і Расьціслаў Глебавіч і Глеб Расьціслававіч, які сядзеў у Друцку, ня мелі да сябе прыхільнасьці ў народзе. Слуцак і Друцак адразу сталі на старану Рагвалода, а Глеб Расьціслававіч павінен быў уцякаць да бацькі ў Полацак. Расьціслаў полацкі, які апіраўся толькі на адну акрэсьленую групу полацкага купецтва, баяўся выступаць супроць Рагвалода і дзеля гэтага пасьпяшыў зрабіць з ім угоду. Гэта не перашкодзіла праціўнай парціі, староннікам Рагвалода, вясьці агітацію супроць Расьціслава. Справа дайшла да новых нарад: „съвет зол свещаша на князя своего полочане на Ростислава на Глебовича". Пачаліся перагаворы з Рагвалодам, але, да збройнай стычкі Расьціслава з вечам не дайшло. Расьціслаў пакінуў Полацак, хоць пры гэтым выходзячы адамсьціў полацкай зямлі „воюя, и скоты и челядью"... Выгнаны князь пайшоў да брата Валадара ў Менск. Валадар уступіў брату свой сталечны горад, а сам асеў у Гарадцы. Відаць Рагвалод чакаў помсты з боку Расьціслава і каб папярэдзіць яго, сам падыймае карацельную экспэдыцію полацкай мэтрополіі на Менск. Каб ня мець апазадзь сябе ворагаў, Рагвалод аблажыў Ізяслаў, дзе княжыў Усевалод Глебавіч. Заключыўшы з ім умову і пасадзіўшы ў Ізяславе Брачыслава, Рагвалод падступіў да Менска і аблажыў яго. Дзесяць дзён трывала аблога. Урэшце рэшт Расьціслаў і Рагвалод пагодзіліся і цалавалі крыж жыць у згодзе адзін з адным. Цікава зьменка Іпаціяўскага летапісу, што Валадар Глебавіч (раней менскі князь, а ў той час гарадоцкі), крыж Рагвалоду не цалаваў, бо ён „ходяше под Литвою въ Лѣсехъ"****). Відаць ужо ў гэтым часе менскае княства знаходзілася пад пагрозай заваяваньняў новай, літоўскай дынастыі, якая ішла ад Навагарадка.

У хуткім часе (ў 1160 годзе) Рагвалод ізноў ідзе паходам супроць Расьціслава на Менск. Вынікам было заключэньне ў Ізяслаўлі Валодшы „въ

*) П. С. Р. Л., т. І., бал. 132.
**) П. С. Р. Л. т. ІІ, б. 24.
***) ibid., т. ІІ, б. 66.
****) П. С. Р. Л., т. ІІ, б. 83; у Хлебнікаўскім і Ермолінскім сьпісках „въ лясехъ" (ibid).

порубь", а князя Брачыслава „въ железы", ўсё гэта сталася праз уплывы менскага князя—Расьціслава. Падтрымліваньне менскіх князёў контра Полацку ўходзіла ў пляны такжа і кіяўскіх князёў, якія волілі мець на Менску паслухмяных падручнікаў у змаганьні з Полацкам. Да Менска была ськівана на помач Рагвалоду ня толькі рускае войска, але і 600 торкаў, каторых выслаў кіяўскі князь Расьціслаў. Але шасьцітыднёвая аблога мела сваім вінікам толькі вызваленьне „из желез" Брачыслава. Пры гэтым Валадар Глебавіч яшчэ да аблогі Менска Рагвалодам „избеже в Литву"*).

У 1161 годзе Рагвалод ізноў ідзе паходам на Менск, супроць Расьціслава, але без асаблівых вынікаў**), бо і ў сямідзесятых і ў васьмідзесятых годах менскае князства займаў брат Расьціслава Валадар, а пасьля сын яго Васілька Валадаравіч. Але менская дынастыя ўсе-ж такі дажывала ўжо апошнія дні сваей незалежнасьці. Аўтор „Слова аб палку Ігара" меў поўнае права сказаць унукам Ўсяслава: „уже бо выскочисте из дедней славе"...

У пачатку 90-х гадаў XII стагодзьдзя Менск нейкі час знаходзіўся ў васальнай залежнасьці ад новагорадзка-літоўскага князя Мінгайлы.

Вайсковыя удачы валадзімера-галіцкага князя Рамана, на нейкі час было спынілі пасовываньнеся на крыўскія землі літоўскай дынастыі, але гэта было толькі датуль, дакуль жыў харобры Раман. Усьлед за тым у Менску садзіцца князь літоўскай дынастыі—Рынгальд, каторы, разьбіўшы пад Магільнай (Ігуменскага павету) вялікае злучанае войска крывічанскіх і рускіх князёў, умацаваў сваё палажэньне і ўплыў на менскім князстве. Але яшчэ больш умацавалася тут літоўская дынастыя пасьля таго, калі прадстаўніком яе тройчы ўдалося адбіць татарскую навалу. Першы раз ў 1241 годзе татары былі разьбіты князямСькірмунтам пад Койданавам; там-жа атрымаў над імі перамогу ў 1249 годзе князь Міндаўг; трэцьці раз татары ўварваліся ў межы меншчыны і спустошылі край у 1259 годзе, але той-жа Міндаўг разьбіў і выгнаў іх. Пасьля заваяваньня Міндаўгам Кіява, літоўская дынастыя набрала аўторытэту сярод дробных удзельных князёў і сярод торговай клясы жыхарства; васальная залежнасьць ад сільнай літоўскай дынастыі магла ўжо нават проста ўходзіць у пляны як дробных удзельных князёў, так і кіруючых кляс менскага грамадзянства.

Пры Гедыміне, з прыняцьцям васальнай залежнасьці ад Літоўскай дынастыі князёў полацкіх і менскіх, уся тэрыторыя сучаснай меншчыны ўходзіць у склад літоўскага князства, пры гэтым васальныя менскія князі (як і некатарыя другія) асталіся на сваіх удзелах. Рускія летапісныя зборнікі пад 1326 годам, апавядаюць, што ў Ноўгарад, дзеля заключэньня міру з ноўгародцамі і немцамі, прыходзілі пасльі з Літвы: брат вялікага князя Гедыміна, полацкі князь, князь Васіль менскі і князь Фёдар Сьвятаслававіч ***). Свой удзельны князь захоўваўся ў Менску і ў пазьнейшыя часы. Мы ведаем, прыкладам, што ў 1408 годзе на службу да маскоўскага князя між іншымі удзельнымі князямі, фэодальна залежнымі ад літоўскай дынастыі, прыехаў такжа і менскі князь Урустай ****). Праўдападобна гэта быў ужо апошні менскі князь, бо ў 1413 годзе, на гарадзельскім сойме, была устаноўлена для в. кн. Літоўскага адміністратыўная сыстэма „паводле польскага абычаю". Згодна з гэтым было ўтворана з менскага князства, менскае ваяводзтва з

*) П. С. Р. Л., т. II, бб. 86; 305.

**) ibid., II, 88; зраўняй VII, 73.

***) П. С. Р. Л., т. III, б. 74; т. V, б. 217; т. VII, б. 199.

****) П. С. Р. Л., т. V, б. 257; т. VII. б. 82.

з адміністратыўным цэнтрам у Менску 0). Ад канца XIII і да другой палавіны XV ст. гісторыя Менска вызначаецца ўпадкам яго заможнасьці. Уцягнуты перш у кругаварот тарговага жыцьця—Менск з гэтай стараны не адставаў ад другіх гарадоў. Быў нават час, калі Менск цягаўся за першынство з Полацкам 00). Будучы ў цэнтры натуральных багацтваў, якімі слыла ў тыя часы тэрыторыя цяперашняй Беларусі, акружаны лясамі, Менск, мог дастачаць на рынак ня толькі кажушыны пушыстых зьвярат, але і мёд і воск. Пазьней, калі ў XI стагодзьдзі пачала разьвівацца вялікая зямельная ўласнасьць ня толькі шляхам экспрапрыяціі смэрдаў, але такжа шляхам шырокага выкарыстываньня працы рабоў, Менск пачаў вясьці таргоўлю і чэлядзьдзю, якую ён цяпер пастачаў не на зьнешні, а ўжо на ўнутраны рынак. Разьвіцьцё вялікага земляўласьніцтва і інтэсыфікацыя сельскай гаспадаркі ўтварылі шэраг вялікіх земляўласьнікаў—удзельных князёў.

Але ўжо пад канец XI стагодзьдзя таргоўля Менска з поўднем стала падупадаць, ня толькі дзеля завостраных стасункаў паміж Усяславічамі і Яраславічамі, але і таму, што шлях у Бізанцію, ласьне рака Днепр, быў перарэзаны палавецкімі плямёнамі. Не магла наладзіцца і таргоўля з Полацкам, які разьвіваў сваю таргоўлю ўверх і ўніз па Дзьвіне 000).

Полацкі капітал, які вёў таргоўлю і з заграні́чнымі тарговымі цэнтрамі (ганзэйскімі гарадамі), глядзеў на Менск як на свой прыгарад. Акром таго, полацкі капітал ня меў ужо папярэдняга багатага ўнутраннага доплыву, бо ўнукі Усяслава не пераняли адважных заваёўніцкіх здольнасьцяў свайго дзеда, і—некатарае выключэньне ў гэтым—Рагвалод, больш, здаецца, мае на ўвазе свае дынастычныя інтэрасы, чым інтэрасы пануючай клясы. Не дармо ў вялікага прыхільніка Усяслава, аўтора „Слова аб палку Ігара“ пры відаку агульнага ўпадку жыцьця ў Полацкім князстве вырваўся такі сумны сказ: „Дзьвіна балотам цячэ тым грозным палачанам пад клікам паганых“... Эканомічны быт у XIII і XIV стагодзьдзях можна (разумеецца з некатарымі засьцярогамі) характарызаваць як панаваньне натуральнай гаспадаркі. Гэта пацьвярджаецца перавагай натуральных павіннасьцяў, як дзяржаўных так і прыватна-ўласьніцкіх панад грашавымі: дань баброваяі кунічная зьяўляецца немаль абыднай, тады як дань грашавая—рэдкае выключэньне. На пераважаючы натуральны характар народнай гаспадаркі у в. кн. Літоўскім (у склад якога ўходзяць і нашы землі ў другой палавіне XIII і ў XIV стагодзьдзях) паказуе нязначны лік у вялікакняжым скарбе звонкай манэты 0000). Згодна з гэтым, многія, раней тарговыя гарады—Менск, Слуцак, Пінск, і г. д. становяцца не экономічнымі, а ўжо толькі адміністратыўнымі цэнтрамі. Другія-ж, як Друцак, Заслаў і г. п. і саўсім трацяць усякае значэньне.

II.

Менск у XIV—XV ст. выяўляў сабой тыповы закутак фэодальнага сьвету. Гэта ціхі, спакойны пункт. Толькі замак „грод“ пры сутоках Нямігі з Сьвіслаччу сьведчылі аб колішнім значэньні Менска. Есьць ведамкі, што побач з гэтым, крыху ніжэй, быў другі,—ніжні замак, рад загарод і зямляны вал злучаў яго з першым 00000). Але тут-жа, толькі, крыху субач, немаль поплеч з замкам, на беразе Сьвіслачы прытуліўся просты драўляны дом мяшчаніна

0) Иловайскій. Русск. ист., т. II, б. 212.

00) В. Б. Антоновичъ. Очеркъ исторіи Велик. кн. Лит., вып. 1. Кіяў, 1878, б. 19.

000) А. М. Сементковскій. Витебскъ и уѣздные города витебск. губ. СПБ. 1864, бал. 108.

0000) Рожков. Русская история с социологической точки зрения, II, бал. 12-13.

00000) Baliński i Lipiński. Starożytna Polska, т. III, б. 813.

Івана Еўлашэвіча, з гумном і сенажацьцю,—ніжэй маста, які вядзе цяпер з ніжняга рынку на Александраўскую вуліцу [0]). Горад быў вельмі падупаўшы. У часе вайны з маскоўскім вялікім князям, ў 1513 годзе, Менск даваў у в. княжую армію толькі 10 коньнікаў і 10 коп грошаў. Гэта вельмі нязначная сумма паказуе, як абяднеў Менск. Пры гэтым мы павінны мець на ўвазе, што ў Менску і наўкол яго было многа царкоўных маетнасьцяў, якія, на аснове сваіх прывілейных правоў, не выпаўнялі ніякіх агульнаграмадзкіх павіннасьцяў. Гэтак, прыкладам, на беразе Сьвіслачы, на Троіцкай гарэ, ў тым мейсцы, дзе цяпер унівэрсытэцкія будынкі, разсеўся быў найвялікшы тагочасны менскі земляўласьнік—Узьнесянскі манастыр, заложаны, як кажа вустная пагудка, ледзь не ў канцы XII ст. Гэтаму духоўнаму земляўласьніку прыналежаў немаль увесь бераг Сьвіслачы, пачынаючы ад так званага Хлусава маста (каля ніжняга рынку), да самага манастыра. Захаваліся дакуманты незлічоных судоў, якія вёў Узьнесянскі манастыр з менскімі ўрадоўцамі і зборшчыкамі мыта. Натуральная павіннасьць у крывічанскіх (беларускіх) землях вял. кн. Літоўскага існуе на працягу ўсяго XV стагодзьдзя, захоплюючы і першую палавіну XVI ст. Але, безумоўна, не выключае і адначаснага разросту таргоўлі. Разьвіцьцём таргоўлі трэба тлумачыць і ўстаноўленьне па некатарых гарадох „майбортскага“ (магдэнбурскага) права. Тыя гарады, дзе таргоўля пачала разьвівацца раней, атрымалі „нямецкае“ (магдэнбурскае) права яшчэ ў другой палавіне XIV стагодзьдзя. Вільня і Трокі ў 1387 годзе, Берасьце ў 1390 годзе. Менск дастаў магдэнбургію ў 1499 годзе. Згодна надаўчай вялікакняззяўскай грамаце з 14 сакавіка 1499 году, мяшчане места Менска атрымалі права на самаўрад. Звальняючыся ад залежнасьці ваяводаў і стараст, гарады павінны былі выбраць самі сабе адміністратыўных асоб: войта (ён-жа старшыня „майбортскаго“ г. зн. мяшчанскага суда), бурмістраў (двох) і 12 ратманаў (называных у нас „радцамі“ і „лаўнікамі“). Бурмістры з раднікамі складаюць местовы суд, як дзеля цывільных так і крымінальных спраў. Утрыманьне войта не ўскладалася безпасярэдна на жыхарства. Войту паступаў трэці грош ад усіх судовых спраў; акром таго яму-ж паступаў даход з двох крамак („клеток“) і двох местовых корчам. Але дзеля таго, што ў Менску вялікі князь пакідаў і папярэдніх намесьнікаў, праўда з абмежанымі функцыямі, то даходы ад судоў павінны былі дзяліцца паміж войтам і намесьнікам.

Бурмістры і войт абавязаны былі рупіцца і аб добрапараднасьці гораду, прыкладам, яны павінны былі сачыць за акуратным і сыстэматычным забудаваньням пустых мейсц наўкол гораду. Згодна майборскаму праву менскія мяшчане звальняліся ад падводнай павіннасьці, акром выключных здарэньняў (на асобнае жаданьне вялікага князя); звальняліся мяшчане і ад вартаўніцкай павіннасьці пры замку, (акром тых здарэньняў, калі ў замку будзе сам вялікі князь). Пры куплі і прадажы ў Менску павінна была ўжывацца адна, устаноўленая тут, мера; выключэньне дапускалася для сталічных (віленскіх) купцоў. Надаўчая грамата падробна апісуе, як можна было прадаваць некатарыя тавары: воск, прыкл., можна было прадаваць паўберкаўцамі або кавалкамі, для саболяў, куніц і хоркаў лічэбнай адзінкай было 40 штук; для белак, гарнастаяў, лісіц, норак і інш.—250 штук; попял, смала і соль павінны былі прадавацца на ласты (ласт=12 маск. чацьвярыкам). Усе гэты тавары можна было прадаваць прыезджым купцом толькі ў Менску. Сукно пазвалялася прадаваць толькі паставамі; пернасьці: перац, імбір, мігдалы і др. —вагой ня менш 40 фунтаў, больш выбрэдныя пернасьці: шафран, мушкат, гвозьдзікі, мушкатовы квет, калган, цытварнае насеньне можна было прада-

[0]) Собр. древн. грамотъ и актовъ гор. минск. губ., Менск, 1848, № 171.

ваць і меншымі дозамі, але ня менш як па фунту. Гэткія-ж тавары, як: зялеза, волава, медзь, цыну, мосяж пазвалялася прадаваць также фунтамі; фігі і разынкі—карзінамі, тапары і нажы—тузінамі; піва і другія напіткі—бочкамі. Менск павінны быў мець свае вагі і сваю васкабойню, а знача ўвесь пера-топлены і пушчаны ў прадажу воск павінен быў мець гарадзкую пячаць. Дзеля таго, каб мяшчане маглі адбудоўваць горад, ім пазвалялася сячы князяўскі лес на адлеглась́ці трох міль ад гораду, акром бортных дрэў; пазвалялася і пасьвіць статак у тых лясох. Пазвалялася мяшчанам пабудаваць гарадзкую лазьню і ратуш, каля каторага былі-бы сабраны гарадзкія крамы. Тут-жа, ў ратушы, павінны знаходзіцца гарадзкія вагі, мерная бочка і гарадзкая пячаць; у асобнай сьвятліцы, пры ратушы, павінна зьбірацца мыта з тавараў. Урэшце менскім мяшчанам пазвалялася пабудаваць на рацэ Сьвіслачы млын, але з тым, каб ён не падрываў даходаў князяўскага замковага млына. За ўсе гэты правы і прывілеі Менск павінен быў штогодна, ў азначаны тэрмін (к Вялікадню) ў вялікакнязяўскі скарб даваць 60 коп грошаў; акром таго даваць звыклы падатак ад напіткаў, вялікую і малую сярэбршчыну (5 грошы ад сахі, коні і валоў) а такжа мытныя паборы. Цытаваная намі вялікняжая (Аляксандра Казіміравіча) надаўчая грамата на менскую магдэнбургію ставіць сваей мэтай разьвіцьцё таргоўлі ў Менску. Каб прыезджыя купцы розьнічнай і дробнай таргоўляй не падрывалі мяйсцовага купецтва, ім пазвалялася ў Менску толькі гуртовая таргоўля, каторая, разумеецца, магла вясьціся імі не з безпасярэдным спажыўцом, а толькі з мясцовым купцом. Гэткім чынам, з экономічнай стараны Менск у канцы XV ст. стаў ужо дажываць тыя формы гаспадарчага жыцьця, каторыя на мове экономічнай навукі называюцца стадзіяй „гарадзкой гаспадаркі“.

Гістарычныя крыніцы, якія дайшлі да нас з канца XV ст., даюць магчымасьць прасачыць паступенны пераход „натуральнай“ гаспадаркі ў грашавую. Яшчэ ў 1513 годзе менскі Узьнесянскі манастыр валадаў у сваей маетнасьці Трасьцянцы „землями пашными, бортными, бобровыми гонами и сеножатями[0]). Але і ў гэту пару манастыр-памешчык воліў, відаць, атрымліваць ад сваіх сялян грашавую даніну. У нас маецца многа сьветчаньняў аб тым, што манастырскія людзі займаліся таргоўляй на мяйсцовым рынку. Відочна, гэта таргоўля набывала характар сталага заняцьця, а будучы безпадатковай, яна падрывала таргоўлю профэсіянальных купцоў, бо гарадзкая ўлада пачала браць з іх сярэбршчыну так сама як і з другіх мяшчанаў, а такжа прыцягаць іх да выпаўненьня агульна-мяшчанскіх павіннасьцяў („поплатки местские и подводы“). За царкоўных людзей уступіліся іх уласьнікі: ігумены мясцовых манастыроў (асабліва значнейшага з іх—Узнесянскага), і, нават, мітрапаліт, каторыя даводзілі, што царкоўныя людзі справеку былі свабоднымі ад гарадзкіх павіннасьцяў. Вялікі князь у данным здарэньні станавіўся на старану манастыра [00]).

У XVI і нават у XVIII ст. павіннасьці сялян менскага Узьнесянскага манастыра ўжо мяшаныя: грашавы чынш чарадуецца з прыгонам, прыкл., гэткім спосабам: штогодна „з вымероного пляцу“ яны павінны былі плаціць па 24 літоўскіх грошы і па 3 дні выходзіць на жніво, грабсьці скошанае сена на манастырскіх сенажацях ды даваць „волочобное“ и „коледу“ [000]).

Гістарычныя крыніцы даюць магчымасьць прасачыць нам і разрост рамёслаў у Менску. Ізноў возьмем для прыкладу той-жа Узьнесянскі манастыр.

---

[0]) Собр. древн. грам. и акт., цыт. зборн. № 4, б. 6-7.
[00]) Собр. древн. грам. і акт, № 6, 7, 55 і інш.
[000]) ibid, цыт. зб. № 168.

У канцы XVI ст. манастыр-памешчык быў панскім дваром часаў росквіту прыгоншчыны. Манастырскі інвэнтар 1579 году, паміж манастырскіх „мяшчан"-працавікоў называе шэраг „кожемяков", „шаповалов", „пирожника", „чеботаря" і др. Але гэты „рукодельники" не працуюць ужо выключна на манастыр, іх рэмясло і ня мае характару работы ў хаце, на заказчыка. Яны працуюць на пакупца наагул, выносячы свой тавар на рынак. У 1537 годзе ігумен Узьнесянскага манастыра, Васіян, жаліўся каралю Жыгімонту на тое, што мяйсцовая менская гарадзкая адміністрацыя вымагала выпаўненьня гарадзкіх павіннасьцяў ад тых манастырскіх людзей, каторыя „ремесло умеючи иштоколве заробивши доместа на продажу носят а иншии скупуючи збоже исолод также до Менска то привозят и продают истого собе поживене мают" [0]). Мабыць гэтым займаліся не адны толькі манастырскія „людцы"... Праўда, менскі рукадзельнік яшчэ ня ведае таго, што на сучаснай мове прынятаназываць „прэдпрыемніцкім зыскам". Ен не шукае прыбытку; яму трэба толькі пракарміцца са сваей працы. Рукадзельнікі менскага Узьнесянскага манастыра, таргуючы „только тымся живят"... Нават таргоўля „збожем" і соладам, каторую практыкавалі названыя манастырскія людзі, мела характар рэмясла.

Якія адмены рэмясла істнавалі ў Менску ў XVI—XVII стагодзьдзях? Гістарычныя дакуманты акрэсьленна кажуць нам аб істнаваньні ў Менску цэхаў шапачнікаў, кушняроў і шаўцоў [00]). Цэхі былі моцнымі профэсіональнымі арганізацыямі, дзе профэсіональныя і экономічныя інтэрасы пераважалі над усімі другімі. Нам добра ведама, прыкладам, што цэх роўнастайна злучаў майстроў усякіх веравызнаньняў [000]).

Да катэгорыі рэмесьнікаў трэба палічыць і татарскае жыхарства гор. Менска. Татары на тэрыторыі Літвы, ў тым ліку і ў Менску, паявіліся вельмі рана, як думаюць некатарыя гісторыкі (Нарбут) яшчэ пры Альгердзе. Некатарыя з іх эміґравалі ў Літву самахоць, іншыя, трапіўшы ў палон не хацелі вяртацца на бацькаўшчыну і паступалі на службу да літоўскіх князёў і паноў. Татары на службе вызначаліся чэснасьцю, акуратнасьцю і выпаўніцельнасьцю. Асаблівай апекай, са стараны літоўскага ўраду, татары карысталіся пры в. кн. Вітаўце. З соціяльнай стараны татары, якія былі асеўшы ў межах в. кн. Літоўскага, дзяліліся на дзьве групы: шляхта-мурзы, каторыя служылі вайскова і поўнасьцю карысталіся ўсімі правамі шляхты; другія ж, не шляхта, ня мелі дзедзічных зямель, і, дзеля гэтага, або жылі на князяўскіх землях на правох арэндатараў, або займаліся фурманствам, вырабам саф'яну і скур, а також служылі ўрадовымі ганцамі, для перавозкі падарожных і почты.

Менскія татары, як сьведчаць дакуманты, займаліся як фурманствам так і пералічанымі вышэй рамёсламі [0000]). Жылі яны адасобнена, ў аддзельным квартале, сьляды каторага захаваліся і дагэтуль; жывым помнікам гэтых татарскіх паселішч служыць татарская мячэць, якая істнуе яшчэ і цяпер [00000]).

Значнае ажыўленьне ў разросьце рамёслаў і дробнай прамысловасьці ў Менску ў XV ст. і пазьней, унясьлі жыды. Перасяленьне жыдоў у Менск

---

[0]) Собр. древн. грам. и акт. № 9.

[00]) ibid. Nr. Nr. 144 i 162.

[000]) Скрыня з цэхавымі граматамі і грашыма зазвычай пераховывалася то ў доме майстра уніята, то праваслаўнага (ibidem).

[0000]) Акты Вилен. Археогр. Комм. т. XXXI, № № 92, 93, 181. Таргоўля менскім татарам была забаронена (Собр. др. грамот и актов, цыт. зборн. № 63).

[00000]) Больш падробна аб літоўскіх татарах гл. Акты Вил. Археогр. Ком. т. XXXI, прадмова Добренскага. Спэціяльная праца Мухлінскага „Изслѣдованіе о происхожденіи литовскихъ татаръ. СПБ. 1857; ёсьць і другія працы (выказ у прадмове да А. В. А. К. т. XXXI).

адбывалася павольна і ня можа быць акуратна датаваным. Не займаючыся ратайствам яны маглі знайсьці сабе заняцьце ў Менску, калі тут сталі разьвівацца рамёслы і таргоўля. Першы вядомы нам афіціяльны дакумант, які датыча менскіх жыдоў, зьвязаны з імем караля Жыгімонта III, з 26 траўня 1606 году. Гэта ёсьць каралеўская грамата, якой забаранялася ў Менску займацца таргоўляй татарам і жыдом [0]). Але крыху пазьней урад в. кн. літоўскага перамяніў свой стасунак да жыдоў. Той-жа Жыгімонт III, ў 1609 годзе, выдае другую грамату больш ужо спрыяючую жыдом. Владыслаў IV у 1646 годзе пацьвярджае Жыгімонтаўскі прывілей; а яшчэ пазьней, пры Яне Казіміры, ў 1649 годзе, прывілей ізноў быў пацьверджаны. Згодна прывілею, жыдом пазвалялася прадаваць мануфактурныя тавары (sukienne, bławatne y materyalne) ня больш як у 10 крамах (мураваных ці драўляных), а такжа рожныя кушнерскія, шавецкія, і рымарскія тавары; пазвалялася таргаваць і ў мясных крамах „ятках“. Кароль Ян Казімер, пацьвердзіўшы менскім жыдом ўсе гэты правы яшчэ больш іх пашырыў. Ён пазволіў заняцца (exercitie) рамёсламі: рымарствам, шклярствам залатарствам (złotnictwem), шмуклерскімі вырабамі, бляхарствам, адлеўніцтвам (konwisarstwem) і інш. Пры гэтым цэхі не павінны былі перашкаджаць жыдом і вымагаць ад іх выпаўненьня якіх колечы цэховых павіннасьцяў. Пазвалялася жыдом у сваіх крамах прадаваць тавары, як выробленыя іх уласнымі рукамі, так і набытыя ў другіх мяйсцох, і рабіць вывескі на сваіх дамох. За гэта жыды павінны былі прыймаць удзел у аплаце гарадзкіх павіннасьцяў, але што да суда, то яны, як і раней, падлягалі не гарадзкому а толькі замковаму суду. Падаткі жыды павінны былі плаціць у дзяржаўны скарб цераз свой мяйсцовы менскі кагал. Гэты апошні прывілей быў пацьверджаны і ў 1722 годзе каралём Аўгустам II [00]).

Ужо той варунак, што прыведзены каралеўскі прывілей вымагаў частага пацьверджаньня сьведчыць аб тым, што менскае мяшчанства непрыхільна адносілася да прышлага жыдоўскага жыхарства, дабачаючы ў ім конкурэнта сабе. Не без уплыву мяйсцовых менскіх гарадзкіх урадаў у 1633 годзе было забаронена жыдом будаваць у горадзе новыя дамы, пазвалялася карыстацца толькі дамамі ўзятамі за даўгі, па судовай пастанове [000]).

З другой палавіны XVI ст. грашавая гаспадарка на крывічанскіх (беларускіх) землях разьвіваецца асабліва інтэнсыўна. Пасьля люблінскай уніі гарады ў Літве ня толькі самі па сабе падлягаюць уплыву польскага капіталу, але становяцца, ў свой чарод, адным з этапаў у экспансіі польскага капіталу на Усход, ў межы Маскоўскай дзяржавы. Гандлёвыя авароты Менска пры гэтым павінны былі ажывіцца. Цераз Менск праходзіла вялікая тарговая дарога на Лагойск, Барысаў, Оршу ў Смаленск і Маскву; а з другой стараны цераз Слуцак і Берасьце на Валынь і на Захад у Польшчу. Цераз Берасьце ў Менск ішлі тарговыя караваны з Польшчы. Ведама, што на кірмашы ў Міры зьяжджаліся купцы як з Берасьця так і з Менска [0000]) Вялікае тарговае значэньне мог мець і кірмаш у Капылі [00000]) У зьвязку з разьвіцьцём таргоўлі ў Менску кароль Жыгімонт Аўгуст II у 1552 годзе пашырыў папярэднія правы гораду, пацьвердзіўшы магдэнбурскае права, пазволіў мець яшчэ кірмашы [000000]).

---

0) Падробна аб палажэньні жыдоў у Літве гл. у С. А. Бершадскага „Литовскіе евреи“.С Б.1883.

00) Собр. древн. грам. и актовъ, цыт. зборн. № 158; зраўняй А. В. А. К., т. XIX, № 74.

000) ibidem, № 159. Пазьней, гэта забарона была, здаецца, скасавана, бо ў канцы XVII ст., жыду Ліпману Ільляшэвічу было пазволена будаваць дом на зямлі Сьвятадухаўскага базыльянскага манастыра. (А. В. А. К., т. XIX, № 117).

0000) Акты Вил. Арх. Ком., т. XIX, № 93, б. 141.

00000) ibidem, т. XXXI, № 181.

000000) Baliński i Lipiński, Starożytna Polska, т, III, б. 816.

Развіцьцё грашавой гаспадаркі пабуджала і акалічную шляхту кідаць свае наседжаныя двары на апеку войтаў і перасяляцца ў горад. Але гэтае перасяленьне, зьвязанае зазвычай з купляй у горадзе дамоў з пляцамі, выклікала крэпкі адпор са стараны менскага мяшчанства. Мы ведаем здарэньні, калі судзячыяся староны зьвярталіся з зажаленьнямі да караля. Кароль павінен быў санкціонаваць дамаганьні мяшчанства. Гэтак, прыкладам, граматай караля Яна III, з 30 сакавіка 1679 году, было забаронена менскаму падстарасьце Марціну Казіміру Валадковічу купіць у менскага мяшчаніна дом таму, што шляхце і жыдом наагул забаронена, паводле істнуючага права, купля дамоў і пляцоў у горадзе о).

Ведамы здарэньні калі менскія магнаты, вялікія земляўласьнікі, ўкладалі свой капітал у рожныя targовыя прэдпрыемствы. Прыкладам, менскі ваявода Мікалай Сапега ў 1580 годзе быў учасьнікам у адным з саляных прэдпрыемстваў у таварыстве з берасьцейскімі жыдамі оо).

Для вялікіх таргова-прамысловых прэдпрыемстваў, звычайна, патрэбен быў грашавы крэдыт. У Менску былі такія банкіры-ліхвяры, каторыя, пад адпаведнае абасьпечаньне, маглі пазычаць грошы рожным асобам. Гэта перш за ўсё былі манастыры, як мужскія так і жаночыя, бяз рожніцы веравызнаньня. У нас маюцца дакуманты, якія апавядаюць аб многіх судовых працэссах капіталістаў, кіраўнікоў і кіраўніц рожных манастыроў, з неакуратнымі даўжнікамі. Гэты працэссы рысуюць цікавы абраз разросту экономічнай заможнасьці гор. Менска ня толькі ў XVI і ў XVII але нават у XVIII ст. Асаблівую рэпутацію ліхвяра пакінуў па сабе Троіцкі базыльянскі жаночы манастыр (які быў на мейсцы цяперашняй гарадзкой бальніцы ооо). Не адставалі з гэтага боку і другія, прыкл., базыльянскі Духаўскі манастыр, дзе кіраўніцай у пачатку XVIII ст. была Кацярына Сапежанка. Менскія Духаўскія базыльянкі ў 1711 годзе пазычылі адным Завішам 1000 бітых талераў оооо); менш-больш у гэтым-жа часе Кацярына Сапежанка пазычыла жонцы вялікага падскарбяга в. кн. Літоўскага Магдалене Канапацкай-Гонсеўскай 18.000 польскіх залатых ооооо). Гэткіх прыкладаў ліхвярства можна паказаць многа оооооо). Ліхвярствам займаліся ў Менску і жыды, паміж каторых ужо ў XVII ст. можна было знайсьці вялікіх капіталістаў ооооооо).

## III.

Жывыя таргговыя стасункі Менска з рожнымі вялікімі цэнтрамі вялікага княства Літоўскага і Польшчы не маглі не ўплываць на праніканьне сюды модных культурных кірункаў, якія непакоілі ў той час мысьль Заходна-Эўропэйскага грамадзянства. Меней болей у другой палавіне XVI ст. ў Менск пранікае кальвінізм, і, здаецца, са Слуцка, дзе яго патрымлівала знатная і сільная фамілія Радзівілаў. Соціяльна-экономічная аснова для ўмацаваньня ў Менску рэформацкіх ідэй, відаць была вельмі падатная: былі разьвіты

о) Собр. древн. грам. и актовъ, цыт. зборн. № 170.

оо) Акты Вил. Арх. Комм., т. III, № 164.

ооо) Акты Вил. Арх. Комм. т. XV, №№ 22, 25 і 28.

оооо) idem, т. VIII, № 81.

ооооо) idem, № 82.

оооооо) Гл., прыкл., А. В. А. К., т. XVI №№ 66, 78, 91.

ооооооо) Акты Віл. Арх. Комм., т. XXVIII, №№ 116, 130, 138. У гэтым часе менскія жыды-капіталісты выступаюць як арэндатары вельмі вялікіх двароў (А. В. А. К., т. XXVIII, № 135); зьяўляюцца зборшчыкамі падаткаў (А. В. А. К., т. XIX, № 25), у асобнасьці табачнага мыта (ibidem, № 28) і г. д. Але мы ведаем і такія здарэньні, калі жыды бывалі даўжнікамі і вялікшых капіталістаў-манастыроў (ibidem, №№ 165—166).

арганізаціі мясцовага мяшчанства ў форме цэхаў, сярод якіх выклікаў агульнае нездаволеньне царкоўны іммунітэт (выключэньне ад усякіх павіннасьцяў). Але абарону протэстанцкіх ідэй бярэ на сябе не мяшчанства, а шляхта, з каторай мяйсцоваму мяшчанству ісьці было не падарозе. Вось чаму кальвінізм у Менску не прышчапіўся. Пабудаваны ў канцы XVI ст. у Менску кальвінскі збор, які істнаваў на працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў, так і ня здужаў падняцца з развалін, у каторыя абярнуў яго разгром Менска войскамі Маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча (ў 1654 годзе). У 1684 годзе вызнаўцоў кальвінізму было ў Менску толькі 60 душ [0]).

Затое клясавае змаганьне паміж шляхтай і мяшчанствам праявілася ў другіх арганізацыях.

Люблінская палітычная унія, якую падтрымлівала баярства дала апошняму, як клясе, шмат карысьцяў: яна, з аднэй стараны, зраўняла баярства ў правох з польскай шляхтай, а з другой—умацавала яе экономічна ў вёсцы; карацей кажучы, гэта унія высунула шляхту на палажэньне пануючай клясы ў дзяржаве. Але тая-ж унія, ў далейшым, меўшы ўплыў на разьвіцьце таргоўлі в. кн. Літоўскага з Польшчай, умацавала і другую значную грамадзкую клясу: мяшчанства. Мы ўжо бачылі, як менскае мяшчанства спраціўлялася пранікаsucceeding ньню ў горад прадстаўнікоў шляхты. Клясавае змаганьне было неўнікнёным. Царкоўныя арганізаціі ў той час былі значнай экономічнай сілай і ўзяць іх у свае рукі для шляхты здавалася чародным і істотным заданьнем. Першым вынікам гэтага была шляхэтызацыя біскупату. Але буржуазныя (мяшчанскія) групы, ў свой чарод, ніяк не маглі пагадзіцца з шляхэцкім біскупатам. З мэтай ужо свайго ўласнага ўплыву на царкоўнае жыцьцё, праваслаўнае мяшчанства творыць сваеаблічныя арганізаціі ў форме брацтваў.

Брацтвам, так або іначай, удавалася перацягнуць на сваю старану праязджаўшых праз в. кн. Літоўскае прадстаўнікоў усходных патрыархаў і выстарацца граматы, якія звальнялі, тое або іншае, брацтва з залежнасьці ад мяйсцовага біскупа. Брацтвы мелі для сябе прототыпы ў цэхавых арганізацыях, аналёгічных ім па клясаваму складу. Згодна новым грамадзкім вымаганьням гэтым арганізацыям трэбало толькі надаць новы і больш шырокі характар дзейнасьці.

Брацтвы стараліся также арганізаваць і школы. У Менску брацтва было арганізавана, праўдападобна, ў 1590 г. пры замковай саборнай царкве. У 1592 годзе 11 верасня яно ўжо атрымала каралеўскае пацьверджаньне і пазваленьне „для науки деток малых школу мети и бакаляра в ней ховати и там детей писма греческого и руского учити давати“ [00]). Але як брацтва так і школа (калі толькі апошняя была адкрыта) хутка спынілі свае істнаваньне, відаць пад націскам з боку уніятаў [000]). У 1612 годзе, пры нова-заснаваным Пятро-Паўлаўскім манастыры, замест папярэдняга было устаноўлена новае брацтва—Пятро-Паўлаўскае і пры ім школа „для твиченья вней деток и для оздобы тои церкви“ [0000]).

У 1596 годзе была заключана групай крывічанскіх (беларускіх) і украінскіх біскупаў унія з Рымам. Для шляхэцкага біскупату, сьціснутага кант-

[0]) И. Соколовъ. Отношеніе протестантизма и Россіи въ XVI—XVII в., Масква, 1880 г., б. 302—303.

[00]) Акты зап. Росс. IV, № 36.

[000]) Собр. древн. грам. и актовъ, цыт. збор. № № 42, 54, 56, 68.

[0000]) ibidem, № 65.

ролям брацтваў, унія гэта была адзіным выхадам з палажэньня. Нічога дзіўнага калі адзін староннік уніі, які асабліва не любіў брацтваў, гатоў быў прызнаць ня толькі папежа, але самога чорта, абы толькі звольніцца ад паніжаючай для яго апекі з боку шаўцоў і другіх рукадзельнікаў [0]).

Немаль адначасна з брацкай Пятро-Паўлаўскай школай, і, ў процівагу ей, была адкрыта уніятамі школа ў Менску пры Кузьма-Дземьянскім уніяцкім манастыры. У 1614 годзе ігумен гэтага манастыра Апанас Пакоста атрымаў каралеўскі прывілей на адкрыцьце уніяцкіх школ у Навагрудку і Менску, датаваны 1613 годам у менскіх трыбунальскіх кнігах [00]). У 1617 годзе менская уніяцкая школа ўжо істнавала і складалася з двох кляс: малодшай „рускай“ і старшай „лацінскай“ [000]). У гэтым-жа 1617 годзе, 16 лютага, ў выніку падбухторываньня сваіх прафэсароў („бакалеров“) вучні уніяцкай школы крэпка пабілі вучняў брацкай Пятро-Паўлаўскай школы. Зрэшта зажаленьне пацярпеўшых у суд, рэальнага значэньня ня мела [0000]).

Кузьма-Дземьянская уніяцкая школа, здаецца, програмова ня надта значна падыймалася над роўню элемэнтарных школ. Для грунтаўнейшай і лепшай адукацыі вучомай маладзежы, на кобрынскім саборы 1626 г., уніяцкім біскупатам запрапанавана было адкрыць у Менску „сэмінарыю“, або свайго роду акадэмію для мясцовай маладзежы. Гэты расаднік веды калі і быў адкрыты, то ў кождым здарэньні незадоўга да маскоўскай навалы, пры цару Аляксею Міхайлавічу, ў часе каторый школьныя будынкі загінулі ў полымі.

Унія магла здаволіць толькі некатарую часьць краёвай шляхты, прыхільнай да польскай культуры. Другая часьць, больш консэквэнтная, не магла спыніцца на поўдарогі і саўсім паддалася польска-лацінскай цывілізацыі. Праваднікам гэтай цівілізацыі на крывічанскіх (беларускіх) землях стаўся езуіцкі ордэн. Дзеля выхаваньня шляхэцкай моладзі езуіты заснавалі цэлы рад школ для шляхты. У першай палавіне XVII ст. была заснавана езуіцкая школа і ў Менску. Гісторык школ у Літве і Польшчы, Лукашэвіч, апіраючыся на сьведчаньні Несецкага, кажа, што першы фундуш на заснаваньне ў Менску езуіцкай рэзыдэнціі і нізшай школы быў дадзены смаленскім біскупам Геранімам Санчушкаю (+1557) [00000]). Ярошэвіч заяўляе, што езуіцкая калегія ў Менску была адкрыта ў 1638 годзе [000000]). Крыху пазьней, ў 1683 годзе канцлер вял. кн. Літоўскага Марціян Агінскі павялічыў фундуш Сангушкі, надаўшы менскай езуіцкай рэзыдэнціі сваю маетнасьць Упярэвічы, а троцкі воявода Бжостоўскі запісаў менскім езуітам (на калегію і школу) 50 тысяч польскіх залатых. Дзеля гэтага езуіты маглі сваю школу ператварыць ў калегію высшага тыпу (з філёзофічнымі і багаслоўскімі курсамі). Пры калегіі істнавала і бібліатэка. Посьле выгнаньня езуітаў з польска-літоўскай дзяржавы менская паезуіцкая калегія была ператворана ў пад'акруговую школу паводле статуту Адукацыйнай Камісіі [0000000]).

---

[0]) Перестрога. Акты Зап. Россіи, IV, № 149 б. 211.

[00]) Акты Южн. и Зап. Россіи, т. II, № 45. Описаніе архива уніятскіх митр. I, № 384.

[000]) Археогр. сборн. докум., отн. к Зап. Россіи, т. XII, Congr. I, sas 8.

[0000]) Собр. др. грам. и акт., цыт. зборн. № 62.

[00000]) Lukaszewicz. Historya szkoł w Koronie i W. X-wie Litewskim. У сваіх разважаньнях аб часе адкрыцьця менскай езуіцкай калегіі Лукашэвіч ідзе за Балінскім (Starożytna Polska, t. III, p. 813-823); Załąski Jezuici w Polsce, IV, ч. 4, б. 1502-1515.

[000000]) Jaroszewicz. Obraz Litwy, III, 73.

[0000000]) Lukaszewicz. Op. cit. IV, 117

У часе маскоўскіх войн пры Аляксеі Міхайлавічы Менск бываў не раз спустошаны. Сьпярша зруйнавалі яго татарскія і калмыцкія аддзелы маскоўскага войска, а ў 1655 годзе занялі Менск маскоўскія войскі пад даводзтвам баярына князя Хворостина. Пад уладай маскоўскага ўраду Менск быў да 1662 году, сем гадоў. У часе маскоўскай акупацыі пацярпелі як езуіцкія так і уніяцкія школы. Уніяцкі манастыр і царква былі прыспасоблены маскоўскімі войскамі на крэпасьць, бо яны былі добра заслонены і абведзены мураванай сьцяной. Пасьля выхаду з Менска маскоўскіх войск, ад манастырскіх і школьных будынкаў асталіся толькі руіны. Пацярпела пры гэтым і езуіцкая рэзыдэнцыя са школай, але, дзякуючы шырокаму доплыву ахвяр, езуіты хутка адбудаваліся—мураваны дом каля мар'янскага касьцёлу на высокім рынку (раней саборны пляц, будынак казённай палаты). Конкураваць з езуітамі базыльянам было цяжка: вучомая маладзеж, аbодвых веравызнаньняў, пачала напаўняць езуіцкую калегію. Зажаленьні базыльянаў на езуітаў, якія даходзілі ледзь не да Рыму [0]), відочна ня мелі пажаданых для базыльянаў вынікаў [00]).

Маскоўскі ўрад, пасьля ўзяцьця Менска, думаў утрымаць яго за сабой. У Менск быў назначаны нават ваявода, нехта Фёдар Арсеньев [000]). Захавалася перапіска яго з цэнтральнымі маскоўскімі установамі якая адкрывае перад намі некалькі цікавых рысаў з жыцьця меншчыны ў азначаны пэрыод часу. Паводле павядомленьня Арсеньева, датаванага 18 чэрвеня 1656 году, ўся акалічная менская шляхта паўцякала: „многіе невѣдомо где“ [0000]). Прычына гэтага шляхэцкага тэрору была не выключна ў палітычных надзеях. Апошнія толькі далі магчымасьць раскрыцца ўсеагульнай соціяльнай розьні. Шляхэцкія пахолкі і ратаі сяляне, уцякаючы ад сваіх паноў, зьбіраліся парціямі „воровали“ і руйнавалі менскі павет, паноў сваіх і шляхту мучылі і „грабежемъ имали“ іх маемасьць, коні і іншы дамовы статак. Дзе-каго ўдалося ваяводзе злавіць і заперці ў турму ў Менску. Але з паміж арэштаваных 30 чалавек уцякло, „подкопавъ тюрьму“.. Сама шляхта сваімі ўласнымі сіламі няздужала змагацца і зьвярталася з просьбай аб помачы да маскоўскай улады. Акром таго па павеце хадзілі партызанскія „свейскіе“ дружыны, каторыя такжа грабілі жыхарства... З Масквы далі загад, каб з паміж злоўленых „воровъ“ 20 чалавек „пущихъ воровъ“ павесіць, „дабы на то смотря неповадно было-бы другимъ такъ воровать [00000]).

Менск дастаўся маскоўскаму ўраду ўжо зруйнаваным. Калі з Масквы Арсеньеву загадана было ўмацаваць гарадзкую крэпасьць, то ён пачуваў сябе вельмі блага. У сваей адпісцы ў Маскву Арсеньев, 18 чэрвеня 1656 году, піша аб гэтым так: „Въ Менску острогу подкрѣпить не мочно, потому что въ Менску острогу нѣтъ ни худого ни доброго, а только въ Менску по осыпи поставлены турки плетеные... і тѣ турки все разволялись“... [000000]). Нічога дзіўнага што маскоўскім войскам прышлося карыстацца базыльянскімі мурамі.

Акром варажых нападаў Менск вельмі часта бываў нішчаны пажарамі. Прыпомнім некалькі асабліва грозных здарэньняў. У 1505 годзе татары з Махмэт-Гірэям падыйшлі да Менска. Замак Махмэт-Гірэй нязмог узяць, за-

---

[0]) Арх. сборн. докум. отн. к ист. С-З края, т. XII Congr. XVI, ses 1.

[00]) Няма сьлядоў, каб менская баз. школа была адбудавана пасьля маскоўскага разгрому.

[000]) Акты Московскаго государства, пад редакціяй Н. А. Попова, т. II, Nr. 828.

[0000]) ibidem, № 831.

[00000]) ibidem № 829.

[000000]) ibidem № 831

тое спаліў места і забраў з Меншчыны каля 100 тысяч душ у палон. Усьлед за гэтым, у разбураным горадзе і аколіцах яго, пачала бушаваць маравая пошасьць. Тое і другое крэпка стрымлівала разрост гораду [0]).

У 1514—1519 годах Менск бачыў пад сваімі сьценамі ваяводаў маскоўскага цара Васіля III [00]).

У 1574 годзе выгарэла значная часьць гораду: спалілася 600 сяліб, 10 праваслаўных царквей, 2 каталіцкія касьцёлы; ў 1579 годзе Менск ізноў гарэў.

У 1640 годзе гарэў ратуш; спаліліся кнігі менскай магдэнбургіі і ўвесь рынак.

Але асабліва быў зьнішчаны Менск, як мы ўжо бачылі, ў часе маскоўскай окупацыі 1655—1662 г. г. У 1668 годзе Менск ізноў выгарэў; тое-ж было ў 1762 і ў 1776 годзе.

Дык нічога дзіўнага, што ў 1697 годзе Менск паказаўся стольніку П. А. Толстому „меньше Могилева многимъ“. П. А. Толстой быў пасланы Пятром Вялікім заграніцу „для науки воинскихъ дѣлъ, въ частности для морского дѣла“.. Ен сьпісываў дзеннік падарожы, ў каторым выказуе дзіўную спасьцярожлівасьць. 13 красавіка вечарам Толстой прыбыўшы ў Менск і пражыўшы тут два з палавінай дні, свае ўражаньні запісаў у дзеннік. Ня ўсё ў гэтых запісях зьяўляецца аднастайна цэнным, але ёсьць вельмі важныя данныя. Менск у часе бытнасьці ў ім Толстого быў акружаны земляным валам. Дом для старасты (у той час старастам быў Завіша), знаходзіўся ў замку, быў дряўляны, хоць вялікі але нізкі і „брусяны“. З гарадзкіх будынкаў па вялічыне выдзяляўся мураваны дом Глебовічаў, хоць у 1697 годзе ён ня быў заселяны і стаяў пусты. Мураваных будынкаў у Менску Толстой заўважыў многа; ў рынку крамы былі мураваныя і немала было тавараў. Сьвіслач Толстой называе „Висловицею“ і лічыць яе ракой „невялікай“. Праз гэту раку, якая дзяліла горад на дзьве няроўныя часьці, быў перакінуты мост „изрядной и деревянный“ [000]). Больш за ўсё Толстой у сваім апісаньні гор. Менска зьвяртае ўвагу на царкоўныя рэчы; апісуючы як праваслаўныя і базыльянскія манастыры, так і р.-каталіцкія кляштары, набажэнствы ў іх, на каторых ён сам бываў, і г. д.

Зьнешні выгляд гор. Менска, згодна маючыхся ў нас пад рукамі данных, быў гэткі. Пры ўтоцы Нямігі ў Сьвіслач ляжаў замак, акружаны валам. У замку былі ўсе ўрадовыя установы: ратуш, дом старасты, саборная царква, Нараджэньня Богародзіцы, Мікольскі манастыр з мітрапаліцкімі пакоямі на выпадак яго прыезду. Немаль да самага замку падыходзіў ніжні рынак; перавулкамі, якія падыймаліся ў гару, ён злучаўся з верхнім рынкам (цяперашні саборны пляц). Гэты верхні рынак быў акружаны царквамі і касьцёламі. Калі падняцца з ніжняга рынку, то направа быў імпонуючай архітэктуры Марыянскі касьцёл, а побач з ім будынкі езуіцкай калегіі. Налева знаходзіўся базыльянскі Духаўскі манастыр, а ад яго на супроць Кузьмадземьянаўскі перавулак,—побач з Кузьмадземьянаўскім манастыром знаходзіўся уніяцкі Пятро-Паўлаўскі манастыр, а яшчэ далей, на рагу Пятропаўлаўскай і Хрышчэнскай вуліцы, р.-каталіцкі Дамініканскі кляштар. Ад рынковага пляцу ў рожныя староны ішлі вуліцы: Францішканская (раней губэрнатарская), названая гэтак таму, што на скрыжаваньні яе з Юр'яўскай быў фран-

---

[0]) Полн. собр. русск. лет. II, 364; больш падробна аб гэтым у Бранцава, б. 313.
[00]) П. Собр. руск. лет., VIII, 257; Турчиновичъ, цыт. бал. 131; Никон. лет., б. 223.
[000]) Русск. архив 1888 г. № 2, бал. 183 і чародн.

цішканскі кляштар. Паўзбежна Францішканскай вуліцы ішла другая (раней Пераабражэнская) дзе быў Бэнэдыктынскі касьцёл (перад рэволюціяй месьціўся тут жаночы Пераабражэнскі манастыр). На Францішканскай вуліцы быў кляштар сясьцёр Марыянак, заложаны Кунэгундай Рушчыц (з дому Матусэвіч); пазьней на гэтым мейсцы стануў мураваны двохпаверхі дом Гурвіча. Побач езуіцкай калегіі, ўніз, ішла Койданаўская вуліца; на ёй у 1752 г. шляхэцкі род Шышкаў пабудаваў кляштар Рохітаў (дзе раней быў дом Ісачэнко).

Ад Пятропаўлаўскага уніяцкага манастыра, крыху пад гару, ішла Пятропаўлаўская вуліца. Не дахадзя замку, ў старану ад ніжняга рынку, быў праваслаўны Пятро-Паўлаўскі манастыр (цяпер Кацярынскі сабор); тут-жа на Ніжнім Рынку быў манастыр Боніфратраў. Немаль паралельна замку ішла так званая, ў апошнія часы, Ракаўская вуліца. На рагу гэтай вуліцы (дзе была мячэць) стаяла Узьнесянская царква; там-жа аселі са сваім кляштарам і Кармэліты. Ад Ніжняга Рынку, праз р. Сьвіслач, ляжаў мост, каторы вёў да Троіцкага уніяцкага манастыра (дзе цяпер гарадзкая бальніца); гэты манастыр стаяў на гарэ, званай ад манастыра Траецкай. Цераз невялічкі пляц, на цяперашняй шырокай вуліцы, быў адзін з вялікшых тагочасных земляўласьнікаў—Узьнесянскі манастыр [o]).

Што датыча экономічнай заможнасьці г. Менска ў XVII—XVIII стагодзьдзях, то аб гэтым можна сказаць, што частыя пажары і спустошаньні не давалі магчымасьці гораду наладзіць сваё жыцьцё. Патрэбнасьць частай адбудоўкі і то грунтоўнай, бо цэлымі кварталамі, пахлынала многа сродкаў. Па свайму матэр'яльнаму палажэньню Менск займаў сярэдняе мейсца паміж гарадамі Беларускай (Крывічанскай) тэрыторыі [oo]).

## IV.

У канцы XVIII ст., пасьля другога падзелу Польшчы (1792 г.), горад Менск пераходзіць пад уладу Расіі. У 1792 годзе, згодна указу Кацярыны II, расійскія войскі акупавалі Украіну, Вільню і Менскае ваяводзтва. 8 сьнежня 1792 году выйшаў іменны указ Кацярыны аб утварэньні з акупаваных абшараў трох губэрняў: Менскай, Валынскай і Брацлаўскай [ooo]) а на другі 1793 год, 27 сакавіка, выданы быў маніфэст аб уключэньні гэтых губэрняў у склад Расійскай імпэрыі [oooo]).

Горад Менск стаўся губэрнскім горадам новаўтворанай менскай губэрні. Пакінуты быў Менску і даўнейшы яго гэрб: у блакітным полі дзева ў німбе, акружаная шасьцю анёламі, нададзены Менску яшчэ каралём Жыгімонтам III у 1591 г., 12 студзеня [ooooo]). Генерал-губэрнатарам у Менск быў назначаны генерал-паручык Тутоллин, які і стаўся тут першым праваднікам расійскай адміністратыўнай сыстэмы. Хутка пасьля гэтага ў Менску было ўведзена „намесьнічаское" праўленьне, „казённая палата", „палата угалоўнага суда", „палата гражданскага суда", „совестный суд", „прыказ обшчэственнага прызрэньня", „вярхоўны земскі суд", „губэрнскі магістрат і вярхоўная расправа".

---

o) Пры дасьледаваньні топографіі старога Менска, акром усякіх грамат і актаў XVI—XVIII ст. мы карысталіся працай Балінскага (Starożytna Polska. т. III, б. 816-820).

oo) Згодна каралеўскаму унівэрсалу аб паборы падводнай павіннасьці з 1699 году, Менск павінен быў плаціць 500 залатых, Магілёў 1800, Полацак 655, Вільня 2.000 залатых, Вітабск 655, Навагарадак 365, Пінск 250 (Акты Віленск. Археогр. Ком., т. VIII, № 138).

ooo) Сборник док., касающихса административнаго устройства Северо-Зап. края при Екатерине II, 1792-1796 г., Вільня, 1903, № 2.

oooo) Собраніе законовъ, № 17, 108.

ooooo) Собр. док. касающ. адм. устр. С.-Зап. края, цыт. зборн. № № 26 і 46.

Акром таго, ў Менску запрапанавана было (так сама як і ў другіх паветовых гарадох) устанавіць гарадзкі магістрат для мяшчан, „и въ мѣщанскомъ промысле упражняющихся татаръ и евреевъ". У Менску ж была арганізавана „ніжняя разправа" для казённых і царкоўных сялян і паветовых татар. Згодна указу, ад 6 верасьня 1795 году, ў Менску і паветах менскай губэрні была заведзена пачтовая лучнасьць, устаноўлены канторы, каторыя адсылалі почту, быў арганізаваны пачтовы тракт, абсаджаны ў два рады бярозамі. Былі ўзяты на ўрадовы кошт і школы ў менскай губэрні, арганізаваныя да разьдзелу Польшчы Эдукацыйнай Камісіяй. У Менску былі адкрыты паветовыя ўрадовыя установы для менскага павету: 1) „уездны суд", 2) „дваранская апека", 3) „нізшы земскі суд"; 4 і 5) гарадзкі магістрат і сіроцкі суд, 6) „ніжняя разправа" 7) „совестный суд". Сабраныя ў Менск, загадам генерал-губэрнатара Тутоллина, памешчыкі 18 верасьня 1795 году сарганізаваліся ў дваранскую корпорацію з маршалкам на чале.

Гэтак няўклонна адбывалася пераробка Менска і меншчыны на маскоўскі лад.

Зьнешні выгляд Менска ў гэтым часе мала зьмяніўся: перш польскія вывескі былі заменены расійскімі, ды паявіліся расійскія чыноўнікі. Народнае-ж жыцьцё, стагодзьдзямі устанавіўшыяся традыціі—вельмі консэрватыўны, і Менск доўга заховываў сваё ранейшае аблічча. Службовая рацівасьць менскіх губэрнатараў, акром звыклай сваей дзейнасьці, пабуджала іх рабіць заходы дзеля зьнешняй забудоўкі гораду. Гэтак, у 1805 годзе, стараньнем губэрнатара З. Е. Карнеева быў засаджаны губэрнатарскі сад. Але Менску ў хуткім часе ізноў прышлося пераманяць сваю палітычную форму быту.

У 1812 годзе, 26 чэрвеня Менск быў заняты французкімі войскамі, пад камандай маршала Даву. Дзякуючы ці то простай нярупнасьці ці, мабыць, дзеля якіх колечы другіх мяркаваньняў, губэрнатар П. М. Добрынін не сьпяшыў апавяшчаць эвакуацію казённай маемасьці. Толькі 24 чэрвеня, калі вораг стаяў ужо перад Менскам, Менск пачалі пасьпешна эвакуаваць. Выехалі толькі чыноўнікі; грашавая касса вывезена была ў Рэчыцу, але іншая казённая маемасьць у значнай большасьці асталася на мейсцы. Уцякалі толькі расійцы і людзі расійскай ар'ентаціі: сполёнізаваны элемэнт аставаўся на мейсцы, прыгатоўваючыся да ўрочыстай сустрэчы французаў. Пасьля выезду з Менска расійскай адміністрації, была арганізавана для падтрыманьня парадку, ахароны магазынаў і ўтрыманьня спакойнасьці, асобная рада. Старшынёй рады быў выбраны Л. Камінскі, прэзыдэнт 1-га дэпартаманту менскага галоўнага суда; ў склад гэтай рады ўвайшлі: Ходзько, прэзыдэнт II-га дэпартаманту таго-ж суда і менскі Маршалак шляхты I. Манюшка; сюды-ж увайшлі і члены гарадзкога магістрату. 26 чэрвеня ў Менск увайшоў Даву і быў урочыста сутрэчаны астаўшымся жыхарствам [0]). Французам у Менску дасталася багатая дабыча: да 7500 пудоў мукі, многа аўса, 1500 фунтаў пораху і лазарэтныя запасы. Напольён прапанаваў зрабіць Менск цантральным складам правіянту для арміі і галоўным лазарэтам для хворых і раненых. Дзеля гэтага пад правіянцкія склады былі абернуты многія будынкі, нават прыватныя, а лазарэты былі ўладжаны ў будынку гімназіі (б. езуіцкая калегія), ў Пятро-Паўлаўскім і Кацярынскім саборах і ў нек. прыватных дамох. Але не сьвята і не павітальны дар, а пажар і голад прыгатаўляла Масква Напольёну. 7 кастрычніка ён выступіў з Масквы, а ў пачатку лістапада галодная, напоўадзетая французкая армія адыходзіла да Меншчыны. На сустрэчу ей, са стараны Несьвіжа, к Менску пасувалася расійская армія Чыча-

[0]) Краткое историко-статистическое описаніе г. Минска (Памятная книжка Минск. губ. 1900) б. 13.

гава, якая 4 лістапада заняла Менск. Першапачатны плян Напольёна абараніць Менск, пасьля быў пераменены і 23 лістапада Напольён выехаў з Расіі, даручыўшы камандаваньне абломкамі сваей некалісь вялікай арміі Мурату.

Пасьля заняцьця Менска расійскімі войскамі, быў ліквідаваны французска-„польскі“ часовы ўрад; асобы, каторыя ўходзілі ў яго склад, большаю часьцю паўцякалі. Менск уяўляў сабой абраз поўнай руіны. Страты, прычыненыя гораду французамі, даходзілі да 254.000 руб. асыгнаціямі, акром таго і расійскія войскі нарабілі страт на 118.000 рублёў. Згінула і прапала бяз ведама 35.000 чалавек менчан [0]).

Нездаволеньне некатарых грамадзянскіх груп залежнасьцю ад Расіі праявілася і ў 1831 годзе, калі ў Менску знайшло вотклік польскае паўстаньне. Але ў Пецярбурзе баяліся карыстацца супроць паўстанцаў вострымі рэпрэсаліямі, дзеля гэтага менскі губэрнатар А. Ф. фон Дрэбуш не тасаваў супроць паўстанцаў жоскіх кар. Дзеля выясьненьня асоб вінных у паўстаньні, каторыя павінны былі карацца сэквэстрам маетнасьцяў, у Менску 31 ліпня, таго-ж 1831 году, была ўстаноўлена асобная камісія, каторая істнавала да 1838 году. Дзеля русыфікацыі Менска ў 1831 годзе былі заменены польскія названьні ўрадовых мейсц і зьверхніцтваў, а ў 1832 годзе была ўведзена расійская мова ў дзелаводзтва ўрадовых устаноў. Але расійскаму ўраду хутка ізноў прышлося перапканацца ў істнаваньні на Беларусі і, ў аддзельнасьці, ў Менску, варажай яму парціі.

У 1862 годзе ў Менску адбываліся антыўрадовыя маніфэстацыі перад пачаткам другога польскага паўстаньня. Каб здушыць яго, ў Менскай губэрні было ўведзена ваеннае палажэньне. Каб прыцягнуць на свой бок сялян, урад выдае рад пастаноў дзеля хутчэйшага скасаваньня абавязуючых стасункаў паміж памешчыкамі і часова абавязанымі сялянамі, шляхам выкупу надзелаў пры дапамозе ўраду. Змаганьне з паўстанцамі адкрыта пачалося 4 верасьня 1863 году, але Менск аставаўся на ваенным палажэньні да 1870 году.

Ад часу пабудовы цераз Менск двох ліній жалезных дарог (маскова-берасьцейскай і лібава-роменскай) паднялося яго тарговае значэньне. З агульнага ліку рэмесьнікаў на ўсю губэрню, ў 1889 г. 23678 душ, на Менск прыходзілася 4174, г. зн. 17,6% агульнага ліку іх у губэрні. Фабрык і заводаў у 1889 годзе ў межах губэрні працавала 731; ў асобнасьці, ў самым Менску працавала 40 заводаў, або 5,5% агульнага ліку [00]). Што датыча таргоўлі, то ў Менскай губ., як і ў самым Менску, больш пашырана была дробная таргоўля; вялікая, агульніцкая, канцэнтравалася па многіх кругаколіцах губэрні і заключалася ў сплаве лесу і збожжа, галоўным чынам заграніцу па Днепра-Бугскаму каналу і па чыгунках на Лібаву і Варшаву [000]).

Немаль уся прамысловасьць меншчыны была занята або апрацоўкай прадуктаў расьціннага сьвету (58% агульнага ліку заводаў у губэрні), або апрацоўкай прадуктаў зьвярачага сьвету (12,8% агульнага ліку). Фабрыкі і заводы, якія займаліся апрацоўкай выкопных прадуктаў, у меншчыне маюць трэцяе мейсца (27% з агульнага ліку). Заводы з мяшаным вытварам займалі

---

[0]) Падробней аб гэтым у В. Г. Краснянскаго. „Минскій лепартамент великого княжества Литовского“. СПБ. 1902.

[00]) У 1890 годзе ў Менску было 43 заводы (Пам. книжка Минск. губ. 1892 г., б. 31).

[000]) Пам. кн. Минск. губ. 1891 г., б. 217 і далей. У 1876 годзе ў Менск было прывезена тавараў на 659.400 руб. з Прусіі, з Варшавы на 549.610, Масквы 534.670, Лодзі 405.740, Пецярбурга 260.960, Рыгі 87.550, Н. Ноўгарада 85.800, Тулы 78.400 і др. гарадоў 50.000; з Аўстрыі 147.300; з другіх гарадоў 28.340 (Пам. кн. Мин. губ. 1892 г. б., 161).

апошняе мейсца і іх было ўсяго толькі 5 і станавілі яны 0,70% агульнага ліку. У Менску канцэнтравалася табачная вытворчасьць. У 1890 годзе тут было 4 фабрыкі, якія выраблялі прадуктаў на 117.380 руб., што станавіла 51,8% усей суммы фабрычнай вытворчасьці. Агульная вытворчасьць фабрык і заводаў у Менску ў 1890 годзе выносіла 589.459 руб. [0]).

Вялікае значэньне ў экономічным жыцьці Менска мелі так званыя „кантракты" або кірмашы, якія пачыналіся з 25 траўня. На пляцы, займаным цяпер Александраўскім сквэрам (перш Новы Рынак) будаваліся часовыя крамы, куды звазілі з Кіява, Вільні, Рыгі, Адэсы, Масквы, Варшавы і Прусіі шаўковыя, крышталовыя, бронзавыя, сярэбраныя, залатыя і другія тавары. Тут-жа выстаўляліся для прадажы і прадукты мясцовага вырабу, прыкл.: сукно фабрыкі Каменскага, Ськірмунта, Слатвінскага, ватныя тканіны фабрыкі Тышкевіча ў Лагойску і вядомы ўсяму краю менскі абутак, які вывозіўся нават у Кіяў на студзенскія кірмашы.

Разьвіцьце targовага капіталу ў палавіне XIX ст. ўцягнула ў торговы кругаварот і паасобных прадстаўнікоў менскага памешчыцтва. У саракавых годах менскія памешчыкі Словацінкі, Паўлікоўскі, Зьдзехоўскі, Лукашэвіч і некатарыя іншыя адкрылі ў Менску магазын каланіяльных тавараў, заграцічных він, жалезных і мядзяных вырабаў, а такжа сукна і іншай мануфактуры. Удзельнікі пастанавілі прадаваць свае тавары па „умяркаванай цане". Але з гэтага нічога ня вышла. Магазын праіснаваў толькі год, а пасьля быў зачынены. Магазын памешчыкаў-прэдпрыемцаў ня мог вытрымаць канкурэнціі з менскім торговым капіталам. Уся вялікая таргоўля ў гэтым часе пачала канцэнтравацца пераважна ў руках жыдоў, паміж каторых ведамы імёны буйных капіталістаў, прыкл.: Гурвічы, Беластоцкія, Айзэнштаты, Лурье, Ляхаўскія і др. Магазыны гэтых капіталістаў сталі напаўняцца ня толькі таварамі мясцовага вырабу, але і заграцічнымі самага лепшага гатунку. Пасьля гэтага, ведама, ранейшыя менскія кантракты ўтрацілі сэнс і значэньне [00])

У 1878 годзе ў Менску ўтварылася рэволюцыйная група, Рэволюцыйная Народная Арганізацыя, паміж удзельнікаў каторай, паводле маючыхся данных, быў інжэнер Л. М. Насовіч, студэнт Вэллер, Іцхол-Айзік Гурвіч (цяпер прафэсар унівэрсытэту ў Фінляндзіі), яго сястра Аўгіня Адольфаўна Гурвіч, Саул Грынфэст, Саул Леўкоў і Хургін. Тут-жа І. Гецавым была арганізавана друкарня, каторая выпусьціла 3, 4 і 5 нумары „Чорнага Перадзелу", праклямацыю Паўночнай Сувязі з прычыны стачкі, 3, 4 і 5 нумары рабочай газэты „Зерно" і проклямацыю з прычыны забойства Александра II. Праўда, гэты рэволюцыйны менскі кружок разсыпаўся, друкарня спыніла сваё кароткае існаваньне, будучы выкрытай жандармскім упраўленьнем. Але ў гісторыі расійскай рэволюцыйнай мінуўшчыны, як відаць, Менск меў значэньне [00]).

З Менскам зьвязана і яшчэ адна вельмі значная справа ў гісторыі расійскага рэволюцыйнага руху. Гэта першы зьезд і заснаваньне расійскай соціял-дэмократычнай парціі, якое адбылося ў 1898 годзе ў сакавіку месяцы ў Менску. Жывым помнікам гэтай важнай падзеі і дагэтуль астаецца невялікі дрэўляны дамок па Савецкай (перш Захараўскай) вуліцы № 135. Выдатныя рэволюцыйныя арганізацыі: „Союзъ за освобожденіе рабочего класса", групы „Рабочей газеты" і „Обще-еврейскій союзъ въ Россіи і Польше", на гэтым зьезде пастаноўлена было зьліць у адзіную рэволюцыйную армію пад назовай „Россійской соціалъ-демократической рабочей партіи". Пры гэтым

---

[0]) Пам. кн. Минск. губ. 1892 г., б. 31 і далей.

[00]) Памятн. кн. Минск. губ. 1892 г., бал. 150.

„Агульна-жыдоўская Сувязь у Расіі і Польшчы (бунд)“ увайшоў у парцію, як аўтаномная арганізація, незалежная ў пытаньнях спэціяльна жыдоўскага пролетарыяту [0]).

У гісторыі беларускага (крывічанскага) адраджэньня Менск займае такжа адно з першых мейсц. Тут, у Меншчыне, як у горадзе так і ў правінціі былі рэвалюцыйныя кружкі „чырвоных“, зьвязаныя з імем Канстантына Каліноўскага, якія знаходзіліся пад ідэйным уплывам заходня-эўропэйскіх рэволюціонэраў 1848 году. Да гэтых кружкоў належалі, з ліку слаўных ураджэнцаў меншчыны, Дунін-Марцінкевіч, беларускі пісьменнік і паэт ды слаўны кампазытар Манюшка. Перад 1863-м годам тут ставіліся тэатры ў мяшанай беларускай і польскай мове, між іншым ігралася опэрэтка „Сялянка“ музыку да якой напісаў Монюшко.

У 1880-х годах выйшла ў Менску нелегальная газета „Гоман“. У 1890-х годах выходзілі слаўныя календары Слупскага ў якіх памяшчаўся і беларускі тэкст.

Народнай асьветай у Менскай губэрні, ў часе далучэньня яе да б. расійскай імпэрыі, кіраваў „Приказъ Общественного Призрѣнія“. Ад Эдукацыйнай Камісіі ў Менску асталася б. езуіцкая калегія, ператвораная Эдукацыйнай Камісіяй сьпярша ў пад'акруговую а пасьля яна стала і акруговай школай [00]). Пасьля ўтварэньня ў 1803 годзе Віленскага Вучомнага Округу, гэта школа стала гімназіяй і перайшла пад кіравецтва округа[000]). У 1843 г. гэта гімназія была пératворана паводле новых штатаў [0000]), а ў 1846 годзе пры ёй быў арганізаваны для дваранскіх дзяцей „благородный“ пансіон [00000]).

У 1844 годзе ў Менску была адкрыта школа для дзяўчат „бѣдного состоянія“, якая ўтрымлівалася з працэнтаў (377 руб. у год) з сталага капіталу і на кошты „Прыказу Общественного Призрѣнія“. Адукацыйная праграма ў гэтай школе мела элемантарны характар: дзяўчаты вучыліся чытаць і пісаць па расійску, пачаткаў арытмэтыкі і рукомясла [000000]). Акром таго адукаваньне і выхаваньне дзяўчат адбывалася ў менскім Бэнэдыктынскім манастыры, пад даглядам Міністэрства Народнай Асьветы.

У 1865 годзе ў Менску была адкрыта жаночая т. зв. Марыінская гімназія [0000000]), а ў 1881 годзе рэальная школа [00000000]).

У 1840 г. са Слуцка была пераведзена ў Менск праваслаўная духоўная сэмінарыя, пры біскупе Антону Зубко, выдатным дзеячу прыяднаньня („возсоединенія“) уніятаў [000000000]).

У 1859 годзе пазволена было адкрыць у Менску жаночую школу для прыхадзячых дзяўчат з навукай за невялікую аплату [0000000000]).

У 1886 годзе ў Менску была 21 вучомная установа з 133 навучаючымі і 2978 вучнямі, ў гэтым ліку 983 дзяўчат [00000000000]).

---

[0]) Газэта „Звезда“ 1923 г., № 59, б. 4.
[00]) Ю. Ф. Крачковскій. Историческій обзоръ дѣятельности виленского учебного округа, бал. 35 (адз. 1).
[000]) Н. Адо. Краткій историческій очеркъ минской мужской гимназіи, ч. 1 (да 1831 г..) б. 10.
[0000]) Пам. кн. Минск. губ. 1892, бал. 151.
[00000]) ibid., бал. 152.
[000000]) ibidem
[0000000]) ibidem, бал. 158.
[00000000]) ibidem, бал. 162.
[000000000]) Вержболовичъ. Исторія минской дух. семинаріи.
[0000000000]) Пам. кн. минск. губ. 1892, б. 155.
[00000000000]) Пам. кн. Минск. губ. 1892 г. б. 155.

У далейшым часе прасьвета ў Менску разрасталася. У 1901 годзе, 7 лістапада, была адчынена камэрцыйная школа.

У 1887 годзе, на прапанову менскага губэрнатара Н. Н. Трубэцкога гарадзкая дума пастанавіла пабудаваць у Менску сталы тэатр; асыгнавана было 5.000 руб., а рэшта пастаноўлена было сабраць ахвярамі. У скорым часе сабрана было 25.000 руб.. а ў 1890 годзе будынак быў ужо гатовы.

У 1886 годзе пачала выходзіць газэта „Минскій Листокъ“ пад рэд. Фомінскага.

Па ліку жыхарства Менск у XIX ст. значна павялічыўся, раўняючы з даўнейшымі часамі.

У 1852 г. ў Менску было жыхарства 23.673, у 1872 г.—36.075, у 1873 г.—43.268, ў 1886 г.—66.685, у 1889г.—70.765 0).

Вялікая імпэрыялістычная вайна спыніла разьвіццё экономічнага і культурнага жыцьця багатага сваей мінуўшчынай г. Менска. Але пераход Менска на ступеню сталіцы аўтаномнай Беларускай Рэспублікі, думаем, паслужыць пачаткам яшчэ больш сьветлай яго будучыны. Толькі гэта будучына не датыча сучаснага гісторыка. Мы маем дачыненьне з мінуўшчынай гор. Менска, да часаў усесьветнай вайны 1914—1917 г. г.

---

ДР. ФРЫДЭРЫК ПАПЭЭ.

# БУНТ КНЯЗЁЎ (1481) 00).

Чым Ноўгарад для Масквы, тым быў Кіяў у другой палове XV ст. для Ягайлавічаў. Каля яго згушчаліся найбольш адасяродныя, сэпаратыстычныя імкненьні, таму, што да гэтай слаўнай сваей калісь вялікакняжай годнасьцю сталіцы, меў прэтэнсіі найслаўнейшы і найсільнейшы ў Літве князяўскі род Алельковічаў, якія, паходзячы ў простай лініі ад Альгерда лічылі, што ім можна і трэба трымаць ня толькі Кіяў, але нават і саму вялікняжую Вітаўтаву мітру. Ведама якія вялікія труднасьці прыходзілася перамагаць, калі ў 1471 г. Кіяў быў пераменены ў воеводзтва; адсунуты тады ад княжства сваіх продкаў Міхайла Алельковіч з цяжкім гневам у душы адыйшоў у дамовае заціша ў Слуцак, каб пры першай нададарыўшайся спасобнасьці падняць ізноў свае дзедзічныя прэтэнсіі на Кіяў.

Гэткая спасобнасьць надарылася ў 1480 г. Першы кіяўскі ваявода, Марцін Гаштаўт, перайшоў на асвабожданае з прычыны сьмерці Станка Судзівойтавіча троцкае ваяводзтва, якое лічылася па знамянітасьці першым пасьля віленскага. У каторым месяцы сталася гэта няма ведама, але ўжо ў верасьні 1480 г. Марцін Гаштаўт быў троцкім ваяводам. Праўдападобна Мі-

---

0) ibidem.

00) „Бунт князёў (1481)“ гэта разьдзел з вельмі цэннай, але нажаль даволі тэндэнцыйнай працы Др. Ф. Папэ „Polska i Litwa na przełomie wieków średnich“ (т. I, Кракаў, 1904 г.). „Бунт князёў“, гэта адзін з эпізодаў сэпаратыстычна-незалежніцкага змаганьня крыўскіх зямель, які закончыўся трагічна, бо, разгромам удзельна-князяўскай сілы, быў раз на заўсёды паложаны канец вызваленьню праз дынастычныя стасункі. Ня толькі нашчадкі амбітных дзеячоў, (але, нават сучасьніца і акторка падзей, Ганна Гальшанская), падкрэсьляючы сваю лёяльнасьць, пераходзяць у каталіцтва, прыймаюць, у пазьнейшых часах польскую культуру, словам паляць ўсе масты на якіх трымаўся які-колечы тагочасны сэпэратызм, выкрэсьляюць самі сябе з ліку жывых палітычных чыннікаў. Гэткі вынік дало зламаньне апошняй дынастычнай адпорнасьці в. кн. цэнтралізму, на пяродадні выступленьня на гістарычную арэну новай дзяржаўна-кіруючый клясы—баярства-шляхты.

хайла Алелькові у гэтым часе пачаў дапамінацца сваей кіяўскай дзедзіны. Але Казімер Ягайлавіч не любіў вяртаць з раз абранай ім дарогі: Алелькович не атрымаў ані княэства, ані нават кіяўскага ваяводзтва. Пасьля Гаштаўта кіяўскае ваяводзтва атрымаў луцкі стараста Іван Хадковіч.

Іван Хадковіч быў у поўным значэньні „каралеўскім чалавекам“. Прыналежаў ён да тых людзей, каторых кароль сам сабе выбраў і вывыжшыў і якія загэта былі найпэўнейшымі выканаўцамі яго загадаў. Хадковіч, а ня хто другі, прыводзіў палякам вайсковыя пасілкі пад Хойніцу (1466), ён падпісаў акт рэлігійнай уніі біскупа Місайлы, ўрэшце ён трымаў пачародна, такія даверныя намесьніцтвы як паўзьмежнае з Масквой Вітабскае і спорнае з Польшчай Луцкае. З пункту погляду караля нельга было выбраць на так важны і небасьпечны ўрад, якім было тады кіяўскае ваяводзтва, стасоўнейшага чалавека, як гэтага вернага сабе слугу і выпрабаванага гэтмана.

Але для Міхайлы Алельковіча акурат гэты выбар павінен быў здацца ня толькі крыўдным, але нават зьняважлівым. Калі перадтым спраўляў урад кіяўскага ваяводы Гаштаўт, то быў-жа ён сваяком і членам першараднага, нават калісь кіруючага дзяржавай, роду. Але гэты Хадковіч, гэты „падданы наш,—кіяўскі баярын“, як гаварывалі яшчэ доўга пасьля ў родзе Альгердовічаў. І гэты чалавек меў сесьці на кіяўскай сталіцы, адсуваючы Альгердаўскую кроў, блізка пасваячаную, нават у гэтай слуцкай сваей галіне, з дзяржаўнымі тагочаснымі дынастыямі. Гэта-ж Міхайла Альгердовіч быў зродным братам в. князя Маскоўскага Івана III і швагрaм гаспадара валоскага Сьцяпана, а братаву сваю меў пануючай ня вялікім княэьстве Твярскім. Яму трэбало дзяржаць кіяўскае княжэньне або ноўгародзкае, ці хоць-бы сягнуць вышэй, але не глядзець спакойным вокам, як на вяліккняжаўскай сталіцы сьв. Валадзімера разсядаецца такі—Іван Хадковіч.

І не адны толькі Алельковічы мелі прычыны да горкага нездаволеньня. У найбліжэйшай, зара пасьля іх, лініі, стаялі князі Бельскія, так сама як і Алельковічы нашчадкі Валадзімера Альгердовіча, вялікага князя кіяўскага. Міхайла Алелькович і Хвёдар Іванавіч Бельскі, гэта зродныя браты. Горад Белы, ад каторага ўзялі прозьвішча князь Хведар і яго бацька, ляжаў аж на далёкіх маскоўскіх узьмежжах, на поўнач ад Смаленска і на ўсток ад Вітабска, але радавая традыцыя вязала яго цесна з Літвой, зрэшта ён меўся акурат жаніцца з князёўнай Ганнай Кобрынскай, княэьства каторай ляжала на поўдзень ад Горадні.

Як маці маладога, так і маці маладой, былі, абедзьве, з дому князёўны Гальшанскія, зродныя сабе сёстры. Хоць не з крыві Гедымінавай, але ад даўных князёў выводзіліся Гальшанскія, зрэшта, з членаў гэтага роду бывалі каранаваныя галовы. Гэта-ж маці тагочаснага валадара Літвы, каралева Сонька, была з дому Гальшанскай. Члены гэтага дому трымалі такжа княжэньне ў Вялікім Ноўгарадзе, а ў момант часовага адыходу Алельковічаў, яны спраўлялі намесьніцкую ўладу ў Кіяве. Дык маці маладога, Васіліса, была роднай сястрой каралевы Сонькі, а яе зродная сястра, Юльянія з Гальшанскіх, княгіня Кобрынская, была роднай сястрой князя Юрага, каторы першы падаў праект прывязьці Казімера Ягайлавіча ў Літву.

Дык мелі прычыны крыўдзіцца Гальшанскія, што сталіся адсунутымі ад дзяржаўнага кіравецтва, і яны лічылі сябе бліжэйшымі Кіяву чым Хадковіч, і дзеля гэтага—саўсім зразумела—пачуваціся да еднасьці з Алельковічамі і Бельскімі, з якімі, такжа, злучалі іх блізкія вузлы пасваячаньня. І няма дзіва што, як трэцьці учасьнік у змове, знайшоўся адзін з Гальшанскіх.

Быў ім Іван Гальшанскі, сын князя Юрага. Умелі і самі Гальшанскія бегаць ў Маскву і бунтавацца супроць вялікага князя, а чаго не хапала са сваей радавой традыціі Івану Гальшанскаму, таго мог лёгка давучыцца ў сваей жаны. Была ей Ганна Міхайлаўна Чартарыйская, дачка браслаўскага старасты і пляменіца Александра, ад рукі каторага загінуў вялікі князь Жыгімонт Кестутавіч.

Міхайла Алелькавіч, Хведар Бельскі і Іван Гальшанскі, гэта зачыншчыкі бунту 1481 г. Ці было ў змове больш удзельнікаў? Ачавіста што было іх болей, але імёны іх сягоньня нам ня ведамы. Можна дамневацца, што бязымённыя ўчасьнікі бунту былі пасярод шырокіх слаёў начальнікаў, але тут акурат паўстае пытаньне ці гэта змова мела апору ў шырокіх слаёх жыхарства. Грамадзянства аднак не магло падтрымліваць князёў: удзельная ўлада зазвычай бывае цяжэйшай для ніжэйшых чым ўлада цэнтральная, а ў Літве, мабыць, найлепш меліся гаспадарскія падданыя. Кроніка в. кн. Літоўскага апавядае, што князі забілі Жыгімонта Кестутавіча таму, што ён хацеў пагубіць іх, а падняць род мужыцкі „псю кроў“. Астаецца толькі яшчэ разважыць старану рэлігійную.

Безумоўна, што супроць акту уніі мітрапаліта Місайлы паднялася ў Літве, сярод праваслаўнага духавенства глухая апазыція. Дня 14 сакавіка 1476 году быў падпісаны Місайлывы акт, а 18 жніўня, таго-ж самага году, чарнец Сьпірыдон празваны „Сатаной“, атрымаў з рук патрыарха Рафала ў Канстантынопалі пасьвячэньне на мітрапаліта Кіяўскага і ўсей Русі. Бяз сувязі адно з другім не магло быць: Сьпірыдон меў нейкае падтрыманьне ў Літве, калі адважыўся прыняць на сябе ролю контр-мітрапаліта. Які быў кірунак яго выступленьняў у Літве, гэта відаць ясна з яго пастырскага ліста, каторы пад агалоўкам „Изложенье православной истинной вѣри“, прапаведуе рэчы ўпрост праціўныя акту Місайлы. Што ліст знайшоў водгук, відаць гэта яўна са сьлядоў апазыціі, калі ня чыннай то адпорнай, супроць мітрапаліта Місайлы. Бо ня толькі імя яго прапушчана ў XVI ст. у каталёгу мітрапалітаў, але яшчэ пры жыцьці, ў 1480 годзе, прызнавалі яму толькі тытул „уладыкі смаленскага“, якое біскупства быў затрымаўшы Місайла пры сабе стаўшы мітрапалітам. Зазначалі гэта сумысна, бо два наданьні, зробленыя на рукі Місайлы, каторыя тытулуюць яго толькі ўладыкай, былі сьпісаны не ў Смаленску, але ў Навагарадку, г. зн. ў межах безпасярэднай мітрапаліцкай улады.

Дзеля таго, што прызнаны дзяржаўнай уладай мітрапаліт Місайла жыў яшчэ, то ўсе выступленьні Сьпірыдона мелі на сабе азнакі нелегальнай, рэвалюцыйнай чыннасьці і як такія былі прыйманы. Неспакойны чарнец, па загаду караля, быў злоўлены і пасаджаны ў вязьніцу. Але кароль Казімер далёкі быў ад таго каб праводзіць унію гвалтам. Кароль узяўся абярагаць аўтаномію славянскага абрадку ў Літве, бараніць яго ад пабочных уплываў і залежнасьці, але загэта вымагаў дзяржаўнага кантролю над царквой, дзеля палітычных прычын. Як толькі ў хуткім часе памёр Місайла, пазволена было, паводле старога звычаю, „рускаму“ духавенству выбраць самому сабе мітрапаліта з паміж сябе і паводле сваей уласнай волі. Стаўся ім полацкі ўладыка Сымон, каторы, без ніякай перашкоды са стараны дзяржаўнай улады, паслаў выбар свой на пацьверджаньне ў Канстантынопаль і атрымаў яго ў чэрвені 1481 г. ад тагочаснага патрыарха Максіма.

Сьпірыдон Сатана, як кандыдат на мітрапаліта, ў двох пунктах не падыходзіў да асноў аўтаномічнай царквы: найперш, што ня быў ураджэнцам краю, быў ён родам з Тверы, а па другое--што быў накінуты патрыархам зьверху.

У дадатку патрыярх Рафал, каторы пасьвяціў Сьпірыдона Сатану, ня меў добрай апініі, як турэцкі прыслужнік і пьяніца, які ківаўся на нагах у часе нават вялікоднай адправы. Сьпірыдон у самой Маскве ня меў ні прыхільнасьці ні прызнаньня. Калі Сьпірыдону ўдалося выслаць з вязьніцы пасланца да Івана III з жалабай „яко много мощей от патріарха везох к тебѣ, король же всѣ пойма“, то вялікі князь маскоўскі, падумаўшы, загадаў „не подымати рати, ни воеватися с королем про се“. А калі, ўрэшце, здолеў Сьпірыдон уцячы з вязьніцы і апынуўся ў праваслаўнай Маскве, то і тут, замест прызнаньня, быў зачынены ў далёкім манастыры. Закідалі яму сьвятакупства, але, бадай, ішло тут аб другое, аб а ласьне тую самую аўтаномію, якой пілнаваліся ў Літве. Бо, зара пасьля гэтага, былі ўстаўлены ў біскупскую прысягу словы: „выракаюся... (акром Ісідара і Грыгора)... такжа Сьпірыдона, называнага Сатана, каторы атрымаў пасьвячэньне ў Царгорадзе, ў царстве бязбожных туркаў, паганскага цара, і такжа тых усіх выракаюся, каторым здарыцца пазьней каліколечы прыйсьці на Кіяў з лацінскага Рыму або Царгораду, турэцкай дзяржавы“.

Дзеля таго што Сьпірыдон ня меў прыхільнасьці ў Маскве, з каторай літоўскія вызнаўцы ўсходнай царквы лічыліся ў справах веры, то выступленьне Сьпірыдона прайшло, як эпізод, без глыбейшага ўплыву. Дык няслушна, калі ў XVI ст., як у Літве так і ў Маскве, і тут і там дзеля іншых мэт, у гісторыі змовы 1481 году, высувалі наперад рэлігійную старану. Невідаць у гэтым часе найменшых сьлядоў якога колечы рэлігійнага руху ў шырэйшых слаёх. Згаворшчыкі маглі, як вызнаўцы ўсходнага абрадку, толькі паслугоўвацца рэлігійнымі матывамі. Бо акурат тыя, каторыя ў 1481 годзе стаяць на чале змовы, падпісаліся самі, на першым мейсцы пасьля духавенства, на акце уніі Місайлы: Міхайла Алелькавіч, Хведар Бельскі! Дык увесь характар справы гэтай заключаецца ў старане тэрыторыяльнай: гэта было змаганьне дэцэнтралістычных, сэпаратных імкненьняў з вярхоўным цэнтралізмам вялікакняжаўскай улады.

Не зьмяняе справы і тая акалічнасьць, што імкненьні змоўшчыкаў выходзілі далей—далёка далей па-за тэрыторыяльны сэпэратызм. Змова, рэвалюцыя, заўсёды выходзіць з рамак сваей праграмы; калі ўсё стаўляецца на карту, то хочацца як найбольшай выгранкі. Гэта зыходзіцца і з псыхолёгіяй і з традыцыяй роду Алелькавічаў, зрэшта пацьвярджае гэта і Прускі кронікар, кажучы: „Былі між вяльможамі такія, каторыя да кіравецтва Літвой уважаліся ўроджанымі і годнымі трону, ў прыпадку загубы караля“.

Прускія крыніцы вінавацяць змоўшчыкаў у „ссыланьніся“ з Масквой, а некатарыя саму ініцыятыву прыпісуюць Маскве Дый Маскоўскія летапісцы пацьвярджаюць спадзяваньне змоўшчыкаў на падмогу Івана III, калі пішуць: „восхотѣше вотчицы Ольшанской да Оленкович, да князь Федор Бельской по Березиню рѣку отсѣси на великого князя литовской земли“. Нельга дапусьціць каб імкненьні князёў былі такімі скромнымі, як гэта прадстаўляе летапісец. Магло здавацца панадным гэта для Бельскіх, Мсьціслаўскіх і іншых, пазьнейшых XVI ст. маскоўскіх баяраў, але не для князёў другой палавіны XV ст. У прапанове часьцёвага забору Літвы, можна дагадывацца цану маскоўскай помачы, а не праўдзівую мэту князёў.

Аб самым факце паразуменьня з Масквой сумневацца не прыходзіцца; няма што проціставіць павыжшым зьменкам крыніц. Есьць і яшчэ адзін факт, які безпасярэдна пацьвярджае крыніцы. Разам з гісторыяй змовы, паміж маскоўскім дваром і князямі, вырашаецца і другая справа. Валоскі гаспадар, Сьцяпан, прасіў сястру сваей жаны, і разам сястру Міхайлы Алелькавіча, княгіню Федзьку, каб яна, як блізкая сваячка, як яго так в. кн. Івана III, да-

памагла да жанімскіх спраў паміж дваром Валошскім і Маскоўскім. Хацелі выдаць дачку Сьцяпана, Алену, за наступніка маскоўскага пасаду Івана Іванавіча. У красавіку 1480 г. быў у Маскве чалавек княгіні Федзькі, каторы, разам з паслом назначаным да Мэнглігірэя, меўся, праз Крым, выехаць у Валохію, каб паведаміць Сьцяпана, што Маскоўскі двор згаджаецца на гэтае жанімства і чакае сватоўскага пасольства. Гэта сватаньне пацьвярджае істнаваньне блізкіх стасункаў паміж князямі і Масквой у часе змовы, і было добрай спасобнасьцю да праводжаньня, паўзьбежна, іншага зьместу умоў.

Момант утварэньня змовы нельга акуратна азначыць. Аднак ўсе акалічнасьці, пададзеныя вышэй, як то: пасярэдніцтва Федзькі, час выступленьня на парадак дня кіяўскай справы, ўрэшце зьменкі маскоўскіх крыніц аб „усобицах" і прускіх аб здрадзе, дазваляюць заўважыць непрыязны рух паміж князямі ўжо ў 1480 г. Затое саўсім акуратна можна азначыць момант раскрыцьця змовы. Сучасны ліст холмскага ваяводы ў Данск (Данцыг) павядамляе, што сталася гэта перад самым вялікаднём 1481 г.; з гэтым павядомленьнем саўсім згаджаецца Любэцкая кроніка, якая кажа, што днём выступленьня мелася быць вербная нядзеля (15. IV). Ліст холмскага ваяводы злучае выступленьне князёў з ловамі; на каралеўскіх ловах павінна была адыгрsucceeded крывавая драма, якая ляжала ў праграме змоўшчыкаў. Меліся забіць караля і яго сыноў, а каралеву зачыніць у вязьніцы. Дзякуючы ранейшай перасьцярозе, кароль змог ня толькі ўцячы ад здрадных цянётаў, але здужаў зручна схапіць змоўшчыкаў: „усё разумна абдумаўшы". У траўні 1481 году былі ў вялікакнязяўскіх вязьніцах, акром меншых, няведамых па імёнах, такжа самі верхаводы змовы: Міхайла Алельковіч і Іван Гальшанскі. Адзін толькі з гэтага здраднага трыумвірату, Хведар Бельскі, здолеў уцячы ў Маскву.

Маскоўскі летапіс падае зьменку аб бунце князёў, толькі паміж падзеямі з канца 1481 г. Гэта спозьненьне лёгка вытлумачыць, дзеля таго, што пачаткам запісу для летапісца служыць час паяўленьня Бельскага ў Маскве, а закончаньнем апавяданьня ёсьць—дадзенае Бельскаму ад цара абасьпечаньне землямі і другімі даткамі. Большую труднасьць робіць летапіс злучаючы выконаньне згавору з вясельлем. Князь Хвёдар, прыбыўшы ў Маскву „немаль у аднэй кашулі" вельмі бядаваў аб тым, што ледзь адну ноч мог цешыцца маладой жаной і забраць яе з сабой няздужаў. І вялікі князь маскоўскі ня раз дапамінаўся выдачы жонкі князя Бельскага—„король же некакоже не отда". Аб гэтых рэклямацыях знаходзяцца пацьверджаньні ў актах польска-маскоўскіх стасункаў за Казімера і Аляксандра.

Дзеля гэтага няма падстаў ня верыць, што вясельле князя Бельскага з князёўнай Ганнай Кобрынскай, адыйграла нейкую ролю ў гісторыі змовы 1481 г. Але ці такую, якую яму прызначае адна з вэрсій, XVI ст. вылажаная Нарбутам? Паводле гэтай вэрсыі забойства караля мела стацца на вясельлі. Кароль, не гледзя на запрошаньне, не прыбыў, адмовіўся змучаньнем пасьля ловаў, бо атрымаў перасьцярогу ад дэкаратара немца, каторы, аздабляючы вясельныя пакоі, заўважыў пахаваную зброю ў аднэй са скрытак ў сьцяне. Ведамка гэта нязгаджаецца з рэляцыяй холмскага ваяводы, і, з прычыны пэўна ўстаноўленай даты змовы, ня ёсьць праўдападобнай. Вялікодны тыдзень у царкве ўсходнага абрадку забаронены для вясельляў таксама як і ў каталікоў.

Дык адложым мы няпэўную ведамку Нарбута і вернемся да маскоўскага летапісца. Тут можна выраўняць труднасьці, калі дапусьціць, што ў гісторыі

змовы трэба раздзяляць два хронолёгічныя моманты: момант раскрыцьця змовы і момант арышту западозраных. Арышт зазвычай наступае па нейкім часе пасьля раскрыцьця плянаванай змовы—а князяўскае вясельле ў Кобрыні, ці дзе, давала добрую зручнасьць збору адразу ўсіх змоўшчыкаў на адным мейсцы. Вельмі быць можа, што арыштаў даканаў сьвежа назначаны кіяўскі ваявода, яшчэ раней гэтман, бо нашчадкі Бельскіх з гарачай ненавісьцю выкідаюць Хадкевічам здраду 1481 году. Калі запраўды Хадкевіч заступаў караля ў гэтай справе, то няма ведама ці слушна яго праклінaлі Бельскія... Можа, акурат, уратаваўся Хведар Бельскі толькі таму, што на чале пагоні за ім стаяў муж роднай яго сястры? Агнешка Іваноўна Бельская была жаной Івана Хадковіча.

Арыштаваныя князі былі аддадзены пад суд двох найвышэйшых дастойнікаў дзяржавы: віленскага ваяводы Алехны Судзімантовіча і троцкага ваяводы Марціна Гаштаўта. Палажэньне ізноў у высшай меры трагічнае з прычыны блізкага пасваячаньня паміж судзьдзямі і суджанымі. Троцкі ваявода Марцін Гаштаут быў жанаты з Аннай Гальшанскай, роднай сястрой суджанага князя Івана; дачка-ж віленскага ваяводы, Софія Судзімонтавічаўна, была замужам за Александрам Гальшанскім, братам тагож князя Івана. Дык, праўдападобна, меліся „ясьнейшыя ад сонца“ довады змовы на забойства караля, калі, перад суровым пачуцьцём права, змоўклі галасы крыві ў судзьдзяў. Дня 30 жніўня 1481 г. князі—Міхайла Алелькoвіч і Іван Юр'явіч Гальшанскі палажылі галавы свае пад катоўскі меч.

Папярэднікі, якія пісалі аб бунце князёў, ідучы за Казімерам Стадніцкім, дагадваліся, што выкананьне судовага прыгавару адбылося ў Кіяве. Але ссылкі Стадніцкага не даюць падстаў да такога вываду. Бо ні ліст Бельскіх да Хадкевічаў з XVI ст. не падае гэтай ведамкі ані можна зрабіць такі вывад з таго, што „адзінай кронікай, каторая падае акуратную дату экзэкуцыі ёсьць кроніка, якая сьпісана блізка каля Кіява, так. зв.—„Супрасльскі летапіс“.

Бельскія не закідаюць Хадкевічам, што продкі іх Міхайлу Алелькoвіча засудзілі ў Кіяве, толькі што яго здрадзілі на Кіяве, гэта знача, здрадзілі ў Кіяўскай справе. Што ў Кіяве найлепш ведалі аб сьмерці князя Міхайлы, гэта вынікала з таго, што Алелькoвічы пераважна былі пагрэбаны ў Кіяве: там павіны былі памінаць князя Міхайлу. Выпаўненьне судовага прыгавару павінна было адбыцца там, дзе разыгралася ўся справа; дзе жылі судзьдзі, г. зн. у Вільні. Ягайлавічы ня мелі ніякай прычыны дражніць кіяўскае жыхарства пераносячы туды крывавую сцэну. У Кіяве панавала настраеньне прыхільнае князём. Сьведчыць аб гэтым сказ Супрасльскага летапісу „вина их Богу единому свѣдущу“...

Доля якая прыпала князём была безумоўна трагічнай, але на іншы да іх стасунак не пазваляла ані справядлівасьць, ані нават палітыка. Уласкаўленьне было-бы яўным довадам слабасьці. Шлях ласкавасьці стаяў адкрыты ў стасунку да нашчадкаў. Сын Міхайлы Алелькoвіча і сын Івана Гальшанскага захавалі ў сваіх руках бацькаўскія землі. Відаць думалі, што сыны вырасшы ў саўсім іншых варунках, іншым пойдуць шляхам. Удзельны сэпэратызм быў, дзякуючы энэргіі караля Казімера, грунтоўна зламаны, што ўжо больш ня мог падняць галавы. Для нездаволеных аставалася адна дарога— ў Маскву...

Князі—Юры Іванавіч Гальшанскі і Сымон Міхайлавіч Алелькoвіч, нашчадкі пакараных князёў, заслылі пазьней як геройскія абаронцы Літвы супроць татараў. Калі ўдаве Сымона Алелькoвіча бунт, у іншых зроджаны варунках, у асобе Міхайлы Глінскага, падаваў руку на ўваскрэшаньне даўных кіяўскіх прэтэнсій,—то геройская княгіня выбрала лепш зачыніцца ў сваім

скромным Слуцку, і, са зброяй у руках, адбіваць агнём і мячом зеючы наезд. Іншыя нашчадкі Алельковічаў і Гальшанскіх, стануўшы пры дзяржаўнай палітыцы Ягайлавічаў, выдавалі з паміж сябе віленскіх каталіцкіх біскупаў і адпісывалі фундацыі на каталіцкія касьцёлы.

Але найбольш цікавая доля—нашай вясельнай героіні, Князёўны Ганны Кобрынскай. Як ведама дапамінаўся яе некалькі разоў, ад Казімера Ягайлавіча, Іван III, каб вярнуць яе Хведару Бельскаму. Урэшце, калі, за Аляксандра, ўкладалася „вечная" умова аб міры між Літвой і Масквой, вялікі князь Літоўскі згодзіўся на яе выезд у Маскву. Але тады князёўна Ганна Кобрынская сама не захацела выехаць. А калі Іван III паклікаўся на свой „закон хрысьціянскі", каторы загадуе выдаць жану мужу хоць-бы супроць яе волі—то атрымаў ад Аляксандра Ягайлавіча адповедзь: „Іно в нашом законѣ того нѣт, силою вольных людѣй въ неволю давати нельга".

Пазьней Ганна Кобрынская выйшла замуж за магната Вэнцлава Косьцевіча, прыняўшы каталіцтва і была фундатаркай аўтара ў кобрынскім касьцеле.

---

АЛ. ШЛЮБСКІ.

## ВЫНІКІ ЗЬБІРАНЬНЯ ВУСНАЕ НАРОДНАЕ ТВОРЧАСЬЦІ.

### І. Зьбіраньне вуснае народнае творчасьці на паўночна-заходнай Беларусі (Крывіччыне).

Гэты нарыс, стаўляе сабе заданьнем выявіць пройдзены шлях папярэднімі беларускімі (крывічанскімі) этнографамі што да зьбіраньня вуснай народнай творчасьці на паўночна-ўсходнай частцы Беларусі, (Крывіччыне) якая, складаецца з быўшых паветаў Аршанскага (да мяжы з Горацкім паветам), Вітабскага (ён блутаецца са скасаваным Суражскім п.), Вяліжскага (таксама блутаецца з Сураж. п.), Гарадоцкага, Дзісенскага, Дзьвінскага (Дынабургскага), Дрысенскага, Іллукстскага (б. Курляндскай губ.), Лепэльскага, Люцынскага, Невельскага, Нова-Александраўскага (б. Ковенскай губ), Парэцкага (цяпер Дзямідаўскага пав.), Полацкага, Себежскага, Сеньненскага і Суражскага (які часта блутаецца з Вітабскім і Вяліжскім паветамі).

Скарочэньні этнографічных прац, на якія спаклікаецца ў тэксьце аўтор, чытаюцца так:

Аникевич, С. У. —Сенненский у. Могилевской губ. Могилев, 1907.

Анимелле, Б. Б. К. —Быт белорусских крестьян („Этнографический сборник Русск. Географич. О ва" 1854, вып. 2).

Безсонов, К. П. —Калеки перехожие, I-VI, Москва, 1861-1864.

Гильтебрандт, С. П. —Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вильна, 1866.

Дембовецкий, О. М. Г. —Опыт описания Могилевской губ. т. I, Могилев, 1882.

Дмитриев, С. П. —Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869 г.

Добровольский, С. С. —Смоленский Этнографический сборник, I-IV. Спб., 1891-1903.

Иванов, К. С. —Крестьянская свадьба в Витебской Белоруссии („Записки С.-З. Отдела Русск. Географич. Общ.“ 1912, III).

Крачковский, Б. С. —Быт Западно-русского селянина. Москва. 1874.

Никифоровский Б. П. —Белорусские песни „Частушки“. Вильна, 1911.

Никифоровский, О. В. Б. —Очерки Витебской Белоруссии, I—VIII. Москва, 1892—1899.

Романов, Б. С. —Белорусский сборник, I—VIII, Киев—Витебск—Вильна, 1886—1912.

Серебренников, О. О. —Обычаи и обряды крестьян Себежского у. при крестинах, свадьбах и похоронах („Памятн. кн. Витебск. губ. на 1865 г.“).

Czeczot, P. w. N. D. —Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. W mowie słowiano-Krewickiej, Wilno, 1846.

Шейн, Б. П. —Белорусские народные песни, Спб. 1847.

Шейн, М., —Материалы для изучения быта и языка русского населения Сев.-Западного края. I—III, Спб. 1887—1902.

Зробленая мною, паводле досьледаў акад. Карскага, клясыфікацыя беларускай (крывічанскай) народнай творчасьці не заўсёды зыходзіцца з клясыфікацыяй папярэдніх этнографаў, а з гэтае прычыны для лягчэйшага вышуківаньня паказаных у тэксьце матар'ялаў, падаю параўнаўчую табліцу клясыфікацыі маей і клясыфікацыі папярэдніх этнографаў:

| Клясыфікацыя паводле акад. Карскага | Клясыфікацыя папярэдніх этнографаў. |
|---|---|
| Загаворы. | Загаворы. |
| Калядныя песьні. | Рождественские; коза; песни звездоносцев (Мезерницкий), Kucja; Kolady (Ko-Lado) (Tyszkiewicz, E.). Рацеи или речи; на новый год (Шейн). Щедрицкие (Булгаковский). Щедровки, кральки (Радченко). Колядки, чужины, щедровки (Гильтебрандт). Семейные (Романов, Б.-С, I-II). Васильев вечер (Добровольский, IV). На бабиных; щедривные (Косич). Щедрецкие (Малевіч), Колядки и щедровки (Довнар-Запольскій, Янчук). |
| Масьлянічныя песьні. | Юмористические; любовные (Романов, I-II); песни на масленицу; на Сырну (неделю) (тс. V). |
| Веснавыя песьні. | Пасхальные (игровые); весенние; на Юрья (Довнар-Запольский). Март; на Вялікадня; Май (Косич). Пасхальныя; волочебные; рогульчаты; весенние; веснянки; проводные; Юрьевские; (Романов). Весенние, хороводные (Радченко). Wielkanoc (Wialik—Dzień)=Tyszkiewicz, E. Веснянки; благовещение; скакухи; игровые и другие хороводные песни; Егорьев день; Велик—день (Добровольскій, IV). Великодни; Ва- |

| | |
|---|---|
| | лачобныя (Сербов). Zapustne, wielkanocne (Tyszkiewicz, k.) Веснянки; духовный стих (Гильтебрандт). Волочобные; на Вялики – день; вялакодные; на Юрьев день; на св. Миколу (Безсонов). Волочебные; весенние; веснянки, великодные; песни в Юрьев день (Шейн). Хороводные (Мезерницкий). Великодные, весенние (Янчук). |
| Русальныя песьні. | Куст, кустовые (Романов, I, V). Гряные песни (Мезерницкий). Троицкие или духовские (Шейн). Троицкие (Сербов). Зяленыя сьвяткі (Добровольский, IV). Дзяды или Семка (Дмитриев). Троицкие или на куста (Булгаковский). Тройца; Гряныя (Косич). Pieśni kustowe (Zieńkiewicz). Троицкие (Довнар-Запольский). Радчанка русальныя песьні блутае з купальскімі. |
| Купальскія песьні. | Іюнь; Петровка (Косич). Купальскія; Петровочные; Петровские; Разные (Шейн). Купала-Ивана; Петровки (Добровольский, IV) Napietrowkę (Tyszkiewciz, K.), Купальские; семейные (Романов). На пятроўку (Пятровачка, Пятровица); Купальскія (Безсонов). Иванавские (Мезерницкий). Купала; песни на Петра и Павла (Романов). Радчанка купальскія песьні блутае з русальнымі. |
| Песьні пры палявых працах. Жніўныя. | Летнія, дожинки (Довнар-Запольский). Зажиночные; жнивные; дожинки (Романов). Летние (Малевич, Дмитриев, Булгаковский) Spas (Tyszkiewicz, E.). Зажиночные; жнивные; ярные; дожиночные; споришовые; застольные (Шейн). На жниве; август (Косич). Полевые обрядные песни (Гильтебрандт). |
| Хрэсьбінныя песьні. | Простые; колыбельные (Радченко). Крестинные, детские (Романов) Крестинные; колыбельные и детские (Шейн). Родинные и крестинные (Довнар-Запольский. Янчук). Колыбельные (Булгаковский). Крестинные (кстинные)-(Мезерницкий). Детские песни и игры (Добровольский, IV). |
| Вясельныя песьні. | Свадебные (усе этнографы), Wieselne (Tyszkiewicz, k.) |
| Хаўтурныя і памінальныя песьні (прычытаньні). | Родичи (Косич). Dziady staurouskie; dziady jesenne; dziady zmitrowe; radanica; prykładziny (Tyszkiewicz, E). Похоронные (Шейн). |
| Бытавыя песьні. | Осенние; тюремные, солдатские (Мезерницкий). Посиделочные; исторические; разные; летние; (Янчук). Простые (Радченко). Любовные, семейные, солдатские, юмористические (Булгаковский). Осенние, зимние, филипповские, женские, рекрутские, чумацкие, казацкие, разные (Довнар-Запольский). Бытовые, беседные, разгульные, (застольные, плясовые, ско- |

морошные), рекрутские, солдатские (Шейн). Беседные, семейные, чумацкие, разбойничьи, арестантские, рекрутские, военные, любовные, юмористические, припевы, песни внеобрядовые (Романов). Любовные, семейные, солдатские, молодецкие, шуточные (Малевич).

Повседневные („Пяюць абы-калі") — (Сербов). Rozmaite (Czeczot). На храмаушчыні; Октябрь; на призыви, тюремные песни, которые поют мужчины; песни, которые поются хлопцами; игрища или вечерницы; песни, што пяюць у бяседе; рекрутские (Косич). Pieśni Lietne; pieśni rozmaite (Zieńkiewicz). Przyśpiewki; pieśni czumaka; pieśni rozmaite (Tyszkiewicz, k.). Пивные песни, пирушечные (беседные); посиделочные; любовные; припевки; песни плясовые, вечериночные и карагодные, бытовые; молодецкие и чумацкие; солдатские; тюремные; разбойничьи и балладные; исторические (Добровольский, IV). Любовные, семейные, солдатские, разгульные; песни с некоторыми преданиями; осенние песни, переделанные из великороссийских; песни, заимствованные из Малороссии; различные; прыпеўкі ў аддзеле „обыкновенные игры и забавы" (Дмитриев). Песни о нелюбых женах; песни барщинные; песни аб „горе-доле"; любовные; разбойничьи; юмористические, песни о рекрутчине или солдатчине; песнопения казацкие (Гильтебрандт).

## I. Загаворы.

### *Тэксты.*

Аршанскі п.—без адзначаньня месц запісаў—2. (Романов, Б. С. V.); м. Рудня—2 (тс); м. Мікуліна—8 (тс); Высокае—2 (Романов, Материалы для изучения говоров Могилевск. губ. „Живая старина", 1902; III—IV).

Вітабскі п.—Без адзначаньня м. з.—7. (Романов, Б. С. V); Гайдукова—4 (тс); Каралева—1 (тс); Каралеўская воласьць—4 (Шейн, М., II), Сялюты—1 (Романов, Б. С. V); Сялюцкая вол.—1 (тс);

Гарадоцкі п.—Без адзначаньня м. з.—4. (Романов, Б. С. V), Мішневічы—2 (тс); Хвошна—1 (тс); Некалькі загаворау і апісаньня лекаваньня некаторых хвароб знаходзяцца ў нарысе Ив. Молохова (Ів. Кузьміна): „Как у нас лечат" (Витебские Губ. Ведомости, 1902, № 192).

Лепальскі п.—Без адзначаньня м. з.—1. (Шейн, М., II). Загаворы і некаторыя др. этнографічныя матар'ялы знаходзяцца ў нарысе Варэнка: Przyczynek do lecznictwa ludowedo (Materyały antropologiczno—archeologiczne i etnograficzne... Kraków, т. I) галоўным чынам вёскі Пуцілкавічы.

Люцынскі п.-Без адзначаньня м. з.—1. (Романов, Б. С. V) і Ляудер—2 (тс).

Нова-Александраўскі п.—Дукшты—3. (Шейн, М., II).

Парэцкі (Дзямідаўскі) п.—без адзначаньня м. з.—1. (Шейн, М., II); Баркі—7 (тс); Іконькава—6 (Добровольский, С. С., I).

Полацкі п. —Гл.: Выписки из Полотских магистратских актовых книг: протестации пана Паука о позаливанью чимсь дома его, на знак чаров и пана Лисовского о присылке из дома пани Чеслевской, так же на знак чаров, тараканов. Сообщено А. Сазоновым („Витебские Губ. Ведом.“, 1864, № 5).

Сененскі п. — Без адзначаньня м. з.—1; (Романов, Б. С. V); Сянно—4 (тс); Лісічына—1 (тс); Торбінка—1 (тс); Ульянавічы—2 (тс).

У Раманава (Б. С. V) знаходзяцца тры загаворы з абазначэньнем: „Вітабская губ.“

*Лаянка кляцьба, зьневажальныя выcловы.*

З аддзелу лаянкі, кляцьбы і зьневажальных выcловаў мне вядомы 2 запісы: адзін у Нікіфароўскага (Очерки Витебской Белоруссии, I; с. 13), а другі ў Дабравольскага (С. С., Ш) –Парэцкі п., Інькава.

*Апісаньні загавораў і загаворшчыкаў.*

Матар'ялы аб загаворах, загаворшчыках і чараўніцтве на Вітабшчыне знаходзім у Шэйна (М., III), И. Поливена: Несколько слов о колдунах и знахарях Витебской губ. („Витебские Губернские вед.“ 1865, № 41) і Е. Белозерского: Наши знахари и прорицатели („Витебск. Губ. Ведом.“) 1900, №241). Аб чараўнікох Вітабшчыны цікавыя матэр'ялы падае Нікіфароўскі ў працы: „Простанародныя приметы и поверья“...

## II. Калядныя песьні.

*Тэксты.*

Аршанскі п.–-Мошкава—2 (Шейн, М. 1.)

Вітабскі п.—Шчэрбінская воласьць—2 (Романов, Б. С., VIII).

Вяліжскі п.—Будніца—1 (Романов, Б. С. VIII),

Гарадоцкі п. — Уладзімірская вол. — 1 (Романов, Б. С., VIII); Хвошна—1 (тс).

Дзісенскі п.—Без адзначаньня м.з.—7. (Дмитриев,С. П );—1 (Шейн, Б. П.), Заулкі—22 (Романов, Б. С. VIII).

Лепальскі п.—Без адзначаньня м. з.—6. (Шейн, Б. П.),—1 (Романов, Б. С. VIII); Апанаскавічы—1 (Шейн, Б. П.), Бабчы—4 (Шейн, М., I, I), Несіна—1 (Романов, Б. С. VIII); Цяпінская вол.—3 (Шейн, Б. П.); Ушы—1 (Шейн, М., I, I); Чашнікі—5 (Шейн, Б.Н.).

Невельскі п.—г. Невель—14 (Шейн, Б. П.)

Парэцкі п.—Інькова—7 (Добровольский, С. С. IV). гл.: Святки в Поречском уезде („Смоленский Вестник“, 1893, № 3), Васильевская коляда в Почерском уезде (т.с., 1893, № 9).

Полацкі п.—без адзначаньня м. з.—2 (Романов, Б. С. VIII); Махірова—5 (Шейн, М. I, I);

Себежскі п.—па паштоваму шляху з Себежа ў Люцын—3 (Анимелле, Б. Б. К).

Сененскі п.—без адзначаньня м. з.—1 (Романов, Б. С., II); В. – Гарадзец—2 (тс).

*Апісаньні калядных звычаяў.*

Некаторыя матэр'ялы па апісаньню калядных звычаяў запісаны ў такіх мясцовасьцях:

Вітабская губ. (Романов, Б. С. VIII).

Вітабскі п.—без адзначаньня м. з. (Романов, Б. С, VIII), Веляшковічы (Шейн, Б. П.)

Дзісенскі п.—без адзначаньня м з. (Дмитриев, С. П.).

Дрысенскі п.—без адзначаньня м. з. (Шейн, Б. П.).

Полацкі п.—Махірава (Шейн, М. I, I).

Себежскі п.—па паштоваму шляху з Себежа ў Люцын (Анимелле, Б. Б. К).

Агульныя нарысы аб калядных звычаях Вітабшчыны мне вядомы такія: А. П-ко (Пщелко), Новый Год в деревне (Витебские Губ. вед., 1903, № 1), П. М-ич, Рождество у белоруссов католиков (тс, 1904, № 298).

Некаторыя матар'ялы аб калядных звычаях Вітабскага, Дрысенскага і Полацкага паветаў зьмешчаны ў працы Нікіфароўскага: „Простонародные приметы и поверья“...

## III. Масьлянічныя песьні.

*Тэксты.*

Масьлянічныя песьні па мясцох запісаў размяркоўваюцца такім парадкам:

Вітабскі п —Васкавічы—1 (Шейн, Б. П.).

Вяліжскі п.—Будніца—1 (Романов, Б. С. VIII), Узкае—3 (тс), Усьвяты—2 (Шейн, Б. П.).

Лепальскі п —Смалянецкая воласьць—1 (Шейн, Б П.), Чашнікі—II (тс)

Сененскі п.—без адзначаньня м. з.—1 (Романов, Б. С., II), Бабоўка—I (тс), Ігрушацкая воласьць—2 (Шэйн, М., I, I), Ульянавічы—1 (Дембовецкий, О. М. В. I), Чарэя—1 (Шейн, М., I, I).

*Звычаи.*

Некатарыя звычаі масьлянічнага цыклю адзначаны ў такіх мяйсцох.

Вітабская губ.—(Шейн, М. I, I).

Сененскі п.: Ігрушацкая вол. (Шейн, М. I, I).

## IV Веснавыя песьні.

*Тэксты.*

Аршанскі п.: Ганчары—1 (Романов, Б. С. II).

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.-2 (Шейн, В. П.), Бабініцкая воласьць—7 (Романов, Б. С., VIII), Васкавічы—2 (Шейн, Б. П.), Вітабск—4 (тс), Вяляшкоўская вол. (Шейн, М. I. I.), Воранава —1 (тс), Вымна—3 (Шейн Б. П.) Маделина—3 (Шейн,—М. I. I.), Шчарбінская вол.—1 (Романов, Б. С. VIII).

Вяліжскі п.: Казакова—1 (Романов, Б. С. VIII), Маклок—1 (Романов, Б. С., VIII), Узкое—4 (тс).

Гарадоцкі п.: Балецк—9 (Романов, Б. С. VIII), Горкаўская воласьць —1 (тс), Мішневічы 7 (тс).

Дзісенскі п.: без адзначаньня м. з.—3 (Крачковский, Б. С.) Завулкі—53 (Романов, Б. С. VIII), Дзісна—1 (Дмитриев, С. П.).

Дрысенскі п.: Валейкава—6 (Романов, Б. С. VIII), Гірдзюкі—4 (тс), Шлыкі—3 (тс).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М., I. I),—1 (Романов, Б. С., VIII), Апанаськавічы—1 (Шейн, Б. П), Ветрына—2 (Шейн, М. I. I.), Зазерыца—2 (тс), Каменская вол.—1 (Шейн, Б. П.), Капціевічы—5 (тс), Цяпінская вол.—1 (Шейн, Б. П), Смолянецкая вол.—1 (тс), Чашнікі—9 (тс).

Невельскі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Шейн, Б. П.)

Нова-Александраўскі п.: Браслаў—6 (Романов, Б. С. VIII).

Парэцкі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Романов, Б. С. VIII), Інькава—17 (Добровольский, С. С IV).

Себежскі п: 3 песьні і некаторыя звычаі—па пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын (Анимелле, Б. Б. К.), Кісялі—1 (Шейн, Б. П.).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Романов, Б. С., II), Аляксенічы—2 (тс), Аусішча—1 (тс), Боркі—1 (тс), В.-Гарадзец—2 (тс), Гарывец—1 (тс), Латыгава—2 (тс), Цюцькі—1 (тс), Ульянавічы—1 (тс), Ходцы—1 (Шейн, М. I, I,), Чарэя—1 (тс)—2 (Дембовецкий, О. М. Г., I).

У Шейна (М., I. I) знаходзіцца 3 песьні, адзначаных Вітабскай губэрніяй.

### Звычаі.

Некатарыя веснавыя абрады і звычаі запісаны ў такіх мясцовасьцях: Аршанскі п., (Шейн, М. I, I), Мошкава (тс), Вітабскі п.: Веляшковічы (Шейн, Б. П.) Вымна (тс), Вяліжскі п. (Романов, Б С. VIII), Лепальскі п. Каменская вол. (Шейн, Б. П.) Нова-Александраўскі п: Дукшты (Шейн, М. I. I.), Ульянавічы (Дембовецкий, О. М. Г., I).

Апісаньні вяснавых звычаяў знаходзяцца ў такіх працах: Добровольский, В. Егорьев день в Смоленской губ. („Живая старина“. 1908. II), ёсьць матэр'ял з Парэцкага павету. Ивашин, Пасхальные обряды и обычаи в деревне („Витебские губ. Ведомости“, 1905, № 87). Шпилевский, Волочобники в Витебской губернии („Русский Дневник“, 1859, № 101). Празднование Пасхи у белоруссов католиков (Ново-Александровского у.)“ Виленский Вестник“, 1891, № 93; „Ковенские губ. Вед.“ 1891, № 29).

## V. Русальныя песьні.

### *Тэксты.*

Парэцкі п.: без адзначаньня м. з.—5 (Шейн, М. I. I.)

### Звычаі.

Дзісенскі п.: без адзначаньня м. з. (Дмитриев, С. П.).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з. (Шейн, Б. П.)

Парэцкі п.: гл. нарыс: Русальная неделя в Поречском уезде („Смоленский Вестник“, 1893, № 58).

## VI. Купальскія песьні.

### *Тэксты.*

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.—3 (Шейн, Б. П.) Бабініцкая валасьць—10 (Романов, В. С. VIII), Васковічы—1 (Шейн, Б. П.),

Бервяги—3 (Романов, Б. С. VIII), Сініцы—5 (Романов, Б. С. VIII). Шчэрбінская воласьць—1 (тс).

У Бязсонава (Б. П.) 1 песьня адзначана Вітабскай губ.

Вяліжскі п.: Будніца—6 (Романов, Б. С. VIII), Казакова—2 (тс), Узкае—3 (Романов, Б. С. VIII) Усьвяты—2 (Шейн, Б. П.).

Гарадоцкі п.: без адзначаньня м. з.—(Щейн, Б. П.), Мішневічы—5 (Романов, Б. С., VIII), Хвошно—4 (тс).

Дзісенскі п.: без адзначаньня м. з. —2 (Шейн, Б. П.),—7 Крачковскій, Б. С.), Заулкі—4 (Романов, Б. С., VIII), Леанпольская воласьць—6, (Добровольский, С. С., IV).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—4 (Czeczot, 1846),—13 (Шейн, Б. П.),—4 (Романов, Б. С. VIII), Апанаскавічы—4 (Шейн, Б. П.), Бабчы—1 (Шейн, М. I. I.), Дуброўкі—4—5 (Шейн, Б. П. М., I, I), Маделіна - 4 (Шейн, М, I, I), Сьвяды—1 (тс)., „Ушачский округ" —4 (Шейн, Б. П.), Чашнікі—11 (тс).

Нова-Александраўскі п.:—Браслаў—8 (Романов, Б. С. VIII).

Парэцкі п.:—Інькава—2 (Добровольский, С. С. IV).

Полацкі п.: Без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, Б. П.)

Себежскі п.: па шляху з Себежа ў Люцын—5 (Анимелле, Б. Б. К.), без адзначаньня м. з.—4 (Романов, Б. С., VIII), Далосцы—1 (тс), Ільіно—6 (тс).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з.—4 (Романов, Б. С. II, Зенькава —1 (тс), Сьлідцы—2 (тс), Расна—1 (Романов, Б. С. 1).

Суражскі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Шейн Б. П.), Казловічы—5 (тс)

*Звычаі.*

Аршанскі п.: (Дембовецкий, О. М. Г., 1).

Вітабскі п.: і губ. (Романов, Б. С., VIII).

Дзісенскі п.: (Крачковский, Б. С.).

Лепальскі п.: (Шейн, Б. П.), Чашнікі (тс), Бабчы (Щейн, М I. I.).

Нова-Александраўскі п. И. К. Этнографические очерки. („Ковенские губ. ведомости" 1890, №№ 31—45).

Себежскі п.—на пачтовым шляху з Себежа ў Люцын, (Анимелле, Б.Б.К).

Сененскі п.—(Романов, Б С. VIII), Чудькі (тс).

Суражскі п.—Сураж—(Шейн, Б. П.)

З агульных нарысаў з Вітабшчыны адзначу,—Пщелко, Что такое зелки. („Очерки из жизни белорусской деревни", Витебск, 1899). Апісаньне купальскіх звычаяў і песьню знходзім у нарысе Баршчэўскага: Szkic połnocnej Białej rusi (Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych apowiadaniach, Petersburg, 1844—1846). Названая праца Баршчэўскага мае і другія матар'ялы, цікавыя для этнографа, якія будуць паказаны ў адпаведных адзелах кнігі. Ня маючы на мэце строга этнографічных мэт, Баршчэўскі не адзначае мейсц запісаў, але паводлуг некатарых жыцьцёпісных даных можна думаць, што этнографічныя матэр'ялы Баршчэўскага адносяцца да паветаў Заходнай часткі Вітабшчыны: Полацкага, Невельскага, Гарадоцкага, Дрысенскага і Себежскага; такую думку падтрымлівае тое, што аўтор паходжаньнем з Мурагоў (М. Гарэцкі, Гісторыя беларускае літаратуры, Вільня, 1921; стар. 64; Е. Карский, Белорусы, III, 3, стар. 46), якія ляжаць на мяжы Полацкага, Невельскага і Себежскага паветаў і ў якіх ён праводзіў шмат часу, апрача гэтага ў Баршчэўскага ёсьць зсылкі на Дрысенскі павет (т. II, с. 6), На По-

лацкі—(т. IV, с. 5), на Сітна, Гарадоцк. п.—(тс, с. 5); аб знаемстве аўтора з вышэйпералічанымі паветамі сьведчыць верш (у апавядавьні Rada т. IV, с. 15) з назовамі такіх вазёраў: Sitna, Hłubokaje, Skobryja, Szewśna, Jazna, Nieszczydra, Niawiedra, Niewiel.

## VII. Песьні пры працах.

*Тэксты і звычаі.*

Жніўныя песьні запісаны ў такіх мясцовасьцях:

Аршанскі п.: без адзначаньня м. з.—I (Романов, Б. С., II).

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.—I (Шейн, М. I, I). Бабініцкая вол. 13 (Романов, Б. С. VIII). Васкавічы—I (Шейн, Б. П.), Варанова—1 (Шейн, М. I. I.), Лескавічы—1 (Романов, Б. С., VIII), Маделіна—1 (Шейн, М. I. I.), Лескавічы—1 (Романов, Б. С., VIII), Маделіна 1 (Шейн, М. I. I), Сініцы—5 (Романов, Б. С., VIII), Шчэрбінская вол.—3 (Романов, Б. С. VIII).

Вяліжскі п.: Казакова—6 (Романов, Б. С., VIII), Маклок—2 (Романов, Б. С., VIII), Узкае—2 (Романов, Б. С., VIII), Усьвяты—2 (Шейн, Б. П.), Маложы—1 (Ив. Кузьмин, О собирании произведений народн. словесности, „Известия Велиж. Уезд. Совета“ 1919, № 124).

Гарадоцкі п.: без адзначаньня м. з.—9 (Шейн, Б. П.), Казьяны—4 (Романов, Б. С. VIII), Куксінская вол.—1 (Шейн, Б. П.), Болецк —2 (Романов, Б. С., VIII), Віроўля—1 (тс), Мішневічы—5 (тс).

Дзісенскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М. I, 1), Дзісна—I (Дмитриев, С. П.), Завулкі—5 (Романов, Б. С. VIII), Леанпольская вол.—14 Добровольский, С. С. IV).

Дрысенскі п.: Валейкава—I (Романов, Б. С., VIII), Гірдзюкі—1 (тс), Табалкі 2 (тс).

Лепальскі п.: - без адзначаньня м. з.—21 (Романов, Б. С., VIII),—7 (Шейн, Б. П.),—8 (Czeczot, 1846), Арэхаўна—2 (Шейн, М. I. I.), Ветрына—4 (тс), Апанаскавічы—7 (Шейн, Б. П.) Бабч—3 (тс), Дуброўкі—23 (тс), Капціевічы—2 (тс), Несінская вол.—6) Романов, Б. С., VIII), „Ушачский округ“—3 (Шейн, Б. П.), Чашнікі—39 (тс).

Нова-Александраўскі п.: Браслаў—4 (Романов, Б. С., VIII).

Парэцкі п.: Іњкава—3 (Добровольский, С. С., IV).

Себежскі п.: на пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын—6 (Анімелле, Б. Б. К.) Езерская воласьць—1 (Шейн, Б. П.), Далосцы—3 (Романов, Б. С., VIII), без адзначаньня м. з. - 6 (тс).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з. – 3 (Романов, Б. С. II), Аўсішча —I (тс), Веліца—(5 тс), Дубоўцы—I (тс), Латыгава—4, (тс), Лісічынская вол.—1 (тс), Нямойта— 1 (тс), Запольде—1 (тс), Расна 2 (тс), Сьлідцы— 4 (тс), Цюцькі—1 (тс), Замочак—2 (Романов, Б. С. VIII).

Суражскі п.:—без адзначаньня м. з.—6 (Шейн, Б. П.), Казловічы—2 (тс)

Апрача пералічанага ў Раманава (Б. С., VIII) зьмешчана 1 песьня, адзначаная Вітабскай губ.

Некатарыя жніўныя звычаі запісаны ў такіх мясцовасьцях: Аршанскі п.: (Шейн, Б. П.), Любавічы (тс), Вітабскі п.: Шчэрбінская вол. (Ро-

манов, Б. С., VIII), без адзначаньня м. з. (Шейн, М. I. I.); Гарадоцкі п.: без адзначаньня м. з. (Шейн, М. I. I.), Лепальскі п. Бабч (Шейн, Б. П.), Чашнікі (тс); Себежскі п. (Романовъ, Б. С., VIII); па пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын (Анимелле, Б. Б. К.), Нова-Александраўскі п. (П. К. Этнографическіе очерки, „Ковенскія губ. Вѣдом." 1890 № 31-45).

Закранутаму пытаньню ахвяраваны нарыс (А. П. Піщелко), Зажинки и обжинки („Витабскія губ. вед." 1903, № 207, 240 283); некатарыя матар'ялы, абхоплючыя Вітабшчыну знаходзім у Шэйна (Б. П., аб боге „Раю").

Талочныя песьні запісаны:

Аршанскі п.: Мошкава—5 (Шейн, М. I, I).

Вітабскі п.: Воранава—1 (Шейн, Б. П.).

Дзісенскі п.: без адзначаньня м. з.—5 (Шейн, Б. П.), Заулкі—6 (Романов, Б. С., VIII).

Дрысенскі п.: Без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М. I, I).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Романов, Б. С., VIII),—3 (Шейн, Б. П.), Ветрына—2 (Шейн, М., I, 1), Дуброўкі—1 (тс), —5 (Шейн, Б. П.), Ізабеліна—1 (Романов, Б. С., VIII), Капціевічы—2 (Шейн, М. I, 1). „Ушачский округ"– 6 (Шейн, Б. П.), Чашнікі—11 (тс).

Нова-Александраўска п.: Браслаў—3 (Романов, Б. С., VIII).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з.—I (Романов, Б. С. II), Беліца—2 (тс), Ганчарова—I (тс), Дубоўцы—I (тс), Зенькава—7 (тс), Неймата—I (тс), Цюцькі—2 (тс), Латыгава—I (тс), Ульянавічы—2 (тс), Сяоно—I (тс).

Талочныя звычаі запісаны ў Себежскім п., па пачтоваму тракту з Себежа ў Люцын (Анімалле, Б Б. К) і датычна ўсей б. Вітабскай губ. знаходзяцца ў Шэйна (Б. П.). Некатары матэр'ял ёсьць у нарысе (Пщолкі); і Толока („Витебск. Губерн. Ведом." 1903, № 139) і працы Нікіфароўскага: „Простонародные приметы и поверья"...

З другіх катэгорый песьняў, якія ўжываюцца пры працах, запісаны:

Песьні „сенакосныя".

Дзісенскі п.: Дзісна—I (Дмитриев, С. П.).

Песьні пры араньні зямлі. Дзісенскі п.: Дзісна—I (Дмітрієв, С. П.).

Песьні рыбака. Суражскі п.: Астраўскія—I (Сапунов, Река Западная Двина, стар. 494).

Песьні „стругаўскія" гл. у Сапунова (Река Зап. Двина, стар. XIX), перапрацоўку народнай стругаўскай песьні Вяліжскага павету.

VIII. Хрэзьбінныя і дзіцячыя песьні.

I—Хрэзьбінныя песьні.

*Тэксты.*

Аршанскі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Дембовецкий, О. М. Г. I), Высокае—3 (Романов, Б. С., VIII), Мошкова—2 (Шейн, М. I, 1), Высокае—8 (Романов, материал для изучения говоров Могилевск. губ., „Живая старина", 1902, III—IV).

Вітабскі п.: Дзеравягі—1 (Романов, Б. С., VIII), Маделіна—6 (Шейн, М. I. I.).

Гарадоцкі п.: Болецк—4 (Романов, Б. С., VIII).

Дзісенскі п. Завулкі —13 (тс).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з. (Czeczot, 1846), Ветрына—1 (Шейн, М. І. І.), Бабч—8 (Шейн, Б. П.), Капціевічы—11 (тс), Смалянецкая воласьць—1 (тс), Чашнікі—13 (тс).

Парэцкі п.: Інькава—2 (Добровольский, С С. 11).

Полацкі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, Б. П.).

Сененскі п.; без адзначаньня м. з.—3 (Аникиевич, С. У),—10 (Романов, Б. С., VIII), Ігрушкі—1 (Шейн, М. II), Расьнянская вол.—1 (Романов, Б. С., VIII).

*Звычаі.*

Хрэзьбінныя звычаі, абрады і вераваньні запісаны ў такіх мясцовасьцях:

Вітабскі п.: (Шейн, М. І. І).

Веляшковічы (Никифоровский, простонародныя приметы и поверья... Витебск, 1897), Вітабск (тс), Вымна (тс), Котава (тс), Тадуліна (тс), Янавічы (тс) Шчэрбінская вол. (Романов, Б. С. VIII).

Гарадоцкі п.: Войхань (Никифоровский, Простонародн. приметы и пов).

Дзісенскі п.: Чарэсы (Крачковскій, Б. С.)

Лепальскі п.: (Шейн. М. І. І.), Бабч (Шейн, Б. П.), Чашнікі (тс).

Парэцкі п.: (Добровольский, С. С. І. І.), Барада (Добровольский о некоторых архаических обычаях, переживаемых народом в Смоленской губ. „Труды Этнографическ. Отдел." Общ. Л. Е. А. Э. т. XIV, 1900; тут-жа некатарыя другія матэр'ялы з Парэцкага павету).

Полацкі п.: (Шейн, М. І. І.), Губіцы (Никифоровскій, Простонародныя пр. и повер...), Ловаж (тс), Махірава (тс), Сіроціна (тс), Якімань (Шейн, Б. П.), Марынькіна (Шейн, М. І. І.).

Себежскі п.: (Серебренников, О. О.), па пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын (Анимелле, Б. Б. К.),

Сененскі п.: (Аникіевіч, С. У.; Шейн, М., т. І. І. т. III).

## 2. Дзіцячыя песьні.

Дзіцячыя песьні запісаны ў такіх мясцовасьцях:

Аршанскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, Б. П.), - 1 (Романов, Б. С. І), Высокае—10 (Романов, Материалы для изучения говоров Могилевск. губ. „Живая Старина", 1902, III—IV).

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.—5 (Шейн, Б. П.), Вітабск—9 (Шейн, Б. П.), Васкавічы—2 (тс), Старае Сяло—4 (тс),

Дрысенскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М І. І.).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—3 (Czeczot, 1846), Капціевічы — 1 (Шейн, М. І. І.), Нача—3 (тс), Чашнікі—20 (Шейн, Б. П.),

Сененскі п.: Сянно—10 (Романов, Б. С. І), Талачын—1 (Шейн. М., І. І).

Суражскі п.: без адзначаньня м. з.—7 (Шейн, Б. П.), Козловічы—2 (тс)

## IX. Вясельныя песьні.

*Тэксты.*

Аршанскі п.: без адзначаньня м. з.—16 (Дембовецкий, О. М. Г. І), Высокае—10 (Романов, Матар. для изучения говоров Могилевской губ. „Живая старина", 1902, III—IV).

Вітабскі п.: Бабініцкая вол.—42 (Романов, Б. С., VIII), Васькавічы—1 (Шейн, Б. П), Воранава—1 (тс),—1 (Шейн, М. І. 2), Воранава і Маделіна—64 (тс), Вітабск—1 (Шейн, Б. П.), Запожанкі—29 (Шейн, М. І. 2), Каралеўская вол.—3 (тс),—8 (Романов, Б. С., VIII), Курынская вол.—78 (Иванов, К. С.)—11 (Романов, Б. С. VIII), Мішкаўская вол.—17 (Романов, Б. С. VIII), Старае Сяло—48 (Шейн, Б. П.),—8 (Романов, Б. С., VIII), Чарняты—2 (тс).

Вяліжскі п.: Вязьменская вол.—12 (Романов, Б. С. VIII), Казакова—15 (тс).

Гарадоцкі пав.: без адзначаньня м. з —43 (Шейн, Б. П.), Куксінская вол.—19 (тс), Езярышчанская вол.—10 (тс), Болецкая вол.—17 (Романов, Б. С. VIII), Валатоўка—7 (тс), Уладзімірская вол.—34 (тс), Казьяны—11 (тс), Мішневічы—2 (тс), Ціоста—1 (тс), Хвошна - 16 (тс), Езярышчанская вол.—16 (тс).

Дзісенскі п.: без адзначаньня м. з.—9 (Шейн, Б. П.), Заулкі—45 (Романов, Б. С. VIII), Леанпольская вол.—28 (Добровольскій, С. С. II), Чэрасы—2 (Крачковскій, Б. С.).

Дрысенскі п.: Сушкаўская валасьць—34 (Романов, Б. С. VIII).

Лепальскі п: без адзначаньня м. з.—10 (Czeczot, 1846), Ветрына—17 (Шейн, М. І. 2), Арэхаўка—5 (тс), Капціевічы—3 (тс), Несінская валасьць—15 (Романов, Б. С., VIII), Усайская валасьць—(тс), Дуброўкі—33 (Шейн, Б. П), Капціевічы—3 (тс), Бабчы—35 (тс), Цяпінская валасьць—5 (тс), Чашнікі - 52 (тс).

Невельскі п.: Сакальніцкая—Чупроўская валасьць—36 (Романов, Б. С., VIII).

Нова-Александраўскі п.: песьні ёсьць у працы К Гукоўскага: „Свадьба у литовскихъ белоруссовъ“, лік песьняў не азначаецца таму, што мясцамі іх цяжка аддзяліць ад песьняў Віленшчыны ўзятых у Tyszkiewicz'a і Iwaszkewicz'авай.

Парэцкі п.: Інькава—17 (Добровольскій, С. С. II), Рыпшава—12 (Шейн, М. І. 2).

Себежскі п.: па пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын—79 (Анимелле, Б. Б. К.), без адзначаньня м. з.—13 (Шейн, Б. П.),—23 (Серебренниковъ, О. О.).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з —64 (Романов, Б. С. II), Беліца—2 (тс), Латыгава—1 (тс), Ігрушка—13 (Шейн, М. І. 2), Дубоўцы—1 (Романов, Б. С. VIII), Замоцкая валасьць—1 (тс), Новая Беліца—3 (тс), без адзначаньня м. з.—4 (Аникиевич, С.У.)—10 (Дембовецкий, О. М. Г. I), Чарэя—4 (тс).

У Шэйна (Б. П.) 14 песьняў адзначана Вітабскай губ.

1 песьню гл. у Баршчэўскага „Zuchwałe postępki“ (Szlachcic Zawalnia... I, c. 64—65), 1 песьню гл ibidem у нарысе „Towarzysz w podróży (IV, c. 4)

*Звычаі.*

Вялікія апісаньні вясельля і дробных вясельных звычаяў былі зроблены вось у якіх мясцох:

Вітабскі п.: Веляшкоўская вол. (Шейн, М. І. 2), Воранава (тс), Каралеўская вол. (тс), Мадзеліна (тс), Старае Сяло (Шейн Б. П.), Шчэрбінская вол. (Романов, Б. С. VIII), Вітабск (Никифоровс-

кий, Простонародн. приметы и поверья...) Веляшковічы (тс), Вымна (тс), Малашонкі (тс), Котава (тс), Курынская вол. (Иванов, К. С).

Вяліжскі п.: Узкаўская вол, (Романов, Б. С. VIII).

Гарадоцкі п.: Валатоўка (Романов, Б. С. VIII), Уладзімірская вол. (тс), Езярышчанская вол. (тс), Войхань (Никифоровский, Простонародн. приметы и пов...), Хвошна (тс).

Дзісенскі п,: (Шейн, Б. П.; Крачковский, Б. С.), Чарэсы (Крачковский, Б. С.).

Дрысенскі п.: Сушкаўская вол. (Романов, Б. С. VIII), Боркавічы (Никифоровский, Простонародн. пр. и пов...), Клясьціцы (тс), Прыдруйск (тс), Усьцьце (тс).

Лепальскі п.: Бабчы (Шейн, Б. П.), Чашнікі (тс), Несінская вол. (Романов, Б. С., VIII).

Невельскі п.: Сакольніцкая і Чупроўская валасьці (Романов, Б. С., VIII).

Нова-Александраўскі п.: Гуковский, С. Л. Б.; И. К. Этнографические очерки (Ковенские Губ. Вед. 1890, № 31-45).

Парэцкі п.: (Добровольский, С. С II).

Полацкі п.: Гімзялева (Никифоровский, Простонародн. прим. и поверья...), Дабея (тс), Ловаж (тс), Махірава (тс).

Себежскі п.: (Серебренников, О. О.) па пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын (Анимелле, Б. Б. К.); Поливен И. Свадебные обряды крестьян Себежского уезда (Витебские губ. вед , 1864, № 3). Карский (Белоруссы, I, с. 243) называе працу Владисл. Быковского „Белорусская свадьба Себежского уезда Витебской губ.“, якая ніба выдрукавана ў „Памятн кніжкі Вітабск. губ. на 1867 г.“ ў рэчавістасьці—ж названай акад. Карскім працы Быкоўскага ў памянёных кніжках б. Вітабскае губэрні няма (параўн. А. Сапунов; (Исторический очерк 50—летия Витебского губ. Статистическ. Комитета. Витебск. 1913; гл. стар. 16 і др.).

Сененскі п.: (Аникиевич, С. V).

Суражскі п.: Сураж (Шейн, Б. П.).

Некатарыя матэр'ялы аб вясельлях Вітабшчыны знаходзім у 1) Никифоровского Пр. приметы и поверья.., 2), (О. Киселева) Каравай (Вітебские Губ. вед., 1894, № 94), 3) Свадьба на кладбище (Витебские Губ. вед., 1866, № 33), 4). Ign. Chr. Wesele w okolicah naddzwińskich; Rubon, V, Wilno, 1845 стар. 193—211).

## X. Прычытаньні.

*Тэксты,*

Аршанскі п. без адзначаньня м з.—I (Шейн, М. I, 2), Высокае—3 (Романов, Б. С. VIII), Мошкаўская вол —6 (тс), Наватухінская вол —4 (тс), Рудня—4 (тс), Коханаўская вол.—3, (Шейн, М. I, 2), Высоцкая воласьць—4 (тс) Высокае—10 (Романов, Матер. для изучения говоров Могилевской губ. „Живая старина“, 1902, III-IV).

Вяліжскі п.: Альшуты-1 (Романов,Б. С. VIII),Ильинская воласьць-2 (тс).

Дзісенскі п.: Дзісна—1 (Дмитриев, С П.).

Лепальскі п.: Чашнікі—2 (Шейн, Б. П.).

Люцынскі п.: Без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М. I. 2).

Невельскі п.: Дзеіна—4 (Романов, Б. С. VIII).

Сененскі п.: Борская воласьць—3 (Шейн, М. I. 2). Высокагарадзецкая воласьць—11 (тс), Пустынская воласьць—12 (тс).

Суражскі п.: Сураж—3 (Шейн, Б. П ).

*Звычаі.*

Аршанскі п.: Мошкаўская вол. (Романов, Б. С. VIII), Рудня (тс).

Вітабскі п: (Шейн, Б. П., М. I. 2), Вымна (Никифоровский, Простонародн. прим. и пов.), Веляшковічы (тс), Котава (тс), Янавічы (тс), Піхцяі (тс), Веляшкоўская воласьць (Шейн, М., I. 2).

Гарадоцкі п: Войхань (Никифоровский, Простонародн. прим. и поверья), Хвошно (тс).

Дзісенскі п.: (Дмитриев, С. П.).

Дзьвінскі (Дінабургскі) п.: (Шейн, М. I. 2), Маліноўка (тс).

Дрысенскі п.: (Шейн, М. I. 2), Валынцы (Никифоровский, Простонарод. пр. и поверья...), Клясіцы (тс), Прыдруйск (тс), Ляшчылава (тс).

Лепальскі п.: Бабчы (Шейн, Б. П.), Станіслаўская воласьць (тс., і М. I, 2).

Люцынскі п.: (Шейн, М. I. 2), Ляўдэр (Никифоровский, Простанарод. пр. и поверья..).

Парэцкі п.: (Добровольский, С. С II), Вядзеньне—(Пережитки трупосожигания, „Живая Старина“, 1906 № 1—с. 2).

Полацкі п.: (Шейн, М. I. 2), Баравуха (Никифоровский, Простонарод. пр. и поверья ..), Ловаж (тс), Махірэва (тс)., Шыпуліна (тс).

Себежскі п.: (Шейн, Б. П.), на рубяжы з Рэжыцкім п. (Шейн, М., I. 2), па пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын (Анимелле, Б. Б. К.), без адзначаньня м. з —(Серебренников, О О.).

Суражскі п.: Сураж (Шейн, Б. П ).

Апрача пералічанага матэр'ял без адзначаньня месц запісаў знаходзіцца ў Нікіфароўскага („Простонарод. пр. и пов “).

Некатарыя матэр'ялы знаходзім у нарысах Пшчолкі (Пщелко, А. Р.): Деды („Витебския Губ. ведом.“ 1898, № 76-78), Водка на хаўтурах (Очерки из жизни белорусской деревни, Витебск 1899) Микитавы хаўтуры, Витебск, 1910.

## XI. Бытавыя песьні.

*Тэксты бытавых песьняў.*

Аршанскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, Б. П.),—14 (Романов, Б С. II), Абальцы—1 (тс), Кіеўка—5 (тс).

Вітабскі п.: без адзначаньня м з.—1 (Карский, Материалы по изучению белорусских говоров VI,—1 (Шейн, Приговоры или причеты о табаке, „Труды Этнографическ Отд. Общ Л. Е. А. Э“ кн. VII),—3 (Шейн, Б. П.),—1 (Шейн, М I. 1,), Котава-Вымна—1 (Никифоровский, Очерки Витебской Белоруссии, IV), Веляшковічы —1 (тс), Котава—1 (тс), Вітабск (тс II), Васькавічы—10 (Шейн, Б. П.),—1 Каралевіцкая вол.—1 (тс), Мішкава—1 (тс), Лужасна—4 (тс), Старая Сяло—1 (тс), Янавічы—2 (тс), Васькавічы—2

(Шейн, М. І. І), Веляшкоўская воласьць—4 (тс), Вітабск—1 (тс), Воранава—3 (тс), Сьвяды—2 (тс), Мадзеліна—3 (тс), район былога Суражскага павету—1 (тс), Каралеўская вол.—2 (тс).

Вяліжскі п.: без адзначаньня м з.—1 (Сапунов, Река Западная Двина, с. LXIX).

Гарадоцкі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Никифоровский, Очерки Витебской Белоруссии, III),—2 (Шейн, Б. П), Хвошна—1 (Никифоровский, оч. Вит. Бел., III), Гарадок—1 (Шейн, Б. П.) Куксінская вол.—1 (тс). без адзнач. м. з.—1 (Шейн, М. І. І).

Дзісенскі п.: Дзісна—24 (Дмитриев, С. П.),—2 (Шейн, М. І. І), Леанпольская вол.—2 (Добровольский, С. С, IV), Галамысльская вол.—13 (Гильтебрандт, С. П.), Кавалеўшчына—8 (тс), Мальцы—7 (тс), Чэрасы—4 (тс).

Дзьвінскі п: Казакова—2 (Шейн, Б. П).

Дрысенскі п:. без адзначаньня м. з.—2 (Шейн, М. І. І).

Іллукстскі п.: Ілукшт—1 (Шейн, М. І. І).

Лепальскі п.: без адзначаньня м з—21 (Czeczot, 1846), Дуброўкі—6 (Шейн, Б П), Капціевічы—1 (тс). Смалянецкая вол.—1 (тс), Чашнікі—56 (тс), Ветрына—1 (Шейн, М І. І), Дуброўна—17 (тс). Капціевічы—1 (тс), Чашнікі—5 (тс), „Ушачский округ“—1 (тс).

Невельскі п: Заўруя—2 (Шейн, Б. П.).

Парэцкі п.: без адзначаньня м. з.—9 (Шейн, М. І І.) Баркі—1 (тс), Інькава - 63 (Добровольский, С. С IV).

Полацкі п.: Ловаж—1 (Никифоровский, Очерки Вит. Белоруссии, IV).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М., І, І)—4, (Романов, Б. С. І),—24 (Романов, Б С, II), Астровенская і Мошкаўская вол.—1 (тс), Астровенская вол.—2 (тс), Алексенічы—1 (тс), Алехнова—1 (тс), Аўсішча—1 (тс), Адамава—1 (тс), Бабоўка—2 (тс), Беліца—6 (тс), Будна—1 (тс), Бутрынава—2 (тс), Баркі—1 (тс), В.-Гарадзец—3(тс), Гіль—1 (тс), Галавачы—1 (тс), Гарывец—4 (тс), Ганчарова—1 (тс), Госьмір—2 (тс), Дубоўцы—3 (тс), Замочак—1 (тс), Земкавічы—3 (тс), Кімейка—2 (тс), Латыгава—20 (тс), Мігуліна—2 (тс), Нямойта—1 (тс), Пустынкі—2 (тс), Пустынская воласьць—1 (тс), Расьнянская вол.—2 (тс), Сініцы—2 (тс), Сінякі—1 (тс), Сарыца—1 (тс), Сянно—7 (тс), Цюцькі—2 (тс), Ульянавічы—6 (тс), Ульянаўская вол.—1 (тс), Бобр—1 (Романов, Б. С. І), Бобрская воласьць—1 (тс), Жакі—1 (тс), Лугінавічы—1 (тс), Расна—3 (тс), на рубяжу з б Вітабскай губ.—2 (тс), Сянно—1 (тс), Ульянавічы—3 (Дембовецкий, О. М. Г. І), Чарэя—1 (тс), Какоўчын—1 (Шейн, М. І. І),—1 (Шейн, Б. П.).

Апрача пералічанага ў Шэйна (Б. П.) зьмешчана 1 песьня, якая адзначана Вітабскай губэрняй.

*Тэксты прыпевак.*

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.—5 (Шейн, Б. П.), Воранава—4 (тс), Старае Сяло—7 (тс), Бабінічы—1 (Романов, Б. С, VIII), Воранава—1 (Шейн М І. І,) Каралеўская вол—6 (тс), Мадзеліна—8 (тс), Вымна—2 (Никифоровский, Б П.), Веляшковічы—5 (тс), Палосы—2 (Ив. Кузмин, О собирании произведений народной словесности, „Известия Велижского Уезд. Совета“... 1919. № 124).

Гарадоцкі п.: Куксінская воласьць—8 (Шейн, Б. П), Бескатаўская вол.—72 (Никифоровский, Б П.), Валненкі, Стрыжакова—92 (тс), Кавалёўка—50 (тс), Полотнікі—60 (тс), Рабушкіна—49 (тс), Хвошна—13 (тс).

Дзісенскі п.: Азерава—11 (Никифоровский, Б. П), Бажкі—8 (тс), Каралевічы—54 (тс), Каралеўскае—4 (тс), без адзначаньня м. з — 17 (тс), Дзісна—1 (Дмитриев, С. П.).

Дрысенскі п.: Альхоўка—10 (Никифоровский, Б П), Вялікае Балота—9 (тс), Гуляны—6 (тс), Гвазьдзі і Гараваткі—15 (тс), Гараваткі—13 (тс), Глінцы—8 (тс), Грусьціна—8 (тс), Доўгі Бор—16 (тс), Забор'е—11 (тс), Закрудзье—6 (тс), Каўшавотае—4 (тс), Клясіцы —128 (тс), Камінка—8 (тс), Кавалі—6 (тс), Лешна—8(тс), Ліпна—4 (тс), Лышніца—11 (тс), Сямашкі—5 (тс), Стрыжынская воласьць—22 (тс).

Лепальскі п.: без адзначаньня м з.—59 (Никифоровский, Б. П.)—3 (Шейн, Б. П.), Дуброўскі—9 (тс), Смалянецкая воласьць—1 (тс), Чашнікі—22 (тс), Капціевічы—1 (Шейн, М. І. І).

Полацкі п.: Ігумена—Обальская воласьць—477 (Никифоровский, Б.П).

Сененскі п.: Ігрушка—6 (Шейн, М І. І.), без адзначаньня м з.—5 (Романов, Б С ІІ). Астроўна—1 (тс), Бабоўка—1 (тс), Бутрымава —1 (тс), Замочак—2 (тс), Земкавічы—1 (тс), Каровічы—1 (тс), Лукомль—1 (тс), Машчоны—5 (тс), Пустынская вол.—1 (тс), Сьлідцы—1 (тс), Тухінкі—1 (тс), Чарэя—1 (тс).

Суражскі п.: без адзначаньня м. з.—20 (Никифоровский, Б. П).

Апрача пералічанага ў Нікіфароўскага ў „Б. П.“; „О. В. Б.“ ІІ, адзначана Вітабскай губэрняй 141+7 прыпевак; у брашуры Астаповіча: „Белорусская частушка“, Витебск, 1903, знаходзіцца 183 прыпеўкі Вітабшчыны; ёсьць таксама прыпеўкі ў Вітабшчыны ў нарысе *В. С* „Народная паэзія і частушкі“ (Витебские Губ. Вед 1916, № 159—160).

Некатарыя ўвагі аб бытавых песьнях раськіданы па працы Дэмбовецкага: „О М. Г.“ і, якія датычаць Аршанскага павету і сёл Сененскага павету: Гасьмір і Ульянавічы.

## XII. Прыказкі.

Аршанскі п.: Высокае—205 (Романов, Материалы для изучения говоров Могилевск. губ., „Живая Старина“, 1902, III-IV).

Вітабскі п.: без адзначаньня мейсц запісаў—1 (Шейн, Б. П)

Дзісенскі п.: Чэрас—22 (Гильтебрандт, С. П.).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—17 (Анимелле, Б. Б. К).—1 (Горбачевский, Лепельский у. Витебской губ., Витебск, 1895).

Себежскі п.: па пачтоваму шляху з Себежа ў Люцын—81 (Анимелле, Б. Б. К.).

Апрача пералічанага, запісаныя ў Вітабшчыне прыказкі знаходзяцца ў такіх працах:—614 нумяроў у Нікіфароўскага: „Полупословицы и полупоговорки, употреблямые в Витебской Белоруссии (Записки С.-З. Отд. Русского Геогр. Общ. Вильна, I—IV), 16+11 у працы О. В. Б., II-III,—22 прыказкі ў Сапунова „Река Западная Двина“. Витебск, 1893 стар. 261-262.

Апрача таго прыказкі Вітабшчыны ўвайшлі ў працу Насовіча: Сборник Белорусских пословиц, Спб. 1874. (гл. стар. V); але яны ня вызначаны

з агульна беларускіх. Раманаў зьмясьціў сярод прыказак Магілеўшчыны прыказкі Сененскага павету (П. С. II) таксама ня выдзяліўшы іх.

## XIII. Загадкі.

Аршанскі п.: Высокая—100 (Романов, Материалы для изучения говоров Могилевск. губ.).

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М. I. I.).

Дзісенскі п.: Чэрас—23 (Гильтенбрандт, С. П.).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—5 (Шейн, М. I. I.), Чашнікі—1 (тс).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з.—11 (Шейн, М. I. I.), у Раманава ёсьць загадкі Сененскага павету, але яны ня выдзялены з загадак Магілеўшчыны (Б. С., II).

Апрача пералічанага, 532 загадкі Вітабшчыны (без адзнач. м. з.) знаходзяцца ў працы Нікіфароўскага: Простонародные загадкі... („Памят. кн. Витебской губ. на 1898 г.). Некатарыя загадкі Вітабшчыны ўвайшлі ў працу Насовіча: „Сб. белорусских пословиц“ Спб. 1874, але яны выдзялены з ліку агульна беларускіх загадак.

## XIV. Казкі і апавяданьні.

Аршанскі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Романов, Б. С. IV), Высокае—1 (Романов, Б. С., IV), Стары Талачын—1 (тс), Мошкава—2 (Шейн, М. II), Высокае—10 (Романов, Материалы для изучения говор. Могилевск. губ.)

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.—4 (Шейн, М. I. I), Веляшкова—1 (тс), Вымна—3 (тс), Вітабск—1 (Шейн, Приговоры или причеты о табаке), —1 (Романов, Б. С. IV), Абухова—1 (Романов, Б.С.VI), Ветрына—1 (Шейн, М. II), Каралеўская вол.—7 (тс), Мадзеліна—5 (тс), Старае Сяло—1 (тс), без адзначаньня м. з.—2 (тс).

Вяліжскі п.: Узкае—1 (Романов, Б. С. IV)

Гарадоцкі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Романов, Б. С. VI), Валатоўкі—1 (тс), Віраўлянская вол.—1 (тс), Горкаўская вол.—1 (тс), Казьянская вол.—2 (тс).

Дзісенскі п.: Чэрасы — 2 (Крачковский, Б. С.), Шамчура — 1 (тс).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М. II) Бачэйкава—1 (тс), Чашнікі—3 (тс).—3 (Шейн, М. I, I).

Невельскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М II).

Нова-Александраўскі п.: Дукшты—3 (Шейн, М. II).

Полацкі п.: без адзначаньня м. з.—5 (Шейн, М. II).

Сененскі п.: без адзначаньня м. з.—12+3 (Романов, Б. С. IV—III), Барок—1 (Романов, Б. С. III), Андрэйчыкі—1 (тс), Абчуга—1 (тс), Бутрымава—2 (тс), Багданава—1 (тс), Высокі Гарадзец—2 (тс), Вздорнікі—1 (тс), Гарадзец—1 (тс), Ганчарова—1 (тс), Гарывец—2 (тс), Глебаўск—1 (тс), Дуброва—1 (тс), Дубаўцы—1 (тс), Замочак—2 (тс), Земкавічы—1 (тс), Каровічы—2 (тс), Клімавічы—2 (тс), Кімейка—3 (тс), Кішкі—1 (тс), Лукомль—2 (тс), Лугіновічы—2 (тс), Ладзікава—1 (тс), Латыгава—4 (тс), Машчоны—2 (тс), Мігуліна—1 (тс), Нямойта—2 (тс), Пустынкі—4 (тс), Расьнянская вол.—2 (тс), Рубеж—1 (тс), Сапегі—1 (тс), Сьлідцы—1 (тс), Сукрэмка—1 (тс), Сорыца—1 (тс), Тамашонкі—1 (тс),

Тухінка—2 (тс), Тыльцы—1 (тс), Цюцькі—5 (тс), Ульянавічы—2 (тс), Ульянавіцкая воласьць—1 (тс), Чарэя—2 (тс), Чарнагосьце—1 (тс), Сянно—10 (тс), Апарчонкі—1 (Романов, Б. С. IV), Аўсішча—1 (тс), Зароўе—1 (тс). Какоўшчынская вол.—1 (тс), Лісічына—1 (тс), Машканы—1 (тс), Машчоны—1 (тс), Меліхава—1 (тс), Мосар—1 (тс), Пустынская вол.—1 (тс), Расьнянская вол.—13 (тс), Сьлідцы—1 (тс), Цюцькі—1 (тс), Сянно—9 (тс), Чарэя—1 (тс), Чарэйская вол.—1 (тс), Ульянаўская воласьць 2 (тс), Шарнева—1 (тс), Абчуга—2 (Романов, Б. С. VI), Петрашы—2 (тс), Машканы—1 (тс), Расьнянская вол.—1 (тс), Стаўбцы—1 (тс), Чудзькі—2 (тс).

Некатарыя беларускія апавяданьні Вітабшчыны ў літаратурнай апрацоўцы знаходзяцца ў Баршчэўскага: „Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach“. Частка з іх перакладзена на беларускую мову ў 1917 г. у Вільні, перакладзены і выданы Станкевічам: „Начэпнасьць“ і „Чорнакніжнік зьмея, што выйшлі з пятушынага яйца“, ў 1922 г. Лёсікам перакладзена легенда: „Ваўкалак“ („Адраджэньне“ № 1).

Працоўку народных апавяданьняў падае Пшчолка: „Сотворение мира“. Витебск. 1910.

Гл. легенды аб вычэрпваньні мора („Витебские Губ. Вед.“ 1889, № 63). Аб казачніках Вяліжскага павету гл. у маей брашуры: „Сведения по собиранию устного народного творчества на Белоруссии. Вялиж. 1919 (увага на стар. 13).

## XV. Духоўныя вершы.

### *Тэксты.*

Аршанскі п.: без адзначаньня м. з.—1 (Шейн, М. II), Дуброўна—4 (Безсонов, К. П, III, с. 682, 759; IV, с. 108; VI, с. 258).

Вітабскі п.: без адзначаньня м. з.—4 (Шейн, Б. П).,—2 (Романов, Б. С., V), Васькавічы—2, (Шейн, М. II), Каралеўская вол.—1 (тс), Мадзеліна—1 (тс), Вітабск—1 (Шейн, Б. П.).

Вяліжскі п.: без адзначаньня м. з.—5 (Романов, Б. С. V). Будніца—3 (тс), Вяліж—20 (Шейн, Б. П.).

Гарадоцкі п.: без адзначаньня м. з.—3 (Романов, Б. С. V), —6 (Шейн, Б. П.), Валатоўкі—1 (Романов, Б. С. V), Дубокрай—1 (тс), Дубокрайская вол.—1 (тс), Казьянская вол.—2 (тс), Мішнеціцкая вол.—2 (тс), Мішневіцы—2 (тс), Вадім. вол.—2 (тс), Хвошна—1 (тс).

Лепальскі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Шейн, Б. П.).

Полацкі п.: без адзначаньня м. з.—2 (Шейн М. I.I).

Себежскі п.: без адзначаньня м. з.—7 (Шейн, М. I.I), Кісель—3 (тс),

Сененскі п.: Бобрская вол.—1 (Шейн, М I.I), Лукомль—1 (Романов, Б. Б. V), Сянно—1 (тс), Хальневічы—1 (Романов, Б. Б. II).

1 духоўны верш зьмешчан Пшчолкай у яго нарысе: Займожанский кирмаш („Витебские Губернские Ведомости“, 1898, № 9-10).

### *Звычаі.*

У Шэйна (Б. П.) знаходзяцца некатарыя ўвагі датычна ўжываньня на Лепальшчыне (Чашнікі, Бешанковічы) песьняў рэлігійнага зьместу; у той

самай працы Шэйна гл. матэр'ялы аб зьяўленьні на Вітабшчыне вершу: „Пречистая Дева мати русского краю".

Аб жабраках сьпяваках духоўных вершаў гл. працу Нікіфароўскага: О. В. Б.; матэр'ялы ўзяты ў Вітабскім павеце (Вымна, Веляшковічы, Кармаліты, Котава, Тадуліна, Янавічы), Полацкім павеце (Сіроціна, Махорова), Дрысенскім павеце (Боркавічы) і іншых месцах Вітабшчыны; ў гэтай жа працы аўтор дадае 4 духоўныя вершы.

Аб рэлігійных настроях сялян Вітабшчыны некатарыя матэр'ялы знаходзім у такіх працах: *М. М.* Девятник (Витебские Губ. Вед., 1905, № 164—168); Любимов П. Панихидное пение старцев (Живая старина, 1908, IV)—нарыс мае матэр'ялы Полацкага і Парэцкага паветаў: (Пщелко А В.) Деревенские праздники (Витебские Губ Вед., 1904, № 165); А. Пщелко, Белорусские праздники (Минское Слово, 1912, № 1549—1578); В. Покровский, Религия нашего простого народа (Полоцкие Епархиальные Ведомости, 1908, № 44); Е. К. (Епископ Кирион), Дополнения к Санаксарским этюдам (тс., 1916, № 12), мае датычэньне да Боркавіч Дрысенскага павету; Миссионер, язычество в епархии (тс., 1903, № 6), мае датычэньне да Гарадоцкаго павету; адказ: В Б. Письмо в редакцию (тс., 1903, № 8); А. Кисель, (Жеробычская „Пятинка" (тс), 1904, № 19), нарыс мае датычэньне да Вітабскага п. сяла Жарабыч; Никифоровский,, Освященные предметы и отношение к ним простонародья Витебской Белоруссии". Витебск, 1903; „Бажніца сваей работы" з Вітабшчыны ў А. Смоліча ў „Географіі Беларусі", Вільня 1919; тое самае і ў выданьні 1922 г.; Ал. Шлюбскі, Бядуля, як этнограф („Полымя", 1925 г. № 2).

Есьць ведамкі, што ксёндз Сенчыкоўскі пакінуў рукапіс: „Белорусские песни, употребляемые во время крестных ходов и процессій в Витебской, Могилевской, Минской и отчасти в Гродненской губерніях". Рукапіс нібы захоўваецца ў Ленінградзкай Публічнай бібліатэцы (Жиркевич, А., Из-за русского языка, ч. 1. бал. 331-352).

---

RITUS.

# ПАМЯЦІ ДВОХ НАПОЎЗАБЫТЫХ КРЫВІЧАНСКІХ ГУМАНІСТАЎ.

Справядліва падкрэсьляецца ў крывічанскай пісьменнасьці аграмаднае значэньне Францішa Скарыны ў гісторыі крывічанскай культуры. Значэньне яго так вялікае, што няможа быць перавялічана. Але, мне здаецца, што нашы пісьменнікі і вучоныя, справядліва ацэніваючы значэньне Скарыны, несправядлівы да другіх вялікіх крывічанскіх культурных дзеячоў: я гавару аб брацьцях Сьцяпане і Лаўрыне Кукель.

Ня маючы пад рукамі патрэбных матэр'ялаў, у мяне няма магчымасьці паставіць сабе заданьнем даць у гэтым артыкуле больш або менш поўную характэрыстыку нашых двох вялікіх крывічанскіх вучоных XVI ст.

Я хацеў-бы толькі зьвярнуць увагу на некатарыя моманты якія варункуюць дзейнасьць братоў Кукялёў.

Лаўрын і Сьцяпан Кукялі жылі ў той вялікі час, калі валва гуманізму дакацілася да ўсходнай Эўропы. Што такое гуманізм? Гуманізм, гэта наву-

ковае праяўленьне эпохі адраджэньня навук і мастацтва, эпоха каторая ў сьветавой гісторыі азначаецца французкім імем „Renaissance“. Гэта эпоха, ёсьць рэакція на аднабокасьць і абмежанасьць духоўнага жыцьця заходнай Эўропы ў сярэднія векі. Тагочасныя паступоўцы паставілі сабе вялікае заданьне: ідэалізаваць клясычнае жыцьцё грэкаў і рымлян і дапасаваць яго да сваіх часаў—у літэратуры, палітыцы і соціяльных стасунках.

Гуманізм радзіўся ў XVI ст. ў Італіі і адтуль пачаў пашырацца на захад і поўнач у XV ст., а ў XVI стагодзьдзі і на ўсход. Як гэта не парадаксальна, але найбольшыя свае перамогі сьвяткаваў гуманізм не на сваей бацькаўшчыне, не ў Італіі, а на чужыне ў Францііі Нямеччыне. Рэформацкі рух, гэта ідэя гуманізму.

Носьбітамі гуманізму ў крывічанскіх землях былі Лаўрын і Сьцяпан Кукялі. Тое параўнаўча нямногае, што нам ведама аб жыцьці і дзейнасьці гэтых вялікіх крывічанскіх працаўнікоў, годнае таго каб сказаць: Лаўрын і Сьцяпан Кукялі былі захопленыя і перакананыя вучні гуманізму. Яны паставілі сабе заданьнем быць носьбітамі гуманізму на сваей бацькаўшчыне.

Што гэты два вялікія крывічанскія дзеячы былі запраўды захопленыя вучні гуманізму, аб гэтым сьведчыць адзін, на першы погляд не важны, але ўзапраўднасьці вельмі характэрны факт: Сьцяпан і Лаўрын Кукялі пераклалі свае прозьвішчы на грэцкую мову і сталі называцца Зызані. Гэтым фактам нашы два вялікія пабратымы давялі, што яны былі праўдзівыя сыны гуманітарнага руху.

Гуманісты былі фанатыкамі свайго руху. І як заўсёды фанатыкі былі, ёсьць і будуць аднастароннымі ў сваіх помыслах; так і гуманісты фанатыкі даходзілі да сьмешнага: яны, хочучы быць „грэкамі і рымлянамі“ ва ўсім, пачалі стыдацца сваіх народных назоў і сталі перабляць іх на грэцкія і рымскія. Гэта рабілі гуманісты ўсіх краёў і народаў: ангельскія, французкія, нямецкія, польскія і, як мы бачым,—крывічанскія. Першы памочнік Лютара, стаўшы гуманістам, перарабіў сваю нямецкую назову Schwarzort на грэцкае Мэланхтон, пад якім ён і вядомы ў сьветавой пісьменнасьці. Вядомы польскі пісьменнік Клёновіч, пазьней, ў XVI ст. стаўшы гуманістам, перарабіў сваё польскае найменьне на лацінскае Acernus. З немца Кауфмана зрабіўся Mercator, а крывічанскія Кукялі пераніцаваліся ў „грэкаў“,— Зызаніх *). Хто ў XVI ст. перарабляў сваё найменьне на грэцкае або рымскае, той хацеў гэтым сказаць: „я стаўся з гэтага часу гуманістам і пасьвячаю ўсе мае сілы гуманізму“.

Пазьней гуманізм і яго родная дачка—рэформація разышліся, часта нават былі сабе ворважымі і вялі ўнутраннае змаганьне. Але спачатку гуманізм і рэформація ішлі рука ў руку. Так што хто станавіўся гуманістам, ў большай або меншай меры ён аддаваўся і рэформацкаму царкоўнаму руху, дзеля таго, што гуманізм быў першапачатна ня што іншае як пратэст супроць схолястыкі і яе панаваньня ў царкоўным жыцьці.

Гісторыя фактычна зложылася так, што можна было быць староннікам царкоўнай рэформаціі ня будучы гуманістам—прыклад гэтаму сам Лютар,— але нельга было быць гуманістам, не падтрымліваючы рэформаціі ў рэлігійным жыцьці.

Прыкладам гэтага і служаць нашы два вялікія пабратымы—Лаўрын і Сьцяпан Кукялі. Аддаўшыся ўсей душой гуманістычнаму руху, брацьці Кукялі павіны былі, рана або позна, ў тэй або іншай форме, заняць пазыцію,

*) У часы Зызаніх, віленскі бурмістр—Круглы перамянаваўся ў рымляніна Ротундуса.

воражую да тагочаснай афіціяльнай царквы, будзь яна каталіцкая, уніяцкая праваслаўная. Браты Кукялі, як праўдзівыя гуманісты ў стасунку да тады панаваўшага царкоўнага жыцьця на крывічанскіх землях, павінны былі апраўдаць словы гетаўскага Мэфістофаля „Ich bin der Geist, der stets verneint“.

Гісторыя братоў Кукялёў яшчэ не напісана. Нашы вялікія пабратымы чакаюць яшчэ на свайго біографа. Што гэта гісторыя будзе каштоўным даткам у агульна-крывічанскую гісторыю, гэта безумоўна. Будучы гісторык крывічанскага народу павінен будзе асабліва сумленна даць нам адповедзь на гэткія пытаньні: ці крывічанскі гуманітарны рух быў безпасярэднай галіной Заходна-Эўропэйскага, ці гэты рух быў толькі рэфлексам польскага гуманізму? Калі крывічанскі гуманітарны рух імпартаваны безпасярэдна з Заходнай Эўропы, то як вытлумачыць гэта? Мы ведаем, што французкі гуманізм гэта прадукт інтэлектуальнага ўплыву італьянцаў на французаў, які стаўся ў часы паходаў Карла XIII і Людовіка XII ў Італію, падобна таму як 350 гадоў пазьней ідэі расійскіх дзекабрыстаў радзіліся ў галовах расійскіх афіцэраў, пасьля заняцьця ў 1814 годзе Франціі і яе сталіцы Парыжа, дзе кожды камень і кождая цаля зямлі былі сьведкамі вялікай французкай рэволюціі.

Далей. Куды-бы не пранікаў гуманізм, ён аказваў самы глыбокі ўплыў на літэратуру і радзіў плеяду паэтаў, пісьменнікаў, мысьліцеляў і вучоных, У Франціі гуманізм радзіў Кальвіна і яго несьмяротны твор L'Institution chrétienne“. Паводле сьведчаньня Нізара „гэта першы запраўды вялікі твор французкой літэратуры“. Вучэнь Кальвіна Бэз ідзе тропам свайго вучыцеля і пакідае ў французкай літэратуры глыбокі сьлед. Пасьля ідуць несьмяротные Раблэ, Монтэнь, Ронсар.

Масковія і маскоўскі народ былі ў часе гуманізму аддзелены ад Заходнай Эўропы кітайскай сьцяной. Дзеля гэтага саўсім натуральна, што гуманізм ня меў ніякага ўплыву ня маскалёў і іх духовае жыцьцё. Але мы маем права ад будучага крывічанскага гісторыка, каб ён яўна і акрэсьленна даў адповедзь крывічанскаму народу на гэткія пытаньні: ці пакінулі браты Кукялі якія колечы сьляды сваей працы ў духовым жыцьці народу? Калі пакінулі сьляды, то абавязкова трэба паказаць гэты сьляды. Калі-ж праца братоў Кукялёў прайшла для іх народу бязсьледна, то паказаць чаму?

Выясьніць усе гэты пытаньні, знача ня толькі выбразіць духовае жыцьцё крывічанскага народу у XVI ст., але і паставіць нашым вялікім пабратымам, братом Кукялём помнік, на які гэты два сьветачы гуманізму ў Усходнай Эўропе маюць бязспрэчнае права.

## ДВА ДАКУМАНТЫ ДАТЫКАЮЧЫЯ БРАТОЎ КУКЯЛЕЎ-ЗЫЗАНІХ.

Абодвы ніжэйпрыведзеныя дакуманты паходзяць з царкоўнага архіву віленскай Сьвятатроецкай царквы. Пасьля адступленьня немцаў архіў, з царкоўнымі дакумантамі, які знаходзіўся ў шафе на хорах, быў апячатаны прадстаўніком польскай акупаціі Вацлавам Студніцкім. Дзеля таго, што цанней-шыя дакуманты палякі вывозілі з Вільні ў Варшаву і Кракаў, ніжэйпадпісаны, разам з быўшым у тыя часы віцэ-старшынёй Беларускай Рады, М. Кахановічам, выбралі царкоўны архіў і зложылі ў другое мейсца. Перабіраючы, пры пераносцы, дакуманты, я знайшоў між імі два ніжэйпрыведзеныя, датыкаючыя братоў Кукялёў-Зызаных, якія ўзяўшы к сабе скопьёваў; другі з іх я вярнуў у архіў, а першы, з незалежных ад меня прычын, астаўся нязьвернутым і ў даны момант знаходзіцца ў маіх сабраньнях. В. Л.

I. Жикгимо(нт) трети бо(жо)ю млтью коро(ль) по(ль)ски велики кня(зь) ли(тов)ски руски пруски жомойтъски мазовецки И иных.

Земянину н(а)шому миколаю комоӏоровскому Жаловалъ намъ бояри(н) н(а)шъ повету троцкого велебны лаврен куколь рекомы зызани отомъ што(ж) дей ты Миколай Коморовски року прошло(го) девятьдесят друг(го) мца мая осмого дня приславши служебника своего ива(на) доместа н(а)ш(го) мереча дня торгового иросказалъ ему по(и)мавши его вместе н(а)шомъ меречъскомъ довезанья его осадить. Яко(ж) дей тот служебникъ твой ива(н) чинечи досыть росказанью твоему по(и)мавшы его вместе н(а)шомъ меречъскомъ итамже дей вдворе н(а)шомъ меречъскомъ вказнь его осадилъ вкоторомъ дей везеньи держалъ еси его два дни али(ж) дей нарукоемъство некоторы(х) люде(й) добърыхъ его еси выпустилъ вчомъ онъ собе оттебе жаль легъкость и кривду немалую быти менить где(ж) онъ нехотечи тобе того мо(л)чати перво сего листы нашими позовными нароки судовые теперешние отна(с) зложоные впосте велико(м) вроку нинешнемъ девятьдеся(т) третьи(м) тебе куправу пере(д)насъ позывалъ которую мы справу вашу несу(д) воеводы троцкого . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

преложили где(ж) нароку позваномъ тое справы онъ пере(д)ними ...иленъ былъ. А ты як самъ стати такъ тежъ иникого змоцъю своею ему куотказу отсебе прислати ивто(м) ся знимъ розправити нехоте(л). Мы заховываю(чы) втомъ сторону жалобную во(д)лугъ обычаю права посполитого Истатуту зе(м)ского послали есмо потебе децкимъ дворянина н(а)шого юрья мочулевича ироска- зали есмо ему тебе пере(д)нами поставити. Икоторы рокъ куправу стати оттого дворанина н(а)шого тобе зложон будеть приказуем тобе ажбы еси натотъ рокъ пере(д)нами авнебытности н(а)шо(й) втутошнемъ па(н)стве н(а)шо(м) великомъ кня(з)стве литовском ино передъ паны радами нашеми ихъ млтью куправу сга(л) ивтомся ему подле по(з)вовъ его усправедливилъ. Писа(н) увилни лет бож нарож *аф*....мц ма(р)ца *к* дня.

II. Выпи(с) з книг враду справъ духовныхъ виленскихъ.

Лета божего нароженья тысяча пятьсот деветдесят девятого месеца октебра семого дня.

Присылали домене свещенноерея Иоанка Парфеновича протопопы и наместника виленского от его милости вбозе велебного ипреосвященного архиепископа митрополита киевского и галицкого и всея руси Кир Михайла Рагозы змерлого насправы духовные высажоного ихмилость панове бурмистры ирадцы илавники места виленского сторона руская сполбратю свою пана илю исаковича ипана григора федоровича радец иписара своего руского, оповедаючы то иж яко дей итвоей милости самому отче протопопа

ведомо же стефан Кукол безпозволеня ибезведома всих нас бурмистров радец илавников руское стороны вшол вмонастыр виленски светое троицы своволне идотого часу выйти знего проч нехочетъ недбаючи нато же его частокрот сами ипоступом правным змонастыря высылаем. Ижодали мене абых тое ихъ осветчене докниг справ духовных принявши им сних дати выпису неборонил якож и я протопопа ач ипервый того ведаючи тосам добре же тотъ стефан кукол безведомости ибезпозволеня панов бурмистров ирадец стороны руское вмонастыр вшол, Але на болшую веру исведецтво ещем идня сегоднешнего вышеи вдате менованого посылал до стефана куколя священниковъ соборных отца леонтія воскре... Иотца омеляна роского пы(тати) того стефана куколя зачиим (б)ы позволенемъ тамъ вманас(тыр) (вшол) ивнем мешкает. А он стефан так им священником звышменованым отказал же деи я незаведомостю бурмистров и радец але заведомостю ипозволенем отца иосифа архимандрита троецкого вмонастыр тотъ вшол изаего благословенством казани вцеркви кажу инепоиду дей змонастыра жадным способомъ, которых сознанем тыхъ преречоных священников будучи я упевненый тое оповедане посветчное панов бурмистров ирадец стороны нашое руское докниг враду духовного вписати позволил С которых исес выпис змоею печатью исподписом руки моее власное паном бурмистром сторонеруской ирадцом ест выдан. Писан увилни.

В. ЛАСТОЎСКІ.

# У СПРАВЕ РЭФОРМЫ КІРЫЛАЎСКАЕ АЗБУКІ.

Рэвізія ўжыванай у нашай пісьменнасьці кірылаўскай азбукі, безумоўна справа ўжо даўно насьпеўшая.

Абасьпечаньне літэратурнай мове варункаў здаровага разьвіцьця ў значнай меры залежыць ад добрага дапасаваньня пісьменных знакаў да гукаў жывой мовы і ўстаноўленьня, згоднага з фонэтыкай і гісторыяй, правапісма. Ад гэтых двох аснаўных момантаў залежыць найважнейшае ўжыцьці мовы, а ласьне—магчымасьць дасканаліцца ей у кірунку стройнасьці і мілагучнасьці.

Людзкая мова ёсьць явішча ня толькі анатомічна-фізычнае, але такжа —*духовае, псыхічнае*. Гук з пункту гледжаньня фізыкі і з пункту гледжаньня граматыкі—гэта дзьве саусім рожныя справы.

Гук людзкой мовы перадаецца на пісьме прынятымі знакамі—літарамі. Літары ў свой чарод маюць дзьве стараны—зьнешную і ўнутранную. Зьнешная—гэта іх форма (фігура), ўнутранная старана пісьменных знакаў, гэта іх стылізацыя і гісторыя. Як зьнешная так і ўнутранная староны літар маюць зьвязь з псыхікай чытача.

Паложаная ў аснову крывічанскай (беларускай) пісьменнасьці кірылаўская азбука ў яе „гражданскай“, ці больш правільна рэнэсансавай стылізацыі,—пры рэформе, а не рэволюціі, не вымагае замены на якую колечы іншую (скажам лацінскую) азбуку. Пераход безмала тысячалетняй крывічанскай пісьменнасьці на другую азбуку, гэта „царскае сячэньне“ на якое можна наражаць толькі хворы аб'ект, калі ён знаходзіцца паміж жыцьцём і сьмерцю. Здаровы арганізм нашай адраджаючайся пісьменнасьці няможна наражаць на непатрэбную яму „опэрацію“, бо гэта аслабіла-бы малады і поўны энэргіч-

нага разросту арганізм, прывяло-бы яго да немінучага цяжкога занепаду і да неаблічальных у скутках комплікацій.

Затое, як вышэй было сказана, рэвізія кірылаўскай азбукі, дзеля лепшага яе дапасаваньня да гукаў жывой мовы і новачаснай пісьменнасьці, ёсьць адно з найпільнейшых бягучых заданьняў нашага мовазнаўства. Маладая ростка з тысячалетняга пня сільна і здарова буяе, але вымагае ад навукі, як ад добрага садоўніка, каб апошняя выправіла і афармавала каронку, каб у будучыне дрэва расло ня толькі магутна але і стройна.

Кождая літара зьяўляецца *умоўным* знакам для перадачы гуку жывой мовы; яна, бяручы фізычна, не перадае і ня можа перадаць усіх адценкаў і вібрацій голасу пры зьменах, якія наступаюць калі мы вымаўляем словы; пісомы знак, на мове граматыкі, *гэта толькі прадстаўленьне аб даным гуку, або групе жывых гукаў*. Напісаны намі, прыкладам, знак „а“ служыць для абазначаньня цэлай гаммы блізкіх яму гукаў а$^{о}$, а$^{е}$, а$^{ё}$, а$^{і}$, а$^{ы}$.

Такі самы характар маюць і ўсе іншыя галосныя літары. Прыкладам мы ўжываем цяпер для абазначаньня „ітавых“ гукаў тры літары: *і, й, ы*; і гэта не знача, што паказанымі трымя знакамі вычэрпуецца ўся гамма „ітавых“ гукаў якія маюцца ў нашай мове: для аднаго ўмоўнага „і“, каб вычарпаць усе яго адценкі ў жывой мове патрэба былобы 6-7 знакаў.

Гісторыя разьвіцьця пісьменнасьці паказуе нам, што ў першапачатным герогліфічным пісьме ўжывалася надта многа, цэлыя тысячы знакаў. Гукавое пісьмо, зьменшыўшы лік знакаў, патрэбных для перадачы паняцьцяў, а гэтым самым аблягчыўшы граматнасьць, лёгка выціснула гэрогліфічнае пісьмо. У меру поступу цывілізацыі тэхніка пісьма дасканалілася, і, разам з гэтым, лік літар стала памяншаўся ва ўсіх азбуках. Прыкладам, старославянскае пісьмо патрэбавала больш літар чым „гражданка“, а гражданка, ў свой чарод, імкнецца да рэдукаваньня ўжываных ею знакаў. Чым меншая азбука тым лягчэй навучыцца пісаць і меш завілай становіцца граматыка.

З паміж знакаў нашай азбукі ў першы чарод павінна быць перарэформавана група галосных літар. Гэтых літар цяпер маецца дванадцаць: *а, о, у, ў, е,* ё, *э, і, й, ы, ю, я*; падзяляюцца яны на цьвёрдыя (*а, э, ы, о, у*), мяккія (*я, е,* ё, *ю, і*) і поўгалосныя (*й,* ў). Цьвёрдыя галосныя (акром замены *э* на *е*) ніякай перапраўкі не патрабуюць; „мяккія“—ж, якія распадаюцца на тры группы „ітавых“ (і, ы), „іотаваных“ (я, е, ё, ю), а такжа „кароткіх“ (й, ў), павінны быць перагледжаны. Найперш затрымаем мы сваю ўвагу на т. зв. „іотаваных“.

Группа „іотаваных“ знакаў зьяўляецца ў нас такім самым перажыткам, як у расійскай азбуцы, да нядаўна яшчэ, былі *ѣ, ъ,* а раней *ѳ, ѵ* і каторыя саўсім слушна цяпер выкінуты з азбукі. Ад нестачы павыжшых знакаў расійская азбука і пісьменнасьць ня толькі нічога не страцілі, але значна выйгралі. У нашай азбуцы „іотаваныя“ знакі непатрэбны баляст, які перашкаджае ў навуцы пісьма і нагрaмаджае лішнія труднасьці ў правопісьме; ў дадатку тушуе фонэтыку жывой мовы, а ласьне галосныя дыфтонгі.

Ва ўсіх старaславянскіх рукапісах, на мейсцы *я, ю, е* мы знаходзім Ꙗ, Ю, Ѥ, г. зн. падвойныя літары, злучаныя, зьвязаныя паміж сабой тоненькай рыскай, а ёсьць некатарыя рукапісы XII-XIII ст., дзе „і“ нават рыскай не прылучана да чародных *а, о, е*. На гэтай падставе вядомы нямецкі славіст, праф. Абіхт, утрымліваў, што першавучыцялі славянскія Кірыл і Міфод, у зложанай імі славянскай азбуцы, не ўстанавілі вязаных літар, што вязаныя славянскія літары ёсьць вытвар не граматыкаў, а, галоўна, перапісчыкаў кніг, каліграфаў, каторыя любілі вязаць літары імкнучыся да аздоб-

насьці пісьма. Перапісчыкі вязалі ў адну фігуру ня толькі часта побач сустрачаныя „іотаваныя“, але такжа і другія літары, прыкладам: *ть, тъ* і інш.

Рукапісная славянская кніга наражана была на ўсякія каліграфічныя экспэрымэнты шэсьць стагодзьдзяў да першадрукаў. Першыя кірылаўскія друкі паяўляюцца ў канцы XV ст., але друкарства запраўды пачало конкураваць з рукапіснай кірылаўскай кнігай толькі пад канец XVI ст., дый то сьпярша ледзь займаючы віднае мейсца побач ручнога перапісываньня; апошняе саўсім замерла ў нас толькі ў другой палавіне XIX ст., Перапісчыкі на працягу тысячалецьця мелі сьпярша выключна, а пазьней паўзьбежна з друкамі, шырокае поле для сваей стылізатарскай і каліграфскай прадукцыі, нямаючай нічога супольнага з ніякай фонэтыкай. Першапачатны выразны бізантыцкі стыль „устаў“, каторы быў прыняты ў аснову кірылаўскіх літар, падлягае грунтоўным пераменам у часе рэнэсансу, чаму могуць быць прыкладам прыгожыя скарынаўскія літары. Яшчэ большыя зьмены ў іх стылізацыі наступаюць пад уплывам стылю барокко, пры якім паяўляецца ўжо завілая, выкрутасная скарапісь. У гэтым чарадаваньні стыляў і была зацерта першапачатная яснасьць складовых часьцей „іотаваных“ літар, у якіх саўсім яўнае і выразнае „*і*“ мала памалу становіцца „скрытым“.

Літара „*і*“ перад *а, о, е, у* ва ўсякай кірылаўскай азбуцы мае заданьне мякчыць наступаючыя пасьля яе галосныя гукі гэтак: *і+а=я, і+э=е, і+о =ё, і+у=ю.* Калі цяпер мы пішам і вымаўляем „іотаваны“ гук, мы, дзякуючы затрачанай фігуры іх складовых часьцей, забываем, што гэтыя „мяккія“ галосныя не з прыроды сваей такія, а зьмякчоныя *а, о, у, е* пры помачы скрытага ў іх стылістамі і рэформатарамі знаку „*і*“. Такое скрытае „*і*“ ў „іотаваных“ зьяўляецца вялікай абузай пры навучаньні граматыкі (прыклад дае Я. Лёсік: „У справе рэформы нашае азбукі“ бал. 8). А галоўна тое, што знакі са скрытым, стушаваным „*і*“ не падыходзяць да жывой мовы, бо ў нас на мейсцы *я, ю, е,* ё істнуюць дыфтонгі, каторыя пры пісаньні адным вязаным знакам заціраюцца. Кажуць: *мі͡ера, ві͡ера, лі͡епі͡ей, лі͡удзі, сьві͡едкі, пі͡ершы мі͡арлі͡ец, ві͡арзі͡е, лі͡евы, лі͡он, і͡он, клі͡он, ві͡еці͡ар,* і дзеля гэтага тут павіна стаяць яўна выдзеленае „*і*“ перад *а,* о, *у, е* (=*э*) для мякчэньня гэтых гукаў, і, ў злучнасьці з імі, для адзначаньня вельмі, цэнных для акцэнтацыі мовы, дыфтонтаў.

Знак „*і*“ зьмякчае ня толькі галосныя, але такжа і зычныя; гэта бывае ва ўсіх тых здарэньнях калі зычныя стаяць перад „*і*“, прыкладам: *віджу, пішу, піва, ліст, кірую, бірка, мігаю, зіма, кінь фігура, хіба.*

Гук „*і*“ мае і яшчэ адну цікавую асобнасьць, свомую і другім галосным (а ласьне гуку „*у*“), што *калі ён стаіць пасьля галоснага, то заўсёды вымаўляецца коратка,* г. зн. асымілюецца, зьліваецца з папяраджаючым яго галосным гукам, творыць дыфтонг, прыкладам: *ваіна, прыішоў, гоікае, леіка, дыі, моі, крыі, твоі, даі, своі, гаі, віія, веікі, міеісца;* таксама і гук „*у*“ стоючы пасьля галоснага гуку асымілюецца з папяраджаючым яго галосным: *меў, вёў, хадзіў, хаўтуры, воўк, мовіў.* Гэта асобнасьць галосных „*і*“ і „*у*“, іх здольнасьць асыміліавацца пасьля галоснай, распашыраецца такжа і на злучы, бо мы гаворучы не адрываем востра адно слова ад другога, як то робяць прыкл. ангельцы або немцы, але лучым іх з сабой; нашы органы мовы, канчаючы гук сказаннага ўжо слова, гатуюцца вымавіць наступны гук і то найлягчэйшым для сябе спосабам: чарадуючы, згодна законам рытмікі, пасьля доўгіх кароткія гукі. Гэта ёсьць жалезны, нязьменны закон нашай мовы і дзеля гэтага ні для асымілятыўнага „*у*“, ні для асымілятыўнага „*і*“ ў нашай

азбуцы непатрэбны ніякія асобныя знакі. Яны такімі самі сабой робяцца калі стаяць пасьля галоснай.

Гўк „*і*“ асымілюецца з наступнай галоснай у пачатку слоў: *іакі, іон, іама, іемієнны.* Тут дзействуе той-жа закон што і вышэй.

Калі мы дагэтуль прызнавалі патрэбным мецъ скрытае „*і*“ ў—*я, ю, е,* ё для мякчэньня галосных і папярадджаючых зычных: *мяне, цябе, людзі, левы, клён,* а такжа ўжывалі „*і*“ для мякчэньня зычных (*ніва, кіну, зіма*), то, знача, ў нас даўно ўжо вырашана пытаньне, як і прыпомачы якіх знакаў, мякчацца зычныя. Яшчэ славянскія першавучыцялі устанавілі мудрае і простае правіла, якое кажа, што: *ўсякая зычная перад „і“ вымаўляецца мякка, а калі мяккая зычная стаіць перад цьвёрдам гукам, то мякчэньне яе адбываецца пры помачы мяккога знаку* (ь).

У першы чарод, у вініку сказаннага, ў нашай азбуцы павінны быць выкінуты „іотаванныя“ літары *ю, я, е,* ё, а такжа і літара *э*, бо кождае „*е*“ бяз „*і*“ чытаецца цьвёрда. Замест *ю* будземо пісаць—*іу*, замест *я*—*іа*, замест ё—*іо* і замест *э*—*е*.

Адваротнае „*э*“ паявілася ў беларускай пісьменнасьці даўно. Мы яго знаходзім ужо ў сьпісках Кронікі в. кн. Літоўскага і ў некатарых дакумантах XVI ст. Мне здаецца, што паяўленьне адваротнага „*э*“ трэба тлумацычь простай нястачай палеографічнай веды ў тварцоў гэтага новага знаку. У першапачатнай кірылаўскай азбуцы знак „*е*“ азначау цьвёрды гук; мяккім ён станавіўся толькі тады, калі да яго пристаўлялі „*ı*“ (Ѥ). Грам. Лёсік проектуе замест знаку *е* увясьці „є“. Між гэтымі двумя знакамі ніякай рожніцы няма; абодвы яны аднзначны і ўжываньне таго або другога, на мейсцы цяперашнага „адваротнага“ „*э*“ зьяўляецца адкрытым пытаньнем, якое, думаю, не сустрэне ніякіх перашкод для рэалізації яго.

У другі чарод трэба выкінуць ў („кароткае“) і „й“ („кароткае“). Азбуку трэба скарачаць, а не расшыраць новымі дадаткамі.

Для кождай азбукі вялікая небасьпека яе знестылізація, бо пісаны знак мае ўплыў ня толькі на орган зроку, але і на псыхіку, дзействуе на нашае пачуцьцё эстэтыкі. Калі-бы мы, награмаджаючы лішнія знакі, ўвялі ў кірылаўскую азбуку лацінскае „j“, гэтым, апрача яе непатрэбнасьці, былабы нарушана яшчэ аднацэльнасьць композыцыі кірылаўскіх літар, што сьвядома ці падсьвядома, заўсёды непакоіла-бы і дражніла чытача сваей дысгармоніяй. Між іншым украінцы былі раз увёўшы ў сваю азбуку лацінскую іоту. У 1870-1880-х годах друкавалася шмат украінскіх кніжак з лацінскай іотай, але, урэшце-рэшт, выкінулі яны яе, між іншым таму, што паходжаньне іоты (сягаючы праз лацінскую азбуку егіпецкіх герогліфаў) ёсьць фальлічнае, а гэта апошняе было прычынай да ўшчыплівых кпінак з боку яе праціўнікаў.

З ліку зычных найбольш пасьвячаецца ў нас увагі дыфтонгам, зложаным з *д*+*з* і *д*+*ж*. Дыфтонг *д*+*з* у цяперашнім напісаньні бывае *цьвёрды* (*дзын дзогаць, дзурчыць, дзыніць*) і *мяккі* (*дзед, дзеці дзіва, дзядзька*); дыфтонг *д*+*ж* бывает толькі цьвёрды. Дыфтонгі, выражаныя адным знакам, не належаць да практычных помыслаў, як мы гэта і вышэй бачылі на прыкладзе галосных дыфтонгаў (я, е, ю, ё). Праўда, у нас у азбуцы маюцца ўжо два зычныя дыфтонгі, выражаныя адным знакам, гэта „*ц*“, зложана з *т*+*с* і „*ч*“, зложанае з *т*+*ш*.

Дыфтонг, законсэрваваны адным знакам, заўсёды ўносіць непажаданае зацямненьне калі пераносяцца гукі жывой мовы на пісьмо, а апошняе, ў свой чарод, адбіваецца на граматыцы, каторая становіцца, дзякуючы гэтаму,

надзвычайна скомплікаванай. Прыкладам мы пішам: *гаворыцца, пішацца, даецца, бярэцца,* стаўляючы два „цц“ на мейсцы *„тьс“* і *„тс“*, або *дваццаць, пятнаццаць,* стаўляючы „цц“ на мейсцы *дс*, і, ў вініку, наша граматыка няможа нам вытлумачыць чаму *„цццаць“* мы павінны лічыць *скарочаным дзесяць*. Гэтак сама мы не разрожніваем дыфтонгаў „дз“ з „дс“, пішучы: *суседзкі, людзкі, гарадзкі,* або *гарацкі, люцкі.*

Літара „д“, як ведама, перад цьвёрдымі гукамі вымаўляецца цьвёрда (*дата, дом, дуля, дэка, дудкі*) і тое-ж самае „д“ перад „і“ і „ь“ вымаўляецца мякка, але прыгэтым саўсім няма ў нас чыстага мяккога „д“, як прыкладам у расійскай ці лацінскай мове. Характэрная асобнасьць нашай мовы вымагае каб мяккое „д“ прыбірала заўсёды дзынячую тонацію, прыбліжаючуюся да дыфтонгу *„дзь“* (але не тожсамую). Нашае мяккое „д“ ня ёсьць нават дыфтонг а толькі ёсьць гук мяккі, дзынячы, і, дзеля таго, што іншага мяккога „д“ у нас няма, дык няведаю, ці маюць рацію тыя, каторыя хочуць увясьці ў азбуку асобны знак для адрожненьня нашага мяккога „д“ ад чужога, ў данным здарэньні, практычна бяручы, для адрожненьня ад маскоўскага мяккога „д“. Мне здаецца тут ёсьць ламаньнеся ў аткрытыя дзьверы: мы хочам тварыць новы знак для адмяжаваньня ад саўсім неістнуючага ў нас гуку. Іначай кажучы, выходным пунктам для дыскусіі над беларускім мяккім „д“ для нас служаць ня гукі нашай мовы, а надварот—гукі і знакі якія маюцца ў суседняй, расійскай мове. Раз двох мяккіх „д“ ў мове няма, а адно, якое маецца, мае сваю характэрную вымову, то гэтай вымовы павінна навучыць граматыка, незалежна ад таго ці гэты гук будзе выражаны тым ці іншым знакам. Дзеля вышэйсказанага ня толькі няма патрэбы для мяккога „д“ уводзіць новы які знак, але нават няма патрэбы выабражаць яго дыфтонгам, пры помачы „дз“, як мы гэга цяцер робім.

Гэтак сама няма патрэбы з дыфтонгаў „дз“ і „дж“ утвараць адналітныя фігуры, а трэба пісаць іх як пісалі дагэтуль, пры помачы двох уходзячых у склад іх знакаў*).

Беларуская (крывічанская) мова здавён-даўна не знала звонкага „г“. Грэцкае і гэбрайскае звонкае „г“ перакладалі глухім „г“; у найдаўнейшых кнігах пісалі: *Галілея, Голгофа, ангел, архистратиг.* У XV ст. чужое звонкае „г“ пачало прыходзіць да нас з жывых моў, галоўна з нямецкай, польскай, але перадусім з лацінскай, якая была выкладовай на зах. эўропэйскіх школах дзе пераважна адуковывалася тагочасная наша моладзь. З гэтай прычыны ў XVI ст. сталася модным адзначаць звонкае „г“, але адзначалі яго дваяка, адным знакам „ґ“ і складным знакам „кг“. Апошняе, па майму, больш рацыянальнае, бо мае падставу ў фонэтыцы жывой мовы, ў якой дужа спэцыфічна гучыць „звонкае“ *„г“*, прыкладам: *кганак, кгузік.* Зрэшта гэтае мяккое „г“ сустрачаецца толькі ў некатарых чужаземных словах, для якіх утварэньне асобнага знаку не зьяўляецца пільнай патрэбай: старасьвецкае зложанае „кг“ знамяніта выпаўняе ўзложаную на іх службу. Урэшце, народная фонэтыка стала імкнецца чужаземнае звонкае „г“ заступіць глухім: цяпер у большасьці здарэньняў кажуць—*ганак, гузік, географія* і г. п.

Наша рэформаваная азбука павінна складацца:

з шасьці галосных (замест 12-ці): *а, о, у, е, і, ы;*

з дзевятнадцаці зычных (замест 23-х): *б, в, г, д, ж, з, к, л, м, н, п, р, с, т, ф, х, ц, ч, ш;*

і мяккога знаку: *ь.*

---

*) З гэткім самым, калі ня большым, правам можна ўвясьці асобныя знакі і для некалькі дзесяткаў іншых зычных дыфтонгаў, як: пс, кс, кр, пр, др, бр і г. п.

„Дзэта“ (не мяккое „*д*“), „джэта“, звонкае „г“ павінны пісацца як і дагэтуль падвойнымі знакамі: *дз, дж, кг.*

Пасьля такой рэформы азбукі, пісоўня будзе выглядаць гэтак:

АПОКРЫФ. Ад Максіма кніжніка пачатак.

Калі скончыласіа сіем тысіач год ад створеньніа сьвіету, Хрыстос ізноу зышоу на зіамліу і хадіу па іоі, каб споуніласіа тоіе, аб чым казалі пракокі.

І хадіу іон па усіаму нашаму краіу: і па Міеншчыніе, і па Віліеншчыніе, і па Магіліеушчыніе і па Задьвінскаі зіамлі.

І разам з ім былі сьвіаты Піатро і сьвіаты Іуры. Аліе ніхто з ліудіеі ніе пазнавау іаго.

Бо ішлі іаны босымі нагамі, з непакрытымі галовамі і былі адіеты у біелы кужаль, а ніе таго спадіавалісіа ліуді.

Таму ніхто не зьвіарнуу увагі на іх, калі у час жніва праходілі іаны між працуіучых ліудіеі.

Толькі музыка катораму ціапіер ніе было што рабіць падышоу да іх і сказау „Сорамна мніе, бо сіагоньніа—діень працы і усіе клапочуцца каліа іаіе; адін іа нікчемны чалавіек“.

І адказау іаму Ісус:, Ніе смуцісіа у серцы сваім. Ціж ніе тваіе песьні сьпіаваіуць іаны ціапіер у час жніва? Таму ніе схіліаі нізка галавы тваіеі, і ніе хаваі твар ад вачеі ліудзкіх.

---

Цэлых безмала тысячу гадоў пісалі і друкавалі знак „и“ (восьмерычнае) для абазначаньня мяккога „ітавога“ гуку. Адраджэнчая наша пісьменнасьць з многіх мяркаваньняў гэты знак замяніла ў азбуцы другім мяккім „ітавым“, а ласьне знакам „і“ (дзесяцірычнае). Добра ці блага зрабілі тады, можна ацэніваць і так і гэтак, але паступілі саўсім лёгічна: ў азбуцы двох мяккіх знакаў для аднаго і тагож гуку ня трэба. Цяпер грам. Я. Лёсік проектуе увясьці ў азбуку чытаньне мяккога „и“ цьвёрда. Пры гэтым ён даводзіць, што „еры“ вытварылася з *і*+*ь*. Такое цьверджаньне пярэчыць палеографіі, якая на тысячах прыкладаў паказуе што „ы“ вытварылася з *і*+*ъ*; дый лёгіка дыктуе, што ня можа з двох мяккіх гукаў зрабіцца цьвёрды гук.

Праўда „и“ (восьмерычнае) ўжываюць замест цьвёрдага „ы“ украінцы; на гэта ў іх была свая важная прычына, бо ў жывой украінскай мове, ў большасьці прыпадкоў, на мейсцы нашага мяккога гуку „і“ (=и) бывае гук цьвёрды: *пишы, написано;* „нашы стары пысменныкы ужывалы цього самого правопысу“. І, вось, паводле праекту Драгаманава ў украінскай пісьменнасьці пачалі пісаць „и“ (восьмерычнае) надаўшы яму, згодна фонэтыцы, характэрную цьвёрдую вымову. Такім чынам было дасьцігнута украінцамі для іх вельмі цэннае, што ўсю царкоўна-славянскую старую пісьменнасьць стала магчымым чытаць украінскай вымовай. Цяпер ужо, ў новым украінскім пакаленьні, пераходзіць у пераконаньне, што ня толькі „цього самого правопису уживали в церковних книгах“, а што такжа, быццам, ужывалі украінскай вымовы ў кроніках і статутах вял. кн. Літоўскага. Ведама-ж гэтае іх „пераконаньне“ не пацьвярджаецца гістарычнай філёлёгіяй, якая кажа выразна, што ў в. кн. Літоўскім пануючай мовай і вымовай была мова і вымова крывічанская (беларуская), а не украінская. Такі глыбокі знавец літары

і слова, як акадэмік Ляпуноў, слушна кажа, што „ы“ павінна быць утрымана ў такім выглядзе ў якім яно прайшло праз гісторыю і я вітаю яго высокакомпэтэнтны осуд у гэтай справе.

---

Да рэформы цяперашняй нашай граматыкі, мушу зазначыць, што вялікім яе адступленьнем ад жывой народнай мовы ёсьць скрайнае аканьне. Дзякуючы скрайнаму аканьню жывая народная мова так сама астаецца непадобнай як да гістарычнай так і да цяперашняй нашай пісоўні.

У народнай мове выразнае „*а*“ сустрачаецца толькі пад націскам; ненаціскное „*а*“, перад „*а*“, ў чародным складзе, заўсёды вымаўляецца глуха, прыбліжаючыся да сярэдняга гуку між „*ъ*“ і „*ы*“: *бырана, гырапашнік, гылава, кызакі, гэтыга, гыра, стырана,* а нават—*стырына.*

Гэтак сама на мейсцы дыфтонгу „іа“(=я), вытваранага са ст.—слав. „е“, перад і пасьля націскных складоў з „*а*“ і „*я*“ заўсёды чуваць сярэдні гук між „ь“ і „і“: *піравоз, сіляне, вірабей,* на *дарозі,* у *хаці, Вілія, вецір, жалім, восімдзісят, сімнадцаць, вірутны.*

Гук „о“ ніколі не бывае чысты ў нашай жывой мове, ён заўсёды вымаўляецца як дыфтонг „уо“: *буог, нуогі, руодны, даруогі, мнуогі, руогі, муожна, руожна, куонь* і г. д.

Раздаюцца галасы за лацінку таму, што лацінкай піша ўвесь Захад Эўропы, што лацінка пранікае і ў Азію; магчыма, прыдзе час, што лацінка будзе сьветавой азбукай. Што-ж, калі ўся тэрыторыя б. Расіі прыйме лацінiку, што не абойдзецца без папярэдніх канфэрэнцій, аб якіх і мы дачуемся, то тады прымем яе і мы. У кождым здарэньні ўводжаньне сягоньня ў нас лацінікі, мо і цікавая вівісэкція, але няхай іншыя пробуюць яе на сабе, а мы лепш пачакаемо і паглядзімо што з гэтага вынікне. У кождым здарэньні спэктатары на гэтым экспэрымэнце больш выйграюць, чым той, хто будзе выконываць ролю опэраванага кроліка.

---

ПАГАШЧАНІН.

# КРЫВІЧАНСКІЯ ДЗЯДЫ.

Не глядзя на шырокі розгалас, які надаў крывічанскаму культу продкаў слаўны наш пабратым Адам Міцкевіч, увёўшы сцэну „дзядоў“ у сваю паэму,—ўсё-такі гэты абрадак належна ня высьветлены ў фольклёрыстычнай пісьменнасьці, і, дзеля гэтага, думаю, што ня будзе лішнім калі да істнуючых ужо апісаньняў дадаць гэты нарысы, пачэрпнутыя з успамінаў двох пакаленьняў, г. зн. з маіх уласных успамінаў і пераказаў чутых мной ад маіх бацькоў, якія, як і іх прадзяды, сяліліся ў дзісенскім павеце.

Год крывіча заключаў у даўныя часы пяць урочыстых сьвят.

1. Красьнік, які абходзіўся 2 лютага. У гэты дзень сучылі сьвечкі, а вечарам, пры сьвятле сьвечак, адбываўся абрад „жанідзьбы коміна“, які бялілі, абвешывалі зеленьню, кідалі ў нанова „выкрэсаны“ і распалены агонь скваркі і косьці ад вячэры.

Слова „красьнік“ мае ў сваей аснове карэнь „крэс“ г. зн. руб, канец. Мы ведаем, што раней, здаецца да 1700 году, год у Масковіі пачынаўся з 1-го марца, магчыма, што ў нас калісь год пачынаўся з Красьніка, г. зн. з

другога лютага, дык тады Красьнік, быў крэсам, канцом або пачаткам году, сьвятам, якое пасьвячалася сонцу.

2. Вялікдзень, паводле агульных прымет, гэтак сама сьвята сонца, але разам з тым і сьвята сяўбы. На апошняе паказуюць два моманты, якія неразлучна зьвязаны з Вялікаднём. Першы, гэта хадзьба „валачоўнікаў", якія, пераходзячы ад хаты да хаты, пяюць „валачобныя" песьні, ў каторых мова аб гадавой працы гаспадара каля зямлі; другі—стаўляньне на стол засеянага ў якой колечы судзіне збожжавай руні.

3. Купальле, сьвята сонца, але адначасна і дзень ачышчэньня. Абрадкі зьвязаныя з Купальлем прыпісывалі ачышчэньне агнём і вадой,—акунацца ў вадзе і пераскаківаць цераз агонь.

4. Каляды, так сама сьвята сонца, але пераважна, сьвята пасьвячонае „каледзі", г. зн. сьцюжы, зіме, калі ўсё кругом мерзьне, калее, замірае.

5. Дзяды, сьвята продкаў, не зьвязанае з сонечным культам, прыпадала на восень, а ласьне на першае лістапада. Дзісенскія крывічы ўрочыста абходзяць двое Дзядоў: веснавыя „Наўскі вялікдзень" і восенныя „Вялікія дзяды". Царква ў мэтах фіскальных падтрымлівала ў народзе культ продкаў, але адначасна старалася заціраць паганскія традыціі заводзячы „памінальныя дні" пасьля кождага важнейшага сьвята. Гэта апошняе парадзіла „Троіцкія дзяды", „Масьляніцкія дзяды" і інш., якія з традыційна-паганскім культам продкаў не зьвязаны. „Наўскі вялікдзень", веснавыя дзяды, пасьвячаюцца толькі „наўцам", г. зн. новапамершым (бацькам, братам, сёстрам, дзецям), а „Вялікія дзяды" пасьвячаюцца цэламу роду, як толькі можа сягнуць памяць людзкая і ў гэтым ёсьць істотная рожніца паміж веснавымі і восенскімі дзядамі.

Даўней восенскія „Вялікія дзяды" абходзілі не паасобнымі семьямі, а родамі. Аб такіх радавых памінках апавядаў мой бацька, за якога яшчэ памяці, ў 1840-х, 1850-х годах, спраўлялі гэткія памінкі ў дзісеншчыне: Вангіны, Сарокі, Шышкі, Рублеўскія, Рымшы, Дзямідовічы і інш. На гэткія „Вялікія Дзяды" зьбіраліся зазвычай у дом найбагацейшай з роду сямьі ўсе ўзрослыя „родзічы" ад найбяднейшага да найбагатшага, кожды са сваімі прыпасамі, і, за агульным сталом, спраўлялі вячэру. Вячэра пачыналася агульнымі малітвамі і сьпевамі за памершых, якія прыпісывала царква. Скончыўшы малітвы, найстарэйшы з роду першы ішоў за стол і запаліўшы абрадовую сьвечку, якая дагэтуль стаяла ўткнутая ў карцы напоўненым збожжам, гаварыў стаючы: „Сьвятыя дзяды, просім за пачэсны стол!" Пасьля гэтага забіралі па старшэнству мейсцы за сталом усе прытым бытныя. Абрадовыя на дзяды стравы—гэта „юшнік", з крыві, вараны з мясам, каўбаса і аладкі. Размова за сталом вялася выключна аб памершых „дзядах" г. зн. продках роду. Пачынаў яе найстаршы ў родзе пасьля першай чаркі, якая ішла ў кругавую, простай заявай, што першага прашчура роду нашага было імя—такое-то, жыў ён там то, вызначаўся тым-то, і г. п. Далей гаварылі аб бліжэйшых продках, аж да апошніх. Пасьля вячэры размова цягнулася да „трэціх пеўняў", апавядаліся прыгоды, характары продкаў, радавыя і зьвязаныя з родам успаміны і легенды.

Падобна павыжшым дробна-шляхэцкім дзядам абходзіліся, „дзяды" і ў сялянскіх родах, толькі з большай прымешкай паганскіх перажыткаў. Гэтак расчынялі наконадні дзядоў хлеб і пяклі яго абавязкова на сухіх лістох; калолі парсюка на дзень „дзядоў", і, ўрэшце, вечар пасьвячаўся гутаркам аб дзеях продкаў.

Побач з гэтым чуў я ў свае дзіцячыя годы пераказы, як ад сваіх бацькоў, так і ад другіх старых людзей, аб іншага роду сьвяткаваньні дзядоў і трагічным іх канцы.

Было гэта ў Рэчках, касьцельным фальварку, які ляжыць на дарозе з Новага-Пагосту ў Гарманавічы, ў вярстах 11-12-ці ад Новага-Пагосту. У гэтых Рэчках была, пад лесам з дрэва пабудаваная, закінутая, каплічка. Здавён-даўна вялося, што ў гэтай каплічцы ў ноч дзядоў зьбіраліся старыя сяляне, прывадзілі з сабой казла, або барана, разнечывалі на сьвінтары агонь, рэзалі казла, варылі яго і ў каплічцы, устраівалі з абрадовымі песьнямі памінальную вячэру. У 1860-х ці 1870-х годах, па ініцыятыве прысланага для русыфікацыі краю Навапагоскага папа, (якога прозьвішча цяпер не паматаю) і гэрманаўскага ксяндза Плушчэўскага, які ў тыя часы дадатковае набажэнства адпраўляў у расійскай мове, а дзеля гэтага знаходзіўся ў вялікай пашане ў адміністрацыі, ў ноч дзядоў была акружана капліца войскам ці паліцыяй і арэштавана да 70-ці чалавек, сьвяткаваўшых там сялян. У выніку было сьледства, суд, і прыгавар суда, які 30-40 чалавек засудзіў на пасяленьне ў Сібір, за „сьвятотатство". Заарэштаваныя сяляне паходзілі з розных акалічных вёсак, і, дзеля гэтага, мне здаецца, што гэта ня было радавое паміналньне дзядоў, што ў аснову гэтага тыпу дзядоў, між іншым узятых тэмай і Адамам Міцкевічам, быў паложаны нейкі іншы абрадовы прынцып.

За маей памяці, ў 1880-х 1890-х годах, ужо ў дзісеншчыне не сьвяткавалі дзядоў родамі, а толькі семьямі. У маей сямьі гэта адбывалася такім парадкам. На конадні дзядоў, з самай раніцы, жанкі прыймаліся за капітальную чыстку хаты і ўсіх гаспадарскіх статкаў. Вечарам уносілі дзяжу, ставілі яе на „крыжох", сярод хаты, пакрывалі чыстым абрусом і садзіліся за стол вячэрыць. У часе вячэры лічылі „дзядоў", г. зн. прыпаміналі ўсіх памершых продкаў. У нас налічалі іх да 30-ці. Па вячэры расчынялі „дзядоўскі хлеб" і на другі дзень пяклі столькі бахонкаў, сколькі налічылі дзядоў. Раніцай ехалі ў царкву і там раздавалі бахонкі убогім, кождаму па аднаму. Вялічыня бахонкаў залежала ад заможнасьці сямьі: семьі багатыя пяклі вялікія бахонкі, а бедныя агранічаліся „бондачкамі" з кулак вялічыней. На вечар бывалі спрошаны бедныя з суседзтва, чалавек да 10-ці, і пачыналася за агульным сталом вячэра. На вячэру прыгатаўлялі „юшнік" з крыві, а ўгоды калі не калолі на „дзяды" падсьвінка, то клёцкі з „душамі", г. зн. з завернутымі ў цеста скваркамі і аладкі з верашчакай, аб, замест аладкаў, каўбасы з сырой капустай і на закончаньне „саламатка" г. зн. сушаныя яблакі, грушы і ягады вараныя на мёдзе, або, замест „саламаткі", аўсяны кісель з мядовай сытой. Варылі на вячэру больш чым было трэба і рэшткі мяса, аладкаў і інш. дзялілі паміж беднымі: кожды вяртаўся дамоў з клункам у якім заўсёды, акром усяго іншага, была пара каўбас.

Перад вячэрай маліліся з малітвеннікаў за памершых, а па вячэры, пасядзеўшы і пагутарыўшы на тэмы пахвальныя для продкаў сямьі, разыходзіліся. Адліваньня ложкі стравы пад стол ніхто з нашай сямьі не практыкаваў, хоць з запрошаных гасьцей некаторыя гэта рабілі. Садзячыся за стол „дзядоў" не прызывалі. Але ніякага начыньня пасьля вячэры са стала не зьбіралі і рэштак страў, астаўшыхся ў місах, не прыймалі са стала.

З пераказаў майго бацькі, чуных ад дзеда і старых людзей яго пакаленьня, з днём дзядоў зьвязывалі яшчэ адзін цікавы абрадак, гэта ўпісываньне і выпісываньне з сямейнай кронікі членаў сямьі. Нованароджаных ўпісывалі, а памершых выпісывалі. Кронікі гэты вяліся на бэльках хаты ў „пачэсным" куце. У сваей дзісеншчыне я ўжо нідзе не бачыў гэткіх запісаў,

але давялося мне іх пабачыць, вясной у 1914-м годзе, ў Бельскім павеце, ў сяле Кленіках (заходная часьць горадзеншчыны). У старых хатах „пачэсны“ кут тут, зазвычай заняты глыбокімі вырэзамі ў яго бэльках, тэкстам славянскім, прыкладам, гэткага зьместу: „Рдся. рб. Бж. Микола л. 1881. 20 іюл. +1900. 5 мрт.“, або скарочана: Антон 1830. 10 мая+1870+2 авг.“ Яшчэ жывых сямянінаў на сьцяне маюцца імёны і даты нарадзін і на супроць іх пакінута мейсца для ўпісаньня даты сьмерці. Вось-жа, ў дзень дзядоў, паводле апавяданьняў, прыводзілі ў хату грамацея, які падобныя запісы вырэзаў на „пачэсным“ куце, нотуючы народжаных, або памершых асоб за мінуўшы год у данай сямьі. Праўдападобна гэты абычай, вясьці сямейныя кронікі, пашыраўся па ўсей крывічанскай тэрыторыі, бо сьляды яго, паводле пераказаў, сустрачаюцца і ў вяліжскім павеце, але поўнасьцю ён захаваўся яшчэ адзіна толькі ў бельшчыне.

Калі ўзяць пад увагу, што народныя абычаі, як і вопратка ёсьць перажытак абычаяў і вопратак, якія, калісь, у глыбокай старадаўнасьці, былі пашыраны ва ўсіх клясах данага народу, то павыжшыя насьценныя запісы трэба прызнаць найпершай крыніцай пазьнейшых летапісаў і кронік.

---

В. ЛАСТ.

# БОЛЬШ СЬЦІСЛАСЬЦІ Ў ТЭРМІНОЛЁГІІ.

Грамадазнаўства (соціолёгія) – адна з наймалодшых навук, і, нічога дзіўнага, што не мае агульна устаноўленай тэрміналёгіі, што часта для двох саўсім рожных паняцьцяў служыць адзін і той самы тэрмін, або, іначай кажучы, тэрміны ўжываюцца ў некалькіх значэньнях, і, наадварот, некалькім тэрмінам надаецца аднaзначны зьмест. Дзякуючы гэтаму зацямняецца зьмест, блутаюцца паняцьці і даецца шырокае поле да злоўжываньняў, асабліва ў дыскусіях і публіцыстыцы. Мы ніжэй, спынім увагу на некалькіх падобных тэрмінах.

### Нацыя і народнасьць.

Бяручы з філёлёгічнай стараны, то абодвы словы маюць адно і тое самае значэньне: лацінскае — natio літэральна перакладаецца словам „народ“. Аднак гісторыя надала лацінскаму слову „нацыя“ саўсім адменнае значэньне. Пад словам „нацыя“ у XIX ст. устанавілася разумець дзяржаўна-пануючы народ, які прадстаўляе даную дзяржаву. У расійскай пісьменнасьці канца XIX і пачатку XX ст., саўсім слушна, для абазначаньня вялікарускай, французкай, нямецкай народнасьці ўжывалі слова „нацыя“, але для абазначаньня, народаў паняволеных і занепаўшых было другое слова—„народнасьць“.

Паняцьце „нацыя“, ў ролі палітычна-дзяржаўнага фактара, выступае ў зьвязку з перабудовай сярэднявекавай фэодальнай дзяржавы, ў сучасную, капіталістычна-буржуазную, і выразна замацоўуецца ў гэтым значэньні ў часе вялікай французкай рэволюцыі.

Дзяржава дакапіталістычных, фэодальных, часаў апіралася не на народнасьць, а на тэрыторыю і дзьве грамадзкія клясы: дваранства (баяраў, шляхту) і духавенства. Над гэтымі двумя грамадзкімі клясамі стаяла князяўскакаралеўская дынастыя, якая лічылася ўласьніцай дзяржаўнай тэрыторыі і мела ў сваіх руках усю паўнату самаўладнай ўласьці, або з чужаземска кажучы—сувэрэннасьці.

Калі ў часе французкай рэволюцыі быў сьскінуты, а пазьней сьцяты кароль, то, сярод французкіх рэволюціонераў, паўстала пытаньне да каго-ж

без караля, павінна належаць паўната сувэрэннай каралеўскай ўлады? У выніку дыскусій, у конституціі 1789 году, знаходзім такую адповедзь на гэтае пытаньне: „аднацэльная і непадзельная, поўная сувэрэннасьць, належыцца нацыі, г. зн. рэволюційнаму канвэнту, ў якім засядалі прадстаўнікі тагочаснай французкай буржуазіі. Гэтак, пастановай 1789 г., пануючая французкая буржуазія была перамянавана ў сувэрэнную націю. Словам, вялікая французкая рэволюція не скасавала каралеўскай сувэрэннасьці (самаўладзтва), а толькі з пэрсоны караля пераклала яе на буржуазна-капіталістычную клясу.

Галоўнай азнакай фэодальнай сувэрэннасьці было самаўладнае панаваньне над падлеглай тэрыторыяй з чаго вынікаў, у свой чарод, дзяржаўны цэнтралізм. Прыняўшы на сябе каралеўскую сувэрэннасьць, французкая буржуазія павінна была бараніць і дзяржаўнага цэнтралізму, ад фэдэральна-сэпэратыстычных імкненьняў панявольных народаў, якія маюцца ў межах Франціі. Права на самаазначаньне ў часе рэволюціі пачалі дамагацца Брэтонцы, Баскі і інш. Але новаўтвораная „нація“, апрануўшыся ў каралеўскую тогу, не хацела і слухаць аб гэтых вызвольных імкненьнях сваіх народаў-плебэйцаў.

Пераняўшы каралеўскую сувэрэннасьць, французкая буржуазія загаварыла з паняволенымі народамі, ня мовай дэмократыі, а мовай каранаваных асоб. Пасыпаліся ў рэволюційным канвэнце гарачыя „рэволюційныя“ прамовы супроць інародцаў. Барэр першы рашуча высказаўся проці фэдэралізму і за распашыраньне сярод інародцаў „мовы свабоды“ г. зн. пануючай французкай мовы. Ен казаў: „Трэба распашыраць дзяржаўную мову. . Фэдэралізм і рэакція гаворуць па брэтонску, эміграція і ненавісьць да рэспублікі па бакску... Разбіймо-ж гэты інструманты шкоднасьці і фальшу... Грамадзяне, мова вольнага народу павінна быць адна і тая-ж самая для ўсіх. Мы абавязаны перад нашымі спаўграмадзянамі, абавязаны для сцьверджаньня рэспублікі зрабіць так, каб на ўсім яе абшары гаварылася мовай, каторай напісана Дэкларація правоў чалавека“.

Яшчэ больш яра грымеў другі прамоўца канвэнту—Грэгуар. „Грамадзяне, казаў ён, вы маеце шчасьце быць французамі!... Вы ненавідзіце палітычны фэдэралізм, адкіньце ж і фэдаралізм мовы! Мова павінна быць адна, як рэспубліка!“

Гэты фэодальны атавізм французкага якобінізму, перайшоў пасьля, як падваліна, ў дзяржаўна-буржуазны лад эўропэйскіх дзяржаў і быў правадніком палітыкі ў стасунку да паняволеных імі, недзяржаўных народнасьцяў.

Згодна з гэтым поглядам, права на культурна-духовае разьвіцьце прызнаецца адзіна вялікім і пануючым народам—„націям“.

Дэмакраты, лібэралы, рэволюціонеры і социялісты першай паловы і сярэдзіны XIX ст., у тлумленьні плебэйскіх вызвольных імкненьняў панявольных народаў, былі дужа паміж сабой салідарны.

„У гэтых апошніх,—„не гістарычных“, не дзяржаўных народах, яны бачылі толькі цёмныя сілы рэакціі і контр-рэволюціі; замаскаваныя выступы паваленага „старога ладу“, шалёныя і фантастычныя спробы ўмела гальванізаваць і ажыўляць мярцьвяцоў, каторыя прыродным разьвіцьцем рэчаў уложаны да вечнага і непрабуднага сну, на вялікім магілішчы ўсесьветнай гісторыі і над якімі, новачасная жыцьцё і культурны поступ, перайшлі ўжо безапэляційна да парадку.

„Гэтага погляду трымаўся, нават спэціяльна падкрэсьляў яго і тэорэтычна абасновываў т. зв. марксізм, у першапачатнай фазе свайго істнаваньня

і публіцыстычнай дзейнасьці галоўных трох сваіх корыфэяў: Маркса, Энгельса і Лассаля.

„Ужо той іронічна-пагардлівы тон, якім пісалі аб „негістарычных“ народах будаўнікі навуковага соціялізму, зьвяртае на сябе ўвагу. Паводле соціялістычнай тройцы—гэта ёсьць „адпадкі народаў“, „дзікія і барбарскія абрыўкі народаў“, „недаросткі“, „падшыванцы“, іх вызвольныя імкненьні, гэта—„дамаганьнеся права на рабаваньне чужой худобы“ (Recht auf Viehraub) *). Яны „дзікія сілы прыроды“, „кавалкі плямёнаў“, „гістарычнае развіцьце якіх належыць да мінуўшчыны і цяперашняя эволюція каторых зьвязана з націямі іншай расы і мовы“ (Маркс); „національная і палітычная актыўнасьць якіх даўно была прытлумлена і каторыя былі прымушаны, дзеля гэтага, тысячы гадоў ісьці сьлядамі сільнейшых націй“ (Маркс). Яны ёсьць толькі „дадаткамі да нямецкай або мадзярскай націі **) і больш нічога.

„Палітычна яны ёсьць і астануцца „аж да іх поўнага загіну або дэнаціоналізаціі, носьбітамі контррэволюціі“. „Іх народна-адраджэнчыя імкненьні пярэчуць духу часу“. „Яны ёсьць неразумнымі спробамі“ вярнуць „statuos quo, які быў году божага 800“ (Маркс), і каторы ніколі ня можа быць вернуты, бо „стаіць у супярэчнасьці з новачаснай гісторыяй, якая засудзіла на немінучую сьмерць і дэнаціоналізацыю раз на заўсёды ўсе „негістарычныя“ народы“ ***).

Для нас не важна, як і чаму памыляліся ў гэтай справе першыя будаўнікі соціялізму, але важна тое, што іх памылковыя погляды, фатальнай спадчынай, асталіся ў далейшым развіцьці соціялізму, сталіся свайго роду непарушнымі догматамі для пазьнейшых соц. дэм. парцій, у каторых проці народны цэнтралізм і змаганьне з адраджэньнем недзяржаўных народаў, узасадняліся і апраўдываліся зазвычай найвышэйшым аўторытэтам першых вучыцялёў і прапаведнікаў новачаснага соціялізму ****).

Гэтак фэодальны атавізм цьвёрда быў угрунтаваўшыся ў першапачатным навуковым соціялізме. Асабліва пачэснае мейсца яму было адведзена ў расійскай соціялістычнай школе, а найбольш ім адзначаўся сухі схолястык марксізму—Плеханов.

Новачасны соціялістычны рэвізіонізм зыйшоў ужо з гэтага памылковага буржуазна-національнага стасунку соціялізму да адраджэньня „негістарычных“ народнасьцяў. Соціялізм ня толькі не запярэчуе права на адраджэньне заняпаўшым народам а, наадварот, кажа, што: „Соціялізм, які ёсьць вышэйшай лёгічнай ступеньню дэмократызму, як і развіцьцёвым запярэчнікам свайго бацькі капіталізму, ёсьць і павінен быць натуральным абаронцам і вызвольнікам паняволеных недзяржаўных народаў *****).

Тожсамленьне імпэрыялістамі пануючай націі і дзяржавы, ў працягу XIX ст. вяло практычна да ўсправедлівеньня ўціску і дзяржаўнай асыміляціі, національных акраін і інародцаў.

Нажаль імпэрыялістычна-буржуазны рэцыдывізм, як адгалосак сумнай мінуўшчыны, яшчэ, час ад часу адгукаецца нават у сучаснай СССР. Я маю

---

*) Словам паняволеныя народы прыраўнівалі да жывога інвэнтара іх сувэрэнаў,—безгалосай і беззапярэчнай панскай ўласнасьцю.

**) Гэтым „дадаткам“ да нямецкай націі ў той час былі палякі і да мадзярскай—словакі.

***) Іп. Бочковський. Національна справа, Відень, 1920, бб, 35—41.

****) ibid. б. 41.

*****) З прамовы лідэра голяндзкай соц. дэм. парціі Трульстры на проціваенным кангрэсе ў Базэлі ў 1912 г.

на мысьлі брашуру В. Ваганяна „Поборники нaтионалистического каннибализма“ (Белгосиздат, 1926 г.).

У палітыцы, як і скрозь у жыцьці, вялікую ролю адыгрывае права мімікрыі, г. зн. абароннага дапасаваньня. Хоць старой Расіі, гэтай турмы народаў—няма, але ня ўмерлі вялікія жрацы яе палітычнага і грамадзкага ладу. Збольшага яны асталіся, нават на адказных становішчах. Некаторыя з іх дапасаваўшыся да новых варункаў маюць не малы голас у публічных справах. Гэты людзі старога складу стараюцца прамыціць дзе што з традыцыйнага „святое сьвятых“ старой Расіі, а галоўна яе імпэр'ялістычны нацыяналізм.

І, от, аўтор вышэйназванай брашуры, бярэ безумоўна слушныя цьверджаньні тэорэтыкаў соціялізму, што: „кліч нацыянальнай (г. зн. дзяржаўна-пануючай, імпэр'ялістычнай В. Л.) культуры ёсьць буржуазны абман“ (Ленін), і на іх падставе абвінавачуе ў „нацыяналізме“ народы, якія знаходзіліся, і фактычна, дагэтуль яшчэ знаходзяцца ў палітычнай, культурнай і экономічнай залежнасьці ад пануючых нацый. Калі мы пашукаем паралелі такому параўнаньню, то лёгка яе знойдзем ў сфэры экономічна-клясавых стасункаў, дзе ёсьць пануючыя і паняволеныя, эксплёататары і эксплёатаваньня. Як нельга ставіць на адну і тую-ж плошчу капіталістаў і пролетарыят, так сама нельга называць адным і тым самым імям, народы пануючыя і панявольныя. У першым здарэньні, слушна, трэба ўжываць тэрмін „нацыя“, але ў другім „народнасьць“.

„Народ“, „народнасьць“, гэта запярэчаньне нацыяналізму, панаваньня уцісканьня каго-колечы. Гэтых двох тэрмінаў, не скажаючы праўды, нельга зьмешываць.

### Космополітызм і інтэрнацыоналізм.

У нас, дый ня толькі ў нас, часта зьмешываюць тэрміны: „космополітызм“ і „інтэрнацыоналізм“, што служыць прычынай частых непаразуменьняў.

„Космополітызм, гэта ёсьць імкненьне зьліць усё чалавецтва ў адну людзкую грамаду; імкненьне вызваліць чалавека з цяпер істнуючых народных, нацыональных і дзяржаўных зьвязяў Каб гэтага дасьцігнуць, космополіты імкнуцца разбурыць усякія цяпер істнуючыя арганізацыі чалавецтва, а перш за ўсё народнасьць і дзяржаву, якіх космополітызм не прызнае і лічыць іх шкоднымі чалавецтву. Замест многіх цяпер істнуючых паасобных моваў, космополітызм імкнецца вытварыць адну ўсесьветную „космополітычную“ мову і „космополітычную“ пісьменнасьць. Між палітычнымі парціямі прызнае космополітызм парція анархістаў.

„Інтэрнацыоналізм“ (лацінскае—inter,—„між“ і nacio—„народ“), наадварот, кладзе ў аснову сваей палітычнай праграмы нацыю і на рэгуліваньні міжнацыональных і міжнародных стасункаў будуе сваю тэорыю аб мірным і шчасьлівым сужывецтве ўсяго чалавецтва. Усе соціялістычныя парціі адкідаюць космополітызм і зьяўляюцца інтэрнацыоналістычнымі.

„Космополітызм“ ёсьць запярэчаньнем дзяржаўнасьці і народнасьці, а інтэрнацыоналізм наадварот за аснову сваей дзейнасьці прыймае нацыю і народнасьць. Дзеля гэтага ўліваньне космополітычнага зьместу ў тэрмін „інтэрнацыоналізм“, можа быць тлумачана або слабай знаёмасьцю рожніцы паміж гэтымі тэрмінамі, або злой воляй, жаданьнем, пры помачы дыялектычных штучак, опэруючы непрывычнымі словамі і паняцьцямі, змыліць малаграматную аўдыторыю.

Побач з гэтым, не разрожніваюць, асабліва ў нас, тэрмінаў „інтэрнацыяналізм“ і „міжнароднасьць“, тымчасам і тут заключаюцца два рожныя паняцьці.

У нашы часы аб'ектам „інтэрнацыянальнага права“*) зьяўляюцца „нацыі“, а не „народы“. Інтэрнацыянальнае права апіраецца на догмаце абсолютнай сувэрэннасьці дзяржавы, атрыбутам чаго ёсьць „non intervention“, няўмешываньнеся ва ўнутранныя справы дзяржавы, а знача поўная безадказнасьць дзяржаўнай нацыі за свае ўнутранныя справы перад міжнародным форумам. Гэта самадзяржаўная сувэрэннасьць нацый у сваіх унутранных справах, у першы чарод датыча занепаўшых народаў, які, такім чынам, аддадзены на ласку і неласку пануючых нацый, на суд і расправу—сваіх панявольнікаў.

„Гэткае разуменьне дзяржаўнай сувэрэннасьці пярэчыць духу дэмакратызму і новачасным палітычным імкненьням. Яно ёсьць сумнай спадчынай палітычнага фэодалізму з аднаго боку, а з другога высловам капіталістычна-буржуазнага індывідуалізму, сута эгоістычнага і антыграмадзкага характару“**).

Дагэтуль няма ніякай міжнароднай установы, якая-бы рэгулявала стасункі паміж пануючымі і паняволенымі народамі, паміж „нацыямі“ і „народнасьцямі“. У будучыне паняволеныя „негістарычныя“ народы павінны дабіцца таго, каб замест цяпер істнуючага „інтэрнацыянальнага“, было заведзена запраўды міжнароднае права, каторае бы рэгулявала стасункі, ня толькі паміж дзяржавамі, але і паміж народнасьцямі.

А пакуль няма такога міжнароднага права, нельга, асабліва ў краёх, дзе ідзе змаганьне паміж „гістарычнымі“ і „негістарычнымі“, пануючымі і паняволенымі народамі, зьмешываць тэрмінаў „інтэрнацыянальны“ і „міжнародны“.

Адцяніўшы рожніцу паміж тэрмінамі „космополітызм“, „інтэрнацыяналізм“ і „міжнароднасьць“, вернемся да нашай першапачатнай тэмы, а ласьне —космополітызму.

Ідэя ўсесьветнага аб'яднаньня чалавецтва—вельмі старая ідэя. Гісторыя знае эпохі ў жыцьці чалавецтва калі панавалі імкненьні аб'яднаць яго пад аднэй усесьветнай дынастыяй, а як гэта няўдавалася, то, замест дынастыі, высунута была ідэя ўсесьветнай рэлігіі. Асабліва многа працы ў гэтым кірунку палажыла рымскае каталіцтва. Задаўшыся мэтай аб'яднаць усё чалавецтва, а прынамні ўсе каталіцкія народы, рымскае папежства высунула праект, каб палажыўшы ў аснову лацінскую мову і культуру, распашырыць іх, творчы адзіную для ўсіх каталіцкіх і хрысьціянскіх народаў лацінскую пісьменнасьць і навуку. Лацінская ўсесьветная, „космополітычная“ культура і літэратура ўрэшце, ў сярэднія векі, запанавала ва ўсей Заходнай Эўропе. Якія-ж былі з гэтага вынікі? А вось якія: Эўропа ўвайшла ў паласу нечуванага барбарства і занепаду культуры. Усюды істнавалі лацінскія літэратуры і школы: у Італіі, Гішпаніі, Англіі, Нямеччыне, Чэхіі, Польшчы і нават у нас, а ці знаем мы хоць троху сягоньня гэну літэратуру,—ці пакінула яна па сабе хоць які колечы сьлед? Не, ніякага.

Як пратэст супроць папежска-лацінскага космополітызму паўсталі патужныя рэформацкія рухі ў Зах. Эўропе: ў Нямеччыне—лютэранізм, у Францыі—кальвінізм, у Чэхіі—гусытызм, якія ў першы чарод, адкінуўшы сухую і мертвую лаціну, ўзяліся за пераклад Бібліі на народныя мовы і гэткім чынам толькі вывелі Эўропу з сярэднявекавай цемры.

---

*) Расійцы няслушна называюць яго „международным“.
**) Іп. Бачинськпй „Нац. справа“, б. 166.

У часе французкай рэволюціі, дайшоўшая да ўлады буржуазія, ізноў падняла пытаньне аб космополітызме і разьвязала яго такім чынам, што мова Дэкляраціі праў чалавека і грамадзяніна павінна стацца мовай дэмократіі ўсяго сьвету, г. зн. мова securitiesнованароджанай французкай буржуазіі.

Урэшце рэволюціонэры першай палавіны XIX ст., разам з тварцамі навуковага соціялізму, ўзяўшы за падставу памылковую тэорыю аб „меншвартнасьці“ і „большвартнасьці“ народаў і рас, падтрымліваючы думку, што ўсесьветны і агульналюдзкі поступ зяўляецца манаполям толькі вялікіх дзяржаўна-гістарычных націй, думалі, што з мяшаніны романскіх і англа-германскіх моў (французкай, гішпанскай, італьянскай, англійскай і нямецкай) магчыма вытварыць адзіную „космополітычную“ мову, якая з часам, зліўшы ў адно ўсе гэты мовы, станецца адзінай мовай для ўсяго сьвету.

Гэты космополітызм быў дзіўнай мяшанінай інтэлектуальнай наіўнасьці з дзяржаўна-цэнтралістычным атавізмам і нацыянальна-расавым фэодалізмам.

Носьбіты і прапаведнікі гэтага наіўнага „космополітызму“ не бралі пад увагу „меншвартных“ народаў Азіі і другіх часьцей сьвету; не хацелі чуць і ведаць аб істнаваньні „пастускіх“ славянскіх народаў.

Яны не разумелі яшчэ тады, што „космополітычнае“, г. зн. ўсесьветнае і агульналюдзкае, заўсёды і ўсюды праяўлялася ў народнай форме. Яны забывалі, што „народнасьць—гэта арганічнае адзінства, каторае вытварае тыя народна-творчыя формы, з каторых выходзяць, пасьля перасычаныя духам гэтых форм вышэйшыя прадукты агульналюдзкай культуры“ *).

„Яны не адрожнівалі народнай формы, ад агульналюдзкага зьместу ў культуры і жыцьці народаў і паасобных людзей і таму не дабачалі арганічнага зьвязку паміж народным і агульначалавечым“ **).

Гэты тэорыі наіўнага космополітызму, буржуазна-імпэрыялістычныя дзяржавы, абязшкодзіўшы іх уключэньнем ў тэрмін „інтэрнаціоналізму“, пачалі, далёка не наіўна, застасовываць да сваіх асымілятарскіх мэт. Пануючыя націі, накідалі паняволеным народнасьцям „інтэрнаціональную“, г. зн. прынятую ў пануючых націй тэрмінолёгію, падтрымлівалі і протэгавалі „агульнанаціянальныя“ г. зн. ходкія словы пануючай мовы, ў мовах сваіх паняволеных народаў, словам рабілі ўсё даступнае ім, каб збарбарызаваць мовы паняволеных народаў пабочнымі дамешкамі, а гэтым самым аслабіць іх жыцьцёвую сілу.

Гэтага апошняга тыпу „інтэрнаціоналізм“ некатырыя пісьменнікі стараюцца цяпер ажыўляць і пропагаваць.

Паводле Ваганяна „націоналістычны“ (??? мова аб „негістарычных“ народах. В. Л.) партыкулярызм, дух выключнасьці, імкненьне да адасобненасьці, да замкнутасьці, агранічанасьць і рэакційнасьць,—усе гэты запраўды істотныя рысы „національнай“ культуры, перш за ўсё праяўляюцца ў рупнасьці аб чыстасьці національнай (чытай „народнай“ В. Л.) мовы (б. 11).

Знача, калі крывіч (беларус) перасьцярагае сваіх пабратымаў ад ужываньня маскоўскага „прызнанага“ слова „как“, замест народнага „як“, імкнучыся да захаваньня чыстасьці мовы, то гэта будзе, з боку крывіча (беларуса), „агранічанасьць, замкнутасьць і рэакційнасьць“, а калі наадварот—

*) Х Жытлоўскі: „Соціялізм і народнае пытаньне“, б. 58.

**) Іп. Бачинский, б. 37.

будзе пропагаваць сярод сваіх маскоўскае „как“ замест „як“, то гэта ўжо будзе азнакай яго „паступовасьці“, „рэволюційнасьці“, „марксістскасьці“, „інтэрнацыональнасьці“...

Далей Ваганян тлумачыць чаму народная інтэлігенція імкнецца да ачышчаньня сваей мовы ад барбарызмаў. Робіцца гэта, паводле яго, не дзеля вымогаў лёгікі і эстэтыкі, а бытцам дзеля боязьні, „што мова большасьці (разумей пануючай В. Л.), мова найбольш дапасаваная да вымогаў лучнасьці паміж народамі, якія ўходзяць у круг гэтай сыстэмы, ня толькі становіцца, без усякага на тое прымусу прызнанай мовай для міжнароднай лучнасьці, але і сільнейшым спосабам уплывае на мовы народных меншасьцяў, і, асабліва, немаль уся новая словатворчасьць ідзе пад сільнейшым уплывам гэтай прызнанай *) мовы большасьці“ (б. 11).

Гэтакі ўплыў пануючай мовы, на мовы „меншасьцяў“, Ваганян, лічыць добрым і, дзеля гэтага: „Варажасьць да мовы большасьці, ў нашых варунках,—а гэты анохронізм, атрыманы намі ў спадчыне, безумоўна маецца,—варажасьць да расійскай мовы“... не мае пад сабой падставу. Бо „калі ненавісьць да націоналістычнай культуры расійцаў была перш зразумела, то цяпер саўсім немагчыма разцэніваць гэткую варажасьць іначы, як менш болей штучна маскаваную контр-рэволюцію і „націоналістычную“ рэакцію“ (б. 22).

Знача кожды інтэлігент адраджаючагася народу, контр-рэволюціонер і націоналістычны рэакціонер, калі ён не падтрымлівае пропаганды „інтэрнаціоналізму“ г. зн. русыфікаціі народнасьцяў, якія ўходзяць у склад СССР. Так выходзіць паводле згаданай брашуры.

Мы ведаем, што гэткі „хітры“ „інтэрнаціоналізм“ не зьяўляецца меркай стасунку Ураду СССР да меншасьцяў, але ў кождым здарэньні падобныя комэнтарыі да цяперашняй нац. палітыкі ў СССР, ня толькі не прыносяць славы іх аўтору, але шкодны як Сувязі Рад. Соц. Рэспублік, так і народнасьцям, якія ўходзяць у склад яе.

### Націанальная і народная інтэлігенція.

Сувязь паміж разьвіцьцём новачаснага імпэрыялістычнага націоналізму і капіталістычнай буржуазіяй, так ачавістая, так выразная, што здавалася-бы не вымагае асаблівага тлумачэньня. Аднак, як слушна выразіўся Нітшэ*), націоналістычная дзяржава умее так зімна лгаць, так старэнна скрываць ад эксплёатаваных пружыны свайго вызыску, што яны становяцца невідочнымі эксплёатаваным групам.

Капітал у пачатку XIX ст. з торговага становіцца прамысловым. Сіла людзкая што раз больш заступаецца машынай, павялічаецца попыт на працу ня выспэціялізываную. Гэта апошняе—конкурэнція за рабочыя рукі, даводзіць капітал да змаганьня з прыгоньніцтвам вясковага жыхарства і з дваранскімі прывілеямі. Інтэрасы разрастаючага капіталу зыходзяцца з інтэрасамі дзяржавы. Буржуазная дзяржава агранічаючы дваранства награмаджае капіталы праз конфіскату царкоўных зямель і ўсякія дзяржаўныя манаполіі, капіталісты выйгрываюць на гэтай суполцы, павялічаючы свае палітычныя ўплывы ў дзяржаве, на зброеньні дзяржавы, на вайсковых і другіх дастаўках.

Падтрымліваньне дзяржаўна „націянальных“ мэт капіталістычнай клясай мае на відоку, каб таварны рынак ня быў малы; а дзеля гэтага яна спрые і падтрымлівае ўсякія імкненьні дзяржавы да расшырэньня меж, і

*) Новы цікавы тэрмін: „прызнаная“ і „непрызнаная“ мова!

ўсякую дэнацыяналізацыю народна адасобненных краёў і тэрыторый. Асыміляцыя паняволеных народаў мае сярод капіталістаў і буржуазіі сваіх гарачых прыхільнікаў, бо гэта забасьпячае ім унутранны рынак з яго рабочымі рукамі.

Словам, у працэссе разьвіцьця капіталізму, калі ідзе пытаньне аб скасаваньні ўнутранных рагатак, якія перашкаджаюць вольнаму руху тавараў, забасьпечаньня маладому, новаразьвіваючамуся промыслу рэзэрвуару танных рабочых рук,—імкненьні буржуазіі маюць „націоналістычны“ гэта знача дзяржаўна-імпэрыялістычны характар: у гэтым здарэньні выступае яна як прадстаўніца зборнай асобы—„націі“, г. зн. у ролі самадзяржаўнага гаспадара дзяржаўнай тэрыторыі.

Разрост дзяржаўнага імпэрыялізму памагаў разьвівацца капіталізму і буржуазіі, і, надварот, разрост буржуазіі падбіваў дзяржаўны імпэрыялізм.

Хто прадстаўляў імпэрыялістычную „національную“ дзяржаву? Не селянін, не работнік, а выхадцы з капіталістычнай і чыноўніцка-буржуазнай сфэры. Буржуазна-капіталістычная сфэра пастачала вышэйшых чыноўнікаў, кіраўнікоў дзяржавы; інжэнэраў і тэхнікаў для фабрык, адвакатаў, дактароў і другой, па свайму характару эксплёататарскай інтэлігенціі*), якая станавіла надбудоўку над народнымі массамі як „пануючых“, так і паняволеных народных масс.

Прамысловасьць, таргоўля, соціяльныя і дзяржаўныя функціі найвышэйшага інтэлектуальнага характару, знаходзіліся (а ў нас і дагэтуль яшчэ знаходзяцца) ў руках пануючай (культуральна+моўна+дзяржаўна+эканамічна) „національнай“ інтэлігенціі*).

Тэрмін „національная інтэлігенція“ ня можа быць стасаваны да адукаваных, разумных людзей, якія выйшлі з народных масс тых народнасьцяў каторыя разам з народам сваім змагаюцца за вызваленьне з пад чужога імпэрыялізму, з пад матэр'яльнай і духовай эксплёатаціі і зьдеку пануючай націі. Гэта апошняя інтэлігенція е с ь ц ь „н а р о д н а я а н е н а ц і о н а л ь н а я“.

Паміж „національнай“ і паняволенай „народнай“ інтэлігенціяй маецца вялікая рожніца: ў радах першай групуюцца прадстаўнікі пануючай палітычнай і экономічнай над намі перавагі, разам з рознага гатунку спэкулянтамі і кар'ерыстамі;—ў рядах другой, „народнай інтэлігенціі“ знаходзяцца выходцы з галоднай, халоднай і кругом крыўджанай вёскі, з рабочай бяздольнай і бязпраўнай сямы; гэта пераконаныя рэволюцыонеры, змагары за волю і лепшую долю паняволеных і абяздоленых кляс і народнасьцяў.

В. Ваганян народную інтэлігенцію „якая выхоўвалася пад гнётам імпэрыялістычнага ўціску, ў духу ідэалізаціі мінуўшчыны свайго народу, яго культуры, яго мовы, яго быту“, называе людаецкай (каннибалистической), і процістаўляе ей вялікарускія „працоўныя массы“, ці, бліжэй кажучы іх інтэлігэнцію, якая сабрала ў сабе „усё самае передавое, што стварыла чалавецкая культура“ (б. 23). Здаецца, што словам „перадавое“ В. Ваганян хоча сказаць, такжа і усё найбольш рэволюційнае; разгледзім ці гэта запраўды так.

Але найперш, „прывычных форм экономічнага укладу“, г. зн. малазямельля, загнанасьці, матэрыяльнай неабасьпечанасьці, цемнаты і безпраўнасьці ўсякая народная інтэлігенція, а асабліва наша беларуская, ніколі не бараніла і бараніць іх ня будзе. Гэты „прывычныя формы“ і былі прычынай таго,

*) Лацінскае слова intelligens у перакладзе на нашу мову абазначае—разумны; intelligentia розум, разуменьне. Дык знача, проста кажучы „інтэлігенція“—гэта сабраньне людзей разумных і разумеючых; галава, мозг кождай людзкой лучнасьці—таварыства, грамады, народнасьці, націі, дзяржавы.

што народная інтэлігенція паняволеных расійскім імпэрыялізмам народаў, першая была ў радах рэволюцыйных арганізацій, каторыя паўставалі на абшарах б. царскай імпэрыі. Закід В. Ваганяна, што народная інтэлігенція бароніць „прывычнага экономічнага укладу“, выглядае на злосны жарт. Я думаю Цішка Гартны не стане бараніць „прывычнага яму экономічнага укладу“, які ён знаў праз цэлае сваё жыцьцё, г. зн. цяжкую працу і малую да сьмешнага заплату. У Якуба Коласа „прывычны уклад“ бедная селянская хата, неабасьпечанасьць у вучыцельскім жыцьці, царская турма некалькі гадоў, а пазьней напоўгалоднае мадзеньне. Словам „прывычны уклад“ нашай народніцкай інтэлігенції, саўсім, але то саўсім іншы—чым „прывычны уклад“ інтэлігенціі пануючых націй.

Пры гэтай зручнасьці я напомню некалькі, вельмі вымоўных падзей з гісторыі соціялізму і бальшавіцкай рэволюцыі ў б. Расіі.

У 1878 годзе ў Менску завязалася рэволюцыйная народніцкая арганізація і ў Менску былі надрукаваны 3, 4 і 5 нумары „Чорага перадзелу“, а такжа 3, 4 і 5 нумары, першай у Расіі, работніцкай газэты „Зерно“ і проклямація з прычыны забойства Александра II. У Менску, а не ў Маскве ці Ніжнім, адбыўся такжа першы зьезд марксістцкі, (сакавік 1898 г.) на якім была заснавана „Расійская соціялдэмократычная парція“.

А, вось, часы бальшавіцкай рэволюцыі у Расіі. Пасьля няўдатнага першага замаху бальшавіцкага ў Пецярбурзе на „Тымчасовы Урад“ (15—17. VII. 1917), павылаўлялі тады ўсіх бальшавіцкіх павадыроў і пасадзілі ў „Крэстах“, сабралася аж 103 лідараў і агітатараў; паводле національнага складу было заарэштавана украінцаў і беларусаў—75, жыдоў 20 (між імі Троцкі і Камянёў), Латышоў 2, адзін прыбалтыцкі немец і ўсяго толькі 6 вялікарусаў!

Калі бальшавікі перамаглі ўжо і стварылі свой першы Урад—„Раду Народных Камісараў“, то распадзел урадовых абавязкаў наступіў такі: кіравецтва Надзвычайнай Камісіяй узяў віленец, паляк Дзержынскі, Камісарыят закардонных і вайсковых спраў—жыд, Троцкі, камісарыят народнай асьветы украінец,—Луначарскі (б. сябра украінскай студэнцкай грамады ў Кіяве); кіравецтва III інтэрнаціоналам—жыд, Зіноўяў, а прадседацелям быў Ленін, расіец, але татарскага паходжаньня, ды ўсё-ж такі чалавек не вялікарускай псыхікі.

Што ўсё гэта нам кажа? А вось што, што бальшавіцкі „зрыў“ ня быў духовым творам вялікарускага народу, ня быў зрывам расійскай національнай інтэлігенції,—маскоўская національная інтэлігенція актыўна змагалася супроць бальшавіцкай „навалы“, а калі міма ўсяго гэта бальшавіцкая „апокаліптычная бэстыя“ перамагла, то маскоўская національная інтэлігенція ў большасьці сваей апынулася на эміграціі, дзе і цяпер таўчэцца.

Бальшавіцкі „зрыў“ у Расіі гэта спазматычны крык болю пакрыўджаных і абагіджаных народаў б. Расіі, гоман вызваляючыхся з „турмы народаў“ рабоў і помста іх над ею. *).

Національная маскоўская інтэлігенція дапасаваўшыся да цяперашняга комуністычнага ўкладу ў СССР, здаецца, пачувае сябе даволі самавіта, і ўносіць, запраўды „прывычны сабе“ націонал-імпэрыялістычны зьмест. А што гэты зьмест ёсьць „эхт“ націонал-імпэрыялістычны, то не двузнача гаво-

*) Факты з часаў бальшавіцкай рэволюцыі і апошнія 4 абзацы ўзяты з брашуры Юл. Бачынскага „Большевицька революція і Украінці“ Бэрлін 1925 г.

рыцца аб гэтым у брашуры В. Ваганяна, якую аздабляюць на прыканцы (б. 23) такія „праўды“:

„Як культура, так і мова большасьці нашай Сувязі—вялікарускіх працоўных масс—сабралі ў сабе самае перадавое што стварыла чалавецкая культура“.

А дзеля гэтага:

„Усе народы, працоўныя массы ўсіх народаў, павінны трымаць курс на гэту культуру, калі яны хочуць ісьці ў нагу з сучаснасьцю“.

„Культура Белінскага, Чэрнышэўскага, Плеханава, Леніна павінна стаць і стане пануючай над культурамі ўсіх народаў, якія насяляюць СССР.. а прыдзе час і ва усім сьвеце“.

Прапаведываньне вялікарускага націоналістычнага „арыстакратызму“, гэта старая, аджытая гісторыя. Усе народы аднастайна празначаны для свабоды, каторай у дзікіх варунках карыстаюцца адзінкі, а ў культурных варунках ёсьць законным правам карыстацца кождаму чалавеку і кождай людзкой грамадзе.

Прадстаўнік фэодальнай Расіі, найвялікшы з яе паэтаў, Пушкін, пісаў: „зьліюцца ўсе славянскія руччы ў рускім моры“.

В. Ваганян піша: Культура вялікарускіх працоўных масс павінна стаць і стане пануючай над культурамі ўсіх народаў, якія населяюць СССР... а прыдзе час і на ўсім сьвеце.

Знача дух заборчага маскоўскага імпэрыялізму за апошнія 100 гадоў, ня толькі ня зжыўся, але раздабрэў і вырас, бо ўжо не агранічаецца адным славянствам, але імкнецца распашырыцца на ўвесь сьвет! Шапкамі, маўляў, закідаем!

---

ВЛАСТ.

# ЎРАЖАНЬНІ З ПАЕЗДКІ Ў БЕЛАРУСКУЮ РАДАВУЮ СОЦІЯЛІСТЫЧНУЮ РЭСПУБЛІКУ.

### Выезд з Літвы.

У пачатку кастрычніка 1925 году атрымаў я ад Інстытуту Беларускае Культуры запрошаньне на Акадэмічную Конфэрэнцію, якая склікалася ў Менску на 14 лістапада 1926 г. На гэтае запрошаньне я ахвотна выразіў сваю згоду прыбыць у Менск на назначаны час, паскольні варункі незалежнага характару не стануць на перашкодзе.

Зборы ў дарогу выклікалі аднак нямала ўсякіх турбот. Галоўнай прычынай да каторых паслужылі розныя крыватолкі і пострахі, якія расьлі з кождым днём, ўмеру таго, як разыходзілася ўсё шырэй чутка, што „Ластоўскі“ едзе ў Менск. Прыходзілі людзі да мяне ў кватэру і „па прыязьні“ дзяліліся такога зьместу „навінамі“, што ў апошнія дні перад выездам, я пачаў нэрвавацца, асабліва ў часе ўсякіх формальнасьцяў з візамі. Але, ўрэшце, разам з рэдактарам часопісі „Покліч“, грам. Галавінскім і Рэктарам літоўскага унівэрсытэту, праф. М. Біржышко, 10. VI выехаў з Коўны ў Менск на Конфэрэнцію.

## Гасьціна ў Рызе.

У Рызе, не глядзя на раннюю пару, сустрэлі нас на вагзале прадстаўнікі беларускіх (крывічанскіх) арганізацій у Латвіі: вык. аб. начальніка беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы грам. Плыгаўка, кіраўнік вучыцельскіх курсаў грам. Дзямідаў, вучыцель Шчорс, паэт Масальскі і другія. Прасілі нас рыжскія крывічы (беларусы) астацца на адзін дзень у Рызе каб азнаёміцца з іх дасьціжэньнямі ў беларускай працы. Мы, абмяркаваўшы, што час нам на гэта пазваляе, згодзіліся, і, пасьля сьнеданьня ў сымпатычным памешканьні „Рыму“ дзе маюць звычай зьбірацца рыжскія беларусы, паехалі аглядаць школы і вучыцельскія курсы.

Беларускае (крывічанскае) адраджэньне даволі рана закранула Рыгу. Ужо ў 1907 годзе тут пробавалі гуртаваць крывічанскія (беларускія) сілы Эдвард Будзька, паэта Косьцевіч і В. Ластоўскі. Апошні ў 1907 годзе чытаў у Рызе лекціі ў беларускай мове, адзін раз для інтэлігенціі, ў салі істнаваўшай у тыя часы ў Рызе польскай бібліатэкі, і, некалькі лекцій, для работнікаў у памяшчэньнях пачатковых школ. Зацікаўленьне было даволі вялікае, але беларусы ў Рызе сарганізавацца не змаглі, дый у хуткім часе вышэйназваныя асобы параз'яжджаліся, не пакінуўшы на сваё мейсца заступнікаў. У Рызе наступіў доўгі перарыў у беларускай (крывічанскай) працы бо аж да 1918 году, калі прыбыла ў Рыгу Дыплёматычная Місія Беларускай Народнай Рэспублікі, якая была прыхільна прынята Латвійскім Урадам і акрэдытавана, як Поўнамочнае Прадстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі. На чале Прадстаўніцтва і пазьней арганізаванага Консульства, стаяў грам. К. Езавітаў аж да 1922 году. У 1922 г. было ліквідавана Дыпл. Прадстаўніцтва БНР., на вымаганьне Прадстаўніцтва Сувязі Радавых Соціялістычных Рэспублік, у складзе якіх ужо істнавала новасарганізаваная Беларуская Радавая Соціялістычная Рэспубліка. Астаўшыся ў Латвіі, як звыклы грам. Латвіі, К. Езавітаў, пачаў арганізаваць тут беларускую (крывічанскую) меншасьць. Дзякуючы шчырым прыяцелям беларускага адраджэньня, якія заўсёды былі і цяпер ёсьць у Латвіі, праца грам. К. Езавітава была падтрымана з боку латвійскага грамадзянства і дала значныя вынікі: былі арганізаваны дзьве гімназіі, ў Двінску і ў Люцыне, і некалькі дзесяткаў беларускіх (крывічанскіх) пачатковых школ у Латгаліі. Праўда, работа гэта ў 1924—25 годзе была крэпка падарвана старэньнем расійцаў і палякаў, якія падбухторыўшы шовіністычную часьць латвійскага грамадзянства, утварылі беларускі палітычны працэс, вінавацячы беларусаў у жаданьні адарваць Латгалію ад Латвіі. Але гэты працэс кончыўся поўнай компромітацыяй яго зачыншчыкаў, бо суд усіх абвінавачаных беларусаў, з паміж каторых іншыя праседзілі доўгі час у турме (прыкл. грам. К. Езавітаў праседзіў цэлы год), не прызнаў віннымі і апраўдаў. Гэты латгальскі працэс унёс нясмачны дысонанс ў добрасуседзкія і шчыра прыхільныя даўныя стасункі паміж беларусамі і латышамі. Але час, гэты пайвялікшы лекар, цяпер пачынае згладжываць прыкрыя ўспаміны нядаўнага працэсу, ды на саміх латвійскіх беларусаў меў здаровы ацьвярозуючы ўплыў ад даўнага „балтыцкага“ романтызму. Цяпер у Латвіі ідзе, нормальная для недзяржаўнага народу, цяжкая праца зьбіраньня сваіх сіл і змаганьня за правы чалавека і грамадзяніна. Беларусаў (крывічоў) заліваюць як латвійцы, так расійцы і палякі. Палякі рвуць, як могуць, к сабе беларусаў каталікоў, расійцы стараюцца захапіць праваслаўных, а латышы сваей дзяржаўнай махінай і тых і другіх беларусаў уцягаюць у латыскае ручво. У Латгаліі, дзе жыхарства мяшанае, латвійскія школы прынаджуюць дзяцей беларускай вясковай беднаты, дармовымі сьнеданьнямі і ўрадовай прыхільнасьцю да бацькоў.

ная часьць коштаў ідзе на падгатоўку будучых грунтоўных прац, і на арганізацію разбураных культурных установ у краю.

Інстытут падзяляецца на 7 сэкцій: 1. Беларускай Мовы і Пісьменнасьці; 2. Беларускага Мастацтва; 3. Гістарычна-Археолёгічная; 4. Дасьледаваньня Рэволюційнага руху; 5. Прыродазнаўчая; 6. Мэдычная; 7. Сельска-Гаспадарчая. Акром таго мае два аддзелы—жыдоўскі і польскі са сваімі ўласнымі сэкціямі.

Паўзьбежна з сэкціямі працуюць Камісіі: 1. Слоўнікавая, 2. Тэрмінолёгічная, 3. Літэратурная, 4 і 5 Гісторыка-Археолёгічная, 6. Прыродазнаўчая, 7. Бібліографічная, 8. Сельска-Гаспадарчая, 9. Краязнаўчая.

Найбольш рухавасьці апошнімі часамі выказалі Краязнаўчая Камісія, Слоўнікава-Тэрмінолёгічная і Мастацкая.

Краязнаўчая Камісія выдзялілася ў асобную ўстанову, на чале каторай стаіць ЦБ Краязнаўства, якое сабрала больш тысячы супрацоўнікаў і цэлыя массы ўсякіх, пераважна слоўнікава-фольклёрыстычных, матэр'ялаў. ЦБ Краязнаўства выдае сваю штомесячную часопісь „Наш край“ (сшыткамі па 4—5 аркушаў друку), ведзеную апошнімі часамі даволі добра, бо рукой практычнага пісьменніка, але, на вялікі жаль, маладога яшчэ краяведа, Зьмітры Бядулі. Паступаючыя ў ЦБК матэр'ялы паказуюць у чым найбольш могуць палажыць карыснай працы члены-краязнаўцы, а ласьне ў зьбіраньні слоўніка і фольклёру. Тым часам на ўзгадаваньня сьведамых мовазнаўцаў і этнографаў мала ў часопісі зьвяртаецца ўвагі: няма артыкулаў якія-бы разьвівалі тэорыю мовазнаўства і этнографіі. Урэшце часопісь яшчэ ня мае сваей акрэсьленай фізыономіі, бо у ей друкуюцца стацьці з лесаводзтва, зьвераводзтва, паляводзтва, статыстыкі, гісторыі, археолёгіі, мовазнаўства, этнографіі, географіі і г. д., і, ў канечным вывадзе, ніводнай галіны веды яна не распрацовуе, або, іначай кажучы, прымушана абслуговываць усе Сэкціі і Камісіі ІБК, кождую ў мініятурнай прапорціі, наскокам, „аб усім па троху“.

Такая паважная установа, як ІБК, павінна або перетварыць „Наш Край“ у тоўсты журнал, разьбіўшы яго на аддзелы, паводле распрацовываных ім навуковых дысцыплін, або замест аднаго журнальчыка выдаваць іх столькі, колькі істнуе паасобных Камісій. Праца ніводнай Каміссіі ня будзе жывой, і пляновай дакуль яна ня будзе мець уласнага органу для публікаваньня сваіх досьледаў і вывадаў. Самая ўсільная праца навуковыхъ сіл не пасуне наперад навукі, калі ня будуць публікаваны вынікі іх працы. Дзеля гэтага, як міне арганізацыйны пэрыёд ІБК, трэба падбаць каб кождая Камісія мела свой бюджэт як на пэрыёдычныя так і на капітальныя друкі.

Агулам бяручы плян працы зарысаваны ІБК аграмадны, ён агартае ўсе галіны інтэлектуальнага жыцьця краю і ўсе галіны веды. Дагэтуль ІБК галоўна працаваў над арганізацыяй навуковых сіл і установ, якія былі саўсім раськіданы і разбураны вайной. Калі гэтым самым тэмпам пойдзе і яго дасьледчая, як ішла дагэтуль арганізацыйная праца, то, безумоўна, ІБК суджана адыграць вялікую ролю ў адраджэньні нашай культуры.

Сягоньня Менск зьяўляецца галоўным цэнтрам арганізаваньня культурных беларускіх сіл. І запраўды, Менск мае ўсе шансы стацца беларускім культурным цэнтрам, а сьціслей кажучы павінен стацца ім ІБК у Менску. Але гэта станецца тады, калі яго высількі ператорацца ў томы грунтоўных, не дылетанцкіх, а запраўды навуковых досьледаў. Ускладаныя на яго надзеі павінен Менск замацаваць сваімі інтэлектуальнымі высілкамі, каб ня толькі

веручыя, але і недаверкі паверылі. Галоўнае — свабода працы і сродкі на працу маюцца.

Дагэтуль, у дзедзіне публікацій навуковых прац, у нашым Менскім Атэнэуме, больш чуваць „мы зробім“, чым „мы зрабілі“. Гэта пакуль што галоўны недастатак першай, па абшырнасьці і адкрытых перад ей магчымасьцях, беларускай навуковай установы. Яно ведама, пачатак заўсёды трудны. А для беларускай навуковай установы ён яшчэ труднейшы, што кваліфікаваных сіл у нас мала, дый тыя разсыпаны. На помач ІБК-ту, ў яго высілках адбудаваць беларускую культуру, павінны пайсьці ўсе нашы культурныя працаўнікі, якія знаходзяцца і паза Менскам. Культура—ўсенародны, а не партыйны скарбец. Інбелкульт вынес галоўную арганізацыйную працу навукова-культурных сіл і ў гэтым яго вялікая заслуга перад усім беларускім народам.

Грамадзянскія настраі.

У Менску і Вытабску, ў час маей бытнасьці на парадку дня, сярод шырокіх кругоў гарадзкога жыхарства, была беларусынізацыя, або, як мне зьядліва казаў адзін Менскі інтэлігент „абмужычываньне“.

За „абмужычываньне“ стаіць К. П. і Урад, супроць яго—ў першы чарод зрусыфікаваная жыдоўская буржуазія і выйшаўшая з яе радоў зрусыфікаваная і русыфікатарская інтэлігенцыя і поўінтэлігенцыя; ў другі чарод—нашы-ж зрусыфікаваныя беларусы; самае апошняе мейсца займае чыстакроўная вялікаруская інтэлігенцыя, акром, разумеецца, актыўных націоналістаў.

Змаганьне—за і супроць беларусынізацыі—носіць ярка клясавы характар: зьнізу напіраюць, зьверху ціснуць, а ўсярэдзіне ня хочуць здаваць сваіх выброжніваючых ад „мужыцтва“ пазыцый.

Разумеецца ўся беларусынізацыя пайшла-бы шмат лягчэй, каб беларусы маглі ўліць у рады гарадзкой, даволі чысьленнай дробнай буржуазіі і гарадзкой інтэлігенціі, свае эквівалентныя сілы. Але сярод беларусаў няма цяпер, так сама як і перад вайной, ні сваей клясы таргоўцаў, ні значных кадраў працоўнай інтэлігенціі. Дзеля гэтага буржуазна-інтэлігенцкая чужанацыянальная праслойка пакінута варыцца ў сваіх уласных соках, яшчэ і таму што іх інтэлектуальныя патрэбы абслугоўвуюцца падаўнаму расійскай мовай і культурай, бо ў беларусаў, акром некалькіх кніжок Я. Купалы і Я. Коласа, пераважна, маладнякоўская пісьменнасьць. Менск дагэтуль не мае ніводнай ілюстраванай беларускай часопісі і нават гумарыстычнага тыднёвіка, не кажучы ўжо аб спэціяльных тэхнічных і навуковых журналах, акром адзінага месячніка „Полымя“, рэдагаванага даволі добра, але каторы чамусьці яшчэ не прабіў сабе дарогу ў гэту праслойку.

Разумеецца, ў гэтым выпадку, нічога, або саўсім мала, памогуць рэзолютыўныя пажаданьні і цыркулярныя загады, калі апорная праслойка ня будзе пастаўлена перад дакананым фактам, што ўся акружаючая яе атмасфэра насычана беларускасьцю, так як яна дагэтуль насычана расійскасьцю. Абыватальска настроены інтэлігент і таргoвец мае дагэтуль кругом сябе імпартаваную расійскую атмасфэру, а з беларускай ён стыкаецца толькі час ад часу, пераважна калі выяжджае з гораду на вёску. Беларушчына не займае належнага мейсца ў яго штодзенным жыцьці. Вось і кажуць у Менску: „беларусы, акром лапцей сваіх,—нічога не маюць“. І гэты глупы аргумант беларусам, пры цяперашнім стане іх культуры, не надта каб ужо было чым разьбіць. Бо і экономічна і культурна беларуская большасьць, падаўнаму, жабракі ў параўнаньні з народнымі меншасьцямі. Гэта няроўнасьць у замож-

насьці і культурнасьці і ёсьць галоўныя перапоны для беларусынізацыі. Каля іх і ідзе змаганьне.

Экономічна пачувае сябе грамадзянства на шляху да выздараўліваньня, дык стасунковая экономічная памыснасьць родзіць і пропорціянальную энэргічнасьць, імкненьне наперад. Гэтаму імкненьню пакуль што няма вялікіх перашкод, дык маецца прымірэньне на экономічнай астоі паміж жыхарствам і кіруючымі чыннікамі. Край памалу адбудоўуецца, палажэньне астоілася, кожды дапасаваўся, і, дзеля гэтага, галоўны страх грамадзянства каб ня быў нарушаны істнуючы грамадзкі спакой. У грамадзянстве няма імкненьня да якіх колечы палітычных перамен, бо кождаму ясна, што ўсякі закалот, скуль-бы ён не паходзіў, не прынясе нічога, акром новай руіны. Зрэшта новыя мэтады грамадзкай працы пачынаюць пацягаць штораз шырэйшыя колы, асабліва работніцтва і сялянства да Радавай улады, чаму паспрыяла зямельная і т. зв. „національная“ палітыка апошняй. На імкненьне зьнешніх чыннікаў да выкліканьня закалотаў, абываталь глядзіць з жахам, сяляне як на спробу вярнуць памешчыкаў, а работнікі як на паязьлівасьць на іх прывілеі.

У часе Конфэрэнціі шмат гутарак выклікала старэньне беларускага Радзянскага Ураду аб далучэньні Гомельшчыны да Беларусі. Гэтае далучэньне было ўжо здэцыдавана, але яшчэ не было ведама, ці яно пашырыцца і на беларускія (крывічанскія) паветы паўночнай Чарнегаўшчыны, ці будзе праведзена толькі ў рамках „полумеры“.

Дзякуючы аб‚ектыўным зьнешнім палітычным чыннікам і мудрай палітыцы Ураду Радзянскай Беларусі, каля Менска сабрана ўжо ад Усходу тры чацьвёртых этнографічна-беларускіх зямель. Астаюцца яшчэ ў складзе Масковіі этнографічна-беларускія часьці Смаленшчыны, паўночныя часьці б. Вітабшчыны і Чарнегаўшчыны, але маецца надзея, хоць не без апору маскоўскіх „патрыотычных“ чыннікаў, з часам можна будзе дабіцца далучэньня і гэтых, пітома беларускіх, частак да Беларусі.

Аб далучэньні Смаленшчыны, паміж расійцамі, ці справядлівей – старонікамі расійскай прэваляцыі і беларусамі—ідуць абывательскія дыскусіі. Галоўны аргумант першых, што горад Смаленск зрусыфікаваны ўжо аканчальна і безпаваротна. Другія—беларусы—кажуць, што горад ня зьяўляецца ў даным здарэньні паказчыкам. Гарадзкая буржуазія ва ўсіх беларускіх гарадох не беларуская. У Радзянскіх Рэспубліках дэцыдуючым элемэнтам зьяўляюцца працоўныя массы, а не буржуазія. Працоўныя-ж массы Смаленшчыны нічым —ні мовай, ні звычаямі ні абычаямі,—ня рожняцца ад такіх-жа масс у аколіцах Менска, ці якога іншага беларускага гораду. Падпарадкаваньне беларускіх працоўных масс у Смаленшчыне, жменцы расійскай і зрусыфікаванай гарадзкой буржуазіі, гэта ёсьць пагвалчаньне радзянскіх прынцыпаў, якія ў аснову дзяржаўнага кіравецтва кладуць дыктатуру працоўных масс а не буржуазіі. І беларусы упэўнены, што слушнасьць на іх старане і што пытаньне аб далучэньні Смаленшчыны адбудзецца ў найбліжэйшы час, тым-жа мірным шляхам, як цяперашняе далучэньне Гомельшчыны.

Калі гэтак ідуць справы ў межах Радзянскай Сувязі, што да зьбіраньня беларускіх зямель каля Менска, то адначасна пачынаюць аглядацца на Менск і беларускія землі, якія цяпер знаходзяцца па замежамі Радзянскай Сувязі. Што раз выразьней пачынаюць хіліцца да Менска землі Заходнай Беларусі, якія цяпер знаходзяцца пад польскай акупацыяй. Там маецца край абшарам больш 100.000 кв. кілёмэтраў, на якіх ня менш 3.000.000 жыхарства, між каторым беларусы становяць звыж 75%.

Больш двох мільёнаў Беларусаў пад польскай окупацiяй нямаюць нічога для свайго народнага разьвіцьця, наадварот, беларусы пад Польшчай прасьледуюцца як ніводная народнасьць, нават тады, калі змаганьне беларусаў не выходзіць за межы пазволеныя польскім правам. Сыстэматычныя прасьледаваньні беларусаў пад Польшчай, і, наадварот, разбудоўка Беларусі ў межах Радзянскай Сувязі родзіць, спамянутае вышэй, натуральнае імкненьне заходных беларусаў да аб'яднаньня з Менскам. Гэтак аб'ектыўныя варункі ўскладаюць на Радзянскую Беларусь місію зьбіраньня беларускіх зямель такжа і ад Захаду. Практычна пакуль што, здаецца, Менск у гэтым кірунку нічога ня робіць, але сярод тамтэйшага беларускага грамадзянства што раз больш нарастаюць настроі,—распаляныя сыстэматычнымі пагромамі беларусаў пад Польшчай,—якія з часам павінны выліцца ў актыўную помач. У кождым здарэньні сягоньняшні Менск чутка рэагуе на ўсякія зьдзекі над беларусамі пад Польшчай.

Словам, адроджаны беларускі народ што раз больш выказуе волі да народнай еднасьці ў сваей уласнай дзяржаве. І хоць яшчэ многа можна пажадаць, што да абойму дзяржаўных правоў сучаснай Радзянскай Беларусі, ў якой задалёка пасунута Сувязная цэнтралізацыя, залішне вялікая пасьляваенная руіна, засьвежы яшчэ ўплывы русыфікацыі, але ў данны гістарычны момант шансы аб'яднаньня беларускіх зямель па старане Радзянскай Беларусі. Пагромамі беларускага руху, прасьледаваньнямі і зьдзекамі Варшава ня можа адвярнуць вачэй заходных беларусаў ад Менска, каторы мае ўжо асновы для незалежнага народна-дзяржаўнага жыцьця, мае свабоду і матэр'яльныя засабы разьвіваць сваю культуру на сваей уласнай народнай астоі. Гэта ўсё добра разумеюць і ўчытываюць у Менску.

Вось, у агульных рысах, тыя ўражаньні, якія вывез я пабываўшы ў Радзянскай Беларусі.

---

# РАЗГРОМ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦІЙ ПАД ПОЛЬШЧАЙ.

Канец мінуўшага 1926 году прынёс чародны разгром беларускага (крывічанскага) руху пад Польшчай. Да цэлай валвы пратэстаў супроць гэтага новага польскага наскоку на беларусаў (крывічоў) пад польскай окупацiяй, далучыліся такжа і беларускія арганізацыі ў Літве. Гэткіх выступленьняў было дагэтуль тры:

1) Ліст старшыні Нацыянальна-Дзяржаўнага вызваленьня Беларусі В. Ластоўскага да праф. Баша, старшыні французкай Лігі Абароны Правоў Чалавека і Грамадзяніна;

2) Сход пратэсту Аб'яднанага Сабраньня Беларускіх Грамадзкіх Арганізацый у Літве, які вынес і апублікаваў сваю рэзолюцыю;

3) Тэлеграма на імя Прэзыдыуму Кангрэсу Паняволеных Народаў у Брусэлі.

Ліст да Старшыні французкай Лігі А́бароны правоў Чалавека і Грамадзяніна, высланы В. Ластоўскім:

Пане Прэзыдэнт.

На Заходна-Беларускіх (крывічанскіх) землях, заваяваных Польшчай у 1917—1921 г. г., адбываецца цяпер жорская расправа польскіх заваёўнікаў над паняволенай беларускай народнасьцю. Арыштаваны беларускія пaслы ў польскі сойм: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і др., нават бяз згоды Сойму; арыштаваны дырэктары беларускага банку і яго аддзелаў, пісьменнікі, вучыцялі, грамадзкія і культурныя дзеячы, члены соціялістычнай арганізаціі—Грамады, ўсяго больш 1500 чалавек. У Віленшчыне і Горадзеншчыне пануе цяпер тэрор і паліцэйская расправа. Кожды нямілы польскай окупаціі грамадзянін вінаваціцца, ў яка-бы прыналежнасьці да камуністычнай парціі, як роўна і ўвесь лік заарыштаваных дзеячоў.

Беларускія землі, якія ўвайшлі ў склад Польшчы па Рыжскай умове 18. III. 1921, згодна афіціяльнай польскай даваеннай статыстыкі („Rocznik Polski. Tablice statystyczne". E. Romer i I. Weinfeld. Kraków 1919. Выданьне кракоўскай польскай Акадэміі Навук), мелі да вайны нязначны процант польскага жыхарства.

У Віленшчыне: гор. Вільна 43%, Дзісенскі пав. 2%, Лідзкі 6%, Ашмянскі 2%, Сьвянцянскі 3%, Троцкі 22%, Вілейскі 3%.

У Горадзеншчыне: горад Горадня і павет 5%, Бельскі пав. 9%, Берасьцейскі 2%, Пружанскі 1%, Слонімскі менш 1%, Ваўкавыскі 1%, Беластоцкі 18%.

Высокі працэнт палякаў у Вільне і Троках, тлумачыцца ня іх этнографічным складам, а сільным уплывам польскай культуры на мясцовае каталіцкае жыхарства. Толькі ў Беластоцкім павеце заходная часьць павету заселена польскім этнографічным элемэнтам; гэтым і тлумачыцца параўнаўча высокі склад палякаў у гэтым павеце. На рэшце тэрыторыі палякі не перавышалі, ў сярэднім, 4-х% жыхарства.

На гэтых землях, дзеля гістарычных прычын, беларусы становяць выключна сялянскую массу з невялікім працэнтам гарадзкога работніцкага элемэнту. Палякі-ж становяць тут выключна клясу памешчыкаў, якая выдзяляе з сябе каталіцкае духавенства для ўсяго краю і польскае мяшчанства ў гарады.

У часе ўсесьветнай вайны значная часьць (звыш мільёна) беларускага сялянства была вывезена ў глыб Расіі. З прыходам польскай окупаціі ў Горадзеншчыну і Віленшчыну першай мысьлю палякоў было не пусьціць назад беларускіх уцекачоў, але на аснове рыжскай

умовы уцекачы былі ўпушчаны, але пастаўлены былі палякамі ў вельмі цяжкое палажэньне. У польскіх концэнтрацыйных лагерах і ізоляцыйных пунктах былі ўладжаны фармальныя зборнікі заразы, дзе массамі гінулі беларусы, пазбаўленыя санітарнай помачы. У гэты-ж самы час, на землі Заходнай Беларусі былі ськіраваны польскія каланісты, якія атрымлівалі землі і дзяржаўную грашавую дапамогу. Беларускія сяляне, вярнуўшыся пасьля ўсякіх труднасьцяў, знайшлі свае сялібы або аддадзенымі польскім каланістам, або выданымі ў арэнду, або спаленымі і зруйнаванымі. Туляючыся па акопах і зямлянках яны, ў дадатку, прымушаны былі вазіць лес для будаваньня сяліб польскім каланістам.

Польская палітыка імкнулася вынішчыць або выжыць з краю беларускае жыхарства. Дзеля гэтага сталася правілам, што кожды, хто назаве сябе беларусам, то ўжо гэтым самым ёсьць чалавек ня добранадзейны, а кожды хто абараняе правы беларусаў—дзяржаўны праступнік. У выніку—тысячы беларусаў, арыштаваных адміністратыўным парадкам годамі мадзелі ў польскіх турмах. Быў праведзены цэлы рад беларускіх палітычных працэссаў, на каторых фігуравалі дзясеткі і соткі абвінавачаных беларусаў. Цэлы рад беларускіх дэпутатаў у польскі сойм, падлягалі тэйжа долі (пасол Баран засуджаны на 4 годы катаргі за палітычную дзейнасьць, якая вялася ім яшчэ да ўмацаваньня польскай улады ў краю). Другія беларускія дэпутаты павінны былі пакінуць тэрыторыю Польшчы (Каліноўскі, Кахановіч, Якавюк).

Гэткая сытуацыя зложылася дзякуючы прыходу польскага панаваньня на тэрыторыі з нязначным, але экономічна і культурна сільным польскім элемэнтам. Паміж польскай пануючай культурна+экономічна+дзяржаўна меншасьцю і беларускай, пераважна сялянскай большасьцю, завязалася народнае і экономічнае змаганьне, комплікаваная рэлігійным і культурна-адраджэнчым момантамі.

Польскі націск выклікаў адпор: між беларусамі хутка пачала ўзрастаць народная самасьвядомасьць. Беларусы пачалі арганізавацца.

Не глядзя на ўсе агранічэньні і забароны, накладаныя на беларусаў у дзедзіне культуры, беларускія школы разрасталіся пры помачы тайнага навучаньня і ўтрымліваньня школ на прыватныя сродкі. Беларуская прэсса, не глядзя ледзь не на штодзенныя конфіскаты і арышты рэдактароў і пісьменнікаў, сыстэматычна расла, сеючы народную самасьвядомасьць і выносячы на публічны суд безпраўныя паступкі польскай улады. Коопэрацыя ў экономічнай дзедзіне дала шпаркі разрост беларускіх банкаў, каторыя пачалі ад абяднеўшых польскіх памешчыкаў выкупляць землі для беларускіх сялян.

І, от, спярша на грунце культурнага змаганьня, супроць сілай навязыванай беларусом польскай школы, а пасьля на грунце палі-

тычнага і экономічнага змаганьня з зямельнымі і фінансавымі польскімі магнатамі і польскай окупаціяй, пачала хутка расьці „Беларуская Соціялістычная Сялянска-Работніцкая Грамада, каторая мела ў апошнія часы ў краю звыж 600 аддзелаў і каля 80.000 членаў. Дзякуючы чаму палажэньне ў Заходнай Беларусі ўтварылася такое, што на выпадак выбараў у новы польскі Сойм, каторыя павінны былі наступіць у 1927 годзе, польскія арганізаціі, магчыма, не правялі-бы, ад гэтага краю, ніводнага дэпутата.

І, от, наступіў разгром беларускіх арганізацій і беларускія дзеячы знаходзяцца ў польскіх турмах,— дзе пануюць сярэднявекавыя тортуры,—пад цэлай массай дзікіх і безпадстаўных абвінавачаньняў.

Усе вышэйпаказаныя моманты, палажэньня беларускай большасьці ў Зах. Беларусі, былі ўзяты пад увагу пры бягучай новай спробе палякаў ліквідаваць беларускі адраджэнчы рух на захопленых імі беларускіх землях. У выніку—звыш паўтары тысячы заарыштаваных па абвінавачаньнях, змайстраваных польскай адміністраціяй для апраўданьня свайго дзікага паступку перад культурнай Эўропай.

Апошнія падзеі паказалі, што Польшча, імкнучыся да ўмацаваньня польскага элемэнту ў Зах. Беларусі і стаўляючы сабе палітычным заданьнем поўную дэнаціоналізацію окупаванага ей беларускага жыхарства, ігнорує яго самыя аснаўныя як народна-культурныя, так і палітычна-экономічныя правы і не дае магчымасьці змагацца нормальнымі спосабамі за ўцелаішчаньне сваіх правоў.

Беларусы, як недзяржаўны народ могуць апэляваць на міжнародным форуме толькі да добрародных пачуцьцяў грамадзкіх дзеячоў Зах. Эўропы. Гэта ў цяперашні момант адзіная інстытуція, якая раз ужо, ў травені 1924 г., ў асобе лепшых сваіх прадстаўнікоў, апублікаваўшы была Пратэст супроць белага тэрору ў Польшчы.

Сучаснае міжнароднае права, пабудаванае на прынцыпе „non intervention“, ня ўмешываньнеся ў унутранныя справы дзяржаў, выключае анэктаваныя народы з пад сваей апекі.

Але гуманныя пачуцьці лепшых людзей пакуль што не аддадзены пад сувэрэннасьць націй пануючых над паняволенымі народамі; яны зьяўляюцца сумленьнем сучаснага чалавецтва і я, ад імені беларускага народу, апэлюю к добрародным і свабодалюбівым пачуцьцям лепшых людзей француzкай нації, арганізаваным ў Лігу Абароны Правоў Чалавека і Грамадзяніна, просячы высказацца з прычыны падзей у Заходнай Беларусі. Польшча сваімі гвалтамі на беларускіх землях папіхае беларусаў да новых мэтадаў у справе абароны сваіх правоў. Няхай-жа яна пачуе Ваша справядлівае і міралюбівае слова.

Прыміце запэўненьне ў праўдзівай і глыбокай да Вас пашане.

25. I. 1927. В. Ластоўскі.

## Рэзолюцыя Аб'яднанага Сабраньня Беларускіх Грамадзкіх Арганізацый у Літве.

На адбыўшымся, 24. I, г. г., па ініцыятыве Ковенскага Беларускага Гуртка, сабраньні беларускіх грамадзкіх, палітычных і культурных арганізацый у Літве, з прычыны арыштаў беларусаў пад Польшчай, была аднагалосна прынята ніжэйпададзеная рэзолюцыя:

Апошнія прасьледаваньні беларусаў пад Польшчай зьяўляюцца завяршэньнем сыстэмы поўнай ігнорацыі правоў окупаванага Польшчай беларускага жыхарства і яго афіцыяльнага прадстаўніцтва ў Сойме.

Прадстаўнік клясы крэсавых памешчыкаў і польскай шовіністычнай палітыкі, міністр Мэйштовіч, карыстаючы дзяржаўным апаратам, праводзіць расправу і помсту над клясавымі праціўнікамі — беларускім працоўным жыхарствам, якое імкнецца пераняць ад польскіх фэодалаў права на прадстаўніцтва края.

Сабраньне протэстуе:

1. Супроць сыстэматычнага прасьледаваньня найбольш актыўнай, легальнай і лёяльнай, у стасунку да польскай конституцыі беларускай народна-палітычнай арганізацыі „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады“ (якая налічае звыш 700 аддзелаў і 80.000 членаў) і адміністратыўных массавых арыштаў, у тым ліку ўсей фракцыі Грамады ў варшаўскім сойме; якія арышты гвалцяць конституцыйныя гваранцыі беларускага жыхарства пад Польшчай.

2. Супроць разгрому і конфіскацыі спраў Таварыства Беларускай Школы, беларускіх коопэратыўных банкаў і другіх культурна-экономічных беларускіх установ пад Польшчай.

3. Супроць сыстэматычна распашыраных Польшчай (і паслухмянай ей прэссай, асабліва „Wileński'м Dziennik'ам і рыжскім „Сегодня“) на працаўнікоў беларускага адраджэньня, выдумляных польскай дэфэнзывай, інсынуацый, чым польскія шовіністы стараюцца за маскаваць і апраўдаць узурпацію правоў беларускага народу і свае гвалты над беларускім жыхарствам.

Сабраньне пасылае сваё гарачае прывітаньне змагаром за беларускую справу пад польскай окупацыяй і ўпэўнена, што іх праца і мукі выкуюць свабоду і нормальныя варункі істнаваньня для беларускага жыхарства.

Сабраньне заклікае ўсіх, хто спачувае справе вызваленьня паняволеных народаў:

1. Вымагаць ад Польшчы безадкладнага звальненьня з пад арышту беларускіх дэпутатаў сойму і амністыі ўсім палітычным вязьням, якія знаходзяцца ў польскіх турмах.

2. Вымагаць ад Польшчы выкананьня, нададзеных сучаснай эпохай і міжнароднымі ўмовамі, забавязаньняў што да задаволеньня народна-культурных і соціяльна-экономічных патрэб, увайшоўшых у яе склад меншасьцяў.

3. Вымагаць права на самаазначаньне беларускаму жыхарству ў тых кругаколіцах, дзе яно становіць большасьць.

Па даручэньню сабраньня: В. Ластоўскі, А. Галавінскі, К. Душэўскі. Старшыня сабраньня Н. Сафронаў.

---

Тэлеграма Кангрэсу паняволеных Народаў у Брусэлі.

Вітаем Кангрэс паняволеных народаў, якія пастанавілі супольнымі сіламі дабівацца асягненьня сваіх замацаваных сучаснай эпохай суврэнных правоў.

Ваша праца знойдзе гарачы актыўны водгук сярод беларускіх масс.

Просім Кангрэс выказаць свой пратэст з прычыны массавых арыштаў беларускіх нацыянальных грамадзкіх дзеячоў пад Польшчай.

Ластоўскі, Галавінскі, Рагевіч.

## Архібіскуп Юры Матулевіч.

25 студзеня г.г. памер у Коўне архібіскуп Юры Матулевіч, быўшы віленскі р.-к. біскуп.

Нябошчык Юры Матулевіч радзіўся ў аколіцах Марыямпаля ў Сувальшчыне ў 1871 годзе. Пасьля акончаньня гімназіі паступіў у келецкую духоўную сэмінарыю, з якой быў пераведзены ў варшаўскую сэмінарыю. Дакончыў адукацію ў Пецярбургскай Духоўнай Акадэміі і завяршыў яе ў Фрыбургскім унівэрсытэце. У 1907 годзе быў запрошаны на прафэсара ў Петраградзкую Духоўную Акадэмію. У 1918 годзе быў назначаны віленскім біскупам. Віленскай дыэцэзіяй кіраваў да 1925 году.

На становішчы віленскага біскупа Юры Матулевіч выказаў сябе шчырым прыхільнікам беларусаў. Ен першы з віленскіх біскупаў даваў апрабаты на богаслужэбныя і рэлігійныя беларускія кнігі, не перашкаджаў арганізаваньнюся беларускіх ксяндзоў, падтрымліваў навучаньне веры і казаньні ў беларускай мове для беларусаў (крывічоў). Віленская дзейнасьць архібіскупа Юрага Матулевіча пакінула добрыя ўспаміны сярод беларусаў каталікоў. Дзеля гэтага над яго гробам прыйшлі і беларусы выказаць свой шчыры жаль з прычыны ўтраты аднаго са сваіх прыяцеляў і аддаць належную чэсьць яго астанкам.

# Д-р. Ян Басановіч.

16-га лютага г.г. памер, у Вільні адзін са старэйшых дзеячоў літоўскага народнага адраджэньня Др. Ян Басановіч, на 76-м годзе свайго жыцьця.

Радзіўся Ян Басановіч ў 1851 годзе, ў вёсцы Ашкабалях, у Сувальшчыне, каля Вілкавішак. Акончыў гімназію ў сябе на бацькаўшчыне, ў Марыямпале, і мэдыцынскі факультэт у Маскве (1879 годзе).

Даволі доўга Ян Басановіч працаваў, як доктар Мэдыцыны, ў Баўгарыі. Урэшце ў 1880-х годах выехаў у Прускую Літву, дзе прыступіў да выдаваньня рэдагаванай ім газэты „Aušra“ (Золак).

Часопісь „Aušra“ адыйграла вялікую ролю ў справе літоўскага, як культурнага так і палітычнага, адраджэньня. Др. Ян Басановіч быў адным з носьбітаў і шырыцеляў сярод літвіноў дзяржаўна-незалежніцкіх думак і яму суджана было дачакацца ўтварэньня незалежнай літоўскай дзяржавы. Ацэняючы заслугі д-ра Басановіча, паложаныя дзеля дзяржаўнага адбудаваньня Літвы, літвіны ў незалежнай Літве, стаўлялі яшчэ за жыцьця помнікі д-ру Басановічу.

У 1907 годзе д-р Басановіч залажыў першае Літоўскае Навуковае Таварыства ў Вільні, якога быў Старшынёй аж да сьмерці.

Перад літоўскім народам заслугі д-ра Яна Басановіча вельмі вялікія, дык саўсім слушнай была тая павага і пашана, якой цешыўся нябошчык за жыцьця сярод шырокіх слаёў свайго грамадзянства.

Усе народнасьці Вільні выказалі літоўскаму грамадзянству свой жаль з прычыны утраты аднаго са старэйшых пачынальнікаў літоўскага адраджэньня.

Вечная памяць стойкаму змагару за вызваленьне свайго паняволенага народу.

# ЗАПІСКІ.

**Вітольд Прушкоўскі і Міхайла Мікешын.** Вітольд Прушкоўскі быў родам з Валыншчыны, паходзіў з сярэдня-заможнай шляхты, вучыўся малярства ў 1860—70-х гадах у Мюнхенскай Акадэміі, дзе належаў да найбольш здольных вучняў. У той час у Мюнхене, ў ліку студэнтаў Акадэміі, была цэлая група палякаў, якія залічалі да сваіх і Прушкоўскага. Але Прушкоўскі заўсёды зазначаў, што ён па нацыянальнасьці украінец. На студзіях любіў Прушкоўскі сьпяваць украінскія думкі і дэклямаваць адрыўкі вершаў Шэўчэнкі. Палякі студэнты зазвычай падкпівалі з яго „украінскасьці" і не раз у часе дыскусій востра дапякалі.

Калега Прушкоўскага па мюнхенскай акадэміі і яго найбліжэйшы прыяцель, Нікодым Іваноўскі, апавядае аб адным вымоўным эпізодзе з дыскусій Прушкоўскага з яго калегамі палякамі.

Пры студзійнай працы ў акадэміі завязалася раз звыклая дыскусія на тэму народнай прыналежнасьці Прушкоўскага. І адзін са студэнтаў сказаў Прушкоўскаму:

— Які з цябе украінец, калі ты носіш „зыгмунтоўскую" клінком бародку, а украінцы-ж галілі бароды і насілі толькі завесістыя вусы.

На гэткі аргумант, выведзены з цярплівасьці, Прушкоўскі дастаў з кішаня сцызорык, і, падлажыўшы палетру, тут-жа на мейсцы, абрэзаў сабе сцызорыкам бародку. А пасьля гэтага ўжо больш барады не насіў. *)

Прыблізна ў 1885-м годзе быў Прушкоўскі ў Кіяве, дзе здарэньнем пазнаёміўся з бавіўшым тады там Мікешыным, з каторым падружыў і меў некалькі інтымных гутарак. Вярнуўшыся з Кіява Прушкоўскі з вялікім прызнаньнем адзываўся аб Мікешыне, называючы яго „вялікім беларускім мастаком". Калі раз, на аднэй з вячорных гарбатак ў Марыі Конопніцкай у Варшаве, ў каторай зазвычай зьбіраліся тагочасныя пісьменнікі, маляры і артысты, нехта зацікавіўся і спытаў Прушкоўскага чаму ён называе Мікешына „беларускім" мастаком,—Прушкоўскі адказаў, што такім сябе называе сам Мікешын і дадаў „у маіх гутарках з ім ён так пераконуюча, з такім захватам гаварыў аб Беларусі, што безмала я сам не пачуўся беларусам, паміма маіх украінскіх пераконаньняў; зрэшта Прушкоўскія выводзяцца з Беларусі. *).

*) З вустных пераказаў Нікодыма Іваноўскага.

Мікешын быў родам са смаленшчыны, з гораду Рослаўля. Значнейшыя яго работы—гэта абраз „Уезд Тільля ў Магдэнбург", помнік тысячалецьця Расіі ў Ноўгарадзе, помнік Кацярыны II у Петраградзе, помнік Багдану Хмяльніцкаму ў Кіяве, помнік адміралу Нахімаву ў Севастопалі.

У журнале „Историческій Вѣстникъ" (1913 г., т. 7) зьмешчаны артыкул вядомага публіцысты А. Каўфмана дзе ён апавядае аб адным характэрным для Мікешына здарэньні. З прычыны юбілею М. Мікешына „Одесскія Новости" ў 1886 годзе зьмесьцілі належны артыкул і партрэт, але па абмылцы партрэт быў надрукаваны не Мікешына, а мастака Макоўскага. Дзеля таго, што аўторам юбілейнага артыкулу быў А. Каўфман, Мікешын напісаў асабіста яму ліст, дзе дзякуючы за прыхільны артыкул кажа аб абмылцы з партрэтам даслоўна гэтак: „як бѣлорусській пан я зроду бороды не носивъ".

Ня менш цікавае здарэньне аб Мікешыне апавядае ў сваіх „Успамінах" беларускі пісьменнік (родам з пад Слуцка) Альгерд Абуховіч **). Па дарозе з Масквы ў Менск Абуховіч купіў на аднэй са станцій нумар журналу „Нива" (1992 г., № 201) і зайшоўшы ў купэ II-й клясы разгарнуў куплены журнал і натрапіў на 9-й балоне на рысунак з беларускага быту, работы Мікешына. Рысунак выбражаў сцэну на задворках сялянскай смаленскай сялібы. Пры студні стаіць, кроў з малаком маладзіца, а перад ей дзяцюк-падростак, роўны з ей узростам. Пад рысункам подпіс:

„А й вяликій же-жъ ты дурень, як погляжу: ничогачки ты такого ня смыслишь!

— Не—йща нясмыслю...

*) З вустных пераказаў Э. Оржэшковай.

**) З рукапісных успамінаў А. Обуховіча, ў сабраньнях В. Ластоўскага.

Я прачытаў, усьміхнуўся і пачаў, відаць лішне ўважна і лішне доўга ўглядацца ў рысунак. На супроць мяне сядзеў пажылы чалавек, які ўрэшце заўважыў мой захват рысункам і спытаў па расійску.

— Вам падабаецца гэты рысунак?

— Больш рысунка мне падабаецца подпіс, адзказаў я.

Мала памалу паміж мной і маім спадарожнікам завязалася гутарка, галоўнай тэмай якой была Беларусь. Зацікаўленьне Беларусьсю і знаньнем беларускай мовы ў расійцу мяне нямала зьдзівіла, але літэрацкая жылка пaпісацца перад слухачом мяне падбіла, што я прадэклямаваў яму некалькі сваіх вершыкаў і пераклад мой з Міцкевіча: „Ужо разагнаны маўроў слабоды, мір іх ў няволі бядуе"... Гэты апошні верш, мой прыгодны слухач сквапна запісаў сабе ў нотэс. Кончыўшы пісаньне сказаў:... „якая шкада, што Міцкевіч пісаў не па беларуску". У Смаленску спадарожнік мой высядаў, і, на пращчаньне, зарэкомандаваўся: „Міхайла Мікешын, з роду племені і з пераконаньня—Беларус, заўсёды гатовы да вашых паслуг".

Я астаўся, як той казаў, з разінутай губай".

Карчак.

**Katechizm o czci cesarza Wszech Rossyi**, czyli objaśnienie czwartego przykazania Boskiego w stosunku do Zwierzchności Krajowej. Za Najwyższym rozkazem, dla użycia po szkołach i kościołach Rzymsko Katolickich wiejskich wydrukowany. Wilno. Nakład i druk T. Glusberga, księgarza i typografa szkol białorusk. nauk. okr. 1845. 15$\times$9 цм. б. 16.

На адвароце агалоўнай (2-й) балоны зьмешчаны: „Katechizm większy o czci cesarza Wszech Rosii, czyli objaśnienie czwartego Boskiego prykazania w stosunku do Zwierchnośc Krajowej", які канчаецца на 9-й балоне. Гэта часьць катэхізму надрукавана толькі адзіна па польску.

З 10-й і 11-й балон пачынаецца другі агаловак: „Katechizm mniejszy"... і т. d., даслоўна, як у катэхізме большым, прычым левая балона друкавана па польску, а процілеглая, правая балона, зьмяшчае крыўскі (беларускі) тэкст, відаць у перакладзе, бо пунктуальна паўтарае зьмест і стыль мовы польскага тэксту. Друк канчаецца на 15-й балоне; 16-я—чыстая.

Кніжыца духоўнай апробаты не мае.

Зьмест беларускай (крывічанскай) часьці катэхізму—гэткі:

**Katechizm mieńszy**

o czci Cara Wsierossyjskoho czybo to abjaśnienje czwartoho Bozkoho prykazanja, szto do Kra[illegible]voho Naczalstwa.

1. Pytanie: Szto w duchu relihii Chrystusowaje my poddanyje powinny CARU naszomu Samadzierżaucy Wsieje Rossyi?

Adpowiedź: Powinny my czcići i lubići CARA, okzywaći IEMU posłuszność i wszielakuju życzliwość i mal[illegible]sia za jeho do BOHA.

2. P. Oprocz CARA, czy treba szanowaći wsiela ije własći i ich słuchaći?.

A. Treba; bo jeny heto spauniajuć tuju czaść rondu, u mieru, jak szto katorym paruczano, sto owno do prau i paradku.

3. P. Czy należyt się lubići Ajcryznu naszu Rossyju.

A. Należyt się lubići i dobre jej życzyći i dla jeje usłuhi swoje poświeczaci, wodłuh taho, jak prypisuje prawo i Wola CARA.

4. P. Czy hety obowiazki reczywisto i wyrazna podaje Relihija?.

A. Reczywisto i wyrazna w Ewangelii i w inszych knihach Pisma świetoho*).

5. P. W jaki sposob Relihija to prykazuje?

A. Prypominajuczy i wrażajuczy mocno Chreścijanom: szto wsielaka właść a najpiersz MONARSZA, jość od BOHA wstanoulena, a to dla spokoju bezpiecznosci i bolszoho dobra ludziej doczasnoho i wiecznoho.

6. P. Czy było-by hrechom chibići hetoj creści i wierności, a wczynići źniewahu i zdradu?

A. Było-by wielikim ciażkim hrechom. Bo wyrazno mowić Pismo świetoje, że chto się

*) Nota. W Ewangelii S. Mateusza, w r. XXII. W Liście 1 ś Piotra, w r. II. W Liście Pawła ś. do Rymian, w r. XIII. Do Efezyan, w rozdziale VI. W Liście 1. do Tymoteusza, w II. W Psalmie XIX.

spraciulajetsię Zwierchości, BOSKOMU pastanouleniu spraciulajetsię i ściahajeć na siebie wiecznuju pahibiel.

7. Czy Kaścioł światy molitsię zu MONARCHU i za wsie stany w ajczyźnie?.

**A.** Jość hety zwyczaj w Kościele od poczatkow Chryścijanstwa i trywaći budzieć aż do konca świeta, na dowod prawdziwej sumlennej życzliwości do MONARCHY, dla dobra wsich ogulnomu, i dla zasłuhi w Pana BOHA: kotory pryświetczyu w Piśmie Świetym, że takije postupki i takije modły wiernych, jość Jemu pryjemnyje.

Кніжыца пераховывалася ў кнігасхове двара Чабішкі, некалісь уласнасьць Пілсудскіх (вількомірскага пав.), зьяўляецца ўласнасьцю М. Гірдзевіча з пад м. Крэва.

**Так званая „бабская мера“.** Адпачываючы ў свайго дзядзькі, Астапа Мікулевіча, ў засьценку Ройсты, сьвянцянскага павету, я ў 1925 годзе правёў досьледы ў гэтай ваколіцы, над цяпер штораз радзей ужыванай і агульна іранізаванай „бабскай мерай“. У выніку маіх досьледаў аказалася, што гэта мера мае сваю лёгічную пабудову і стройную сыстэму. Яна, як мне здаецца, зьяўляецца перажыткам нейкай прадаўнай сыстэмы мер, саўсім самабытнай і годнай увагі. Вось вынікі маіх досьледаў.

Прадучы, парадкуючы ніткі, ткучы палотны і кроючы іх на адзеньне, нашы вясковыя жанчыны не паслугоўвуюцца мерамі прынятымі ў гарадох і сярод „культурных“ і гандлёвых слаёў жыхарства, але ўжываюць сваей уласнай меры на „пальцы“, „кархі“, „пядзі“, „локці“, „наручкі“ або „станы“, „сяжні“, „сьцены“ і „паставы“.

Мера „палец“ паказуе шырыню або вышыню чаго ў таўшчыню спаказчага пальца ў „костачцы“ г. зн. ў другім суставе ад пазнокця і мае, ў пераводзе на мэтрычную меру, немаль сьцісла, два цантымэтры.

„Ко́рх“—шырыня „ў костачках“ трох пальцаў распрастанай далоні (у іншых—вышыня сьціснутага кулака; але апошняе радзей) мае, ў прыбліжэньні шэсьць цантымэтраў.

„Пяда“—распрастаныя пальцы рукі, ад верху вялікага пальца „пянтуха“, да канца сярэдняга пальца „даўгача“, павінна заключаць у сабе тры кархі і класьціся два разы ў локці.

„Локаць“—рука ад лакцявой косткі „жбіцы“ да верху сьціснутай у кулак далоні, а ласьне 3-га суставу мезенага пальца, заключае ў сабе дзьве пяды, або шэсьць кархоў.

„Наручка“, або адно і тое-ж—„стан“ (мера немаль выключна стасаваная да мераньня тканін)—лічыцца ад канца вялікага пальца „пянтуха“ да сярэдзіны грудзей (сьцісьніце нітку між выпрастаным „пянтухом“ і „спаказчым“ пальцам і роўна з плячом адхінуўшы ўзад руку, палажыце другі канец яе на сярэдзіне грудзей), заключае ў сабе 3 локці.

„Сяжань“—заключае ў сабе шэсьць локцяў і выражае меру разнятых роўналегла з плячамі рук.

Нармальная (не вялікая і не малая) „сьцяна“ асновы, павінна заключаць 6 „наручак“ або „станаў“, што знача 3 „сяжні“.

Тры сьцяны лічыцца нармальным „паставам“ тканіны.

Усё гэта ў пераводзе на мэтрычную меру, мае ў сярэднім:

Локаць=36 цант.; наручка або стан (36×3)=108 цм.; сяжань (36×36)=216 цм., сьцяна=18 локцям (18×36)=648 цм.; пастаў =54 локцям (54×36)—1744 цм.

У аснову гэтай меры палажана адна з рацыянальнейшых, а ласьне, натуральная сыстэма мэры: палец, пяда, локаць, сяжань, сьцяна, пастаў, і, ў дадатку пабудавана яна на вельмі выгоднай (выгаднейшай чым дзесяцічная) шасьцярычнай сыстэме лічэньня (лічэньне на тузіны, копы), што гаворыць у карысьць яе прадуманнасьці, а жыцьцёвая вартасьць сьведчыцца ўжо тым, што не гледзячы на ўсякія афіцыяльныя меры, і на перакор ім, яна дажыла да нашых дзён, дык гэта старасьвецкая мера заслуговуе большай увагі і пашаны чым яна мела ў нас дагэтуль.

Даніла Чарняўскі.

**Аб паходжаньні назову „Крывічы“.**

У сучасны момант людзі, якія паходзяць з адной мясцовасьці, на чужыне называюць сябе „землякамі“ ў адрожнэньне ад акружаючых іх „чужых“ людзей, людзей іншай зямлі. Назоў „зямляк“ вынікае з паняць-

ця аб зямельнай тэрыторыі, каторая зьяўляецца як-бы прыроднай уласнасьцю таго народу, які на ёй жыве.

У часы родавага быту ў паасобных плямёнаў гэткай блізасьці людзей па паходжаньню з аднэй зямлі не істнавала, тэрыторыяльная прыналежнасьць ня родніла, не зближала людзей, сучаснага паняцьця аб з я м л і ня было. Зближалі паміж сабою людзей інтэрасы таго роду, да якога яны належалі, і „сваімі“ лічыліся толькі тыя, што паходзілі з аднаго роду ў адрожненьне ад „чужых“—з іншага роду. Сярод гэтых „чужых“ выхадцы з аднаго і таго-ж роду называлі сябе словамі, якія выражалі паняцьце кроўнай блізасьці. Продкі нашага народу гэтае паняцьце выражалі словам „Крывіч“,—г. зн., блізкі па крыві.

Чаму-ж гэты назоў стаўся азнакай не аднаго толькі якога-колечы роду, а цэлага вялікага славянскага племені? Справа ў тым, што ніводзін народ не надае сам сабе нацыянальнага назову, апошні надаецца суседнімі народамі, з якімі тое або іншае племя, той або іншы народ мае якія-колечы стасункі, пры чым назоў гэты надаецца не выпадкова, а на падставе якіх-колечы характэрных адзнак. Гэткай падставай для наданьня назову нашаму народу паслужыла тое, што ў часе сваіх тарговых падарожаў у Заходную Эўропу аж да Рыму крыўскія купцэ „сваіх“ людзей сярод чужаземцаў называлі „крывічамі“, бо і запраўды ў небаспечную на тыя часы, вялікую падарожу зьбіралася чым найбольш прадпрыемцаў з аднаго якога-колечы роду, зьвязанага аднолькавымі інтэрасамі. А як называлі сябе нашы купцэ сярод чужаземцаў, так пачаліназываць іх і апошнія, прыкладам,—немцы і італьянцы *). Крыўская колёнізацыя ў землі заселеныя фіна-татарскімі, а такжа іншымі славянскімі плямёнамі **), адбывалася таксама яшчэ ў часы родавага быту, калі на новыя мяйсцовасьці перайходзілі цэлыя роды Крывічоў або блізкія па крыві пакаленьні гэтых родаў. Гэта сьведчыцца назовамі новых крыўскіх сялib, у найменьнях якіх заложана паняцьце блізасьці па крыві новых пасяленцаў, прыкладам, сялібы Крыўцы, Крыўцовы, Крывец, Крывандзіна, Крыўская і г. п. У адрожненьне „сваіх“ родных па крыві, людзей ад „чужых“ плямёнаў, сярод якіх абасналіся крыўскія пасяленцы, апошнія называлі сябе „крывічамі“. Разумеецца, што і суседнія плямёны называлі іх гэтым-жа імем. У часе вайсковых паходаў і ў чужацкім палоне словам „крывіч“ адрожнівалі нашы продкі сваіх ад чужых. Ва ўсіх гэтых здарэньнях і суадносінах у часы родавага ўкладу блізкія і далёкія суседзі знаёміліся з нашымі продкамі пад тых назовах, якім яны адрожнівалі сваіх кроўных, г. зн., прыналежаўшых да аднаго роду. З бегам часу гэта родавая азнака ў паняцьці іншых плямёнаў і народаў сталася азнакай цэлага славянскага народу, пасяленьне якога Пачатны Летапіс акрэсьлюе начамі Зах. Дзьвіны, Дняпра, Волгі і палуднёвай часьцю Азёрнага краю. Тое, што Крывічоў знаті ў Заходнай Эўропе на пачатку гістарычных часаў, сьведчыць аб дасьцейлівасьці і прадпрыемчых здольнасьцях нашых продкаў, якія перадалі гэтыя адзнакі і сваім патомкам—сучаснаму—беларускаму народу. Такім парадкам, слова „Крывіч“ з прыметніка сталася імем цэлага народу, падобна таму, як слова „зямляк“ у быўшай Расіі сталася імязовам кождага жаўнера, які адзываўся, калі яго клікалі гэтым словам. Апошні імязоў распашырыўся на жаўнераў па той прычыне, што ў царскія часы жаўнеры на доўгатэрміновую вайсковую службу былі пасыланы далёка ад свае бацькаўшчыны, роднай зямлі, і, калі ім даводзілася на чужыне сустрачацца са сваімі землякамі, то гэта насіла ўрачысты характар, і слова „зямляк“ зьяўлялася пры гэтым часта ўжываным, нечым сьвятым, дарагім, што прыемна лашчыла слух пабратымаў з адной мяйсцовасьці сярод жорсткіх і цяжкіх абставін іх вайсковага жыцьця. Ня дзіва, што кожды жаўнер з радасьцю адклікаўся на гэты імязоў. Пэўна, ня менш прыемна і радасна гучэла слова „крывіч“ нават з вуснаў чужаплемцаў для нашых продкаў, калі ім здаралася быць на чужыне ў часе тарговых падарож або сярод чужых плямёнаў у часе колёнізацыйных руxaў або войн. Ня менш прыемна гэты назоў гучыць для вуха і сучасных, найбольш нацыянальна сьвядомых крывічоў, каторыя бюро-

*) Гл. артыкул В. Сулімірскага: Аб назовах „Крывія“ і „Беларусь“ ў № 10 (2) „Крывіча“ за Ліпень—Сьнежань 1925 г., б. 36.

**) Гл. мой артыкул „Абшар, займаны Крывічамі і крыўская колёнізацыя“ ў 10 (2) № „Крывіча“ за Ліпень—Сьнежань 1925 г., бал. 27-36.

кратызмам быўшай Расіі не пазбаўлены яшчэ адвагі і гонару лічыцца продкамі свайго ўласнага, а не чужога народу з нормандзкага племені „Русь“. Для сьвядомага нашчадка Крывічоў цяперашні яго назоў „беларус“ зьяўляецца гістарычнай недарэчнасьцю, якая ў гэты спосаб як-бы выключае Крывічоў з сям'і славянскіх народаў, сярод каторых ніколі ня было ні „вялікага“, ні „малога“, ні „белага“, ні „чорнага“ племені „Русь“. Племя пад назовам „Русь“ было толькі сярод германскіх народаў. Дык няўжо-ж цяперашнія „беларусы“—нашчадкі германцаў—норманаў?! Па другое, назоў „беларусы“ раз'ёднывае адзіны і родны па крыві вялікі крыўскі народ, які і без таго раз'еднаны палітычна—„Крывіч“—кроўны, родны па крыві—паняцьце, якое павінна стацца сымболям братняй еднасьці нашага народу ў яго агульных націянальна-вызваленчых імкненьнях. „Крывіч“, як паняцьце кроўнасьці і блізасьці, павінна стацца аб'ёднываючым імем усяго крыўс ага народу, дзе-бы і над чым панаваньнем ён не знайходзіўся. Назоў-жа „беларусы“ ня можа быць аб'ёднываючым, а наадварот,—раз'ёднываючым наш народ, бо кожны з тых, кто задаволены з чужога імені і, знача, з чужога напрамку, з вялікай лёгкасьцю, па вымаганьню палітычных варункаў, можа стацца „вялікарусам“ ці „белапалякам“ (Ня ўсё роўна, які мець з гэтых трох фальшывых пашпартоў?!). Назоў-жа „Крывіч“ для падобных варыяцій зьяўляецца надта далёкім паняцьцем, бо гэта запраўднае, ўласнае імя нашага народу.

А. Матач.

## Аб караню „віт“, „вет“ і выводных словах і паняцьцях.

Ва ўсіх славянскіх мовах карэнь „віт“, „вет“ выражае паняцьце аб: 1) мове, вымове, красамоўстве і 2) служыць для абазначаньня ўласьцівасьці, якая выражае перамогу, пераваґу, старшэнства, старасьць і вечнасьць.

Паводле Шафарыка (Star. slov. § 18, 350) ў першапачатнай аснове карэнь „віт“ заключаў у сабе толькі паняцьце мовы, вымовы, выслову — што, бадай, зьяўляецца вельмі праўдападобным.

У значэньні выслову славянскія мовы знаюць цэлы шэраг слоў з каранём „віт“, да гэткіх належаць:

Стар. слав. Вітія, рытор, оратор, красамоўца (Слоўнік Л. Зызаняга, 1596 году).

Вітаць, паздраўляць словамі, жадаючы жыцьця і здароўя.

Вітальніца (стар.) пакой, сьвятліца ў якім прыймаюць гасьцей.

Вячаць (Ноўгародзк. і пскоўск. нар.) верашчаць, крычаць, вірзчэць.

Вяшчаць, апавяшчаць, прапаведываць, прарокаваць.

Весьціць, паведамляць.

Весьць, ведамка перададзеная словамі; навіна.

Вяшчба, прапаведня, прароцтва.

Вешчы, каму ўсё ведама і хто прадсказуе будучыну.

Вяшчэль (пскоўск. нар.) адгадчык, прарок, вядун.

Вешчыца (пскоўск. нар.) „ведзьма каторая кладзе сваё цела пад ступу а сама вылятае сарокай праз комін“. (Даль. Словарь, т. I).

Лаўрын Зызані ў сваім слоўніку слова „взвѣщаю“ тлумачыць проста „оповѣдаю“, „взвѣщаніе—оповѣданье; умъ вператю; розум як розлегъчаю або тонко розмышляю“. Гэта апошняе сьведчаньне Зызаняга, які на 300 гадоў жыў раней нас, а знача на гэтулькі-ж гадоў быў бліжэйшым да першапачатнага разуменьня слова, зьвязуе „оповѣданье“ з разлягчаньнем розуму і „тонкім размышляньнем“, знача з ведай, згэтуль:

Вядун, ведзьма, знахар, чалавек які абладае знаньнем.

Ветны, (народн. горадзенск.) бывалы, відалы чалавек, які многа чаго ведае.

Ветлы, прыветлівы, абычайлівы, які абладае знаньнем абычаяў, таварыскага этыкету.

Гаварыць г. зн.—„вячаць“, „вяшчаць“ і сьвеціць-нашы прапрашчуры маглі на агульных сваіх нарадах „вечах“, але дзеля-таго, што на „ветных“ людзёх племені ляжаў абавязак ня толькі займацца „віційствам“, або ветніцтвам на агульных сабраньнях, але такжа і абавязак станавіцца ў бой супроць ворагаў, згэтуль „вітія“, „ветнік“ злучае ў сабе такжа другую

рысу, ён ня толькі прамоўца, але і рыцар.

Віцязь, харобры, ўдалы, ўдатны ваяр, пераможца;

стар. звыцяжства,—перамога (санскр. Vidjaya—перамога).

Віцінічы—ў старадаўных сэрбаў абазначала клясу вайсковых людзей, тое што ў нас называлі ваярамі, баярамі. Vitežne kublo (кубло=нямецк. Lehugut) гаспода, сяліба віцязя, яго гняздо (гл. W. Bogusławski. Rys Dziejow Serbo-Lužyckich. Petersburg 1861, б.б. 145—147).

Дзеля таго-ж, што быць таварышом грамадзкіх нарад і пастаноў і выступаць у абароне грамады мог толькі чалавек, свой, мясцовы, аселы, згэтуль карэнь „віт", „вет" ўключае ў сябе паняцьце прабываньня, быцьця, мейсцазнаходжаньня, гэтак:

стар. слав. Вітать, абазначае такжа жыць, прабываць дзеколечы часова або заўсёды;

Вітаці (h bitare), жыць, абараняць.

Вітальня (ноўгародзк.) дом для прыпынку падарожнікаў, прытулак.

Чалавек аселы, ваяўнік і раднік на народных вечах быў сярод сваей грамады чалавекам выдатным, знаным, паважаным, згэтуль карэнь „віт", „вет" сустрэчаем у словах:

Вящій (стар.), польск.; większy, большы, старшы, вышэйшы. „Вящіе люди", большыя, старшыя, знатнейшыя.

Вышэйпрыведзеныя азнакі маглі быць прыпісываны толькі людзём сурьёзным, пажылым, бадай, пераважна старцам, згэтуль:

Ветхі, стары, даўны, аджываючы.

Ветах, стары месяц; месяц на ўшчэрбе ў 4-й квадры.

Вечнасьць, даўнасьць, як можна мысьлю сягнуць.

Гэтак першапачатны карэнь „віт", „вет", які выражаў наагул мову, з часам пачаў азначаць мову натхнёную, прыгожую, вешчую. Дзеля таго што ня кожды чалавек абладае—патрэбнай здольнасьцю, жыцьцёвай практыкай і грамадзкімі правамі—для выяўленьня сваіх мысьляў, то паняцьце заключанае ў павышшым карані было перанесена на клясу грамадзян, якія адпавядалі ўсім павыжшым варункам; гэта былі павадыры і абаронцы сваіх плямён, і, вось, „віцязь" набірае значэньня ваяра які перамагае ворагаў, наагул пераможцу, рыцара; ўрэшце—старшыню, старца Гэтак с першапачатнага зерняці „віт", „вет" вынесенага славянамі з праарыйскай калыбкі, з бегам часу вырасла аграмаднае дрэва з многімі галінамі і веткамі.

Л. А.

## Словачын „рымзаць" і выводныя ад яго словы і паняцьці.

Рымзаць, у Насовіча (б. 571) „румзаць", слова аднaзначнае з рас. „рюметь" зн. плакаць у голас працягла, або перарыўна і скрыпуча-надаедліва. Згэтуль „рымза" (у Насовіча „румза")—плакса. „За рымзаю гэтым нічога не чутно" — „Рымзаньне" дзіцячы плач. „Рымзы" — дзіцячыя капрысы з плачам. „Рымзачка"—плакса (пешчатна). „Рымза", „рымзун", „рымзель" — плакса (лайчыва). „Рымосы"—капрысы. Распусьціў рымосы, хоць з хаты ўцякай.

Рымка — самая тонкая струна на скрыпцы, якая выдае тон-і плакучы гук. „Рымкаць"—пaскрыпываць. „Калаўрот рымкае".

Рымзаць, (акром плакаць) — скрыпець на скрыпцы і наагул скрыпець. „Цэлы дзень смыком рымзае". „Не йграе, а рымзае". Боты ў яго як ідзе рымзаюць. „Рымза", рымзун—дрэнны музыкант, які няўмее іграць на скрыпцы. „Рымснуць"—скрыпнуць. „Рымкаць" „рымкнуць" — „скрыпнуць, скрыпець, скрыпнуць коратка. „Рымчэць" скрыпець працягла, выдаваць працяглы скрып. „Рымець" выдаваць працяглы голасны скрып; гаворыцца аб дзьвярох, варотах, калі трэба адцяніць вышэйшую ступеню чым „рыпаць". „Нашы вароты ня тое што рыпаюць, а ўжо нема рымяць". „Рымсьцець", скрыпець густым поскрыпам, працягла.

Рымст, аднаразовы скрып. „Чую, ажно вароты—рымст, рымст,—нехта паціханьку іх адчыняе". У пераносным значэньні „рымст" абазначае, напор стрымліванага жаданьня, стрымліваны парыў; падобна як вароты „рымскаюць" калі напор наклону варот бывае

стрымліваны іх вагой у апорным пункце, ў пятніку, так фігуральна гэтым словам малюецца духовы стан чалавека, ў якога прарываецца стрымліванае воляй хаценьне ці імкненьне. „Рымсьціць“, „зарымсьцела“—хочацца. „Табе рымсьціць, зарымсьцела пабегчы туды“. „Яму рымсьціць сказаць гэта“ (Нас. 563). „Зрымсьціць“, стрываць, не глядзя на процілеглае пачуцьцё. „Пакуль што рымшчу яму“. „Зрымшчу яшчэ троху“ (Нас. 563). „Зрымсьці яшчэ хоць гадзіну“ (Нас. 219) „Няўрымсьціў“—неўтрываў.

С. Т.

## Аб слове „гаспадар“.

Некатарыя з нашых моваведаў памылкова зблiжаюць слова „гаспадар“ са словам „госьць“: „gostьpodarь у сівую старасьвеччыну азначала загадчыка гандлем—гасьцьбой“ (з матэр'ялаў надасланых ў Рэд. „Крывіч“).

Ва ўсіх арыйскіх мовах карані „гост“ і „госп“ маюць блізка зусёды процілежнае значэньне. Прыкладам у лацінскай мове hospes мае значэньне—гаспадар, прыяцель, а слова hostis—чужынец, вораг, праціўнік. Такое самае значэньне гэты два карані ўтрымалі і ў нашай мове: слова „госьць“ цяпер азначае ў нас чалавека чужога, заходжага ў дом па запрошаньню ці без запрошаньня; даўней-жа мела значэньне наагул чужынца, ў яго найбольш частай ролі,—таргоўца. Слова „гаспадар“, наадварот, абазначае чалавека свайго, кіраўніка і прадстаўніка сямьі.

Падобна як са словам „госьць“, нельга такжа зьмешываць слоў „гаспадар“ і „гусудар“, бо гэты два словы не маюць супольнай крыніцы паходжаньня*).

„Государ“ мае ў сваей аснове карэнь „суд“. Ад словачыну „суд“ паўстала слова „судар“, г. зн. судзьдзя, ўрэшце, пазьней—„осудар“ і „государ“, што знача валадар, судзьдзя народу.

„Госпад“ і „гаспадар“ маюць у сваей аснове словачын „даць“, „падаць“, „спадаць“ і першапачатна служыла для азначаньня даўца, дарыцеля, карміцеля, які зваўся „спадавец“, „спадацель“ „спадар“, „аспадар“, і, ўрэшце—„гаспадар“, падобна як ад валадаць атрымаўся іменнік—„валадар“, ад судзіць—„судар“; ад дудзець—„дудар“, і г. п.

*) Такое спамылковае зблiжэньне зрабіў я ў сваім „Расійска-Крыўскім (Беларускім) слоўніку“.

Слава „гаспадар“ вядома ўсім славянскім мовам. У Лужычанаў яно абазначае бацьку і кіраўніка сямьі pater familias, а такжа служыць вялічальна-ветлівым мяном. У Чэхаў hospodarem звалі таго, хто меў statek, ženu, rodinu, čeled, chlebi“ (Wilhelm Boguslawski. Dzieje słowianszczyzny II, б. 405). У Палякаў gospodarz азначае аселага земляроба, ўласьніка, кіраўніка дабыткам. У маскалёў і ў паўночных Крывічоў (Ноўгародцаў і Псkoўцаў), замест „гаспадар“ вытварылася з гэтага ж караня, адназначнае слова „господин“: „господин Великій Новгород“.

Слова „гаспадар“ ужываецца ў нашай жывой мове немаль паўсюдна ў значэньні—pater familias, галава сямьі, кіраўнік, валадар рас.: „хозяин“: „Над сваім дабром усяк гаспадар“. „Гаспадарочак мой, ня кідайся мной“. „Гаспадарскі парадак“ (Насовіч, б. 120).

Даўней гэтае слова стасавалася значна шырэй. Тожсамячы націю з сямьёй, нашы прашчуры князя свайго надзялялі эпітэтам „господар“, а дзяржаву звалі „господарство“: „А прото оберите собѣ господара доброго, хтобы мѣлъ боронити того панства великого князства Литовского“ (Лѣтописец, гл. „Гіст. Крыўскай (Беларускай) кнігі В. Ластоўскага, б. 209, 652). „И по немъ (пасьля сьмерці князя) межи собою господара не мели, и мешкали безъ пана“ (ibid., б. 201). „... господар король его милость и великий князь Жикгимонтъ Августъ рачилъ намовляти съ паны радами ихъ милостью“... (ibid., б. 363). „Были тые часы найясьнейшый и милостивый господару королю“... (Статут 1588 г. ibid. б. 438).

Як вялічальна-пашанотны эпітэт слова „гаспадар“ бывала ўжывана замест „господ“ гаворачы аб Богу: „чыстыј Спадару Божэ чыстаја вада ачысьць цела маје грэшнае“... „Божэ Спадару јестэм с пяску створаныј і знову ў пясок пајду і пяском буду аберненыј“. (Я. Станкевіч, выпіскі з Аль-Кітабу). „Бога милостивого господарем тоестъ паномъ своимъ мянуемо“. (Полемічн. творы. Архів Юго-Зап. Россіі, т. VIII. б. 172). Гэтым пашанотным эпітэтам часта і народная мова на-

дзяляе Бога: „Бог добры гаспадар“. Божа, гаспадару наш!“.

Як вялічальна-ветлівы эпітэт сустракаецца слова „гаспадар“ у старадаўных лістох. „Его Милости господару моему ласкавому Пану а Пану Миколаю Яцковичу“, адрэсуе свой ліст у 1592 годзе Венцлаў Владыка. „Да не гнѣвайся Гасподару, а хто кого остережеть, коли не милый свой давны друг“, піша ў сваім лісьце Комуніцка да смаленскага ваяводы Абуховіча.

„Слаўны“, „добры гаспадару“ также звычайны вялічальны зварот у нашых абрадовых песьнях-вялікодных і калядных.

На аснове вышэйпрыведзеных, далёка не вычэрпуючых, данных відаць, што:

а) слова „гаспадар“, „аспадар“, „спадар“ аднaзначныя;

б) слова „гаспадар“ таксама пашырана ў народзе, як і ў гістарычнай нашай пісьменнасьці;

в) яно, як ветлівае мяно, саўсім аднaзначна з цяперашнім расійскім „господин“ и польскім „pan“, нямецкім „Herr“.

Дзеля гэтага, ўсюды дзе расійцы ўжываюць, як ветлівае мяно, слова „господин“, палякі—„pan“, немцы—Herr, мы павінны ўжываць сваё пракавечнае ветліва-пашанотнае мяно „гаспадар“, або „спадар“, як у вуснай так і ў пісьменнай мове.

О. І.

**Аб напісаньні „ўл“ ў крыўскай пісьменнасьці.** Падобна як **ўр**, наша мова ня любіць злучаньня **ўл**. Замест Уладзімір, трэба пісаць Валадзімір або Ладзімір; замест Ўладыслаў—Валадыслаў або Ладыслаў. Мы кажам: в а л а д з е ц ь, в а л а д а р, а не:— ў л а д з е ц ь, ў л а д а р. Слова „ў л а д а“— новатвор даволі прыгожы, але нязгодны з духам нашай мовы; замест „ўлада“ даўней у нас сказалі-бы; в а л а д з ь б а, в а л а д з е ж а. Слова „ўласьне“ ў народнай мове заўсёды вымаўляецца: л а с ь н е. Слова „ўласны“ набыло ў нас даўно ўжо права грамадзянства, але, здаецца, народ ва ўсходнай часьці Беларусі (Крывіі) яго нязнае. Замест „ўласны“ кажуць—с в о й, або; **с о б с к і, с о б і н а.**

Вывад жа гэткі: ўнікаць пры пісаньні злучэньня **ўл**, як нязгоднага з духам мовы; трэба або разьдзяляць гэты дзьве літары галоснай, або саўсім адкідаць пачатнае **ў.**

С. К.

**Матэр'ялы да слоўніка беларускай (крывічанскай) мовы.**

А х а л о н а, (рас. прохлада, остуждeніе, охлажденіе). „Каб ён ў пекле ні спачыўку, ні ахалоны не зазнаў“. „Пашукай сабе ў засяні ахалоны ад сьпякоты“. (Лідзкі п.).

А х а л о н ь,—„Ахалонь ты яго запальчывасьць“.

Б р ы н д ы, абрыўкі па абрубцы, аблямоўцы вопраткі, злашча падала.

Б р ы н д а ц ц а, баўтацца, таўчыся бяз толку.

Б р ы н д у ш к а, прыпеўка непрыстойнага пустога, або жартаўлівага зьместу (Лідзкі пав. каля Бутрыманцаў).

Б р ы к і л д а с ы, выбрыкі. (Еўя, Троцк. пав.).

Б а р а в а, б а р а в і н а, дрэва сосна. (Брасл. пав.).

В ы я ў н а, (рас. внятно) „Цераз раку выяўна чуваць гаворку“. (Троцкі пав.).

В ы л е ц ь ц е. „Купцы нейкія сёлета прыехалі да нас на вылецьце“. (Еўя, Троцк. п.)

В ы л ю д а к (рас. изверг) „Ты толькі паглядзі як гэты вылюдак жонку бье“.

В ы т а л у п і ў (рас. выпялил), „Выталупіў вочы і глядзіць“. „Чаго т а л о п і ш с я, як баран на белыя вароты?“

В ы з в а н е ц (рас. изгой), „Вызванца гэтага не пускай у хату“. „Ксёндз з амбоніі ізноў вызываў Кастуся за гіцлёўствы яго з дзеўкамі“. (Еўя, Троцк. пав.).

Г о й д а ц ь (рас. качать), „Ня гойдай нагамі пад сталом!“ „Вецяр узьняўся і наш паром пачаў па вадзе гойдацца“. (Еўя, Троцк. пав.).

Г а л б а н (рас. камедь). „Сёлета на вішнях многа галбану панацякала“. Ня „гумарабік“, а галбан-жа гэта“. (Еўя, Троцк. п.).

Г а п а н ц ы, падскокі ў танцах.

Г а п і л д а с ы, скокі, танцы. „Яму толькі танцы ды ўсякія гапілдасы ў галаве“.

Гапатун, танцор, гуляка. „Парабак гапатун, а гаспадар пьяніца“.

Гопаты, танцы, гулянкі. „Аднаму гопаты, а другому клопаты“. Дзяцюку толькі гопаты ў галаве“.

Гапатня. „Такі там гвалт, такая гапатня, што ажно столь ходырам ходзіць“.

Гапані. „Гапані ты ў крамку, прынясі солі“. (Усе адмены гэтага слова з Еўя, Троцк. пав.).

Гоба, дрэва — вяз. „У насуканцы поля гоба расьце“. „Гобай“ і нават „галобай“ называюць вяз у Слонімшчыне.

Дзыніць, працягла зьвініць. „Ціха ў хаце, толькі мухі дзыняць“. „Ударылі ў звон раз і ён доўга, доўга дзыніць“. (Лідзкі пав., каля Бутрыманцаў).

Дзетамля (рас. детвора) „Дзетамлі повен запечак“. „Бач, як дзетамля наша разбазыкалася“. (Лідзкі, пав., каля Бутр.).

Згоптаць (рас. стибрить). „Дай яму грошы, то або згубіць або згоптаець“. (Еўя, Троцк. п.).

Ізва, назоў, мяно. „Ізва яго нейкая сьмяшная“. „Знаць яго то знаю, але ізвы не прыпомню“. (Еўя, Троцк. п.).

Корць, (рас. влеченіе). „Глядзі ты на гэтага блазна: ён ужо да дзевак корць мае“. (Еўя, Троцк. пав.).

Калатацца, таўчыся, стукацца. „Сэрца ўжо не калатаецца“. „Ледзь душа калатаецца ў целі“. (Лідзкі пав.).

Кармач, хатыль, заплечная торба, ранец, кішэнь. „Узлў кій у рукі ды кармач за плечы“. „Порткі з кармачамі пашыў сабе“. (Лідзкі пав.).

Кнібіць, (польск. „gnębić“), прыгнятаць, прыцясьняць. (Лідзкі пав.).

Кукры, згіб задніх ног у чатырохногіх (супроць кален у пярэдніх нагах). „Сядзіць як сабака на кукрах“. (Дусяты, Браслаўск. пав.).

Кепснуць, блажэць (рас. „плошать“). (Брасл. пав.).

Кукуць, сьвінтух. (Браслаўск. і Дзісенск. п.).

Куклаць, комкаць, зьвіваць. „Не куклай адзежы ў скрыні“. Дзіцяці скуклаць ня ўмее“. (Браслаўскі п. Дусяты).

Кулда, кулдыга, балдавешка. (Еўя, Троцк. п.).

Латылі, лапіны. „Увесь армяк у латылёх“. (Браслаўск. пав.).

Маніцца, думае, гадае. „Гзясята цяліца маніцца цяліцца“ (Еўя, Троцк. пав.).

Мязьдзюры, пры сырамалоце, або таўчэньні расплюшчаныя зярняты. (Еўя Троцк. п.).

Пайсаць. Калі насьцелюць для маладзьбы на таку „пасьцель снапоў“, то іх „разпясуюць“ бьючы па пярэвяслах цапом; гэта чыннасьць называецца „пайсаць снапы“. Гэтак сама ўсыпаўшы ў ступу ячмень на пансак, перш чым таўчы моцна ударяючы, раней яго злягка „пайсаюць“ таўкачамі, пакуль не пачнуць лушчыцца ашакі (Браслаўскі пав.).

Раскукраць, распрастаць скукярэчанае. (Браслаўскі і Лідзкі пав.).

Спаквала, памалу, зьлягка.

Спакволя, рас. „послабка“. (Лідзкі п.)

Слосьць, макрата, волага. (Лідзкі п.).

Слосьціць, мачыць, вільжыць. „На слосьцілі падлогу сьнег атрасаючы“. „Дождж не прамачыў, а толькі паслосьціў зямлю“. „Па вокнах слосьць рагамі сьцякае“. (Лідзкі пав., каля Бутрым.).

Ствіга, каромысла ў вагах (рас. рычаг). (Лідзкі пав.). Каля Картуз—Бярозы „ствігай“ называюць жэрдзь („парубень“) да прыціскаиьня сена.

Сігень, скок. „Ажно ён, сігень! за плот“. (Еўя, Троцк. пав.).

Торгаць, (рас. дергать). „Перад сканаиьнем пачала яго канвульсія торгаць“.

Талупіцца, (рас. топорщиться, вздыматься, пялиться). „Калі спадніца талупіцца, скора замуж выйдзе“. „Кажух пачаў талупіцца, як перамок на дажджы“. (Троцкі пав., Еўя).

Шамраць, голасна шаптаць, наракаць (рас. „роптать“). „Пачаў народ шамраць наракаючы“ (Лідзкі пав.).

Шэмяр, голасны шэпт, пошум. „Шэмяр лісьця на дрэвах". (Лідзкі п.).

Шамшура, завушнік, які нашэптуе на другіх, падбурае спадцішка. (Лідзкі п.).

Ясмен, ясны. „Па узьнебьі ясьмен сакол лятае, сы палёту дробных пташак выбірае". (Лідзкі пав.).

Вірліць, круціцца так шпарка, што робіць ўражаньне адналітнага круга. „Аж вірліць у ваччу". (Лідзкі пав.). Вада ў віры „вірліць" і верацяно ў руках.

Візны, відочны, казісты. „Наш касьцёл здалёк візны". (Лідзкі пав.).

Гізчэць, выдаваць скрыпучыя, працяглыя гукі. (Лідзкі пав.).

Гізок (изок?), назоў польнага коніка (Лідзкі пав., каля Бутрыманцаў).

Вятліца, ветка. (Еўя, Троцкі п.).

Велясны, многі, вялічэзны. „Велясны сьвет прайшоў ён". „Велясны збор народу быў на кірмашы". (Лідзкі пав.).

Холань, холад. „Холаньню восень павеяла". „Крынічная холань вадзіцы". (Лідзкі пав.).

Задзьвянік, другі чалесьнік у усьцях печь." (Лідзкі пав.).

Сіцяк, малалетак які сьсе сіську, сысун. (Лідзкі пав.).

Сіцянцы, сысуны.

Вокля, круглы прарэз у шчыце дому; не зашклёнае круглае ваконца ў шчыце, або ў дзьвярох. (Лідзкі пав.).

Уезьніца, стадола, заезд. (Браслаўскі пав.).

Уша, клёпка з вухом да ушата, даўжэйшая ад іншых. (Лідзкі пав.).

Спакма, інтуітыўна?). „Спакма здагадаўся, што ён думае". „Ня думаў не гадаў, а спакма так сказаў". „Спакма ўгадаў". „Стары бацюшка бывала з кнігі чытаў, а новы ўсё спакма гавора". (Лідзкі пав., каля Бутрыманцаў).

Спакмець, зразумець, здагадацца (рас. смекнуть).

І. В.

**Бог Сотвар.** У рукапісе „Eminentissimi Petri Eppi. Camaracensis, Card. De Municheis Agapianis in Russia et Lithuania, corumque doctrinae cum ethnicismo affinitate Ao 1418, кардынал Пётр д'Аільлі, які жыў між 1350 і 1425 г.г., на 185 балоне павыжшага рукапісу, апісуе аб чэсьці сонца ў вял. князьстве Літоўскім:

„Сонца ў Літоўцаў лічыцца пешараднымбогам, пад назовай Сотвар (Sotuar), што знача: ажывіцель сьвету, або душа сьвету. Але гэты бог не мае асобных сьвятыняў, так, як было гэта ва ўсей паўночнай паганшчыне. Усё-ж такі маюць яны сваіх знаўцоў нейкай астраноміі: лічаць поры году, месяцы, тыдні, дні; пачынаюць (лічыць) свой месяц ад маладзіка, тыдзень-жа, як мусульмане, ад пятніцы каторую свайму Юпітару пасьвячаюць; другі-ж дзень пасьля пятніцы, г. зн. нядзелю, пасьвячаюць сонцу: саўсім як даўнейшыя рымляне. Людзі тыя шырока займаюцца ратайствам і зьвязанай з ім гадоўляй дамовага статку; дзеля гэтага, як пастускі бог, Сотвар атрымлівае ахвяры, і чэсьць яго пранікае ў найбяднейшыя хаціны". *).

Літоўцамі чужаземцы называлі ўсіх бяз вынятку грамадзян літоўскай дзяржавы, дзеля гэтага не адна крывічанская мітычная постаць, часта пад перакаверканым падарожнікамі, незнаючымі мясцовай мовы, імем, трапіла ў спэціяльна літоўскі Олімп. Да гэткіх мітычных постацяў безумоўна між іншымі належыць і Сотвар.

Сотвар—гэта адзін з многіх эпітэтаў сонца, якімі яго надзяляла багатая фантазія первабытнага чалавека.

Вельмі цікавая зьменка каталіцкага кардынала аб тым, што ў Літоўскай дзяржаве былі свае знаўцы астраноміі. Само сабой што такімі знаўцамі былі паганскія сьвятары—крывэйты, ўплыў якіх сягаў далёка па-за межы крывічанскіх зямаль на поўнач і захад.

Адмеціўшы мясцовую асаблівасьць, сьвяткаваньне пятніцы, кардынал памылкова запісаў, што гэты дзень пасьвячаўся Юпітару, якім быў тут Пярун. Дзень Пяруна-Грамадзея —чэцьвер, пятніца-ж пасьвячалася багіні Прыі. (Фрэі, Дыяне, Іштар).

---

*) T. Narbutt. Dzieje starożytne Narodu Litewskiego. I, б. 28.

Датыхчасовыя пабежныя досьледы нашай мітолёгіі зьвязывалі яе з кругам украінскіх і маскоўскіх мітаў, пакідаючы ў старане міты паганскай Літвы, што з грунту памылкова. У той час як на Украіне і ў Масковіі было не сарганізаваным, то Крывічы і Літвіны мелі правільна арганізаваны сьвятарскі стан і герархію на чале якой стаяу ў свайго роду паганскі папа Крывэ-Крывэйта (крывіч над Крывічамі), мелі свае бажніцы і многія выабражэньні багоў, каваныя ў камені і мэталі, вырэзаныя ў дрэве і выабражаныя рысункам. Для досьледаў нашай дахрысьціянскай рэлігіі, аднаверная літоўская мітолёгія зьяўляецца аднэй з важнейшых крыніц. Асабліва цэнны з гэтага боку рожныя кронікі пісаныя крыжакамі ў лацінскай і нямецкай мовах, якія побач з фантазіямі, даюць часам і праўдзівыя весткі.

А. Цл.

## Пачтовыя ўстановы ў Крывічанскіх (Беларускіх) Землях.

Установы, заданьнем якіх была рэгулярная перадача ведамак на пісьме, існавалі ўжо ў вельмі даўныя часы. У рожных краёх і дзяржавах меліся ў старасьвеччыну свае уласныя словы дзеля выражэньня паняцьця, якое сяголньня ўкладаем мы ў слова „почта".

Першыя сьляды пачтовых арганізацій сустрачаюцца ў Пэрсіі, дзе за Кіра і Дарыя Гыстаспа былі ўстаноўлены царскія станціі з коннымі ганцамі, каторым даручалася развазіць загады і наказы. Кожды ганец адвозіў даручэньне да чароднага, а той вёз далей. Ад Эгейскага мора да Сузы было 111 будаваных станцій. У старавечнай Грэціі некатарыя з рэспублік утрымлівалі, дзеля гэтай мэты, скараходаў; але тут не было сталых станцій. У Рыме, за цэзара Аўгуста, была сарганізавана сталая почта, так што Аугуст у працягу 20 дзён мог атрымліваць лісты з Азіі. Рымская почта перавазіла такжа і падарожнікаў. За Канстантына пазволена было карыстацца почтай і прыватным асобам, але кожды раз за асобным пазваленьнем. У часы Карла Вялікага існавала рэгулярная сувязь паміж паасобнымі правінціямі. Далей, пачтовую арганізацію сустрачаем між гарадамі Ганзэйскай Сувязі. Парыжскі унівэрсытэт, ад часу яго заснаваньня, ўтрымліваў пасланцоў на патрэбы сваіх прафэсароў і вучняў, прывілей на гэта атабраў ад унівэрсытэту Людвік XII і залажыў дзяржаўную ўстанову пасланцоў.

У Нямеччыне почта, пад гэтай назовай устаноўлена была Рычарам I, сын катарага ўстанавіў ужо конную почту паміж Брусэлям і Венай (1516 г.).

У Англіі пачаткі почты сягаюць XIV ст., конныя ганцы існавалі за Альжбеты (1603—1658). У пачатку XVIII ст. прыватныя почты былі заступлены дзяржаўнай. Ролянд Гільье ў 1839 годзе апрацаваў пачтовую уставу, згодна якой тарыф быў вельмі паніжаны і акром таго ўстаноўлена адна цана для лістоў на ўсякія адлегласьці ў Межах Англіі. У 1840 годзе былі заведзены маркі для аплаты перасылкі лістоў, якія хутка пашырыліся па ўсіх іншых дзяржавах.

У Крывічанскіх (беларускіх) землях першыя сьляды пачтовых установ адносяцца, як гэта відаць з летапісаў в. кн. Літоўскага, на канец XIV ст. Пачтовая служба называлася —службай ганецкай. Ганцоў утрымліваў вялікі князь, а такжа і ўдзельныя князі.

У 1565 годзе на супольным (карунным і в. кн. Літоўскага) Сойме было пастаноўлена: каб на ўтрыманьне ганцоў, перавозку ўрадоўцаў і паслоў, быў зьбіраны з гарадоў і мястэчак ганецкі падатак. Кождая ганецкая валока зямлі павінна была ўтрымліваць пару коні дзеля пасылкі ў падводы. За каня, без ваза, устаноўлена была аплата, за мілю $1^1/_2$ гроша; хто ехаў вазом плаціў за кождага каня па 2 грошы за мілю; калі хто меў свой воз, то за кождага каня плаціў па $1^1/_2$ гроша за мілю і падводніку $1^1/_2$ гроша аддзельна. Грошы за коні і за падводы плацілі ў тым мейсцы зкуль выяжджалі.

Ад другой палавіны XVI і да сярэдзіны XVII ст. у арганізаціі пачтовай сувязі былі зроблены значныя палепшаньні. Між іншым устаноўлены па галоўных дарогах, што кождыя тры мілі, корчмы, пры якіх абавязкова павінны былі утрымлівацца „стадолы" ў каторых можна-бы было даць адпачынак і корм коням, а ў карчэмным будынку павінны мецца дзьве сьвятліцы для падарожных. Даволі цікавыя уставы аб пачтовай лучнасьці былі ўхвалены ў 1647 г. за Ўладыслава IV і ў 1699 годзе за Яна Казімера. Між іншым ад

1564 г., фундаваная ўласным коштам в. кн. Жыгімонта Аўгуста істнавала почта і для перасылкі лістоў заграніцу. Цікавую і вельмі грунтоўную перабудову пачтовай лучнасьці быў завеўшы ў 1762 годзе ў в. кн. Літоўскім, падскарбі Тызэнгаўз.

Першы, тызэнгаўзаўскі пачтовы тракт злучаў Горадню з Беластокам. Пазьней у гэту пачтовую сець была ўключана Вільня, ўрэшце Менск, Магілеў і Полацак з Вітабскам.

Пасьля далучэньня крывічанскіх (беларускіх) зямель да Масковіі, крывічанскія пачтовыя ўстановы атрымалі аўтаномныя нормы (зацьвердж. 23. XI. 1772 г.). Паводле гэтых норм, усе, хто праязджаў праз беларускія землі, павінен быў плаціць па 12 к. за каня прагонных, за кождыя 10 вёрст, тыя, хто браў ад 18 да 30 коней, плацілі ўдвая і павінны былі загадзя пасылаць ганца на чародную станцію. Калі хто ўзяў коні і іх пратрымаў, гой плаціў прастою па 25 кап. за каня ў дзень. За „штафэты" пасыланыя прыватнымі асобамі, плацілі па 18 кап., за скарбовыя па 12 к. за каня, за кождыя 10 вёрст.

Форму крывічанскіх (беларускіх) пачтавікоў станавілі: казакін чырвона-бронзавага сукна з зялёнымі каўняром, адваротамі і закарвашамі; на галаве зялёная круглая шапка з казырком; на грудзёх—дзяржаўны мядзяны гэрб, і цераз правае плячо на чорна-жоўтым шнурку кароткая трубка. На ўтрыманьне почты, бралі падатку з кождай душы па $7^1/_4$ капейкі; ад 10. II. 1782 г. надатак быў павялічаны на 4 капейкі на душу. Ад 1784 г. падатак на почту яшчэ пабольшылі да 12 к. за душу, а з жыдоў удвая, па 24 к. за душу. Гэты падвойны падатак зьбіралі з жыдоў да 1805 г.; пасьля было загадана браць з жыдоў роўны з усімі падатак.

Беларускі генерал-губэрнатар граф. Чернышоў, назначаны Кацярынай II у Вітабск, далей разьвіваў распачатую Тызэнгаўзанам працу парадкаваньня пачтовых шляхоў і арганізацыі почт. Ен пракладаў новыя дарогі, правіў старыя, пачтовыя тракты абсаджываў у два рады, абапал дарогі, бярозамі, вымераў дарогі, і ўстанаўляў на кождай мілі мураваныя конусныя стаўбы $1^1/_2$ сажня вышынёй. У вітабскай і полацкай губэрнях Чэнышёвым у некалькі гадоў было дабудавана 134 пачтовыя будынкі (лічучы па 200 руб.), выдаткавана на якія 27.000 руб. У губэрнскіх гарадох адчынены былі почтамты.

У 1776 годзе былі (паводле дарожніка 1777 г.) почтмайстры:

у Магілеве губэрнскі почтмайстар Міхайла Шэйба;

у Полацку, губэрнскі почмайстар Лонгін Раушэрт;

у Вітабску—Юстын Ляерліф, у Мсьціслаўлі— Антон Фішар, у Оршы—Ян Пашынскі, у Двінску—Адам Ськірмунт, у Гомелі—Адам Гарошка, у Рогачове—Адам Альбэрг, у Себежы—Ўладзімер Крузэ.

А. У.

**Гісторык Смаленска аб Крывічах.** Вядомы гісторык Смаленска, П. Нікіцін („Історія гор. Смоленска" соч. П. Никитина. Москва 1848), на 5-ай балоненазванай кнігі так разважае аб жыхарох Смаленшчыны: „У нас пануюць у народзе два дыялекты: 1. Вялікарасійскі, 2. Маларасійскі а сярэдняе паміж імі мейсца займае дыялект (нарѣчіе) „Кривичское або Беларусское". Крывічы не маюць цьвёрдасьці і гучнасьці мовы Вялікарасійскай і там, дзе Вялікарасіяне і Маларасіяне вымаўляюць **д** і **т**, крывічы ўжываюць гукі **дз** і **ц**. Гэты асобны характар Крывічскага дыялекту дагэтуль істнуе ў простым народзе Смаленскай губэрні, выключаючы Вязямскі і Братскі паветы, дзе пераважна пануе Вялікарасійскі дыялект; а сяляне Парэчскага павету дагэтуль называюцца „цокунами". З гэтага ясна відаць, што найменьне „Крывічы", побач з „Беларусы" ўжывалі расійскія вучоныя ў мінулым стагодзьдзі, як усім вядомыя.

Амсціславец.

# КНІГОПІСЬ.

**Софокль. Антыгона. Пераклад Ю. М. Дрэйзіна Выданьне Ц. Б. Маладняка. Менск 1926. 15×11 цм. б. 104. Друкавана 2.000 адзінцоў.**

Пераклады клясыкаў, усіх часаў і народаў, гэта адно з найпільнейшых заданьняў адраджэньня кождай занепаўшай культуры, а асабліва на часе гэтае заданьне ў нас. Дзеля гэтага нельга не вітаць кождую спробу ў гэтым кірунку, хоць-бы і менш удалую. Але што датыча амаўлянага перакладу Софокляўскай Антыгоны зробленай грам. Ю. М. Дрэйзіным, то перад намі прыклад перакладу надзвычайна старэннага, ўмелага, добра прачутага і прадуманага. Словам работа з усіх мер цэнная, а акром таго надзвычайна патрэбная. Мы спадзяемся, што грам. Ю. М. Дрэйзін не агранічыцца адным гэтым перакладам, што ў хуткім часе пабачымо новыя яго пераклады з грэцкай і лацінскай мовы. Софокляўская Антыгона ў перакладзе Ю. М. Дрэйзіна павінна быць ў бібліатэцы кождага крывічанскага (беларускага) інтэлігента.

**Міхась Чарот. Веснаход. Апавяданьні. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Менск 1926. 23×14. цм., б. 192.**

Міхась Чарот даўно вядомы беларускаму грамадзянству пісьменьнік. Яго паэма „Босыя на вогнішчы" адзін з лепшых твораў новачаснай нашай пісьменнасьні. Менш вядомы Чарот як прозаік. Аднак яго проза годна ўвагі заўсёды добра задуманай фабулай, распрацоўкай паасобных сцэн, і выконаньнем цэласьці. Зборнік апавяданьняў „Веснаход" выходзіць ужо другім выданьнем, а знача знайшоў у чытаючай публіцы належную яму ацэну.

**„Natio"**. Часопісь пасьвячоная народным справам у Польшчы. Выходзіць у Варшаве на 4-х мовах: польскай, нямецкай, французкай і ангельскай. № 1—2 студзень—люты 1927 году. 28×22 цм. 97 бал.

„Natio" ёсьць органам народных меншасьцяў пад Польшчай; мэта часопісі—інфармаваньне загранiцы аб палажэньні народных меншасьцяў ў межах польскае рэчыпасполітае. У першым сшытку маюцца артыкулы:

Ад рэдакціі.

Др Дымітр Левіцкі. Цяперашняе палітычнае палажэньне і імкненьні украінскага народу.

Фабіян Ярэміч. Беларусы, іх цяперашняе палажэньне і імкненьні.

Ізаак Грюнбаум. Жыдоўская справа.

Эрвін Гасбах. Немцы ў Польшчы.

Др. Д. Ольсэйка. Мінуўшчына і цяперашняе палажэньне ліцьвіноў у Віленшчыне.

Кроніка: З жыцьця украінскага. З жыцьця беларускага. З жыцьця жыдоўскага. З жыцьця нямецкага. З жыцьця літоўскага.

Такая справа як інформаваньне заграніцы аб палажэньні паняволеных Польшчай народаў, даўно ўжо на часе. Але мы думаем, што часопісь „Natio", якая падлягае польскай цэнзуры, ня зможа выпаўніць поўнасьцю свайго заданьня. Падобнага роду орган трэба выдаваць у саўсім вольных варунках а ласьне—заграніцамі Польшчы, дзе можна было-бы поўнасьцю і адкрыта даваць як ацэну бягучай польскай палітыкі ў стасунку да народных меншасьцяў, так і істотныя імкненьні паасобных народаў. Бо, ясна, што ня ёсьць ідэалам паняволеных Польшчай народаў вечна быць упрэжанымі ў ярмо польскай дзяржаўнасьці.

Не, паняволеныя Польшчай народы ўсімі фібрамі душ сваіх імкнуцца да таго, каб ськівнуць польскае ярмо, стацца свабоднымі. А гэтае істотнае імкненьне, выдаючы часопісь пад польскай цэнзурай, трэба акурат прамаўчываць ў імя „лёяльнасьці", г. зн. кружыцца ў рамках памякчэньня ярма, або дурыць сябе і другіх.

Вялікай нястачай часопісі зьяўляецца тое, што акром польскага і нямецкага, пераклады на чужыя мовы артыкулаў дужа дрэнныя: французкі тэкст яшчэ можна выразумець, але ангельскі тэкст нямае ні ладу ні складу, прост нісянеціца нейкая.

Урэшце, паралельныя выступленьні групы народаў вымагаюць вымінаньня рэчаў спрэчных паміж народнасьцямі, а гэта апошняе не захавана ў „Natio", асабліва ў стасунку да беларусаў (крывічоў), што зьяўляецца віной тых беларусаў, якія далі на гэта сваю згоду.

**М. Байкоў і С. Некрашэвіч. Беларуска-Расійскі слоўнік.** Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Менск, 1925 г. 21×15 цм., 356 балон, друкавана 10.000 паасобнікаў.

Слоўнік выйшаў з друку ў студзені месяцы 1927 году, а знача друкаваўся два годы (1925-1927), ці безмала два годы.

Гэта адзін з чародных слоўнікаў, якія павінны служыць часова да практычнага ўжытку, а пасьля легчы ў аснову, нараўне з іншымі падобнымі слоўнікамі, як матэр'ял да апрацоўкі навуковага слоўніка беларускай мовы. З гэтага пункту гледжаньня, як практычны і як матэр'ял, слоўнік мае сваю вагу да выхаду больш крытычнага выданьня.

Вялікай нястачай слоўніка ёсьць тое, што ён не дае этымолёгічнага значэньня слоў. Прыкладам словы даюцца ў гэткім тлумачэньні:

Абаджгацъ *каго* — 1) нажаліць; 2) высеч.

Для знаючага мову такі пераклад яшчэ зразумелы, але для назнаючага загадковы, бо чаму і „жаліць" і „сячы" выражаецца адным словам? Вось і трэба былобы сказаць, што слова абаджгаць выводзіцца ад агульна славянскага „жеч"—паліць, пячы; слова фіксуе пачуцьцё аб'екту як ад дотыку да крапівы так і бізуна да цела: адно і другое выклікае пякучы боль.

Абакула, *М.* — обманщик, плут, надувала.

Нават для знаючых практычна мову, трэба было бы тут вытлумачыць, што „абакула" выводзіцца ад „бакулы"—вочы; і, „абакуліць", знача ашукаць на вачах, ачмуціць.

Катух *М.*—курятник.

Тлумачэньне няпрўднае, бо „катух" гэта саўсім не куратнік; ці, лепей, можа быць так добра куратнікам, як гусятнікам, парасятнікам і нават капустнікам, бульбятнікам і г. п., г. зн. ўсім тым, што можна заперці або злажыць у кут; бо „катух", гэта адмена слова—кут.

Клышаногі—хромоногий.

На маскоўскую мову трэба было-бы перакласьці словам „косолапый". „Клыш", гэта крывы лапцяваты нарост капыта ў коні або кароў, які атрымліваецца ад доўгага стаяньня зімой на мяккой подсьцілцы.

Слоўнік грашыць такжа этымолёгічнымі спамылкамі. Прыкладам, побач з словам „краска" (кветка), надрукавана „краскаваць", замест „крыскаваць"; не адзначана этымолёгічная рожніца паміж „краска" і „крыска" (рыска).

Надрукавана „матар'ял" як бытцам ў карані гэтага слова была не матэрыя, а саламяная мата.

„Рэчавісты" няпраўдна перatлумачана на расійскае словам „действительный". „Рэчавісты" (Рэч—відочная, сама сабой зразумелая і ясная), павінна перакладацца словам „очевидный". Рэчаісты" (Рэч—існуючая, рэальная) будзе—„действительный". Але абодвы гэты словы зьмяшаны і ўдадатку надрукаваны „рачаісты" бытцам у аснове слова палажана ня рэч, а рак.

Слоўнік мае багата няўдалых новатвораў („мігаваньне"—міміка, мігадзея"—пантоміна і г. пад.). Слоўнік далёка ня поўны.

Вось уражаньне, якое мы атрымалі пабежна праглядаючы слоўнік.

Выданы слоўнік сьціпна. Сустрачаюцца словы са слоўніка В. Ластоўскага, але апошні чамусьці ў ліку матэр'ялаў не паказаны.

**М. І. Касьпяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік** (матар'ялы). І. Пад рэдакціяй М. Я. Байкова й праф. І. Эпімах—Шыпіллы. Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства і выдавецтва „Заря Запада", Віцебск, 1926. 26×17, балон 192. Гэтае выданьне друкавана ў ліку 10 (дзесяці) экз.

Слоўнік даведзены немаль да канца літары М. „Савецкая Беларусь" публікуе, што слоўнік Касьпяровіча ўжо выйшаў з друку, ці-ж бо выйшаў ён з друку незакончаным і чаму?

Краёвыя слоўнікі павінны легчы ў аснову агульна-беларускага (крывічанскага) слоўніка. Заданьнем краёвых, г. зн. провінціональных слоўнікаў павінна быць, у першы чарод, зафіксаваньне провінціональных асобнасьцяў мовы. „Віцебскі краёвы слоўнік" далёка ня вывязаўся з апошняга заданьня: характэрна вітабскія словы, ведамыя нам з этнографічных запісаў, ў слоўніку прадстаўлены даволі рэдзенька.

Краёвыя слоўнікі саўсім лішняе даваць з перакладам на чужую мову; гэта апошняе нідзе на сьвеце не практыкуецца. . вумоўнасьць патрэбна ў практычных слоўніках, якія служаць падручнікамі пры перакладах, але краёвы слоўнік гэта навуковы матэрьял і, урэшце, матэрьял каторы павінен абслужыць беларусаў. Уводжаньне у гэтым здарэньні маскоўшчыны сьведчыць толькі аб тым, што мы яшчэ самі сыры матэрьял на народнасьць...

Не глядзя на некатарыя недастаткі „Віцебскі краёвы слоўнік" дае многа цікавага і цэннага. Вялікая шкада калі будзе прыпынены друк яго на літары **м**. Урэшце нам незразумела чаму ён друкуецца толькі ў 10-ці экзэмплярах?

**„Савецкая Беларусь" (1 лютага № 25 (1917)—20 лютага № 42 (1934).** „Савецкая Беларусь", як шырока пачытная часопісь сярод беларускага жыхарства, цікавіць нас ў данным здарэньні з боку мовы. Бо ведама, што часта чытаная часопісь ня толькі ўплывае на думаньне чытача, але такжа на лексычны склад яго мовы. Найлягчэй вясьці пропаганду мовы праз добра рэдагаваныя часопісі, што між іншым і ёсьць заданьнем так актыўна цяпер пропагаванай ў Менску беларусынізацыі. Аднак „Сав. Беларусь" дрэнны пропагатар мовы. Праўда, ў яе жыцьці бывалі моманты, калі яна падымалася з боку мовы немаль да нормальнага стану, але гэты пэрыёды зьмяняліся ізноў занепадам. Прычынай гэтаму служыць частая зьмена рэдактароў ад якіх зазвычай вымагаецца перш за ўсё палітычнага кіравецтва часопісьсю. А што паліт-граматнасьць не заўсёды ідзе ў пары з мовазнаўствам дык Рэдакціі трэба было-бы мець сталага літэратурнага дыктатара які-бы пільнаваў чыстаты мовы, незалежна ад зьмены палітычных кіраўнікоў часопісі. Для такой вялікай часопісі як „С. Б." (тыраж да 10.000) утрыманьне мовазнаўцы не заважыла-бы на бюджэце. А то, акром крыўды беларускай мове, даецца яшчэ грунт да непажаданых для самой Рэдакціі разважаньняў. Прыкладам кажуць адны, што неахайнасьць у мове „С. Б." праводзіцца сумысьля каб зьвясьці беларускую мову да абсурду і гэтым праторыць шлях для лягчэйшай русыфікацыі. Іншыя ізноў вытлумачваючы неахайнасьць ў мове „С. Б." даводзяць, што дзеецца гэта дзякуючы бязлюдзьдзю ў Ком. Парт. Каб не было падобных гутарак вялікі ўжо час самой Рэдакціі падбаць аб гэтым.

Што нападкі на калечаньне беларускай мовы ў „С. Б." не безпадстаўны падаемо, не падзяляючы злосных нападак палітычна праціўных абозаў, некалькі прыкладаў, каб крытыка наша не была голаслоўнай.

Найперш зьвернем увагу на непрыгожыя і нязгодныя з духам нашай мовы жаргоныя словы, перафразаныя пераважна з расійскай і часьцю украінскай мовы, прыкладам: па сутнасьці, сутнасьць (зам. па істоце, істота), распаўсюджаны (зам. распашыраны), адносіны (зам. стасункі), напрамкі (зам. кірункі), адсутнасьць (зам. нябытнасьць), распаўсюдзіліся (зам. распашырыліся), прысутнічаўшыя (зам. пры тым быўшыя) і гэт. пад.

„Сутнасьць" перажарганаванае расійскае—сущность; адносіны—рас. отношенія; „адсутнасьць" рас.—отсутствіе.

„Распаўсюджаны", распаўсюдзіліся—жывыя украінізмы крыху перагаргавываныя.

Жаргонныя словы, тэта крывое люстэрка ў мове.

Акром жаргонных слоў у „С. Б." густа жывых русыцызмаў:

накапляць (зам. назбіраць) № 27, 3. II б. I.
жыдкасьці (зам. цэчы) № 27, 3. II б. 8.
вопытаў (зам. спроб) № 29, 5. II. б. 8.
сарты (зам. гатункі) № 30, 6. II. б. 8.
почак (зам. нырак) „ „ „
накапілася (зам-набралася) „ „ „
разлажэньня (зам. загніваньня) „ „
за папытку (зам. за спробу) № 31, 8. II б. 8.
дзяжурылі (зам. адбывалі чарод.) „ „ „
ўрачы (зам. лекары) „ „ „
водпускам крэдыту (зам. даньнем крэдыту) № 33, 10. II, б. 1.
разрад электрычнай энэргіі (зам. выбух электрычнай энэргіі) № 33, 10. II. б. 8.
прыбор (зам. прылада) „ „ „
аратарамі (зам. прамоўцамі) № 35, 12. II. б. 5.
працуе вурочна (зам. працуе пазробна) № 35, 12. II. б. 7.
хворыя бакі нашых 7-х годак (зам. некатарыя нездаровыя стасункі) № 35, 12. II. б. 7.
прадметных камісій (зам. лекцыйных камісій) № 35. 12. II. б. 7.
плыве-пасоўваецца даўгі-даўгі плот (замест —плыт, ці ганок) № 37. 15. II. б. 5.
як не парадзець роднаму чалавеку (зам. як не паспрыяць...) № 38. 16. II. б. 6.
самаабкладаньня сялянства (зам. самаападаткаваньня сялянства) № 39. 17. II. б. 2.
з-за пасыўнасьці (зам. дзеля...) № 39 17II, б5
Серафімаў каснуўся (зам. Сэрафімаў закрануў) № 39. 17. II, б. 6.
Адобрылі (зам. пахвалілі) № 40. 18. II. б. 7.
папракнулі (зам. зрабілі закід) № 41. 19.II. б.3.
у сваім дакладзе (зам. спавешчаньні) „ „

Гэтулькі даў русыцызмаў толькі вельмі пабежны прагляд часопісі. Бліжэйшы прагляд памножыў-бы іх ў некалькі разоў. Але яшчэ горш ў „С. Б." са складняй: будова сказаў беззакідна расійская. „Трэба вучыцца мовы, хто бярэцца быць рэдактарам.

# Зьмест.

---

Redaktorius-leidėjas
**K. Duž-Dušauskas.**

Рэдактар-выдавец
**К. Дуж-Душэўскі.**